# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**11**

**(696) ЛІСТАПАД, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»,**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;
падпісная цана на 1 месяц — 21 880 руб.

Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 12030 руб.
Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 27 680 руб.
Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 8470 руб.

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся Дробава*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 07.10.2011. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 00,00. Тыраж 0000 экз. Заказ 000. Кошт нумара ў розніцу 11 000 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



## Госць часопіса «Маладосць» — Уладзімір БАЯРЫНАЎ — паэт, перакладчык, старшыня праўлення Маскоўскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі, заслужаны работнік культуры РФ



— Уладзімір Георгіевіч, мы з Вамі сустракаемся ў падмаскоўным Доме творчасці ў Перадзелкіне — на Першай міжнароднай нарадзе маладых пісьменнікаў, — Вам не здаецца, што раней больш актыўна перакладалі і творы прадстаўнікоў старэйшага пакалення, і маладых аўтараў? Творцы з розных краін больш ведалі адзін пра аднаго, плённа працавалі перакладчыкі. Чаму ж сёння сучасную літаратуру перакладаюць так мала?

— Гэта была дзяржаўная сістэма, скіраваная на дружбу народаў СССР. Маладыя творцы шукалі сваіх перакладчыкаў, і сістэма ім у гэтым дапамагала! З чым прыязджаў пісьменнік? З падрадковымі перакладамі, якія яму — бясплатна! — рабіў Саюз пісьменнікаў. Мы сёння гаворым пра складаныя стасункі паміж пэўнымі прадстаўнікамі краін СНД, але забываемся, што добрыя адносіны пачынаюцца з узаемаразумення! А гэта значыць, што мы павінны гаварыць на адной мове! Беларус і ўкраінец паразумеюцца хутчэй, чым лакец, прадстаўнік Дагестана, і рускі… І мне падаецца, што сёння наша галоўная задача, дзяржаўная і Саюза пісьменнікаў Расіі, — стварыць Банк падрадковых перакладаў, каб Паэзія замяніла зброю ў руках многіх маладых! Мы гатовы праводзіць конкурсы і ўзнагароджваць лепшых перакладчыкаў. Скажам, верш маладога беларускага паэта пад умоўнай назвай «Світанак» перакладуць пяць чалавек, а мы выберам лепшы пераклад і адзначым яго — я асабіста дам яму ордэн Маякоўскага! Я лічу, што ваш Прэзідэнт — гэта той чалавек, які здольны зразумець неабходнасць стварэння такога Банка перакладаў, — на жаль, з нашых дзяржаўных дзеячаў маю ініцыятыву пакуль ніхто не падтрымаў…

— Але ж часам можна пачуць меркаванне, што, маўляў, не трэба перакладаць з беларускай на рускую і тым больш з рускай на беларускую мову, бо ўсё і так зразумела…

— Ні ў якім разе! Ёсць лад верша, ёсць яго задушэўная музыка… Я, калі чую народную песню па-ўкраінску, — у мяне слёзы на вачах. А пераклад яе паслухаю — ну і што? Пераклады патрэбны, бо, як бы мы ні сцвярджалі пра роднаснасць моў, але «гарбуз» і «арбуз» — гэта дзве вялікія розніцы! А сёння чатырнаццацігадовы расійскі падлетак гэтага ўжо не ведае…

— Што б Вы пажадалі і параілі сучасным беларускім перакладчыкам, якія працуюць дзеля папулярызацыі нашых маладых літаратур?

— Найперш грашовага ўзнагароджання за сваю працу! Гэта таксама дзяржаўная палітыка, разумееце, калі кожная праца павінна ацэньвацца і аплочвацца, бо мы ўкладаем душу ў будаўніцтва нашых дзяржаў. Культуру трэба падтрымліваць — інача гэта нагадвае показку: «Прыходзіць камісія ў вар’ятню — бачаць, там хворыя скачуць у пусты басейн. Яны да іх — што ж вы робіце?! А пацыент адказвае: “Нам галоўны ўрач паабяцаў, як плаваць навучымся, тады вады нал’е!”» Мы таксама скачам у «пусты басейн», разбіваемся і ўсё роўна скачам, бо не можам іначай, не можам не пісаць! Пра нас кажуць: «Вось дзі-вакі! Прабіваюць ілбом сцены, а маглі б бізнесам займацца, грошы зарабляць!..» ці «Вось ён кнігу напісаў — малайчына, талент, але ж гібее на працы!..» А я і на працы раблю, што павінен, і пішу бясплатна, і для сяброў яшчэ перакладаю крыху. Бо ведаю, што мы, пісьменнікі, ствараем душу нашай дзяржавы! Я паўтараю і буду паўтараць: пакуль у тым самым «Сколкаве» не будзе «лірыкаў», ніякай фізікай ім не дасі рады! Я калісь вучыўся ў Політэхнічным інстытуце ў Томску — мяне насілі на руках, калі я чытаў вершыкі пра наш факультэт: «Я скажу, как мужчина, ничего не тая: “О, электромашина, ты машина моя!..”» Глупства! Але гэта быў шквал воплескаў, разумееце, бо я быў «свой паэт» — за маёй спінай шапталіся: «Вось ідзе той дзівак, што вершы са сцэны чытаў…» І яны натхняліся гэтым, прыносілі Забалоцкага… Гэта быў час, калі два чалавекі маглі паразумецца праз творчасць любімага паэта, — 60—70-я гады — час, на якім я вырас…

— Але ж цяпер вярнуць той час і тое жыццё — немагчыма. Трэба пісаць сваю гісторыю, сённяшнюю…

— Немагчыма, згодзен! Але трэба разумець, што калі дзяржава, са сваіх запасаў, адшчыкне на літаратуру — хай у тысячу разоў менш, чым на «ваенку» — але і тады будзе менш людскіх

страт, дыверсій, нават разбітых самалётаў! Бо шчаслівы лётчык, шчаслівы чалавек па-іншаму ставіцца да сваёй прафесіі, больш асэнсавана жыве на гэтым свеце!.. І яшчэ я люблю беларускі народ!

— А беларускую літаратуру?

— Безумоўна! Вось у мяне ёсць сябра — Пётр Кошаль — ён піша па-руску, але пры гэтым — абсалютна беларускі паэт, які прыехаў у Маскву і скарыў усіх сваёй «самасцю». У Беларусі вырас Ігар Шклярэўскі. Ён таксама піша на рускай мове, але якраз гэтым яны мне зразумелыя і дарагія!

— Значыць, каб быць зразумелымі, творцам трэба быць найперш перакладзенымі, так?

— Так, аднак перакладаць неабходна, разумеючы пры гэтым, што ўсё больш складанай робіцца беларуская мова, бо працуюць філолагі, людзі чытаюць больш складаныя тэксты. І ў мове таксама праяўляецца ваша самасць!

— А мова твораў жанчыны і мужчыны ці адрозніваецца насамрэч, у жаночай жа, маўляў, адны «рыданні»?

— Я аднойчы напісаў такія радкі: «Кто был влюблён, тот смертью жил...» Мне, дарэчы, цыганка калісь наваражыла: «Побач са смерцю ходзіш…» А смерць для паэта — збіцца на штучнасць, непатрэбную песеннасць, на напісанне тэкстаў. Пачуццёвасць у жаночай лірыцы — не грэх! Галоўнае, каб ніхто больш так не «рыдаў»!

— Да чыёй творчасці Вы б параілі звярнуцца маладым?

— Трэба чытаць Цютчава, Фета, вашых нацыянальных творцаў… А наогул мы сабралі на гэтым семінары маладых людзей, апантаных літаратурай, для якіх імёны іх папярэднікаў — не пусты гук. Можа, і яны самі стануць аднойчы класікамі сваіх літаратур. Я ў гэта веру і спадзяюся на гэта!

Гутарыла Таццяна СІВЕЦ

Алег ГУРСКІ

# ЛЮДЗІ НОВАГА ЧАСУ

*Алег Гурскі нарадзіўся ў 1989 годзе ў вёсцы Вялікія Шылавічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Студэнт гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.*



**Творы дэбютанта «Маладосці» Алега Гурскага — не зусім вершы і не зусім проза. Магчыма, аўтар імкнецца да жанру вершаказаў, прыдуманых Алесем Разанавым. Аднак талент Алега — самабытны. Краявіды яго малой радзімы (паэт родам са Слонімшчыны) выявіліся не ў традыцыйнай пейзажнай лірыцы, а ў філасофскіх творах. Прычым у форме верлібра, што з'яўляецца адзнакай гарадской культуры. Пошук новых граняў, колераў і адценняў, як піша сам аўтар, таксама акрэслівае імкненне да наватарства, а не да класікі. У гэтым нязвыкласць і ўнікальнасць Алега. Мысленне, думка, душа — тое, што несумненна прысутнічае ў яго творах.**

*Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»*

## РАСКАЖЫ

Раскажы пра зямлю, на якой яшчэ не быў,
Пра глебу, па якой не хадзіў,
Пра шчасце, якое яшчэ не знайшоў;
Пра расісты ложак травы,
Пра павольнай ракі цячэнне,
Пра крыштальнасць вады крынічнай,
Раскажы пра птушку ў палёце,
Пра сябе раскажы —
я пра неба табе раскажу.

* * *

Тая істота, якая завецца восенню,
Абрываючы пажоўклае лісце з дрэў,
Забіраючы пах у кветак і траў,
Аднімаючы ў прасторы птушак і іх спевы,
Не ведала, што загіне сама,
Калі да ўлады прыйдзе, загорнутая
У коўдру снягоў,
Спадарыня-зіма.

## ДУМКА-РЭАЛЬНАСЦЬ…

Адзін кагосьці раптам уявіў,
Другі праз нейкі час яго пабачыў.
Адзін пра нешта дзіўнае падумаў,
Другі, не ведаючы гэтага, стварыў.
Я ўчора сон прысніў,
Як пасярод садоў Эдэма плыў
І зразумеў, што можна жыць
зусім іначай…

**ЗАВІРУХА**

Завіруха па нябесным кодзе
На зямлі прадзе кужаль новага часу —

Абрывае старыя нетрывалыя правады,
Зрывае саламяныя стрэхі хат,
Руйнуе гіганцкія хмарачосы,
Разрывае ў ашмоцце нетрывалыя адносіны
Чалавека да чалавека, хлусню, войны, зайздрасць
Нянавісць, грошы,
З якіх пабудаваны гіганцкія хмарачосы,
Саламяныя стрэхі хат і старыя нетрывалыя правады —

І будуе на іх месцы новыя формы,
Заснаваныя на любові, сумленні і праўдзе,
Укладваючы іх у адзінае цела,
Клеткамі якога з'яўляемся мы — людзі новага часу,
Узаемазвязаныя і ўзаемазалежныя клеткі
Новага арганізма.

* * *

Жыццё — геаметрычная фігура без граняў,
Сэнс жыцця — вылепіць з гэтай бязграннасці тое,
Што патрэбна тваёй душы.

Жыццё — геаметрычная фігура без формы,
Сэнс жыцця — надаць ёй тую форму,
Якая патрэбна тваёй душы.

Жыццё — геаметрычная фігура
з мноствам колераў і адценняў,
Сэнс жыцця — знайсці тыя колеры і адценні,
Якія патрэбны тваёй душы.



Алеся КУЗЬМІЧ

# ЛЁШКА

## *Апавяданне*

*Алеся Кузьміч нарадзілася ў 1983 годзе ў горадзе Талачын на Віцебшчыне. Скончыла Аршанскі дзяржаўны педагагічны каледж, пазней — БДПУ імя М. Танка (факультэт беларускай філалогіі і культуры). Працуе рэдактарам аддзела пісьмаў і сацыяльна-бытавых праблем раённай газеты «Наша Талачыншчына».*



**Чым вымяраць любоў дзіцяці да сваёй матулі? Якія вагі здольны дакладна вызначыць усю моц і неабдымнасць гэтага пачуцця? Мо любоў маленькага сына да жанчыны, што яго нарадзіла, раўназначна колькасці падарункаў, рэчаў ці апратак, якімі задорвае маці малога, альбо кілям цукерак ці пернікаў?..**

**Не, і яшчэ раз — не! Каб збольшага зразумець усю моц пачуцця хлопчыка да самага дарагога чалавека на зямлі, варта прачытаць апавяданне Алесі Кузьміч «Лёшка». І хоць аўтарка ўпершыню выступае на старонках часопіса «Маладосць», але творчая заяўка яе вартая ўвагі. Пасля прачытання гэтага твора наўрад ці застанецца хто абыякавым. Магчыма, больш прасветленымі вачыма зірне дарослы чалавек на дзяўчынку ці хлопчыка, што прабягаюць паблізу, знойдзе хвілінку на ласкавае слова і прыветную ўсмешку маленькаму чалавечку...**

**Апавяданне «Лёшка», несумненна, творчая ўдача Алесі Кузьміч, з чым шчыра і віншуем.**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

Лёшка прачнуўся рана, за акном — шэрая студзеньская раніца. Мабыць, холадна на вуліцы, бо на вокнах прыгожыя карункавыя малюнкі. Яны вельмі падабаюцца хлопчыку, часам ён бачыць у іх штосьці сваё, запаветнае. Аднойчы сярод марозных роспісаў убачыў шчанюка, жывога, таўстапузага, як у Віталькі, які жыў непадалёк. Але Віталька свайго Кузю ніколі не выпускаў з двара і нікому дакрануцца да яго не даваў, а Лёшку вельмі хацелася сабаку. Іншым разам скрозь марозныя карціны на вокнах Лёшку бачыліся цукеркі ў рознакаляровых фанцiках, такія, якія калісьці даўно прыносіла яму на Вялікдзень ягоная хросная, цётка Наташа. Даўно ўжо не прыходзіць да Лёшкі цётка, гавораць, што яна паехала кудысьці за «доўгім» рублём. Лёшка ўсё ніяк не зразумее, як той рубель можа быць доўгім ці кароткім, здаецца, усе грашовыя паперкі аднолькавай даўжыні. Хай бы яна ўжо вярнулася. Лепей, каб да Вялікадня... Лёшка ўздыхнуў, успаміны пра цётку Наташу былі для яго цяжкімі, ажно плакаць хацелася. Але слязьмі гору не дапаможаш — гэта Лёшка ведае даўно. Аднойчы, калі ён яшчэ маленькі быў, толькі ў школу пайшоў, пасля ўрокаў старэйшыя хлопцы адабралі ў яго ранец, новенькі, з мноствам кішэнек для ўсяго на свеце. Адабралі і пачалі кідацца ім, а потым нагамі шпурлялі. Лёшка тады горка плакаў, прасіў іх не чапаць адзіную ягоную каштоўнасць, але Лёшкавы слёзы зрабілі толькі горш — хлопцы не толькі ранец падралі, але і малому па вушах надавалі, потым доўга яшчэ, мабыць да канца навучальнага года, хлюпікам і плаксам яго дражнілі. Тады і вырашыў для сябе Лёшка, што плакаць больш не будзе ніколі, толькі,

можа, дома, на печы. І толькі тады, як маці на працы будзе — няхай і яна не думае, што ён яшчэ маленькі.

За сцяной глуха шуміць вецер. Пэўна, за ноч занесла і двор, і дарогі. Трэба было б пайсці раскідаць снег, маці хутка на працу ісці — вось здзівіцца, хто гэта так раненька пачысціў двор? Апантаны гэтай ідэяй, Лёшка выслізнуў з-пад коўдры. Холадна, за ноч хату выдзьмула, ды і напалілі печку ўчора мала — дровы скончыліся. Лёшка нацягвае штаны, яны, канечне, не самыя цёплыя, з дзіркамі на каленях, але ўсё ж адзежа. З шафы дастае цёплы бацькаў швэдар, маці не дазваляе яго браць, але ж Лёшка на важную справу ідзе, таму можна. У швэдары і штанах становіцца цяплей. На голыя ногі Лёшка абувае гумавыя боты — зараз усё роўна сагрэецца. Праходзіць каля матчынага пакоя, яна яшчэ спіць.

На двары сапраўды намецена. За ноч вецер добра папрацаваў. Лёшка, амаль топячыся ў снезе, прабіраецца да хлеўчука з рыдлёўкай. Халодныя камякі снегу трапілі ў боты, Лёшка з'ёжыўся і заскакаў на адной назе — непрыемнае адчуванне. У цемры ледзь знайшоў тое, за чым прабіраўся сюды. Пачаць працу вырашыў прама ад хлеўчыка, каб другі раз не давялося лезці праз снег. Спачатку справа ішла даволі хутка. Лёшка сагрэўся, пачаў напяваць нейкую песеньку — ці то на ўроках спеваў яе вучылі, ці то чуў недзе. Слоў, праўда, усіх не памятаў, замяняў на «ля-ля-ля», але ўсё роўна песенька атрымлівалася добрая, вясёленькая такая, здаецца, і працаваць дапамагала.

Так, сцежку ад хлеўчука да хаты пачысціў, спыніўся адпачыць. Раптам зрабілася холадна, вецер прабіраўся скрозь кожную дзірачку ў штанах, нават праз вязаны бацькаў швэдар, нібы казаў: «Што стаіш? Давай, працуй. Ці, можа, ты стаміўся, маленькі хлопчык? Дык навошта ж бярэшся за тое, на што моцы не хапае?» «Я не маленькі!» — хацелася крыкнуць Лёшку, і ён зноў схапіўся за рыдлёўку: трэба цяпер ад хаты да веснічак зрабіць сцежку. Зноў стала цёпла, Лёшка расчырванеўся, нешта ціхенька заспяваў. А ці трэба чысціць сцежку да драўніка — дроў жа ж няма. Лёшка нейкі час пастаяў у задуменні. А вецер зноў узяўся за сваё: «Маленькі!.. Прыдумляеш сабе палёгку, каб толькі хутчэй у хату. Дарослыя так не робяць!»

— Не маленькі я! — тупнуў нагой Лёшка і зноў узяўся за рыдлёўку.

Ну які ж ён маленькі, калі фізрук Васіль Цімафеевіч яшчэ восенню гаварыў, што Лёшка нарматывы ўсе выконвае, а бегае дык і лепей за ўсіх хлопчыкаў у класе. А зімой на лыжні Лёшку няма роўных не тое што ў ягоным шостым класе, але і ў сёмым. Які ж Лёшка маленькі? Вось, праўда, у матэматыцы ды ў мовах Лёшка зусім адстае. Не разумее ён гэтых дзеянняў арыфметычных і піша з памылкамі. Калі Лёшка чытае ўслых, аднакласнікі смяюцца — амаль усе словы па складах, націск не там. Лёшка і сам мала разумее з таго, што чытае, але чытаць любіць. Асабліва, калі сядзіць вечарам дома адзін. Лёшка любіць кніжкі пра дзяцей, падарожжы, нядаўна чытаў пра касмічныя прыгоды — цікава. Дома Лёшка чытае зусім павольна, некаторыя словы не разумее, але тым больш цікавай і загадкавай здаецца кніга. Дома ў Лёшкі кніжак няма, ён бярэ іх у бібліятэцы. Ганна Фёдараўна, школьны бібліятэкар, заўжды што-небудзь параіць добрае, бо сам Лёшка нічога выбраць не можа — ад колькасці кніжак у яго вочы разбягаюцца. Ганна Фёдараўна вельмі разумная, яна ведае, пра што ў якой кніжцы пішуць, якую варта пачытаць Лёшку. Новыя кніжкі яна яму не дае, гаворыць, што ён запэцкае, а Лёшка не крыўдзіцца, часцяком ён і праўда забывае памыць рукі, і ўсё тое, што было на пальцах, застаецца на старонках кніжак. Проста не разумее Ганна Фёдараўна, што гэта ён не спецыяльна. Як не разумее гэтага і настаўніца па мове і літаратуры Алена Міхайлаўна, самая любімая Лёшкава настаўніца. Яна не любіць Лёшку, бывае, што і крычыць на яго за нявы-

кананыя дамашнія заданні, за дрэннае чытанне, за кепскія кантрольныя. Але калі на ўроках літаратуры яна расказвае пра пісьменнікаў і іхнія творы, Лёшка проста заслухваецца — так цікава, проста, што ён яскрава ўяўляе сабе кожнага пісьменніка, кожнага героя. У такія моманты Лёшка разумее, што Алена Міхайлаўна самая разумная і самая добрая з усіх настаўнікаў, але чамусьці паказвае сябе дарослай і сур'ёзнай. Сапраўдная яна толькі калі вось так проста, натхнёна расказвае на ўроках пра Купалу, Коласа ды іншых пісьменнікаў, якіх Лёшка і не памятае ўжо. Аднойчы Алена Міхайлаўна расказала пра сваю любімую гераіню — Дзінку. Лёшка пасля ўрокаў пабег у бібліятэку, папрасіў у Ганны Фёдараўны кніжку пра Дзінку, ён быў упэўнены, што яму таксама спадабаецца кніжка, як і Алене Міхайлаўне. Але строгая бібліятэкарка кніжку не дала, сказала, што Лёшку яшчэ рана чытаць такія вялікія творы. Гэта пакрыўдзіла хлопчыка, але ён вырашыў, што крыху пачакае і прыйдзе зноў — мо Ганна Фёдараўна і забудзецца пра тое, што сказала, і кніжку дасць.

Калі Лёшка, расчысціўшы сцежку, панёс рыдлёўку на месца, пачуў, як адчыніліся дзверы ў сенцах. На парозе з'явілася заспаная маці. Яна стаяла захутаная ў старое паліто і курыла.

— Боты дзе дзеў? — хрыпла спытала.

— У мяне. Я, мама, сцежкі пачысціў, — з пачуццём гонару прамовіў Лёшка, ён не чакаў, каб яго пахвалілі, але гэта было б прыемна.

— Бачу. Боты нясі, — нецярпліва паўтарыла маці, — мне на працу ісці, а ён боты знёс. Шукаю, бы дурніца тая, а ён тут шлындае, не спіцца яму.

— Я проста пачысціў сцежкі, — нясмела прашаптаў Лёшка, разумеючы, што хваліць яго ніхто не будзе, і паплёўся ў хату.

У хаце пасля вуліцы здавалася вельмі цёпла. Лёшка хуценька сцягнуў матчыны боты, паспяшаўся зняць і бацькаў швэдар, пакуль маці нічога не сказала. Ад халоднай падлогі мокрым нагам стала яшчэ халадней. Лёшка залез пад коўдру.

— Дзе мае штаны? — крыкнула маці са свайго пакоя. — Ты мо і штаны мае знёс?

— Не браў я, — адгукнуўся Лёшка.

Чутна было, як маці выкідае з шафы адзежу, перасоўвае табурэты. Зрэшты, усё сціхла, мабыць, знайшла тое, што шукала. Выйшла са свайго пакоя, зноў закурыла.

— А ці збіраешся ты ў школу? — спытала, прысеўшы за стол.

Лёшка схамянуўся, злез з ложка. Цяпер яму станавілася холадна, цяпло, якое ён напрацаваў, памалу знікала, растваpаючыся ў халоднай хаце. Выцягнуў з-пад коўдры старэнькія джынсы. Ён заўсёды звечара іх туды клаў, да раніцы яны награваліся, і апранацца было не так холадна. Але сягоння яны не былі цёплымі, бо ложак ужо астыў. Неяк апрануўшыся, Лёшка пайшоў за красоўкамі, але раптам спыніўся... Учора красоўкі парваліся, зусім парваліся, падэшва адвалілася і засталася недзе па дарозе са школы дадому. Лёшка задумаўся — сказаць ці не сказаць маці. Паглядзеў на яе. Маці сядзела, курыла і нешта глядзела ў старэнькім мабільніку, які калісьці аддала ёй цётка Наташа.

— Мама, у мяне красоўкі парваліся.

— І што?

— Няма што на ногі абуць у школу, — крыху асмялеў Лёшка.

— Што ж ты вечна ўсё рвеш? Што ні дай табе! Толькі калі жалезныя боты зрабіць! Ды што жалезныя, ты і іх парвеш! — раптам закрычала маці.

Яна заўсёды пачынала крычаць неяк знянацку, раптам. Лёшка, часам, палохаўся гэтага крыку. Але, выкрычаўшыся, маці пачынала шкадаваць Лёшку.

— Дурное ты, дурное, — у парыве нейкай дзіўнай любові гаварыла маці, — што рабіць з табой... Бацька твой быў дурань, і ты не лепшы. Сядзі дома сягоння... Да вечара што-небудзь прыдумаем. Можа, у Тамары што ад Віталькі засталося, а можа, у Веркі спытаю. У яе ж двое хлапцоў выраслі.

Даношваць чужое Лёшку не прывыкаць. Кожную школьную зіму так. Не хапае яму адных красовак на год. Вось і носіць Лёшка то Віталькавы боты, то боты Веркіных хлопцаў. Аднойчы насіў Светчыны боты, якая розніца, што дзявочыя — галоўнае, што цэлыя і колеру нямаркага — чорнага. Светчыных ботаў яму надоўга хапіла — на зіму, вясну і на восень. А потым і ў іх падэшва адарвалася. Шкада было.

Маці пайшла на працу, Лёшку загадала хату нікому не адчыняць, нікуды не хадзіць. Лёшка любіў заставацца дома адзін. У такія моманты ён адчуваў сябе гаспадаром, дарослым чалавекам, ад якога залежыць парадак у хаце. Вось і цяпер Лёшка ўзяўся за венік. Прыбраў раскіданую адзежу ў маміным пакоі, заслаў ложак, перайшоў на кухню, дзе ў кутку каля акна, занавешанага старой вышытай фіранкай, стаяў невялікі ложак, Лёшкаў. На кухні давялося прыбіраць доўга — да мамы ўчора прыходзілі сяброўкі. Яны прынеслі з сабой некалькі бутэлек гарэлкі, доўга сядзелі, пілі, потым спрачаліся. Мама, калі шмат выпівала, станавілася нейкай зусім чужой, Лёшку здавалася, што ён не пазнае яе. І ўчора мама ўвесь вечар не заўважала Лёшку, нават не крычала. Глядзела на яго і не бачыла. Лёшка тады залез на ледзь цёплую печ і сядзеў там. Доўга сядзеў, чакаў, пакуль пойдуць усе гэтыя госці, а мама ляжа спаць. Прыходзіў яшчэ сусед, дзядзька Мірон, ён таксама выпіў з жанчынамі, потым нешта гучна гаварыў. Лёшка так і не зразумеў, дзядзька Мірон сварыўся з кімсьці, ці проста так размаўляў. Неяк непрыкметна Лёшка заснуў, прачнуўся, калі ў хаце было ціха, толькі недзе, мабыць, у маміным пакоі, бубнеў чыйсьці голас, здаецца, дзядзькі Мірона. Лёшка злез з печкі і забіўся пад халодную коўдру. Як пайшоў дадому сусед Мірон, Лёшка не пачуў.

Прыбраўшы на кухні, Лёшка нясмела зазірнуў у шафу, дзе звычайна ляжала што-небудзь паесці. Апошні раз Лёшка еў учора ў школьнай сталоўцы, сёння, пасля стольких спраў, есці вельмі хацелася. У шафе было пуста, толькі на верхняй паліцы — абгрызены кавалачак хлеба. Маленькі, але ж гэта хлеб. Лёшка ўзяў яго, панюхаў. Паху хлеба не адчувалася, толькі непрыемны пах сырасці. Але ж гэта хлеб...

Лёшка зачыніў дзверы і залез на свой ложак, захутаўся ў стары залаплены кажух, дастаў з-пад падушкі кніжку, якую нядаўна ўзяў у бібліятэцы. Кніжка старая, старонкі патрапаныя. Бібліятэкарка, калі давала кніжку, сказала, што кніжка спісана, і яе не шкада. Лёшка ўсю кніжку перагартаў, але нічога спісанага ў ёй не знайшоў, мабыць, Ганна Фёдараўна памылілася. Кніжка была пра смелага хлопца Цімура, які ўсім дапамагаў, і ягоных сяброў. Цімур Лёшку спадабаўся — малайчына.

Дома Лёшка чытаў услых, павольна, але ўсё роўна па складах. Чым больш чытаў гісторыю пра Цімура, тым больш яму здавалася, што ён, Лёшка, вельмі падобны да галоўнага героя: такі ж смелы, гатовы дапамагчы кожнаму ў любым горы. І так далёка пайшла ягоная фантазія, што грукат у дзверы спалохаў яго. Лёшка ціхенька паклаў кніжку і падышоў да дзвярэй. На вуліцы было некалькі чалавек, яны размаўлялі. Па галасах Лёшка зразумеў, што гэта прыйшлі са школы.

— Я вам гаварыла, што ён дома, — гэта Ірына Іванаўна, класны кіраўнік Лёшкінага класа, — але ці адчыніць — вось пытанне.

— У іх учора тут цэлае свята было, сабраліся ўсе, хто толькі мог, — а гэта сацыяльны педагог, Вольга Уладзіміраўна, — мо і зараз спіць п’яная. Што ёй?

«Мама не п’яная», — хацелася крыкнуць Лёшку. Чаму яны так пра маму? Мама на працы зараз, а яны так пра яе.

— Не адчыняць — факт, — зноў Ірына Іванаўна, — як дзіця можа ў такіх умовах жыць? Маці што ні дзень п'яная! Трэба нешта рабіць, Вольга Уладзіміраўна, загіне дзіця.

— Падумаем, — адказала сацыяльны педагог, — трэба маці ў школу выклікаць. А там глядзець будзем. Колькі ўжо пропускаў у яго за месяц?

— Ой, ходзіць праз дзень! Тут можна і не лічыць, — уздыхнула класны кіраўнік.

Пагрукалі яшчэ раз. Лёшка каля дзвярэй ціхенька плакаў, ён ведаў, што «падумаем» ні да чаго добрага не прывядзе. Грукаць перасталі, галасы чуліся ўжо недзе далекавата.

— А я ж, Вольга Уладзіміраўна, у санаторый еду, — голас у класнага кіраўніка ўжо вясёлы, жыццярадасны.

— У санаторый? Куды ж гэта вы, Ірачка? — змяніўся голас і ў сацыяльнага педагога.

— Ой, забылася. Гэта недзе пад Мінскам...

Болей Лёшка ўжо нічога не пачуў. Ён зноў вярнуўся ў ложак. Вось Ірына Уладзіміраўна кажа, што пропускаў шмат. І ўсе па няўважлівых прычынах. Няпраўда! Нядаўна ў Лёшкі парвалася куртка, пакуль знайшлі, што апрануць, у школу не хадзіў. Было, што і маці забылася, пайшла на працу і дзверы зачыніла на ключ, а ў Лёшкі ключа няма, а вось зараз красоўкі... Хіба ж гэта няўважлівыя прычыны? Самыя што ні на ёсць уважлівыя і значныя. Вось аднакласнік Андрэйка, у якога маці прадаўцом працуе, хварэе часта. Гэта ўважлівая прычына. А Лёшка, калі будзе хадзіць у школу без курткі і красовак, таксама захварэе. Вось і прычыны...

Лёшка ўзяўся чытаць, але не чыталася. Хацелася есці. Лёшка яшчэ раз паглядзеў у шафе, можа што не заўважыў, але там было пуста. Лёшка падумаў, што ў школе хутка пачнецца абед. Ад гэтай думкі зрабілася яшчэ горш, тады ён стаў думаць пра Цімура. Вось падрасце крыху Лёшка і стане такім, як Цімур, будзе дапамагаць усім-усім, асабліва тым дзецям, якія хочуць есці.

Раптам Лёшка пачуў звон. Значыць, у іхнюю маленькую царкву сёння прыехаў бацюшка, айцец Павел. Ён прыязджаў сюды толькі па вялікіх святах. Якое сягоння свята, Лёшка не ведаў. Ізноў чуваць званы. Айцец Павел вельмі добры, ён любіць дзяцей, разумее ўсё, нават, без слоў. Колькі разоў Лёшка бегаў летам каля царквы, пасля службы айцец Павел разам са сваімі памочнікамі выходзіў на вуліцу, размаўляў з дзецьмі, якіх набягала звычайна шмат, дарыў маленькія драўляныя крыжыкі. Потым садзіўся пад рабінкай і размаўляў з малымі так зразумела, нібы і сам малы. Але які ж ён малы, у яго ўжо вусы і доўгая барада, ды і валасы сівыя. Айца Паўла любілі ўсе дзеці, нават сварыліся, хто бліжэй да яго сядзе. А яшчэ... Лёшка задумаўся. Яшчэ айцец Павел частаваў дзяцей смачнымі цукеркамі, булкамі, пірагамі, усім, што ў яго было з сабою. Можа, і зараз у яго што-небудзь ёсць? Лёшка падняўся з ложка... Але няма чаго на ногі абуць. Лёшка паблукаў крыху па хаце. Знайшоў доўгую брудную анучу, вырашыў прыкруціць ёю парваны красовак да нагі. Сабраўшыся, выйшаў на вуліцу. Хутка халодны снег прабраўся пад анучыну і апёк нагу, але Лёшка не адчуваў гэтага, ён стараўся ісці хуценька, каб яго не заўважылі настаўнікі ці аднакласнікі. Добра, што царква зусім у другім баку вёскі, малаверагодна, што Лёшка трапіць каму на вочы.

Каля царквы Лёшку ахапіў нейкі страх і сорам. Не. Не зможа ён сказаць айцу Паўлу, што хоча есці. А калі той нічога не прывёз або забудзецца прапанаваць?.. Лёшка спыніўся каля царквы. Стаяў нядоўга. У царкве, мабыць, цёпла, вунь і дым ідзе з коміна. Зайсці хоць пагрэцца. Лёшка бачыў, што перад царквой дарослыя звы-

чайна кланяюцца, таксама пакланіўся і ўвайшоў. У царкве сапраўды было цёпла. Лёшка стаў каля дзвярэй. Ён не разумеў нічога з таго, што пелі і гаварылі, але яму тут было ўтульна. Ён нават забыўся, што маці ўчора была п'яная, што ў яго парваны красовак, і што ён як ніколі хоча есці. Усё наўкол здавалася светлым, добрым. Людзей у царкве было мала, ды і не хадзілі людзі з іхняй вёскі ў царкву. Толькі нейкія незнаёмыя стаялі вакол, яны з горада прыязджалі, разам з айцом Паўлам. Але ўсе яны здаваліся падобнымі да анёлаў, якіх Лёшка калісьці бачыў на паштоўцы, і вочы ў іх іскрыстыя, добрыя-добрыя. Лёшка не заўважыў, як скончылася служба, усе падыходзілі да крыжа, цалавалі яго. Падышоў да крыжа і Лёшка, зрабіў як і ўсе, можа, крыху нязграбна, але ад душы. Айцец Павел усміхнуўся Лёшку і пагладзіў яго па галаве. Можа, зразумеў, што Лёшку сягоння вельмі цяжка.

Потым усім налілі гарбаты, у кутку стаяў стол, на якім былі і бутэрброды з рыбай, і пірог, і прыгожыя румяныя булачкі. Лёшка глядзеў на стол, як на дзіва, але падысці баяўся.

— Хадзем да нас, — паклікала прыгожая дзяўчына ў белай хустцы, — няўжо спужаўся? На, пагрэйся крыху, — працягнула яна кубак гарбаты.

«Ну, калі толькі пагрэцца», — падумаў Лёшка. Ён хацеў запэўніць усіх: і дзяўчат, і айца Паўла, што проста міма ішоў і зазірнуў з цікавасці, а не таму, што есці хацеў. Але прамаўчаў.

— Як справы ў цябе, Аляксей? — запытаўся айцец Павел, і Лёшка здзівіўся — памятае ягонае імя.

— Нічога, — адказаў Лёшка, крыху збянтэжыўшыся.

— Як маці?

— Працуе.

— Добра, што працуе, трэба ж такога багатыра расціць.

Лёшка баяўся, што айцец Павел спытае пра тое, чаму Лёшка не ў школе, але такога пытання не было, і Лёшка супакоіўся.

Здаецца, ніколі такога смачнага пірага не еў Лёшка. З чым ён? Мабыць, з капустай. А рыбныя бутэрброды... Лёшка разагрэўся каля печкі, і сам не заўважыў, як расказаў айцу Паўлу пра школу, красоўкі, пра маму, пра тое, што прыходзілі са школы, а ён не адчыніў дзверы. Айцец Павел слухаў уважліва.

— А калі я папрашу ў Бога новыя красоўкі, ён мне падорыць? — раптам запытаўся Лёшка.

— Калі шчыра папросіш, я думаю, што падорыць, — задуменна прамовіў айцец Павел.

— І хлеба?

— І хлеба...

Дадому Лёшку падвёз айцец Павел на сваім аўтамабілі. Мамы яшчэ не было. Лёшка не ведаў, што і на працу ў гэты дзень яна не з'явілася, і начаваць дамоў таксама не прыйдзе. Зайшоўшы ў хату, Лёшка ледзь дабрыў да ложка, лёг і амаль адразу заснуў. Столькі падзей за сягонняшні дзень на яго звалілася, што трэба было адпачыць. Засынаючы, хлопчык па-свойму, па-дзіцячы, прасіў у Бога новыя красоўкі і каб мама не піла, можна было б і тату вярнуць, але калі гэта цяжка, то не трэба, няхай толькі мама не п'е.

Лёшка спаў і не чуў, як каля хаты спыніўся аўтамабіль. А потым ледзь чутна ў хату зайшоў айцец Павел разам з сацыяльным педагогам Вольгай Уладзіміраўнай. Яны паклалі ў пустую шафу некалькі пакетаў крупы, макаронаў, бутэльку алею, два боханы хлеба, айцец Павел выцягнуў з кішэні невялікі пакет цукерак, паклаў на стол.

— Дарма вы так, айцец Павел, — яна ўсё роўна прап'е гэта. Ды і хлопчыку лепей было б у дзіцячым доме — і дагледжаны, і ў цяпле, — павяла плячамі Вольга Уладзіміраўна.

— Думаеце? А я ўпэўнены, што вы памыляецеся. Нідзе не будзе так добра, як у роднай хаце, і ніхто не зможа замяніць яму матулю. Вы чулі, як ён пра яе гаворыць?

— Не.

— А вы спытайце, заўтра спытайце. Ён бачыць, што яна п'е і паводзіць сябе зусім няправільна, але яна для яго самая лепшая, самая прыгожая, самая добрая. Такія пачуцці трэба захоўваць, а не ўбіваць яму ў галаву, што маці — п'яніца, дрэнная, неахайная.

— Навошта, айцец Павел? Яна ж не зможа выхаваць з яго чалавека.

— Не зможа? Ён ужо чалавек. Няхай для яго заўтрашняя раніца стане святочнай, няхай ён паверыць, што не ўсё так безвыходна. Паглядзіце на яго заўтра раніцай у школе. Паглядзіце — і вы ўбачыце сапраўды шчаслівае дзіця.

— Усім не дапаможаш, — ледзь чутна адгукнулася сацыяльны педагог.

* * *

Лёшка прачнуўся рана. За акном яшчэ нават не святлела. Ён устаў з ложка, зазірнуў да мамы — яе не было. Лёшка вырашыў, што сягоння трэба ісці ў школу, толькі прыдумаць, у чым. Раптам заўважыў на стале цукеркі, падышоў, памацаў — сапраўдныя. Адкрыў шафу, здзівіўся — столькі прадуктаў у іх не было яшчэ ніколі.

— А можа, і красоўкі... — Лёшка пабаяўся гаварыць услых, нібы асцерагаўся, што ад гукаў ягонага голасу цуд знікне.

Выбег да дзвярэй — на падлозе стаялі красоўкі, а побач — цёплыя боты з мехам усярэдзіне. На цвіку вісела незнаёмая куртка. Лёшка не мог паверыць сваім вачам, падбягаў і мацаў кожную новую рэч, каб яшчэ раз упэўніцца, што яна сапраўдная. Лёшку раптам зрабілася цёпла-цёпла. Ён хуценька сабраў кніжкі, на хвіліну задумаўся, што не зрабіў ніводнага дамашняга задання. Але ў школу ісці трэба... Пойдзе сёння так, з нявывучанымі ўрокамі, але гэта будзе апошні раз. Потым ён заўсёды-заўсёды будзе вучыць урокі, нават матэматыку... Лёшка на хвіліну задумаўся: а калі не атрымаецца?

Паглядзеў на новыя красоўкі, памацаў у кішэні цукеркі і ціхенька сказаў:

— А я старацца буду... Як Цімур. У яго таксама, мабыць, не ўсё і не адразу атрымлівалася.

У школу Лёшка не ішоў — бег. Гучна вітаўся з настаўнікамі, якіх сустракаў па дарозе, усміхаўся сабакам, дрэвам, снегу. Ён сёння быў самым шчаслівым чалавекам, які не толькі мог бегчы і не баяцца, што падэшва ягоных красовак дзе-небудзь згубіцца, але і прыняў важнае ў сваім жыцці рашэнне — пераадольваць усе цяжкасці, якія трапяцца яму на доўгім жыццёвым шляху.

У школе на яго дзіўна паглядзела Вольга Уладзіміраўна. Нават падышла, спытаць нешта хацела, але так нічога і не спытала. Толькі з нейкім шкадаваннем усміхнулася і, грукаючы абцасамі па драўлянай падлозе, пайшла ў настаўніцкую. Лёшка ўздыхнуў з палёгкай — дзень пачынаўся надзвычай добра.

Ірына КАРЭЛІНА

# Я ВЕДАЮ, ШТО БУДЗЕ ЗА ФІРАНКАЙ...

### ШЫПШЫНАВЫ ВЕЧАР

Кастрычнік іграе па нотах
самотнага Шумана.
У восені — твар адзіноты
і водар мінулага.

Крывавіць шыпшынавы вечар,
паранены думкамі.
Ісці да Вас — цэлую вечнасць —
не тымі завулкамі,

Шукаць Вашу постаць у нетрах
пустэльнага горада,
Дзе кожны глыточак паветра
каштоўней за золата.

І што цяпер вершы? Анёлы,
са змоклымі крыламі.
Я лісцем зрываюся з клёна
у вечар шыпшынавы.

* * *

Клавішы. Ноты. Далонь.
Люстэрка. Трымценне зор.
Трымай мяне. Мі-бемоль.
Забудзь мяне. Ля-мінор.
Знутры — чарцяня й анёл
на шпагах здзяйсняюць бой.
Пагроза. Напад. Укол.
З табой. Без цябе. З табой.
Сімфонія. Поўнач. Бэз.
Твой голас — з усіх бакоў.
Прабач мяне. Фа-дыез.
Акорды. Акорд. Ако...



*Ірына Карэліна нарадзілася ў 1990 годзе ў Полацку. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ (журналістыка, друкаваныя СМІ). Яе вершы друкаваліся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», «Литературной газете», газеце «СБ. Беларусь сегодня», калектыўных зборніках.*

**Паэзія Ірыны Карэлінай вызначаецца лаканічнай і вытанчанай вобразнасцю. Уражвае цудоўнае валоданне мовай, хаця аўтарка піша па-руску і зусім нядаўна паспрабавала сябе ў беларускай моўнай стыхіі. Перад намі — інтэлектуальная і інтэлігентная дзявочая паэзія, калі можна так выказацца, абышоўшы звыклыя тэрміны. Маладая літаратура ўзбагацілася таленавітымі творамі, а маладосцеўцы рады прадставіць новае яркае імя на старонках часопіса.**

*Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»*

## ЖНІВЕНЬ

Муха ў ліпкай павуціне
Жаласна гудзе.
Месяц, жвавы і гуллівы,
у гумовых макасінах
Крочыць па вадзе.
Зоры спелыя, як слівы,
Плюхаюцца ў гладзь.
Смутак, смутак і пяшчота...
Лодка шэпчацца з чаротам —
Слоў не разабраць.
Вецер пасвіцца ля вусця,
быццам бы ягня.
Ён з мяне зрывае хустку,
пакідаючы на вуснах
Смак твайго імя.

* * *

Брукаванка са зліткаў золата
у святле ліхтароў.
І, начной цішынёй праколатая —
да глыбінь і асноў —
я блукаю па зорных вуліцах,
удыхаючы пыл.
Мне здаецца, вось-вось перакуліцца
у ваду небасхіл.
Гэты горад на беразе вечнасці —
заканчэнне дарог.
Там, дзе мора зліваецца з млечнасцю,
пачынаецца Бог.
Я іду па аблоках акацыі —
скрозь пялёсткавы рой.
Нават тут — на цэнтральным пляцы
можна слухаць прыбой.
І адчуць — кожнай цела клетачкай,
да скразной няматы:
там, дзе мора зліваецца з млечнасцю,
пачынаешся ты.

## ВІНО З УСПАМІНАЎ

У кішэні — сухое лісцё.
Пахне мятай і чорнай рабінай.
Ты чытаеш «Віно з дзьмухаўцоў»,
а ці ёсць віно з успамінаў?
Адшукаць бы ягоны рэцэпт,
каб не страціць ні гуку, ні паху...
Чуеш, ветра нязмушаны шэпт
і бусліны клёкат над дахам?
На далонь тваю капае сок
З пераспелай, надтрэснутай слівы...
Мне б віна таго — толькі глыток,
Каб узімку вярнуцца ў жнівень.
Не надыхацца зорным святлом,
кожны вечар як быццам бы першы.
Калі з памяці робяць віно,
то яго называюць — вершы.

* * *

Я ведаю, што будзе за фіранкай:
маё адлюстраванне, неба, поле...
Скрыжуюцца чыгункі, як нажніцы,
адрэжуць назаўжды зваротны шлях.
Грукочуць колы, весела і шпарка,
але ў душы — ні радасці, ні болю —
адно жаданне: хоць на міг спыніцца,
паміж «было» і «будзе апасля».
Пранізлівы гудок ірве прастору.
Што потым? Невядомасць і пустэча.
Так многа розных станцый і ніводнай
пад назвай «Запаветная зямля».
Ратуе толькі тое, што за шторай
я бачу край і ведаю — ён вечны.
Я бачу край і ведаю — ён родны.
Нічога больш. Нічога акрамя.

* * *

***Н. Г.***

Хаваюцца ў шафу цені
ад гуку раптоўных фраз.
Сціскаюць прастору сцэны,
І горла сціскае поўнач.
Давай пагаворым шчыра,
як быццам апошні раз...
Мой сумны анёл бяскрылы

прысядзе з табою побач.
Што маем? Знаходкі, згубы
ды рыфмаў духмяны стос...
Хай месяц сцякае ў кубак,
як мёд, — да апошняй кроплі.
Падзьмула з аконных шчылін —
па скуры прабег мароз.
Давай пагаворым шчыра,
каб стала адразу цёпла.

* * *

Пах ландышаў у пераходзе
нагадвае дзяцінства.
Здаецца, горад стогне: «Годзе!
Вады, вады...»
Цурчыць крыніца,
празрыстая — у нетрах глебы,
і чмыхае ад пылу неба.
Рыпіць па старасці трамвай,
як быццам шэпча мне: «Трывай,
яшчэ не ліха!»
Прыпынак. Я выходжу ў май.
Няма чым дыхаць.

* * *

Загрукалі дажджынкі-кастаньеты.
Ледзь вымавіла зрэшты: «Да світання»
Ты разлічыўся добраю манетай:
выдатна адчаканеным маўчаннем.

З вакна — амаль вангогаўскі малюнак:
твае сляды, размытыя пастэллю.
Ты вернешся, мінуючы завулак,
мой твар ужо схавае чорны вэлюм.

Вясна даўно чакае за раялем.
Што сёння? Менуэт? Саната? Скерца?
У нас з табою — розная танальнасць,
і ў той жа час — аднолькавыя сэрцы.

Бурштынавы муштук дрыжыць
у пальцах,
пульсуе цішыня на бледных скронях.
Ты побач. Ты цалуеш мне запясце.
А я цябе не ведаю. Не помню.



Лідзія АДАМОВІЧ

# ВІЗІТ КАПІТАНА

## *Апавяданне*



*Лідзія Адамовіч нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Клівы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут. Працуе дырэктарам мікалаеўшчынскага Дома фальклору на Стаўбцоўшчыне. Аўтар кніг «Першая запаведзь», «Кветкі самотнай князёўны».*

**З «Пунсовымі ветразямі» ў дзявочых марах вырасла не адно пакаленне лепшай паловы чалавецтва, ды, спадзяемся, і ў далейшым будзе гадавацца пад ласкавым сонцам на розных кантынентах зямлі. Вядома, у кожнай дзяўчыны альбо жанчыны сваё ўяўленне і бачанне каханага, які аднойчы (на ранняй зорцы ці ў спякотны летні надвячорак) «прыплыве» на «пунсовых ветразях» да іх акна, дзвярэй, кватэры ці хаціны, атуліць верным каханнем на доўгія і шчаслівыя гады...**

**У апавяданні Лідзіі Адамовіч «Візіт капітана» такі чалавек знаходзіўся побач з гераіняй, але спатрэбіўся час, каб юная Асоль іншымі вачыма зірнула на даўно знаёмага мужчыну і, вобразна кажучы, малекулы цела і атамы душы ў яе перабудаваліся ў іншым парадку — яна пакахала...**

**Што ж, нашы непаўторныя, чароўныя, дзіўныя сучасніцы — Асоль, чакайце свайго капітана, і ён абавязкова прыйдзе да вас!**

***Аддзел прозы часопіса «Маладосць»***

Кірыяна згубіла бранзалетку. А перад гэтым — яшчэ і папку з дакументамі. Дзяўчына легкадумна несла яе між почапкамі сваёй сумкі.

Потым яна згубіла вязаныя рукавічкі.

А бранзалетка была асаблівая. Яе Кірыяна зрабіла на Каляды, каб прывабіць да сябе хлопца, у якога была закахана. Раней Кірыяна сябравала з хлопцам з касцёла, але той пайшоў у манахі. А вось гэты, у якога цяпер закахана Кірыяна, быў вельмі прывабны і ў манахі не збіраўся. Кірыяна, як дзяўчына набожная, у касцёл хадзіла штодня, спадзеючыся там сустрэць сваё каханне. Але хлопец, якога яна выбрала, не звяртаў на Кірыяну аніякай увагі. Памоляцца і ідуць сабе, кожны да сваёй хаты. Аж крыўдна рабілася Кірыяне ад такога раскладу. Яна ўжо і Богу малілася, але ўсё без толку. Тады ёй сяброўка параіла звярнуцца да народнай магіі. Спачатку Кірыяна пачала займацца кітайскім фэн-шуй, аднак сардэчкі і ружы нічога не змянілі ў яе адносінах з хлопцам. Ён па-ранейшаму не заўважаў дзяўчыну. Тады Кірыяна схапілася за мясцовую народную магію, «як бабкі вучылі», і купіла сабе мужчынскія тапкі. Яны павінны стаяць у прыхожай і чакаць будучага мужа Кірыяны. Аднак неяк у хату ўвайшоў сусед-выпівоха, разуўся і абуў тыя тапкі. Кірыяна ледзь не са слязьмі адразу прэзентавала іх суседу. Дык ён сапраўды закахаўся ў Кірыяну. Спачатку з ружамі прыйшоў, другім разам — з прапановай замужжа. Потым, канечне, прыходзіў грошай прасіць, як прапіўся, але не ў гэтым справа. Далей Кірыяна, каб прынадзіць хлопца з касцёла, зрабіла сабе бранзалетку. Пляла на Каляды, апоўначы, пры водсвеце дванаццаці свечак, шаптала замову, уяўля-

ла, гэта значыць «візуалізавала» таго хлопца, а яна, бранзалетка гэтая, раз — і недзе выскачыла! Мусіць, калі Кірыяна прымярала сукенку ў краме. Але Бог з ёй, з той бранзалеткай, затое Кірыяна купіла сабе новую сукенку!

І тады дзяўчына падумала: а можа той хлопец і не яе лёс, і лепей яго забыць? Праўда, спачатку яна доўга злавалася на Бога, што той не выконвае яе жаданні, але затым памірылася з Богам і зноў пачала хадзіць у касцёл, але ўжо не выглядваючы там сабе кавалераў. А без Бога няма сэнсу жыцця: у каго ж тады верыць? Супрацьлеглы бок ад Бога — гэта бок зла. А яна ж «заігрывала» з цёмнымі сіламі, каб мужа сабе прынадзіць! Вось і прынадзіла — суседа-выпівоху. Не, падумала Кірыяна, трэба з гэтай магіяй «завязваць».

Вырашыла яна болей не варажыць, не выбіраць сабе кавалераў, а чакаць, калі Бог ёй сам пашле сапраўднае, узаемнае каханне і разам з тым — добрага мужа.

Сёння быў у касцёле фэст. Хаця свята прыйшлося на пост, але гэта дзень святога, у гонар якога пабудавалі касцёл. Радасцю поўнілася сэрца Кірыяны, і яна шчыра дзякавала святому, што дапамог ёй не думаць пра таго хлопца.

Дома яна хуценька распранулася і вырашыла сёння паспаць не ў сваёй спальні, а ў зале, на канапе, ля камп'ютара. У пакоі было давольна цёпла, але Кірыяна засталася ў халаце, палажыла пад галаву невялічкую падушку, легла, бы тая котка, і пачала слухаць дыск. Кірыяна меркавала, што калі дыск «закончыцца», яна прачнецца і выключыць камп'ютар. Аднак прачнулася яна не ад цішыні, а ад таго, што канапа асцярожна прагнулася, якраз каля яе ног, быццам нехта сеў там. Яна расплюшчыла вочы і спачатку не зразумела: гэта працяг сна або прывід?

Пстрыкаючы «мышкай», па камп'ютары «лазіў» чалавек. Мужчына. Кірыяна бачыла ягоныя прыгожыя плечы, ягоную руку, якой ён трымаў «мышку». Сядзеў мужчына да Кірыяны бокам і быў апрануты ў белую кашулю і цёмныя штаны. Коратка падстрыжаныя валасы, можна сказаць стыльна...

— А вы хто? — ціхім шэптам пацікавілася Кірыяна.

— Дзіма, — спакойна адказаў ён, не адрываючыся ад камп'ютара.

— Які Дзіма? — Кірыяна пачала прыпадымацца на канапе.

— Дзмітрый Сяргеевіч, — адказаў ён. — Я камп'ютар выключаю. Ты ж заснула! Дай што паесці, калі ёсць!

І тут Кірыяна ціхенька засмяялася. Дзмітрый Сяргеевіч быў татавым сябрам. А працаваў ён капітанам дальняга плавання. Кірыяна жыла ў яго на кватэры. Аднак калі Дзмітрый Сяргеевіч вяртаўся з плавання на паўгода, то тут ён не жыў.

— Там кансервы з восені засталіся, — прамовіла Кірыяна. — Вы, як з плавання вярнуліся, прывезлі іх.

— А цяпер жа ж вясна! — засмяяўся ён. — Чаму ж ты іх не з'ела?

— Я вас чакала!

І падалася на кухню, накрываць на стол. Зірнула на гадзіннік. Палова адзінаццатай. Мала, значыць, паспала. А Дзмітрыя Сяргеевіча, відаць, Тарпеда выгнала. Пра Тарпеду — асобны сказ, усміхнулася сама сабе Кірыяна. Мінулым летам, пасля заканчэння медыцынскага каледжа, Кірыяна атрымала накіраванне ў гэтыя мясціны. Тата звязаўся па тэлефоне з Дзмітрыем Сяргеевічам, які на той час быў у плаванні. А той даручыў сваёй сястры Броні, Браніславе Сяргееўне, каб тая дала Кірыяне ключы ад кватэры, адным словам, на кватэру пусціла. Броня і прывяла яе сюды. Сама Броня прыемная жанчына, таўстушка-хахатушка, прыкольная такая, хоць і траіх дзяцей мае, і мужа надта сур'ёзнага, але з гумарам жанчына, спадабалася Кірыяне. А потым Броня пачала прыходзіць у госці са сваёй сяброўкай Віялетай.

Віялета — гром-баба! На ежы «памешаная», адны размовы — толькі пра ежу, відаць, з дзяцінства завучыла жарт, што «шлях да сэрца мужчыны ляжыць праз страўнік»! Ну і шчыравала яна тут! Як пачала нарыхтоўкі рабіць, ажно 27 слоікаў гуркоў «закатала», на ўвесь ваенна-марскі флот. З таго часу Кірыяна і прозвала Віялету Тарпедай. Яна вельмі хацела замуж за Дзмітрыя Сяргеевіча, так бы мовіць, з юначых гадоў млела. Вось і старалася яму дагадзіць. Колькі яна, за адзін толькі верасень, нарыхтовак тут наставіла: і грыбоў, і памідораў, і розных салатаў! Відаць, дагэтуль пограб у Дзмітрыя Сяргеевіча пухне. Аднак мужчына жыў у пяціпавярховіку, і яго вельмі цягнула на прыроду. Кватэру сваю ён не любіў і не даглядаў. Так што тыя нарыхтоўкі хутка кудысь перавезлі, мусіць, у пограб да Тарпеды. Магчыма, ён і адпачываў у яе ўвесь гэты час.

— А што, вам ужо ў плаванне? — пацікавілася Кірыяна, запрашаючы Дзмітрыя Сяргеевіча за стол.

— Яшчэ ж толькі пачатак сакавіка, — адказаў той і адкрыў халадзільнік.

І ў гэты момант, быццам на замаруджанай кінастужцы, паплыло перад Кірыянай відовішча: з халадзільніка вылецеў і ўшчэнт разбіўся яе любімы слоік! Гэта быў асаблівы слоік. Кірыяна прачытала ў жаночым часопісе, што ўсходнія прыгажуні, каб закахаць у сябе хана, націралі свае целы настоем аліўкавага алею з пялёсткамі ружаў. І яна зрабіла такі настой, каб пры выпадку нацерці сваё цела перад спатканнем з каханым. Цяпер аскепкі гэтага слоіка разам з «чароўным зеллем» няўмела і разгублена падбіраў з падлогі Дзмітрый Сяргеевіч.

— Вы, можа, не выспаліся? — стрымана вымавіла Кірыяна і кінулася яму дапамагаць.

— А што гэта за варэнне? — пацікавіўся мужчына.

— Вы хочаце сочыва? — спытала Кірыяна, зграбаючы парэшткі слоіка і «чароўнае» месіва венічкам на савок. — А можа, спачатку чаю?

Але не паспела яна дагаварыць, як Дзмітрый Сяргеевіч ужо адчыніў дзверцу шафы і дакрануўся рукою да прыгожай бляшанкі, у якой ляжалі засушаныя пялёсткі ружаў — менавіта з іх хацела зрабіць сабе ванну Кірыяна, вядома ж, у шлюбную ноч з будучым мужам!

— Гэта ружы! — усклікнула яна, забіраючы бляшанку з ягоных рук.

— Ты п’еш чай з ружамі? — усміхнуўся ён. — Гэта так цікава!

«Якая ў яго асляпляльная ўсмешка, — падумала Кірыяна, — і прывабная такая! Мусіць, ён вялікі бабнік. Нездарма ж Тарпеда млее!»

— Тады пап’ем разам! — прапанаваў ён. — Відаць, гэта дзіўны рэцэпт!

«Якія ў яго прыгожыя плечы, такія шырокія, мусіць, з аршын!» — падумала Кірыяна.

І чаму ён глядзіць на яе і ўсміхаецца, відаць, яна падаецца дзівачкай: стаіць, прыціскаючы да сябе гэтую бляшанку з пялёсткамі...

— Ты не выспалася? — лагодна мовіў ён. — Прабач, гэта я вінаваты. Давай, зраблю чай. Ты заўтра выхадная? — пацікавіўся ў Кірыяны.

Яна кіўнула галавою і прысела за стол. А Дзмітрый Сяргеевіч пачаў насыпаць пялёсткі ружаў у заварнік...

Кірыяна пайшла раніцай у краму, набыць белы швэдар, пра які даўно марыла, каб спадабацца хлопцу з касцёла. Аднак, калі прымерыла, аказалася, што абнова не пасуе ёй.

«Як часта мы хочам тое, што нам падабаецца, а на самай справе яно нам не падыходзіць», — сумна падумала Кірыяна, аддаючы праўдаўцу швэдар. Вось так і

яна, Кірыяна, марыла пра таго ганарыстага прыгожага хлопца, а на самай справе ён ёй і не падыходзіў, ці яна яму... Бо нічога з яе мары не атрымалася. Дарэмна сердавала на Бога. Бог лепей ведае, што нам на карысць, а што не.

Дзмітрый Сяргеевіч такі смешны, гаваркі і вясёлы! Слоік з алеем «любоўным» разбіў, а пялёсткі ружаў учора выпілі. Дарэчы, цудоўная гарбата з пялёсткаў атрымалася! Наогул, ён прыкольны такі, цікавы. І чаму раней гэтага не заўважала? А раней — яе сэрца было занята тлумам і марнымі спадзяваннямі. Тады, восенню, як Дзмітрый Сяргеевіч вярнуўся з плавання, ён кожны раз падвозіў яе на машыне на працу, да бальніцы. Разам сустракалі Ражаство, і Броня была з сям'ёй, і Тарпеда. А Кірыяна сядзела сумная ды гаравала па хлопцу з касцёла: чаму ж ён не з ёю! І Новы год планавалі адзначаць усе разам, але Кірыяна заўпарцілася. Бачачы, што ёй «не свеціць» сустрэць Новы год з каханым, замянілася на працы і сустракала свята ў бальніцы. Дзмітрый Сяргеевіч тады прыехаў за ёю раніцай. «Цікава, — падумала цяпер Кірыяна, — якія ў яго адносіны з Тарпедай?»

Сёння яны з Дзмітрыем Сяргеевічам збіраліся ехаць у госці да бацькоў Кірыяны. Тата запрасіў сябра ў госці, сказаўшы, каб ён прыхапіў з сабою і дачку.

— А куды вы той малюнак падзелі, на якім я вас намалявала? — пацікавілася Кірыяна, пакуль яны ехалі.

— Які малюнак? Нагадай! — усміхнуўся Дзмітрый Сяргеевіч.

— Памятаеце, я вучылася ў дзявятым класе, а вы тады ў сваё першае плаванне ішлі. Мой тата быў капітанам на тым судне. І вы прыехалі да нас у госці, так бы мовіць, нанеслі візіт ветлівасці.

— Ага! — засмяяўся ён. — Памятаю! Ты тады сядзела каля самага крайку стала, мы пілі чай, а на развітанне ты падарыла мне малюнак.

Ён крышку задумаўся, а потым зазначыў:

— Ведаеш, Кірыяна, праўду сказаць, і не памятаю!

— Мне б цяпер хацелася пабачыць, ці сапраўды вы былі падобны на тым малюнку! Цікава школьныя гады ўспомніць!

— А я вось праз месяц у плаванне пайду, дык ты пашукай у маіх паперах, можа, і знойдзеш! — прапанаваў ён.

— Вы дазваляеце мне шукаць? — засмяялася Кірыяна.

— Ды я ўсё ўсім дазваляю, — усміхнуўся капітан. — Амаль і не лічу сябе гаспадаром у хаце. Усё больш у плаванні.

— Вам падабаецца такое жыццё? Гэта, пэўна, здорава, увесь час падарожнічаць?

— Вельмі падабаецца, — адказаў капітан. — Каб не падабалася, то не хадзіў бы ў плаванне. Гэта мара майго дзяцінства, і яна здзейснілася.

— Мая мара таксама здзейснілася, — пахвалілася Кірыяна.

— Вось і цудоўна! — усміхнуўся ў адказ мужчына.

Пад'ехалі да хаты. Насустрач з прыгожага, двухпавярховага катэджа, выйшаў бацька Кірыяны, Адась.

Сябры гучна віталіся, задавалі адзін аднаму пытанні. Кірыяна вылезла з машыны і абнялася з мамай.

...Сядзелі за сяброўскім сталом, як некалі ў дзяцінстве і юнацтве Кірыяны.

— Як табе працуецца, сонейка? — ласкава пацікавілася маці, падліваючы ёй чаю.

— Добра, мамачка, — усміхнулася Кірыяна.

— А пойдзем пасакрэтнічаем, як некалі! — прапанавала яна дачцэ. — Няхай мужчыны тут самі сабе пагамоняць!

І, абняўшы дачку за плечы, вывела ў калідор.

— Пайшлі ў твой пакой! — усміхнулася маці. — У мяне для цябе — сюрпрыз!

— Люсечка! Ты чараўніца! — засмяялася Кірыяна, па дзіцячай звычцы называючы матулю Люсяй.

Так называў яе тата, і Кірыяне вельмі падабалася называць матулю па імені, асабліва, калі яны сакрэтнічалі.

Люсечка выняла з шуфлядкі пісьмовага стала аркуш і, залажыўшы яго за спіну, усміхаючыся, пачала:

— Ты марыла пра ўзаемнае і шчаслівае каханне?

— Марыла! — гарэзліва адказала Кірыяна.

— І ты яго намалявала! — маці ўзняла ўгору аркуш.

І тут Кірыяна пазнала свой малюнак!

— Я нават назву памятаю: «Візіт капітана!» — усклікнула яна.

— Так і ёсць! — усміхнулася матуля. — І ён сёння ў нас у гасцях!

Кірыяна збянтэжылася.

— А пры чым тут каханне? — запытала яна. — І наогул, я думала, што гэты малюнак дома ў Дзмітрыя Сяргеевіча!

— Называй яго Дзіма! — павучальна прамовіла Люсечка. — Яму яшчэ далёка да сарака!

— Я ж у яго на кватэры жыву! Як называць яго Дзімам? Яшчэ падумае абы-што! — адказала Кірыяна.

— Ну і няхай сабе думае абы-што! — засмяялася Люсечка. — Тут вось якая справа, дарагая...

Маці абняла дачку і ласкава пасадзіла побач з сабою на ложак.

— У Дзімы даўно не атрымліваецца стварыць сям'ю, — уздыхнула яна. — Цёгаецца ён з гэтай Віялетай...

— Тарпедай, — паправіла Кірыяна.

— Ну, называй яе гэтак! — махнула рукою маці. — Але справа ў тым, што жаніцца з ёй — не збіраецца.

— А чаму тады жыве ў яе? — пацікавілася Кірыяна.

— Я не ведаю, дзе ён жыве, гэта не мая справа! — адказала маці. — Дзіма нядаўна вёў размову з бацькам, наконт цябе...

— Мама! Я размаўляла з галоўным урачом, і мне пакуль не даюць службовае жыллё! — усклікнула Кірыяна. — А што, Дзмітрый Сяргеевіч ужо жэніцца — і мне трэба з'язджаць з кватэры?

— Не «Дзмітрый Сяргеевіч», а Дзіма! — паправіла Люсечка. — І не жэніцца, а толькі прапаноўвае... Табе! У бацькі прасіў тваёй рукі!

Мільёнамі рознакаляровых вясёлак заскакалі іскрынкі перад вачыма дзяўчыны — яна адразу не зразумела, што гэта. Ці вясновае сонейка зазірнула ў пакой, абуджаючы дзіцячыя ўспаміны? Менавіта тут Кірыяна перад сном выдумляла казку пра прыгожага капітана, які прыедзе за ёю. Прыдумвала розныя прыгоды, але каб вось гэтак, не сустракаўшыся, не кахаючы, ды адразу замуж, такога не магла нават сасніць у самым неверагодным сне!

— Мамачка, — прашаптала яна, ускінуўшы на Люсечку вочы, — мамулечка, дык я ж яго не кахаю, а ён мяне! — прашаптала Кірыяна, быццам адкрываючы вялікую таямніцу.

— А што такое каханне, дачушка? — ласкава вымавіла маці, гладзячы яе па руцэ. — Няўжо тое, пра што ты мне плакалася наконт хлопца з касцёла, і ёсць сапраўднае каханне? Гэта ж пакуты, а не каханне! — пераконвала яна. — А Дзіма пра цябе клапоціцца: вось і на працу кожны раз падвозіў...

— А дзе ён начаваў паміж «падвозамі»? — раззлавалася Кірыяна. — З Тарпедай бавіўся? Падманваў яе, а яна ж так спадзявалася: нарыхтоўкі на зіму рабіла, карміла, даглядала! А ён ёй — вось якую падзяку: са мной хоча жаніцца! Не, мамачка, мне такі кавалер не патрэбен! Ён потым і мне здраджваць будзе! І наогул, усе гэтыя маракі ў кожным порце прыгажунь маюць. Галоўнае — чакай іх! І жонка чакае і палюбоўніцы!

Люсечка ўся скрывілася, замахала рукамі і адышла ад Кірыяны да акна. Наступіла цішыня. Кірыяна зразумела, што пакрыўдзіла маму. Падыйшла да яе, абняла і заплакала.

— Мамачка, даруй, калі ласка! — прашаптала яна. — Вы з таткам — самая лепшая пара ў свеце. Я нагаварыла лішняга, прабач! Гэта я ад злосці на Дзіму...

— Ты раўнуеш яго? — спачувальна прамовіла маці.

— Мне не падабаецца Тарпеда сама па сабе, — адказала Кірыяна. — А наконт рэўнасці — не ведаю. Я проста не разумею, што ён у ёй знайшоў? Яна — гром-баба! Я думала, што гром-бабы падабаюцца толькі няўпэўненым у сабе мужчынам. А Дзіма, здаецца, мужны чалавек. Што тады іх аб'ядноўвае?

— Чаму ты думаеш, што ён начуе ў Тарпеды? — ціха спытала Люсечка.

— А ў каго ж яшчэ? Яна Раство з намі сустракала. Ды і Новы год, пэўна, з ім! Я ж дзяжурыла.

— Вось як не ведаеш, то і не кажы, — павучаючы, усміхнулася маці і пагладзіла Кірыяну па галаве.

— А ў вас ўсё нармальна з татам? — пацікавілася дачка.

— А чаго пытаеш?

— Ты заплакала, калі я пра маракоў пачала...

— Я сябе ўспомніла, такую ж дурненькую ў маладосці, як і ты цяпер, — адказала маці. — Колькі нерваў спаліла з-за рэўнасці без прычыны! Вось і за цябе баюся, каб не была такою! Давяраць трэба будучаму мужу!

— Дзіму? — усміхнулася Кірыяна. — Вядома! Ён жа ў вас такі старамодны, што спачатку ў бацькі папытаўся, ці можна да дачкі заляцацца!

— А што, ён сам да цябе не заляцаўся? — здзівілася маці.

— Не помню, — уздыхнула Кірыяна. — Я тады другога кахала, калі ён мяне на машыне вазіў ды анекдоты расказваў! Можа, і заляцаўся? Я толькі ўчора заўважыла, якога колеру ў яго вочы.

— І якога?

— Ты што сама не ведаеш?

— Я хачу, каб ты апісала.

Кірыяна ўсміхнулася, успамінаючы, як учора Дзіма разбіў слоік з аліўкавым алеем, у якім «таміліся» ружы, чакаючы шлюбнай ночы Кірыяны...

— Мама, я не ведаю, — уздыхнула яна, — але, па-мойму, я закахалася!

— Ну і цудоўна! — ўзрадавалася Люсечка. — Пайшлі да нашых мужчын! Якраз і торцік гатовы!

— Мамачка, я баюся! — заўпарцілася Кірыяна. — Яны ж цяпер ведаюць, што я ведаю! Як жа я на Дзіму пагляджу? Я буду саромецца!

— Пайшлі, пайшлі! — мякка падпіхваючы яе да дзвярэй, прыгаворвала маці.

Дзіма сядзеў на канапе, спінай да іх, і нешта разглядваў з бацькам.

— А вось і торцік! — прапяяла Люсечка, ставячы печыва на стол, кідаючы позіркі на дачку, падмігваючы ёй — «запрашай»!

— Садзіцеся, калі ласка, — прамармытала Кірыяна, не пазнаючы свайго голасу.

Але дарэмна яна баялася: ні пра якое вяселле ці заручыны і гаворкі не было. Папілі гарбаты з тортам. Мужчыны выйшлі з хаты, занятыя сваімі размовамі. Люсечка з Кірыянай бавілі час каля тэлевізара. А пад вечар Дзіма пачаў збірацца ў горад.

— Заўтра ў Кірыяны яшчэ адзін выхадны дзень , — сказаў ён. — Яна магла б і адпачыць, але трэба дадому. У мяне — справы.

Ягонае «дадому» і «ягоныя справы» выдавалі ў ім гаспадара, і Кірыяна не стала спрачацца — дабірацца на электрычцы «дадому», як вызначыў Дзіма яе месца знаходжання, падзяляючы на «госці» — у бацькоў і «дома» — у яго, дзяўчыне не хацелася. Але чаму ён распараджаецца яе «вольным часам»?! Ну, нічога, Кірыяна яму яшчэ пакажа: і справы, і Тарпеду!

...Змрок апаноўваў наваколле, калі машына пад’язджала да мястэчка.

— Ты ўжо прывыкла да нашых мясцін? — лагодна пацікавіўся Дзіма.

— Прывыкла! — усміхнулася Кірыяна, у душы ўсё яшчэ злуючыся на яго.

— Знайшла тут сяброў?

— Каго вы маеце на ўвазе: хлопцаў ці дзяўчат? — згарэзіла Кірыяна.

— Наогул...

— Знайшла, — адказала Кірыяна, адорваючы яго «ветлівай» усмешкай. — Канечне, такіх блізкіх, як у вас Віялета, у мяне няма, — павяла плечыкамі Кірыяна, назіраючы за яго рэакцыяй, — аднак у касцёле пару хлопцаў заляцаліся да мяне... І на працы шмат харошых людзей, сяброўак. На працы ніхто не заляцаецца.

— А я думаў, у касцёл ходзяць маліцца! — са смехам вымавіў Дзіма.

— Вядома, я ў касцёл хаджу маліцца, — напускаючы на сябе набожнасць, мовіла Кірыяна. — Але я ж не вінавата, што там ёсць хлопцы, якія аказваюць мне знакі ўвагі! А так, каб на танцы ці на каву, то я не хаджу. Не знайшла таварышак для танцаў.

— А хацелася б? — пацікавіўся ён.

Кірыяна паціснула плячыма, і Дзіма прамовіў:

— Калі хочаш, мы можам заўтра схадзіць у кавярню! У нашым мястэчку выбар невялікі, аднак я ведаю ўтульныя мясціны: камін, свечы, музыка пад гітару...

— І дзе ж такая рамантыка? — пацікавілася Кірыяна. — За той час, што жыву тут, здаецца, вывучыла ўсе вашы вуліцы і ўстановы...

— Гэта за горадам, — сказаў Дзіма.

Ён спыніў машыну ля пад’езда.

— Дзякую, — усміхнулася Кірыяна, выходзячы з машыны.

— А гэта абавязкова гаварыць? — засмяяўся ён, пакідаючы машыну і ўваходзячы за ёю ў пад’езд.

— Вы мяне праводзіце да кватэры? — наіўна паглядзела на яго Кірыяна, калі падымаліся па лесвіцы.

— Я сёння начую дома, — адказаў ён, адкрываючы дзверы сваім ключом.

Такога павароту Кірыяна не чакала. «Становіцца ўзорным мужам!» — пасміхнулася яна сама сабе.

Калі ўвайшлі ў кватэру, Дзіма дапамог ёй зняць паліто. Кірыяна пацікавілася, ці будзе ён есці перад сном, і Дзіма папрасіў чаю. Успаміны пра Тарпеду не давалі спакою. І, ужо седзячы за сталом, Кірыяна, спецыяльна, каб зачапіць Дзіму, пача-

ла нахвальваць Тарпеду: якая тая ўмеліца, як смачна гатуе, колькі слоікаў гуркоў нарыхтавала, колькі салатаў, не забыла ўспомніць яшчэ і пра сочыва. Не паспела толькі пацікавіцца, ці паелі яны ўсё тое смакоцце, як Дзіма перапыніў яе.

— Што ты зацыклілася? Другіх размоў няма? — сказаў ён.

— Ну, як вам надакучыла, то я пайду спаць! — паднялася з-за стала Кірыяна. — Дабранач! — ветліва ўсміхнулася на развітанне, а затым пацікавілася: — Вы будзеце спаць на канапе?

— Ты хацела паглядзець кіно?

— Не, дзякую! Я хачу спаць.

— Ну тады я пагляджу, — прамовіў ён. — Пацішу гук, каб табе не перашкаджаць. Але я думаў, мы пагамонім.

— Мы ж пагаманілі.

— Пагаманілі? — засмяяўся Дзіма. — Маналог Кірыяны пра Тарпеду! Яна на самай справе табе падабаецца?

Кірыяна застыгла ў нечаканасці. Ён таксама называе Віялету Тарпедай?

— А што, Віялета вам не падабаецца? — асцярожна спытала Кірыяна, гледзячы ў аксаміт ягоных вачэй. — Чаму вы называеце яе Тарпедай?

Ён засмяяўся.

— Ідзі спаць! — загадаў лагодна, па-сяброўску. — Заўтра, калі хочаш, з’ездзім за горад, пакажу табе цудоўныя мясціны і сапраўдны казачны замак!

— Чый замак? — пацікавілася Кірыяна.

— Мой, — усміхнуўся Дзіма.

— Вы — казачны прынц? — засмяялася яна.

— Я — кароль!

Дзіма падняўся з-за стала, падышоў да Кірыяны і абняў за плечы.

«Як прыемна адчуваць яго абдымкі!» — падумала Кірыяна. І ёй захацелася, каб ён яшчэ раз абняў яе, па-іншаму, моцна прыціснуў да сябе. Побач з ім яна адчувае сябе шчаслівай і абароненай!

— Дабранач, Кірыяна! — прашаптаў Дзіма.

Кірыяна назірала за рухам ягоных вуснаў, а потым, успомніўшы пра Тарпеду, павяла плячыма, скідваючы ягоныя рукі. І скіравала ў свой пакой.

Хто сказаў, што яна засне ў гэтую ноч? Шум ад камп’ютара, хаця і ціхі, не даваў ёй спаць, але толькі таму, што яна ведала: у суседнім пакоі — Дзіма!

Яна не магла змружыць вейкі. Ну колькі можа доўжыцца гэта выпрабаванне, спакуса гэта? Дзіма знаходзіцца зусім побач ад яе, за тоненькімі дзвярыма. Не, яна так не вытрымае! Трэба сказаць, каб клаўся спаць! Кірыяна рэзка паднялася і села. Зараз яна ўстане, падыдзе да дзвярэй, адчыніць іх і скажа... А што яна скажа?

«Дзіма! Вы перашкаджаеце мне спаць!», «Дзіма!..», «Дзіма! Я закахалася ў вас!»

Кірыяна абхапіла калені рукамі. Не, трэба супакоіцца! Супакоіцца і прывыкнуць, што з табою ў адной кватэры жыве вельмі прывабны мужчына, які хутка пойдзе ў плаванне, таму трэба набрацца цярпення і не заўважаць яго. Лёгка сказаць: не заўважаць!

— Кірыяна, я не перашкаджаю вам?

Які прыемны голас! І адкуль ён ведае, што яна не спіць?

Ён прачыніў дзверы спальні. Не, гэта пераходзіць ужо ўсе межы!

— Дзіма! У вас праблемы?

Гэта, аказваецца, яе голас! Такі строгі і звонкі.

Дзіма стаіць у праёме дзвярэй, як той прывід з яе казачных фантазій пра капітана, які прыйдзе і забярэ Кірыяну ў казачную краіну. А яна — сядзіць на ложку. Дачакалася!

— Я вас, здаецца, не запрашала, Дзіма!

— Кірыяна! Я тут падумаў...

Ён падышоў і прысеў побач з ёю. Якая нахабнасць!

— Я падумаў, — яго далонь мякка дакранулася да яе шчакі, а пальцы павольна перабіралі яе валасы. — Можа, табе лепш выйсці за мяне замуж, — сказаў ён, — чым шукаць таго, чаго няма, у касцёле?

— А чаго няма ў касцёле? — перапытала яна.

— Мужчыны, які кахае цябе!

— А дзе ён?

— Тут, побач з табою. Гэта — я!

Ну сапраўдны казачны капітан! Пунсовых ветразяў не хапае!

— Дзіма! Вы так хутка забылі Тарп... Віялету! — ціха вымавіла Кірыяна і адхіліла ягоную руку ад сябе.

Ён засмяяўся.

— А пры чым тут Тарпеда?

— Вы пастаянна начуеце ў яе! — прашаптала Кірыяна.

Усмешка асвятліла яго твар.

— Мілая! — прамовіў Дзіма. — Я не начую дома таму, што баюся не стрымацца... І сёння...

— Вы мяне з кімсьці блытаеце, — пасміхнулася Кірыяна.

Ягоныя пальцы перапляліся з ейнымі, і Кірыяна адчула, як яе ахоплівае гарачая хваля.

— Я вельмі добра памятаю нашу першую сустрэчу, — сказаў Дзіма. — Гэта карцінка пастаянна стаіць у мяне перад вачыма. Восенню я вярнуўся з плавання, адчыніў дзверы сваім ключом і на той момант зусім выпусціў з віду, што тут можа нехта жыць... Я адчыніў дзверы, увайшоў — і ўбачыў цябе. Ты толькі што прыняла ванну і пакінула адкрытымі дзверы, праз іх я ўбачыў, як у вадзе калыхаліся пялёсткі ружаў... А ты сядзела на кухні ў пушыстым халаціку і піла гарбату.

Я глядзеў на цябе, і мне здавалася, што так было заўсёды. Я так хацеў тады пацалаваць цябе... Цяпер можна, праўда?

І Дзіма дакрануўся губамі да яе вуснаў.

— А чаму цяпер можна? — прашаптала яна.

— Ты ж станеш маёй жонкай, праўда? Я размаўляў з тваімі бацькамі, і яны не супраць. — Мілая мая! — гэтыя словы ён ужо гаварыў, цалуючы яе.

Пацалунак быў гарачым, моцным, такім доўгачаканым, што Кірыяна забылася пра ўсё на свеце. Аднак успамін пра Тарпеду вярнуў яе ў рэальнасць.

— А Віялета? — патрабавальна запытала яна. — Вы ж заўсёды з ёю! І на Раство, і начуеце ў яе...

— Хто табе сказаў такое? — засмяяўся Дзіма. — Я начую ў сваім доме!

— У якім гэта доме?

— Які будую! Менавіта туды і запрашаў цябе: там камін, свечкі і музыка пад гітару! А Віялета, дык яна сяброўка маёй сястры, старая дзеўка, вось і носіцца Броня з ёю, каб неяк замуж выдаць!

— За вас? — не адступалася Кірыяна.

— Чаму за мяне? — здзівіўся Дзіма.

А потым, прыгадваючы яе словы, дадаў:

— Ты наконт нарыхтовак на зіму? Дык гэта для будаўнічай брыгады! Так выходзіць танней, меней купляць трэба. Вось Віялета з сястрой і стараліся!

— Вы хочаце сказаць, што вы Тарпедзе зусім не падабаецеся? Што гэта яна па міласэрнасці для вас стараецца? — упарцілася Кірыяна. — Ды я сама бачу, як яна за вамі бегае!

Дзіма засмяяўся.

— Ды пакінь ты ў супакоі Тарпеду! Гэта не мая віна ў тым, што яна не выходзіць замуж!

— А чыя?

— Яе! Віна — у яе ўпартасці!

— І ў чым жа яе ўпартасць? У тым, што ўпарта кахае вас? А вы, упарта, яе не заўважаеце?

Кірыяна ўжо авалодала сабой, каб разважаць лагічна.

— Чаму вы называеце Віялету Тарпедай? — працягвала дапытвацца Кірыяна.

— Ды яна да тарпеды і падобна! — адказаў ён.

— Кожны чалавек заслугоўвае кахання! І Тарпеда — таксама!

Кірыяна заўважыла, што ён засмуціўся, і падумала: а можа, яна занадта сварыцца на яго, бадай, без прычыны?

— Я не кахаю Віялету, — ціха прамовіў Дзіма. — Мне патрэбна ты!

Ягоны позірк быў поўны пяшчоты і замілавання, а воблік, у водсветах начной лямпы, быў такім прывабным, такім жаданым, што рэўнасць Кірыяны пачала паціху спадаць.

— Мне проста здалося, што яна кахае вас, — вінавата прашаптала дзяўчына.

— А я хачу чуць пра каханне толькі з тваіх вуснаў, — зноў усміхнуўся ёй Дзіма.

...На пачатку красавіка Кірыяна праводзіла Дзіму ў плаванне.

— Ты будзеш чакаць мяне? — запытаў ён, прытуліўшы да сябе дзяўчыну.

— Буду, — адказала яна. — У мяне ёсць вопыт.

— Ты чакала бацьку?

— Я чакала капітана, якога прыдумала ў дзяцінстве.

— Я вярнуся восенню, назаўсёды! — прашаптаў капітан. — Я не хачу больш пакідаць сваю каралеву!

На руцэ Кірыяны пад промнямі сонца зіхацеў заручальны пярсцёнак.

І былі яны вельмі-вельмі шчаслівыя. Радасцю поўніліся іх сэрцы ад кахання. І шчыра дзякавалі яны Богу за спраўджаныя мары і спадзяванні.

d

Адам ШОСТАК

# ПАСЯРЭДЗІНЕ РУЖЫ ВЯТРОЎ



*Адам Шостак нарадзіўся ў 1982 годзе ў г. Баранавічы. Скончыў Баранавіцкае музычнае вучылішча па спецыяльнасці «Музыказнаўства», пасля навучаўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, затым — у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры. Аўтар кнігі паэзіі «Спатканне Не».*

**Паэзія Адама Шостака — літаратара, мастацтвазнаўцы, удзельніка перформер-суполкі «Яна-Тры-Ён» — прайшла складаны шлях ад тэорыі абсурду да канцэптуалізацыі, ад мінімалістычнай метафорыкі да сюжэтнасці і філасофскага асэнсавання рэчаіснасці. Адам — яркі прадстаўнік свайго творчага пакалення, па-постмадэрнісцку «стомленага культурай». За назіральнасцю і адхіленасцю лірычнага героя ад жыццёвых сітуацый бачыцца глыбока схаванае ўнутры тэксту жывое пачуццё. У вершах Адама Шостака тэкст — гэта душа. І хоць аўтар не хоча вызначаць сваю «прысутнасць зараз і тут», ён, несумненна, знаходзіцца ў кантэксце найноўшай беларускай літаратуры.**

***Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»***

* * *

нас частавалі
з фамільнага срэбра
адной толькі стравай
зусім небагатай

ты лічыш дні-тыдні дарма:
у кішэні мацаеш пашпарт
з транзітнаю візай

апасля абеду
шляхта з-над Піны
моўчкі разышлася
нам пакінуўшы посуд нямыты
з клеймамі сівых стагоддзяў

ты лічыш дні-тыдні дарма:
на струменьчык павольна глядзіш
у пясочны гадзіннік

перад заходам сонца
мы чысцілі клеймы старыя
мылі мы срэбны посуд
і складалі яго па паліцах

ты лічыла дні-тыдні дарма:
з доння Чырвонага мора
на памяць трымаеш жменю пяску —
Майсей усё адно цябе вывеў з палону:

ты лічыла дні-тыдні дарма

* * *

зрабі мне некамерцыйную
прапанову
забыцца

на правілы завязвання гальштукаў
забіць
на інтэлігентную помпу
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
амаль пяць хвілін да пачатку абеду
амаль паўгадзіны да пачатку вясны

* * *

паклічце мяне двойчы на год
азірнуцца на гэтым месцы
адкуль я сыходжу

паклічце мяне двойчы на год
гадзінніка час перавесці
на летні ці на зімовы

паклічце мяне двойчы на год
і не трэба мне вызначэння
прысутнасці зараз і тут

* * *

Пялёсткі ад ружаў,
і коркі шампаню,
і лірніка сумныя спевы, —
застануцца
на ганку ля ЗАГСу;
на ганку да ранку.

Апошні білет,
бы купэйны вагон у метро
ў параўнанні з трамваем, —
і ніхто не праверыць
твой пашпарт
далёка за поўню.

Мы едзем,
і жыццё разам з намі віруе, —
і ніхто не паверыць
ніводнаму слову
тых, хто калісьці быў поруч.

Пялёсткі ад сэрцаў
і коркі гучных прамоваў, —
а заўтра
прыйдзе брамнік
на ЗАГСавы ганак.

. . . . . . . . . . . . . . . .
Калі толькі заўтра
не будзе
нядзеля...

* * *

***камяні не зробяцца свойскімі…***
Збігнеў ГЕРБЕРТ

туманы над Каменнай Горкай
бы смог над Шанхаем
камяні
скрозь туманы

камяні майго невядомага горада
бы пад сонцам Дубая
туманы
па-над вадкасцю нафты

туманы над рэхам
нашых сустрэчаў знікаюць
на камянях

камяні рыкашэтам
адлятаюць

над гмахам-мінарэтам
толькі месяц

**РАЗАМ**

разам
будзем ісці
басанож
па жоўтым полі
дзьмухаўцоў

разам
першы глыток
гарбаты
мы адап’ем
разам
сплятаем вянок
і зіхаціць
высока

бы сонца
лустка
цытрынкі
зранку
ў гарбаце

* * *

Дамы,
у якіх ніхто не жыве,
а толькі дрэвы
на адхоністых стрэхах;
і храм,
у якім няма больш людзей,
а толькі святло
ілье ціха паўз дзіркі скляпенняў.

Наш храм,
які спіць ужо колькі год,
і толькі птушкі палёт
ахіне нас з табой цеплынёй;

наш дом
пасярэдзіне ружы вятроў,
і толькі ўспамін
і толькі з табою сустрэчы...

* * *

пакалолі рукі ажынаю
у жнівеньскі вечар

густы высокі дзядоўнік
глеба-дзяруга

сцежка вузкая
перасыхае

на ўскрайку
узвышша

вышэй толькі
космас

амаль раздушыла ў спякоце
сандаліяй жамярыну

амаль апошні від
з Чырвонай кнігі жыцця

**СУПЯРЭЧНАСЦЬ**

калі не хапае словаў і фарбаў то лепей паслухаць цішыню
калі не хапае пачуццяў і думак то лепей сказаць навакольным штосьці прыемнае і ўсміхнуцца
калі распісаныя ролі — застаюцца толькі знакі прыпынку
знакі прыпынку вызначыць рэжысёр...
але ж мы не ў тэатры... таму лепей шматкроп’е...



Аляксандр БРЫТ

# АПОШНІ ДЖЭБ[1]

## Апавяданне

*Алесі Граф*

Яна нарадзіла дзяўчынку ў 7.32, у адной з найлепшых берлінскіх клінік. Роды прайшлі добра, без ускладненняў.

Калі пасля ўсіх працэдур яе прывезлі ў палату і побач з ёй у кошык паклалі дзіця, яна ледзь не заплакала. Стрымалася толькі па адной прычыне: баялася, што знікне малако і дачку прыйдзецца карміць штучнымі сумесямі.

«Не, — ціха сказала яна і працягнула да дзяўчынкі руку. — Не хвалюйся. Я буду карміць цябе грудным малаком, казка мая».

Дзяўчынка скрывілася і хрыпла загукала. Маладая жанчына асцярожна ўзяла яе з кошыка і прыклала да набухлай смочкі. Дзіця ўлавіла родны пах і, уткнуўшыся слабым ротам у грудзі маці, праз некаторы час заціхла.

Зайшла медсястра з велізарным ахапкам кветак, пачала расстаўляць іх у падлогавых вазах.

— Frau Weber, Blumen von Herrn Weber. Er rief Sie mehrmals an. In fünf Stunden wird er in Berlin sein. Er ist sehr glücklich. Er ist sehr aufgeregt und macht sich Sorgen um Sie[2].

— Danke, — падзякавала яна. — Aber ich bitte Sie sehr. Bringen Sie bitte die Blumen ins Badezimmer. Ich fürchte, dass das Mädchen eine Allergie haben kann[3].



*Аляксандр Брыт нарадзіўся ў 1966 годзе. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. У 1985—1987 гг. служыў у Афганістане (г. Кабул). Друкаваўся ў часопісе «Нёман», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Жыве і працуе ў Мінску.*

**Спартыўная тэматыка не такая частая госця ў творах нашых аўтараў. Нельга сцвярджаць, што і ў аб'ёмным апавяданні «Апошні джэб» Аляксандра Брыта яна дамінуе. Хутчэй, яе можна абазначыць як кропку апоры, вакол якой разгортваюцца падзеі няпростага жыцця дзяўчынкі, дзяўчыны і ўрэшце — жанчыны са сваім пакручастым лёсам, напоўненым болем, перажываннямі і запаветнай мэтай, да якой гераіня імкнецца і дасягае яе.**

**Не будзем браць на сябе смеласць і запэўніваць чытачоў у нейкай звышнавізне, адкрыцці аўтарам новых даляглядаў у найноўшай айчыннай літаратуры, але пазнаёміцца з апавяданнем раім. Мо некаму твор паспрыяе ў рэалізацыі настырных амбіцый, надасць непахіснасці ў здзяйсненні запаветнага і дапаможа ў спазнанні самога сябе.**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

[1] У боксе джэбам называюць хуткі, прамы ўдар вядучай рукой (па-англійску jab — djeb — штуршок, укол, торкаць, ткнуць).

[2] Фрау Вэбер, кветкі ад спадара Вэбера. Ён некалькі разоў вам тэлефанаваў. Праз пяць гадзін ён будзе ў Берліне. Ён вельмі шчаслівы. Ён вельмі хвалюецца за вас *(ням.)*.

[3] Дзякуй. Але я вас вельмі прашу. Аднясіце, калі ласка, кветкі да ўмывальні. Я баюся, што ў дзяўчынкі можа быць алергія *(ням.)*.

Медсястра выканала просьбу і бясшумна сышла.

Аляксандра заплюшчыла вочы.

У палаце было цёпла, але яе прабілі дрыжыкі, і яна ўхуталася ў плед. Мінулае агарнула яе хваляй ледзяных успамінаў. Часам ёй здавалася, што кожны свой бой на рынгу яна выйгравала толькі таму, што нехта ў яе мінулым сіроцкім жыцці прайграваў. У тым жыцці быў дзіцячы дом, там усё было інакш. Амаль інакш...

Аляксандра памятала сябе гадоў з трох, з тых часоў, як памятала Крошку. Усе нянечкі так яго звалі. Крошка быў дробным, кволым і ціхім хлопчыкам. Напэўна, ён меў нейкае імя, але яна не ведала. Ён амаль нічога не казаў, але быў вельмі кранальным, пяшчотным, і іх дзіцячыя душы паразумеліся. Яны елі разам, гулялі разам, а аднойчы ён нават аддаў ёй свой кавалачак запяканкі. Яна гэта вельмі добра запомніла, на ўсё жыццё, таму што на наступны дзень Крошка загінуў. Падсобныя рабочыя вынеслі старую няўстойлівую шафу на вуліцу, і калі дзеці выйшлі на прагулку, шафа да смерці прыціснула Крошку. Аляксандра была побач, падбегла і ўбачыла яго спалоханыя вочы. У іх павольна згасала святло.

«Крошка сышоў ад нас, але там яму будзе лепш», — сказала потым выхавацелька. Яны заўсёды так казалі, калі хто-небудзь з дзіцячага дома куды-небудзь сыходзіў: у прыёмную сям'ю, у дарослае жыццё, у турму альбо ў магілу. Інтанацыя магла быць рознай, але дзеці часта чулі гэтую фразу. Так часта, што навучыліся ўспрымаць яе будзённа: як дождж за акном ці жоўтае лісце на дрэвах.

Дзіцячы дом быў перасыльным пунктам з маленькага незразумелага жыцця ў жыццё вялікае, не больш зразумелае.

Дзіцячы дом нагадваў казённы кінематограф на колах, які час ад часу круціў сумныя гісторыі.

Дзіцячы дом быў непрывабнай схованкай яе мінулага.

І разам з тым дзіцячы дом быў яе адзіным домам. Аляксандра даволі рана гэта адчула. Можа, пасля таго як не стала Крошкі. Да Крошкі яна была надта маленькай і амаль нічога не памятала. У яе яшчэ не мелася досыць памяці, а значыць, не было болю. Пасля таго як Крошка загінуў, памяці пачало прыбываць столькі, што пазней хацелася, каб яе хоць трохі паменшала. Зрэшты, гэта былі хвіліны слабасці. У яе хапала розуму, каб зразумець: усё, чаго яна дабілася ў жыцці, злучана з тым, праз што ёй давялося прайсці. А яшчэ яна верыла, што поспех да яе ног кінулі фарт, латарэя і... генетыка.

Аляксандра часта думала пра маці, пра тое, з-за чаго, з якой прычыны тая ад яе адмовілася. Ёй здавалася, што прычына павінна быць важкай, пераканаўчай, фатальнай.

Яна не любіла ўспамінаць дзіцячыя фантазіі. У дзіцячым доме ўсе фантазіравалі нястрымна. Як гэта ўмеюць рабіць толькі адзінокія дзеці. Тэмы ўзнікалі розныя, але ўсе яны нязменна зліваліся ў адну: у мяне ёсць мама. Не была, не будзе, а ёсць. Усе дзеці цягнуліся да гэтых фантазій, як сланечнікі да сонца.

Гісторыі распавядаліся самыя неверагодныя.

Часам дзяўчынка, якую забіралі ў прыёмную сям'ю, клялася, што гэта яе сапраўдная мама: «Яна проста змяніла прозвішча, таму што хаваецца ад бандытаў. Чэснае слова!» Або з турмы прыходзіў ліст: «Жах, але мяне знайшла маці, яна абяцала дапамагчы». Калі ж нехта паміраў, праз нейкі час па дзіцячым доме паўзлі чуткі: на магілу прыязджала мама і моцна плакала.

Але ж знаходзіліся і праўдалюбы. Яны былі такія ж фантазёры і таемныя летуценнікі, аднак з пачуцця пратэсту абавязкова кідалі: «Патрэбна ты сваёй маме як сабаку пятая нага!» На самай справе ўсім дзецям вельмі хацелася, каб «пятая нага» сабаку ўсё-такі спатрэбілася. Толькі яны не ведалі, куды яе прыладкаваць: пад хвост або да тулава. І дзе знайсці гэтага сабаку.

Аляксандра мела сваю легенду. Ёй чамусьці ўяўлялася, што яе мама здымалася ў шматсерыйным фільме. Мама кіравала вялікім серабрыстым замежным аўтамабілем, а за ёй рушыў рэжысёр і яго памочнікі з кінакамерамі. Рэжысёр нешта крычаў, мама ўсміхалася і ехала на аўтамабілі ўмела і паволі. Ехала да яе. Маміны рукі з доўгімі пальцамі зграбна ляжалі на рулі і пры кожным павароце яе нафарбаваныя пазногці пераліваліся. Потым мама спыняла аўтамабіль і выходзіла. З-пад яе джынсавай бейсболкі на плечы падалі бялявыя валасы. Іх развейваў вецер. Яна была ў джынсах і прыталенай блузцы без рукавоў. Мама няспешна паварочвалася, ішла да яе, і яна была вельмі прыгожая...

Нават у фантазіях Аляксандра адчувала сябе не такой, як усе. Фантазіі яе былі занадта добрыя. Можа, гэта адчулі і іншыя. Аляксандра доўга не рашалася распавесці сваю гісторыю, а калі зрабіла гэта, ёй «не паверылі». Дзеці зашумелі, а адна рослая дзяўчынка, Марына, штурхнула яе і спытала:

— І мама да цябе прыязджае?

— Так.

— Сюды?

— Так.

— А чаму мы яе ні разу не бачылі?

— Яна прыязджае ўначы. Вы спіце, а я да яе выходжу. Яна акцёрка, яна прыязджае рэдка, таму што ёй няма калі. Яна шмат здымаецца ў кіно.

— Ты ўсё хлусіш! Ты дурная падманшчыца! У цябе няма мамы! І яна да цябе не прыязджае!

— Не, ёсць! Яна прыязджае!

— Не, няма!

— Не, ёсць!!!

Самы лёгкі ўдар лёсу — гэта мамін пляскач па заднім месцы...

Колькі сябе памятала, Аляксандра заўсёды ўважліва сачыла за чужымі рукамі. Але на гэты раз яна нават не паспела разгледзець, хто яе першы ўдарыў. Напэўна, Марына, а можа, і не: рук было зашмат. Быццам у якога-небудзь уладара мух. Яе штурхалі, ціснулі, шчыпалі і, калі ёй пачало не хапаць паветра, яна закрычала і кінулася расштурхоўваць усіх: кусацца, драпацца, вырывацца. Зусім як звярок.

На крык прыбеглі выхавацелькі, і дзеці кінулі яе ў іх дарослыя рукі, як непатрэбную падраную ляльку. Выхавацелькі не маглі зразумець, у чым справа. Наперабой ім патлумачылі, што яна ўкрала ў Марыны заколку. Ад абурэння Аляксандра пачала кусаць і драпаць выхавацелек, пакуль яе не скруцілі і не замкнулі ў бытоўцы, дзе смярдзела хлоркай і прэлымі анучамі.

Раніцай яе адвялі да доктаркі ў белым халаце. Тая паглядзела яе зрэнкі, пастукала гумовым малаточкам па каленях, задала некалькі пытанняў і прамовіла:

— Асацыяльнае жорсткае дзіця. У вас будуць з ёй вялікія праблемы.

Дзён праз дзесяць Аляксандра сядзела ў спальні на сваім ложку. Разглядала малюнкі ў нейкай кніжцы. Дзеці гулялі асобна, убаку. Яна заўважыла Марыну занадта позна, амаль ля тумбачкі, якая падзяляла іх месцы для сну. Спачатку яна ўбачыла вочы Марыны. Яны былі такія ж, як у Крошкі, калі яго прыціснула шафа, — спалоханыя. І толькі потым звярнула ўвагу на збялелую выхавацельку і міліцыянера.

— Збірай рэчы, хутка, — загадала выхавацелька.

Нізка апусціўшы галаву, Марына дастала пакет і пачала складаць у яго зубную шчотку, мыла, хэбэшныя калготкі... і раптам павярнулася да яе і працягнула сваю заколку.

— Вазьмі... Гэта табе. Проста так.

Аляксандра паглядзела на яе са здзіўленнем, і Марына паўтарыла:

— Проста так...

Марыну павялі, і ўсе дзеці кінуліся да акна, абляпілі падаконнік, як мухі. Нават самыя нізенькія дзяўчынкі спрабавалі падцягнуцца і паглядзець праз шкло на вуліцу. Нічога асаблівага яны не ўбачылі. Міліцыянер падсадзіў Марыну ў міліцэйскі «ўазік», і яны назаўсёды з'ехалі.

У дзіцячым доме дзеці жылі самыя розныя. У адных бацькі памерлі, ад другіх — адмовіліся. У трэціх жа бацькі меліся, але іх пазбавілі бацькоўскіх правоў. Родзічы Марыны былі з апошніх. Яны далі жыццё яшчэ адной дзяўчынцы, але Марына яе забрала. Чутка ў дзіцячым доме адбілася ў такой версіі: немаўля знайшоў дворнік у падвале. Пры ёй мелася запасная скамечаная пялёнка, танныя цукеркі і малапісьменная запіска з вучнёўскага сшытка: «Тибе будзіт там лепш».

Аляксандры тады спаўнялася дванаццаць гадкоў. Напэўна, у той час яна і адчула ў сабе нясцерпнае жаданне быць мацнейшай за абставіны. У ёй прачнулася нешта такое, што вяло яе да сваёй дарогі. Яна шукала гэтую дарогу навобмацак, але, як засведчыў час, ішла ў патрэбны бок.

Няма ні дрэнных, ні добрых: у людзях шмат чаго намяшана. Праўда, ёсць яшчэ «беспредельщики». І ёсць няправільныя і правільныя дарогі, якія выбіраюць. Ёй пашчасціла выбіцца на сваю дарогу, нібы хтосьці нябачны на яе шляху расставіў зразумелыя толькі ёй меткі.

Гэтымі меткамі для Аляксандры сталі дысцыпліна, мэтанакіраванасць і настойлівасць. Дзяўчына магла не заўважыць іх — не ўсе ж прыкмячаюць! — але яна ўбачыла, разгледзела, зарыентавалася. Яна навучылася абараняцца і верыць у сябе, адстойваць свае інтарэсы, рабіць неабходныя высновы.

Часам высновы былі вельмі простыя.

Яна зразумела: дарослыя сустракаюцца разумныя, але злыя, дурнаватыя, але добрыя, разумныя ды нездольныя і не вельмі разумныя, але дужа здольныя. Альбо добрыя, здольныя і разумныя. І яшчэ — дарослыя бываюць удачлівыя ці няўдачлівыя. Такія ж, як дзеці. Так! Яна ведала такіх людзей, назірала за імі, размаўляла, спрачалася, разумела або не.

Два настаўнікі нямецкай мовы былі разумныя і, напэўна, нядрэнныя людзі. Але, як аказалася, нездольныя. Яны лічылі, што нямецкая — прадмет для Аляксандры непасільны толькі з той прычыны, што яна адразу не магла зразумець, што такое неазначальная форма дзеяслова sein[1] у прэзэнсе. Яны былі ўпэўнены, што дзяўчынка з дзіцячага дома ад нараджэння абавязана ведаць, што гэта такое. Аляксандра не стала іх пераконваць.

Магію пераканання правяла калега, якая прыйшла ім на змену.

Гэта была дзіўнаватая сумная жанчына. Несамавітая, але добрая, разумная і здольная. Яна ўвесь час насіла адну і тую ж вопратку, амаль заўсёды з'яўлялася ў клас з маленькім хлопчыкам у вялікіх круглых акулярах, адно вуха якога было закладзена ватай. Хлопчык садзіўся за апошнюю парту і нешта захоплена чытаў ці маляваў, а жанчына ўсміхалася і пачынала ўрок. І ўсё было ясна, як божы дзень. Звалі яе Марыяй Іосіфаўнай, і гэта яна даходліва патлумачыла Аляксандры, што такое неазначальная форма дзеяслова sein у прэзэнсе.

— Прэзэнс, — патлумачыла яна, — цяперашні час, гэта значыць тое, што адбываецца ў дадзены момант. Уяві, калі ласка, што ў цяперашні час дзеяслоў sein ператварыўся ў чалавечка, які спіць, і схаваў свой твар. Мы не ведаем, што гэта

[1] Быць *(ням.)*.

за дзеяслоў, праўда? Вось гэта і ёсць яго неазначальная форма: sein. Але як толькі гэты чалавечак прачынаецца, ён паказвае свой твар і можа сказаць, напрыклад, так: «Ich bin Aleksander». Што азначае: «Я Аляксандр». Гэта першая асоба гэтага ж дзеяслова, разумееш? А можа сказаць і так: «Du bist Aleksandra». Што азначае: «Ты Аляксандра». Гэта другая асоба гэтага ж дзеяслова. А ёсць яшчэ трэцяя асоба гэтага ж дзеяслова і яго асобы ў множным ліку. І ты павінна зазубрыць усе гэтыя асобы, каб правільна ўжываць дадзены дзеяслоў па-нямецку. Разумееш, проста зазубрыць?

Так, Аляксандра ўсё зразумела, і зазубрыла спражэнне не толькі дзеяслова sein, але і іншых нямецкіх дзеясловаў, вывучыла шмат назоўнікаў, а таксама штук 25 найбольш ужывальных прыназоўнікаў, без якіх, як зазначыла Марыя Іосіфаўна, «лёгка заблудзіцца сярод нямецкіх слоў».

Светлая, светлая Марыя Іосіфаўна! За шэсць месяцаў яна дала Аляксандры больш, чым абодва яе папярэднікі за год! Шкада, як шкада, што неўзабаве ў яе з'явіліся новыя кофтачка і спадніца, і нават чорныя боцікі з аблямоўкай, якія выклікалі таемнае захапленне ва ўсіх дзяўчынак у класе! За кофтачкай, спадніцай і боцікамі з'явіўся і малады афіцэр у добра падагнаным шынялі мышынага колеру з залатымі пагонамі. Ён прыйшоў аднойчы за Марыяй Іосіфаўнай у клас, бліснуў начышчанымі да люстранога бляску ботамі і павёз яе з маленькім хлопчыкам у круглых акулярах да новага месца службы.

Ішоў 1992 год. СССР ляжаў у руінах. Час быў незразумелы, крыклівы, туманны, але і «цяжарны» ўжо іншым, новым сэнсам. Куды, куды павёз той афіцэр Марыю Іосіфаўну? Да якога месца службы? У якую краіну? Ці засланіў ён яе з хлопчыкам ад няўрымслівай завірухі перамен? Або пакінуў службу, заняўся дробным бізнесам, знайшоў даўганогую маладую вядзьмачку і кінуў Марыю Іосіфаўну ў якім-небудзь далёкім захалусці? Ці не расчаравалася яна ў ім? І ці не спіўся ён паціху, як фізрук Пятровіч?

Пятровіч... Ціхі фізрук Пятровіч у танным спартыўным касцюме, з нязменным свістком на шыі. Барвова-цагляны твар, тужлівыя вочы. Рот, які заўсёды ператвараў літару «г» амаль у літару «х». Гэта менавіта Пятровіч заахвоціў Аляксандру да бегу.

— БеХай, беХай шмат! ЛяХчэй будзе! — крычаў ён, калі яна бегла круг за кругам па дзетдомаўскай спортпляцоўцы. Парады яго былі простыя, як рыдлёўка: бяры і капай. І Аляксандра «капала», «капала», «капала», пакуль Пятровіч ёй неяк не сказаў, што яна нядрэнна бегае сярэднія дыстанцыі — 1000, 1500 і 3000 метраў.

— Сашка, бяры лёс у свае ногі. Ідзі ў фізкультурны, — грубавата параіў ён.

З пахмельнай прапановы Пятровіча пачалася яе вялікая кар'ера ў спорце.

Лёгкая атлетыка выпрацавала ў ёй цягавітасць, а «сіроцкая квота» зрабіла паступленне на факультэт фізічнай культуры Гомельскага ўніверсітэта не такім пакутлівым. Можа, Аляксандра і дасягнула б нядрэнных вынікаў у лёгкай атлетыцы. Альбо стала б звычайным фізруком у школе, выйшла замуж, нарадзіла дзяцей і запрэглася ў штодзённае непрыкметнае жыццё. Можа быць... Але ўмяшаўся хлопчык — студэнт-гімнаст. Ён пачаў сімпатызаваць Аляксандры, але, як гэта часта здараецца ў людзей, не зусім добра ведаў, у якіх формах выказаць сваё захапленне. На дыстанцыі ён пасылаў ёй зацікаўленыя погляды, усміхаўся.

Аляксандра не адказвала. Ні на погляды, ні на ўсмешкі. Ёй было не да таго. З дзіцячага дома яна прыйшла ў іншае жыццё, і вучылася адпавядаць яму, разумець і выбудоўваць яго. Гэтай дзяўчынцы, якой здрадзілі яшчэ да нараджэння, у першы месяц пасля залічэння ва ўніверсітэт, студэнцкай стыпендыі не хапала нават на ежу. Якія погляды, якія ўсмешкі! Які-небудзь пераймальнік Дзікенса ў XIX стагоддзі,

напэўна, напісаў бы пра яе так: у 18 гадоў прырода выявіла ў Аляксандры вытанчанасць, прыгажосць і грацыю, але крайняе безграшоўе рабіла яе жыццё невыносным.

Так, грошы, грошы, money, money![1]

Аляксандра ўладкавалася ў рэстаран пасудамыйкай. Начамі мыла посуд, раніцай ішла ва ўніверсітэт і сустракала там хлопчыка-гімнаста, які ёй здалёк усміхаўся... Спачатку Аляксандра не звяртала на гэта ўвагі, а потым ён стаў раздражняць: дакучлівасці дзяўчына не выносіла і на добрага прынца не спадзявалася.

Неяк падчас перапынку між заняткамі ў спартыўных секцыях ён падышоў да яе і прапанаваў:

— Давай сходзім куды-небудзь вечарам.

— Прабач, не атрымаецца.

— Занятая?

— Так. Шмат усялякіх спраў.

— І што ж гэта за справы?

— Вучоба, праца.

— Вучоба? — гучна і іранічна перапытаў ён. — Праца? Не думаў, што ты так актыўна вучышся, ды яшчэ і зарабляеш сабе на жыццё па начах...

Нехта са студэнтаў засмяяўся. Смех быў нездаровы, з абразлівым падтэкстам, як і сама фраза.

Аляксандра ўважліва паглядзела на гімнаста, вытрымала паўзу.

— Прабачэння папрасіць не хочаш?

— Што? У каго?

На гэтым дыялог спыніўся. Гімнаст з прыгожым рэльефным торсам з грукатам ляснуўся аб падлогу. Гэта была не аплявуха, а ўдар у сонечнае спляценне.

Вядома ж, справа дайшла да дэканата.

Дэкан, Мікалай Піліпавіч, выклікаў Аляксандру да сябе і, калі ўбачыў перад сабой вытанчанае хударлявае дзяўчо, здзіўлена ахнуў:

— І гэта ты яго паклала, Клінцэвіч?!

— Я.

— Што ў вас там здарылася?

Аляксандра распавяла. Яе аргументы дэкана не пераканалі.

— Тут табе не дзетдом, — падкрэсліў ён. — Рукі трымай пры сабе. Яшчэ раз такое здарыцца — адлічу. Зразумела?

Аляксандра маўчала.

— Зразумела?

Аляксандра зноў не адказала. Нечакана Мікалай Піліпавіч дабрадушна ўсміхнуўся і пажартаваў:

— У нас жаночага бокса амаль няма. Гэта табе не ў Германіі. — І дадаў: — А гэты языкасты разумнік папросіць у цябе прабачэння. Абяцаю.

Разумнік-гімнаст сапраўды ў той жа дзень падышоў да яе.

— Выбачай, калі ласка, я цябе пакрыўдзіў.

— Выбачаю.

— Наогул, у цябе добры ўдар. Табе б у бокс, ды шкада — ты прыгожая...

— Што значыць «шкада»? — не зразумела яна.

— Бокс — траўманебяспечны спорт, — усміхнуўся ён і паклаў руку на сонечнае спляценне. — Павер майму вопыту. Жанчынам там не месца.

[1] Грошы, грошы *(англ.)*.

З двухсэнсоўнасці жанчына заўсёды выбірае тое, што нясе кампліментарнасць. Дзетдомаўскай дзяўчынцы ніхто ніколі не казаў, што яна прыгожая. Зрэдку на яе звярталі ўвагу, але не выказвалі ў словах свайго захаплення. Пачуць пра сябе — «ты прыгожая» — было прыемна. Фантастычна прыемна. Але яна не адгукнулася на камплімент, а кінула фразу, якая прыйшла ёй у галаву, відаць, з будучага жыцця:

— Так кажуць няўпэўненыя ў сабе мужчыны, якія анічога не разумеюць ні ў спорце, ні ў жанчынах.

Цяжка меркаваць, чаму яна тады прамовіла гэтую фразу. Фразу, якая была на той момант значна вышэйшай і за яе вопыт, і за яе веды. З хаосу тлумачэнняў у радок кладзецца адно: анёл-ахоўнік дапаўняў матрыцу яе лёсу новымі дэталямі, адценнямі, непазбежнымі выпадковасцямі. Ён непрыкметна вёў яе да самой сабе, даваў новыя сілы, запальваў жаданні. Гэта ён літаральна праз некалькі дзён пасля ўсіх пустых размоў пра бокс падсунуў ёй у рукі адну са спартыўных газет з артыкулам «Амазонкі спадара Шмітца». Верце, верце ў свой лёс! Нічога ў жыцці не бывае выпадковым! Усе дэталі калі-небудзь спалучаюцца ў агульным ланцугу і задаюць адзіную мэту! І ўжо ваша рука бярэ лук, закладвае стралу і нацягвае цеціву.

*«Вольф Шмітц даказаў, што ён з'яўляецца не толькі высокапрафесійным трэнерам, але і мудрым настаўнікам, стратэгам, менеджарам, — гаварылася ў артыкуле. — Праз яго школу бокса ў Штутгарце прайшлі дзяўчыны з розных краін: Польшчы, Венгрыі, Румыніі, дзяржаў Садружнасці. Як правіла, усе яны дасягнулі ў боксе сур'ёзных паказчыкаў».*

«Гэта шанец», — зразумела Аляксандра. Шанец адбыцца. І нарэшце выбрацца са сваёй неўладкаванасці, нявызначанасці, галечы ды змрочнай біяграфіі.

Восем месяцаў Аляксандра сумяшчала вучобу і спорт з працай па начах. Эканоміла, патроху збірала грошы, канверсавала, хаця эканоміць асабліва не было з чаго. Да летняй сесіі яна так знемагла, што заваліла два агульнаадукацыйныя іспыты, якія паспяхова пераздала пазней. Пераздача адабрала ў яе яшчэ два тыдні. Але ўмацавала ў меркаванні, што яна на правільнай дарозе. Ніколі, ніколі Клінцэвіч не змагла б дасягнуць вяршыні ў лёгкай атлетыцы, калі б яшчэ некалькі гадоў па начах мыла посуд, а днём вучылася і выціскала з сябе сярэднія дыстанцыі!

У Германію яна прыехала ў жніўні. Большую частку грошай, якую ўдалося зберагчы, аддала за білет у адзін бок. У кішэні ляжалі 75 марак[1], а ў руках цэлафанавы пакет з прадметамі першай неабходнасці.

Да Штутгарта яна дабіралася аўтастопам.

Нямецкія аўтабаны — зручныя і хуткія. І пяць вадзіцеляў, якія падвозілі Аляксандру, патрапіліся добразычлівыя. Шосты пагадзіўся падвесці бясплатна, але потым запатрабаваў грошай.

— Entschuldigen Sie bitte, aber ich habe kein Geld, — папрасіла яна прабачэння. — Das habe ich Ihnen doch schon gesagt[2].

— Ich brauche Geld! Bezahle![3] — запатрабаваў ён і наблізіў да яе свой успацелы, з узбуджанымі вачыма твар.

---

[1] Нямецкая марка (ням. Deutsche Mark, скароч. DM, у размоўнай мове таксама D-Mark) — грашовая адзінка Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, якая выйшла з абарачэння пасля пераходу на еўра ў 2002 годзе.

[2] Выбачайце, калі ласка, але ў мяне няма грошай. Я ж папярэджвала *(ням.)*.

[3] Мне патрэбны грошы. Заплаці мне! *(ням.)*.

— Nein[1], — рэзка вымавіла яна, вылезла з машыны і хутка пайшла па ўзбочыне. Ён дагнаў яе і балюча схапіў за руку, пацягнуў назад да аўтамабіля.

— Kom mit! Bezahle![2]

— Gut, natürlich[3], — пагадзілася яна і пакорліва пайшла ўслед за ім, пакуль хватка яго рукі не аслабла. Затым, рэзка ўскінуўшы ўгору сагнутую ў локцевым суставе руку, яна ўдарыла яго з усёй моцы локцем пад падбароддзе. Мабыць, ён прыкусіў язык, таму што нема заенчыў, прысеў і схапіўся аберуч за сківіцу.

Яна кінулася бегчы і ўвесь час ад спалоху абарочвалася: ці не бяжыць ён следам?

Радзіма яе не забыла. На ўскрайку дагледжанага нямецкага фальварка яна ўбачыла родны трактар «Беларус». Загарэлы фермер-трактарыст праспяваў нямецкую песню і давёз яе амаль да самага Штутгарта.

Дальбог, ёй і ў Штутгарце магло не пашанцаваць, але пашчасціла. Анёл-ахоўнік сунуў ёй у кішэню джокер. Была нядзеля, і sportschule[4] спадара Шмітца была зачынена. Яна высветліла адрас і ў апошнюю хвіліну заспела гаспадара дома. Ён ужо стаяў ля машыны і збіраўся ад'язджаць. Хударлявы, падцягнуты, з вострым, уважлівым позіркам.

— Entschuldigung. Sind Sie Herr Schmitz?[5]

— Ja, ich bin Herr Schmitz... Aber jetzt fahre ich nach Hamburg. Ich habe keine Zeit. Ich muss mich beeilen[6]. — Ён адчыніў дзверцы і хацеў ужо сесці ў машыну. І тут яна закрычала і неяк па-дурному выкінула наперад рукі:

— Ich bin sehr weit gefahren, um zu Ihnen zu kommen! Ich habe kein Geld, um zurückzufahren! Ich habe nur das Ticket für die Hinfahrt gekauft! Bitte schőn!!![7]

Ён павярнуўся і паглядзеў на яе ўважліва.

— Woher kommen Sie?[8]

— Ich bin Weißrussin. Ich bin aus Weißrussland gekommen. Ich will bei Ihnen sehr gern trainieren![9]

— Ja? — Ён паглядзеў на яе яшчэ больш уважліва.— Gut. Gehen wir![10]

У невялікай хатняй спартзале Шмітц начапіў баксёрскі рыштунак і сказаў:

— Schlage! Schlage ohne Boxhandschuhe![11]

Добры аператар паставіў бы тут камеру на запаволенае дзеянне.

Худая невысокая дзяўчынка прыняла стойку, набрала паветра і паслала двойку ўсім корпусам з упорам на правую.

Гер Шмітц зрабіў два крокі назад, а яна ледзь стрымалася ад болю ў фалангах пальцаў.

---

[1] Не. *(ням.)*.

[2] Ідзі за мной! Плаці! *(ням.)*.

[3] Добра, вядома *(ням.)*.

[4] Спартыўная школа *(ням.)*.

[5] Выбачайце, вы спадар Шмітц? *(ням.)*.

[6] Так, я Шмітц. Але зараз я еду ў Гамбург. У мяне няма часу. Я вельмі спяшаюся *(ням.)*.

[7] Я ехала да Вас вельмі доўга! У мяне няма грошай, каб вярнуцца! Я ўзяла білет толькі ў адзін бок! Калі ласка!!! *(ням.)*.

[8] Адкуль Вы? *(ням.)*.

[9] Я беларуска. Я прыехала з Беларусі. Я вельмі хачу трэніравацца ў Вас! *(ням.)*.

[10] Так? Добра. Хадземце! *(ням.)*.

[11] Бі! Бі без баксёрскіх пальчатак! *(ням.)*.

— О-о! Маленькая дзяўчынка думае, што яна ўмее біць, — прамовіў ён. — Добра. Я вазьму цябе на месяц. На выпрабавальны тэрмін. А там паглядзім. Але памятай: праца, праца і яшчэ раз праца! І не проста праца, а ўпартая, да знямогі працавітасць!

Праца?! Ну так, праца! Arbeit, Arbeit und noch einmal Arbeit![1] Яна так і ўспрымала бокс — як працу: незвычайную, няпростую, рызыкоўную. Якая патрабуе ўвагі, вынослівасці, волі. Трэба сапраўды нічога не разумець у жанчынах, каб адмовіць ім у праве дасягнуць пастаўленай мэты! Мужчына тут жанчыне не дарадца. І ніколі ім не будзе. Жанчына створана для таго, каб ставіць перад сабой мэту і дасягаць яе. Калі жанчыне чаго-небудзь хочацца — гэта горш, чым баліць.

Амаль тры гады Аляксандра інвесціравала ў бокс. Інвесціравала свае час, надзеі, упартасць, штодзённыя трэніроўкі.

Вольф Шмітц не стамляўся гаварыць ёй:

— Працаваць неабходна да рынга. На рынгу трэба перамагаць. Ведаеш, што самае цяжкае ў боксе? Збіраць свае зубы, не здымаючы баксёрскіх пальчатак...

Гэта быў толькі пачатак яго думкі. Звычайна Шмітц браў невялікую паўзу і пасля, узняўшы брыво, працягваў:

— Мне не вельмі падабаецца падобны гумар. Але я хачу растлумачыць табе, што такое бокс. Бокс — гэта інтэлектуальны бой з ужываннем фізічнай сілы. Шахматы ў баксёрскіх пальчатках. У боксе трэба пастаянна думаць і ўмець скарыстаць свой інтэлект. Толькі тады можна дасягнуць сур’ёзных поспехаў. Нельга чакаць, пакуль сапернік выбудуе сваю лінію паводзін і навяжа яе табе. Разумны баксёр сам выбудоўвае сваю палітыку і загадзя імкнецца пралічыць усе магчымыя шляхі яе развіцця. Ты разумееш?

— Так.

— Памятай, на рынгу ты павінна не чакаць, а ствараць. Ідэі ніколі не павінны пакідаць тваю галаву. Ні ў блізкім баі, ні ў далёкім. Ты проста абавязана правільна ацэньваць сітуацыю, імгненна выбіраць яе і выкарыстоўваць.

З часам Аляксандра ацаніла навучанні Шмітца. Але пачыналі яны з малога.

Вольф распісаў яе графік.

— Кожны дзень у шэсць раніцы ты бегаеш, — сказаў ён. — Чаму ў шэсць, а не ў сем ці ў восем? Таму што гэта цяжка. Гэта першая цяжкасць, а потым будзе шмат іншых цяжкасцей. Але чым больш іх, тым лягчэй табе будзе на рынгу. Сёння і зараз — вось тваё правіла. Morgen, morgen, nur nicht heute, sagen alle faulen Leute[2].

Такім чынам, кожны дзень у шэсць раніцы яна рабіла прабежку. Вольф вёз яе да Швабскіх узгоркаў, і яна бегла 6 кіламетраў. Угару. Паперадзе машыны.

Да васьмі яна плавала ў басейне, прымала кантрасны душ і ў восем снедала. Ад васьмі да дзевяці быў прагматычны адпачынак: па рэкамендацыі Вольфа яна глядзела на відэа жаночыя баксёрскія баі і рабіла ў нататніку заметкі. Ад дзевяці да трынаццаці нястомна займалася ў спартзале. Ад трынаццаці да чатырнаццаці зубрыла і падцягвала нямецкую мову. У чатырнаццаць абедала. У пятнаццаць ішла на працу ў фітнэс-клуб і зарабляла сабе на жыццё: інструктавала, сачыла за парадкам, тлумачыла, як карыстацца трэнажорамі.

З дзевятнаццаці да дваццаці рабіла лёгкую прабежку ўздоўж гарадской ракі Неккар, прымала душ, вячэрала, глядзела навіны і ў дзесяць клалася спаць.

[1] Праца, праца і яшчэ раз праца! *(ням.).*
[2] Заўтра, заўтра, толькі не сёння, — кажуць усе лянівыя людзі *(ням.).*

Праблемы пачаліся там, дзе яна не чакала. Як і любы таленавіты чалавек, Вольф быў тонкім псіхолагам. Ён адразу разгледзеў яе, умомант зразумеў, што дзяўчыне перашкаджае і ад чаго трэба пазбавіцца.

— У цябе ёсць баласт, Аляксандра, — аднойчы глуха прамовіў ён на трэніроўцы. — І калі ты яго не скінеш, я з табой расстануся. Я не буду марнаваць дарма на цябе свой час.

Клінцэвіч спачатку нават не зразумела, пра што ён. Для яе гэта было поўнай нечаканасцю. Усе рэкамендацыі Вольфа яна бездакорна выконвала, а ў сваёй спартыўнай ініцыятыве часта і перабірала. Да трэніровак, якія распісаў Шмітц, паўгадзіны яна штодня дадавала ад сябе. Але справа была не ў трэніроўках.

— Мая задача заключаецца не ў тым, каб навучыць цябе голай механіцы, Алекс. Не, гэта ўсё нажыўное. — Вольф падышоў да баксёрскага мяшка, моцна ўдарыў у яго і рэзка павярнуўся да Аляксандры. — Гэта ўсё глупства! Я пастаўлю табе ўдар. У цябе нядрэнны правы джэб — жорсткі і дакладны. Так, ты не заўсёды разумееш, як ім правільна карыстацца. Я растлумачу. Твой джэб будзе эфектыўны і эканомны. Ты дадасі аперкот, крос або свінг[1]... Але гэта не галоўнае! — Шмітц бліснуў вачыма. — Гэта не галоўнае! А ведаеш, што галоўнае?! Што?!

— Гер Шмітц, я не зусім разумею...

Вольф падняў руку ўгору.

— Што галоўнае?! Што галоўнае ў боксе?! У жыцці?! Га?! Што?! — Ён падышоў, зачапіў яе позіркам, а потым сказаў: — Я не першы дзень трэнірую і магу сказаць, што крыху ведаю чалавечую натуру. Я ў курсе не толькі тактыкі, тэхнікі, фізікі ды іншых баксёрскіх слоўцаў. Але калі я не самы дрэнны трэнер, то павінен зазірнуць унутр чалавека і зразумець, у чым яго слабасці, што ён адчувае і чаму. І што ж я бачу?! Што, Алекс?!

— Што?

— Што?! Што?! Я бачу, што ты пазбягаеш людзей! Ты амаль ні з кім не маеш стасункаў. Ты імкнешся абысці ўсіх бокам. Ты адпачатку думаеш, што ўсе цябе пакрыўдзяць, пакінуць, ашукаюць. І таму лепш не мець аніякіх зносін. Ты загадзя праграмуеш сваю няўдачу, Алекс. Вось у чым праблема! Я не тэлепат, але ж скажу: у тваім жыцці цябе нехта кінуў. І гэты боль сядзіць у табе да гэтага часу і б’е пад сэрца. Хто гэта зрабіў? Хлопчык, бацька? Хто?

Аляксандра адвяла вочы.

— Бацька...

Вольф пахітаў галавой.

— Не цягні на рынг свае сумненні, Алекс. Выкінь іх з галавы! Альбо ты гэта зробіш, альбо мы расстанемся. Я ведаю, у чым заключаецца мая праца: не даць табе быць той, якая робіць цябе кінутай і нікому не патрэбнай. Перамажы гэта ў сабе! Скажы сабе: я патрэбна іншым! Я не баюся іншых! Я не горш за іншых! Ты можаш прайграць на рынгу, але галоўнае выйграць больш важны бой — бой унутры сябе. Зразумела?!

---

[1] Аперкот (ад англ. *upper* + англ. *cut* — секчы знізу ўверх) — вельмі магутны і эфектыўны ўдар, які наносяць сагнутай у локці рукой, па ўнутранай траекторыі, знізу ўверх. Наносіцца на сярэдняй і блізкай дыстанцыі.

Крос (ад англ. *cross* — крыж) — разнавіднасць прамога ўдару, адносіцца да ліку найбольш моцных удараў. Удар наносіцца ў разрэз, дамінуючай, больш моцнай рукой, пры якім рука праходзіць над рукой саперніка. Выкананне ўдару пачынаецца з рэзкага зрыву кулака з зыходнага становішча.

Свінг (англ. *swing*) — бакавы ўдар з далёкай адлегласці. Свінг — не сродак нападу, але ўсё ж у некаторых выпадках можа аказацца карысным як контрудар. Удар вельмі моцны, бо, акрамя пераносу цела з адной нагі на другую, падключаецца паваротны рух корпуса.

— Так.

— Запомні, няма людзей, якія нічога не баяцца. Страх ёсць ва ўсіх. Сэнс у тым, што людзі робяць з гэтым страхам. Вось гэтаму навучыць цяжэй за ўсё. Але і важней за ўсё. Я бачу, ты баішся за свой твар, Алекс. Гэта цябе палохае, так? Я разумею. Але ж, калі ты прыслухаешся да мяне, то праз некалькі гадоў усе глянцавыя часопісы стануць у чаргу! У чаргу на фотасесію з табою! Ты яшчэ ім зможаш адмовіць. У цябе ёсць такая магчымасць.

Шмітц усміхнуўся, прыняў стойку.

— Ну, а цяпер бі мне ў твар! Давай, Алекс.

Ён зачапіў яе за жывое, і яна паспрабавала ўдарыць з усёй сілы. Але Вольф сышоў ад удару — нагнуў галаву ледзь убок і ўніз — і яе кулак у пальчатцы прайшоў побач.

Вольф адразу ж контратакаваў і пункцірна прадэманстраваў, якія ўдары змог бы нанесці.

— Бачыш, Алекс. Быццам бы нічога складанага. Асцерагаешся ўдару, прадбачыш яго, але ўмееш своечасова сысці і контратакаваць. А для гэтага трэба не адхіляць галаву назад, не адварочвацца ўбок, а прымусіць сябе не баяцца. Не баяцца нахіліцца да чалавека, які б'е цябе ў твар. Паспрабуеш?

Аляксандра паспрабавала, і ў яе не адразу, але атрымалася.

Вольф задаволена ўсміхнуўся.

— Навучыся канцэнтраваць волю. Навучыся правільна абараняцца. Навучыся наносіць удары ў патрэбны момант. І ты пераможаш нават фізічна больш моцнага саперніка. Мухамед Алі казаў: «Пырхаю, як матылёк, джалю, як пчала». Пырхай і джаль, супермуха[1].

Пасля гэтай размовы ў яе ўсё і пайшло: Аляксандра пачала ў боксе перамагаць і паступова ў спарынг-баях[2] выйшла на першыя ролі.

Трэніравалася яна апантана. Хуткасць атакі і абароны штодня адпрацоўвала праз дадатковую вагу: мацавала на ногі і рукі груз па дзвесце-трыста грамаў і выконвала самыя розныя практыкаванні.

Ладзіла баі з ценем. Бегала на кароткія дыстанцыі. Выкарыстоўвала чаўночны бег. Адціскалася ад падлогі, павялічваючы колькасць кожны тыдзень пры кожным падыходзе. Біла ў сцяну з тонкай пракладкай з газет, у грушу, працавала на мяшку.

Яе актыўныя трэніроўкі днём трансфармаваліся ў невытлумачальныя сны ноччу. Дзіўна, яна вельмі моцна стамлялася за дзень і павінна была спаць мёртвым сном, але... Сны з'яўляліся, як фантомы — раптоўна. Быццам яркае святло кінапраектара прабівала глядзельную залу, і на экране ажывалі падзеі. З'яўлялася мама з яе дзіцячых фантазій: за рулём серабрыстага замежнага аўто, з прыгожымі дагледжанымі рукамі, у джынсавым касцюме, у бейсболцы. Або ў стэпе з-за віхуры пылу вырывалася амазонка на аргамаку[3], бронзавая ад сонца, з адкрытымі грудзьмі, перацягнутымі шырокай скураной стужкай ад калчана, і Аляксандра раптам пазнавала ў ёй сябе...

Калі надышоў трэці год у Германіі, яна стала чэмпіёнкай сярод аматараў. Вольф сказаў ёй тады:

---

[1] Вагавая катэгорыя — першая найлягчэйшая вага. Вага «супермухі» — да 52,163 кг.

[2] Трэніровачныя баі ў боксе *(ад англ. sparring).*

[3] Аргамак — пародзісты верхавы конь. У народаў Сярэдняй Азіі, у каўказскіх горцаў аргамакі адносяцца да найлепшых парод. Аргамакі славяцца вытанчанасцю формаў, эластычнымі, прыгожымі рухамі.

— No, was? Wer A sagt, muβ auch B sagen[1].

Яны сядзелі ў невялічкім рэстаранчыку, абедалі. Дзень выдаўся чароўны, сонечны. У яе быў цудоўны настрой.

— Што ты маеш на ўвазе?

— Табе пара пераходзіць у прафесійны бокс, Алекс. У аматарскім ты дасягнула вяршыні. Ты не супраць, калі мы заключым кантракт з прамоўтарамі з «Універсума»[2]? Што ты на гэта скажаш?

Яна ўсміхнулася.

— Мусіць, я скажу «так».

Вольф прыжмурыўся.

— Я рады, што ў табе не памыліўся, супермуха...

Баксёрскі шлем[3] яна зняла 14 лютага 2004 года.

Гэта быў яе першы паядынак у профі-статусе. Дэбют. Бой праходзіў у андэркарце, гэта значыць у якасці разагрэву да баёў мужчын. Яна адправіла сваю саперніцу нігерыйку Амін Лаван у накдаўн[4] у трэцім раўндзе, а ўжо ў чацвёртым рэферы спыніў бой, зафіксаваўшы яе перамогу над нігерыйкай тэхнічным накаўтам[5]. Трыбуны гарлапанілі, як дзікуны. Нібы ў часы баёў гладыятараў у Калізеі.

Поспех не зменшыў яе тэмпу. Аляксандра працягвала трэніравацца па чатыры гадзіны на дзень і спачатку стала чэмпіёнкай свету па версіі Global Boxing Union (GBU), а праз два гады на 8-га сакавіка зрабіла сабе падарунак — узяла тытул чэмпіёнкі свету па версіі Women's International Boxing Federation (WIBF). Двойчы тытулаваная, вытанчаная, тэхнічная, яна выклікала захапленне.

Публіка малілася на яе. «Die Pantherin»[6] — называлі яе і балельшчыкі, і газетчыкі. Букмекерскія канторы кінуліся рабіць на яе стаўкі. Профі-бокс пачаў шпурляць да яе ног грошы. З сямнаццаці пераможных баёў у сямі яна перамагла накаўтам, але...

Але быў адзін бой, пра які яна не забудзе ніколі.

Яе звялі на рынгу з амерыканкай Кей Кэзан.

Пачынаючы са стартавага гонга, Аляксандра баксіравала ў сваёй звыклай манеры: ухілялася ад большасці ўдараў саперніцы і пры магчымасці «джаліла» яе правым джэбам, дадаючы левы аперкот або бакавы. Да шостага раўнда яны вялі бой прыкладна ў адным рытме. Аляксандра не дазваляла Кэзан нават наблізіцца, блакіруючы яе намеры на дыстанцыі.

Аднак пасля шостага раўнда кароткарукая Кэзан пачала жвава прыбаўляць і ўсё часцей націскаць. Ёй удалося прабіць абарону ў восьмым і на працягу некалькіх секунд дамінаваць. Правы бакавы Кэзан кінуў Аляксандру на канаты і нечакана пад-

---

[1] Ну, што? Хто кажа А, павінен таксама сказаць і Б *(ням.)*.

[2] Нямецкая прамоўтарская кампанія «Universum Box-Promotion GmbH».

[3] З баксёрскім шлемам на рынгу выступаюць толькі ў аматарскім боксе, у прафесійным выступаюць без шлема.

[4] Накдаўн — удар у боксе, пры якім баксёр пачынае дакранацца да падлогі якой-небудзь іншай часткай цела, акрамя падэшваў. Баксёр лічыцца ў накдаўне таксама і тады, калі ён вісіць на канатах або выбіты ўдарам саперніка за вяроўкі рынга. Баксёр, які знаходзіцца ў становішчы накдаўна на працягу 10 секунд, лічыцца накаўтаваным і пераможаным.

[5] Тэхнічны накаўт — спыненне бою рэферы, урачом, секундантам баксёра або самім баксёрам. Адбываецца з-за траўмы, рассякання або якіх-небудзь іншых абставін, што перашкаджаюць працягу бою адным з баксёраў. Баксёр, які атрымаў тэхнічны накаўт, прызнаецца прайграўшым бой.

[6] «Пантэра» *(ням.)*.

ламіў ёй ногі. Рэферы як быццам гэтага не бачыў. Ён не перапыніў бой і не абвясціў накдаўн, і Кэзан яшчэ некалькі секунд агрэсіўна атакавала па-за правіламі. Нарэшце рэферы пачаў адлік накдаўна. На сёмым ліку Аляксандра паднялася і працягнула бой. Усё плыло перад ёй, і ў галаве чыйсьці далёкі гняўлівы голас абурана крычаў: «Рэферы падсуджвае!!! Рэферы падсуджвае!!!» Ёй удалося скончыць бой, у яе былі нават контрнаступленні, але ёй прысудзілі паражэнне.

Гэта быў урок.

— Ніколі не разлічвай на рэферы, — сказаў ёй Вольф на наступны дзень. — Калі ламаюць тваю абарону, адпраўляюць цябе ў накдаўн і атакуюць па-за правіламі, абараняйся да канца. Прамоўтарам патрэбны шоу. Усе гэтыя законнікі ад бокса — рэферы, суддзі — заўсёды будуць з тымі, хто галоўны за шырмай.

Аляксандра сядзела каля акна напаўабарота і асцярожна дакраналася кончыкамі пальцаў да распухлага твару. Тоўсты слой пудры ледзь утойваў аб'ёмны сіняк пад правым вокам і апухлае ўздуцце над левым брывом.

— Ты мяне падмануў, Вольф, — з расчуленай усмешкай вымавіла яна. — Я нешта не бачу журналістаў з глянцавых часопісаў. Ніхто не спяшаецца выстраіцца ў чаргу на фотасесію са мною. Сёння я б з задавальненнем ім адмовіла, але ў мяне няма такой магчымасці...

Вольф адказаў без усялякай іроніі:

— Яны да цябе яшчэ абавязкова прыйдуць, Алекс. Паглядзіш. Яны яшчэ цябе будуць атакаваць, як на рынгу... Цябе гэта яшчэ некалі моцна зморыць і...

Аляксандра павяла плячыма.

— Паслухай, Вольф, не ў гэтым справа... Паабяцай мне... паабяцай, што калі-небудзь ты зробіш мне з гэтай Кэзан матч-рэванш.

— Але...

— Вольф, паабяцай, што ты зробіш мне з ёй матч-рэванш! Няхай праз некалькі месяцаў, але прашу, зрабі гэта.

— Я пастараюся ўсё зрабіць, Алекс. Але калі ты думаеш, што ў боксе няма выпадковасцей, — ты памыляешся. Кэзан удалося прарваць тваю абарону. З сур'ёзнымі для цябе стратамі, і гэта відавочна. Так! Рэферы не спыніў бой пры накдаўне. Так, ён парушыў правілы і даў магчымасць Кэзан атакаваць некалькі секунд, хаця ты і не была да гэтага гатова. Але ты павінна заўсёды быць гатова, Алекс! Я не бачу тут вялікай крыўды! Вялікая крыўда мелася ў Роя Джонса на Алімпіядзе 88-га года! Джонс бліскуча ўправіўся са сваім сапернікам. Па ўсіх паказчыках ён ішоў першым. І што ж?! Трое з пяці суддзяў прысудзілі яму паражэнне! Нават камуністычныя СССР і Венгрыя аддалі свае галасы амерыканцу! СССР і Венгрыя! Але Джонсу залічылі паражэнне! Вось гэта было расчараванне! Вось гэта была крыўда!

Так, Вольф гаварыў слушна. І прайграваць трэба навучыцца. Свой пройгрыш Аляксандра сімвалічна зафіксавала. Зайшла ў інтэрнэт і вывела самае простае фота Роя Джонса.

Яна прыладкавала фота ў рамку, паставіла на столік і завочна сустракалася з Джонсам па некалькі разоў на дзень. Не заўсёды той, хто выйграе, — выйграе, а той, хто прайграе, — прайграе. І ў паражэннях здараюцца перамогі.

Хто ж ведаў, што і ў фатаграфій бывае сваё жыццё. Джонсу, напэўна, стала сумна на яе століку аднаму. Рой стаміўся стаяць у баксёрскай стойцы і, можа, таму запрасіў Сафі Ларэн...

Вялікая Сафі з'явілася на століку побач з Джонсам значна пазней таго моманту, калі па спадарожніку Аляксандра ўбачыла фільм «Нешта светлае». Просты фільм, немудрагелісты сюжэт. Суцэльныя банальнасці. Меладрамка. Жанчына ездзіць да

сваіх былых каханкаў. І ў кожнага з іх просіць грошай. На лячэнне маленькага сына, якому патрабуецца аперацыя для вяртання зроку. Сафі Ларэн пражывала гэтую ролю на кінаплёнцы так, як магла пражыць сваю драму ў жыцці толькі маці, якая любіць.

Гэтая гісторыя засталася жыць у сэрцы Аляксандры. І жыла ў ім ціха, непрыкметна, амаль не нагадваючы пра сябе.

Між тым Аляксандра неаднаразова пацвердзіла свае чэмпіёнскія тытулы, прыняла нямецкае грамадзянства, стала вядомай і папулярнай. Глянцавыя часопісы наперабой запрашалі яе ўдзельнічаць у фотасесіях. Прэса адначасова называла яе пантэрай і прыгожай інтэлігентнай жанчынай. Загалоўкі мільгалі ад бою да бою. «Непрадказальная стыльная сіла», «Пантэра выйшла на рынг», «Грацыёзны бой».

Муж быў шчаслівы. Маладая, прывабная, паспяховая жонка. Побач з ім. Больш, здавалася, ён нічога не бачыў. Павесіў у холе велізарную фатаграфію фітнэс-клуба, дзе яны пазнаёміліся, і займаўся сваімі справамі.

Ён не ведаў, што адбывалася ў яе душы. Бертальт Вэбер і не мог ведаць: Аляксандра пра сябе нікому амаль нічога не распавядала. Яна старалася не казаць мужу пра сваё дзяцінства, пра маці. Для Бертальта маці Аляксандры жыла ў іншай краіне. Для Аляксандры ж маці існавала толькі як жанчына, якая калісьці яе нарадзіла і кінула.

Аляксандра ўсё часцей спрабавала суаднесці свой поспех з ранейшым дзетдомаўскім жыццём. З тым жыццём, дзе загінуў Крошка, дзе доктарка кінула ёй у твар свой прысуд, дзе змучаны алкаголем Пятровіч, надзьмухваючы сіняватыя шчокі, свістаў у нязменны свісток...

Яна не разумела, як ёй удалося схавацца ад гэтага жыцця, падмануць яго, заблытаць сляды, ускочыць у патрэбны вагон. Аляксандра кружляла над сваім мінулым, як птушка над разбураным гняздом. Яна стамілася, але для заспакаення ёй неабходна было зразумець сябе, разабрацца: хто яна і адкуль. Але ж хіба дадзена нам ведаць, хто мы і адкуль, як перамяшалася ў нас кроў і чаму не адвярнуўся ад нас аднойчы анёл-ахоўнік? Ці выпадковасць усё, што адбываецца, альбо выпадковасць і ёсць заканамернасць?

Аляксандра не магла адказаць на гэтыя пытанні. Як не маглі адказаць на іх і мільярды людзей да яе. Але сэрца падказвала, што ўсё, што адбываецца, адбываецца невыпадкова. Ці выпадкова, але заканамерна.

Яе цяжарнасць толькі пацвердзіла гэта: Аляксандра зацяжарыла выпадкова, але ў яе цяжарнасці сышліся ўсе лініі жыцця, усе перакрыжаванні, усё яе мінулае з будучым. Заканамернасць зірнула ў люстэрка выпадковасці.

У гэты час Аляксандра ўжо вырастала з бокса, як дзяўчынка вырастае з сукенкі. Ёй патрэбен быў толькі вонкавы імпульс, каб адправіцца туды, куды клікала сэрца. У новую дарогу.

Кожны год яна лятала на радзіму і кожны год беспаспяхова спрабавала адшукаць сваю маці. Але надыйшоў час, і ёй дапамагло імя — вядомасць аказалася мацнейшай за простую чалавечую просьбу. Аляксандры патэлефанавалі з Мінска і папрасілі правесці паказальныя спарынгі. Паабяцалі, што пазней ёй перашлюць копіі грамадзянскіх актаў з дадзенымі пра месца пражывання маці...

У Беларусь Аляксандра планавала ляцець адна, але Бертальт сказаў, што паляціць разам з ёй:

— Я хачу высветліць пытанне пра магчымую закупку ў Беларусі сельгастэхнікі. І потым, нарэшце, я пазнаёмлюся з тваёй маці.

Менш за ўсё Аляксандра хацела, каб муж ляцеў з ёй, бо не жадала лішніх пытанняў і тлумачэнняў, ёй не хацелася нават у думках вяртацца ў сваё мінулае! Але, мабыць, прыйшоў час сказаць тое, што яна даўно павінна была вымавіць.

Яны сутыкнуліся ў гасцініцы «Еўропа». Так здарылася, што ў гэты ж дзень Аляксандра дала інтэрв'ю адной настойлівай журналістцы. Акрамя пытанняў пра бокс, журналістка спытала і пра асабістае. Аляксандра вытанчана хлусіла. Пра цёплы родны дом у Гомелі. Пра любую маму. Пра яе кулінарныя таленты... Інтэрв'ю гэта спустошыла Аляксандру. Ёй нясцерпна не хацелася працягваць у тым жа стылі, але прыйшлося.

— Бертальт, я павінна з'ездзіць да мамы, — сказала яна. — Прабач, яна дрэнна сябе адчувае, і, мне здаецца, лепш, калі я паеду да яе адна...

Бертальт адрэагаваў нечакана. Ён трохі памаўчаў, у задуменні прайшоўся па нумары.

— Чаму? Чаму ты не хочаш пазнаёміць мяне з маці?

— Іншым разам, Бертальт. Іншым разам. Павер, так будзе лепш.

— Іншым разам? Лепш? Ты, напэўна, думаеш, што я сляпы?! Не, Алекс, я ўсё выдатна бачу! І ўсё выдатна разумею. У цябе тут каханне?! Старое каханне, так?!

Аляксандра аслупянела, засмяялася. Бертальт зноў ператварыўся ў Бертальта, які прыйшоў да яе ў фітнэс-клуб і не ведаў, як карыстацца бегавой дарожкай.

— Не, Бертальт. Ты памыляешся.

— Тады ў чым справа? У чым, га?!

— Ты сапраўды вельмі хочаш ведаць?!

— Так, хачу!

— У мяне няма дома, Бертальт! Няма хаты! І ніколі не было! І я не ведаю, хто мая маці!..

Бязладна Аляксандра распавяла мужу пра сябе ўсё, і Бертальт адразу паверыў, што гэта праўда (яна зразумела па вачах). Ён неяк збянтэжыўся, асекся, разгубіўся. Усё бясконца зачэсваў валасы рукамі.

— O, mein Gott[1], я жыў з жанчынай, не ведаючы яе сапраўднага лёсу... Чаму ты мне пра гэта нічога не расказвала раней?

— Я баялася, Бертальт...

— Баялася? Ты? Чаго? Чаго ты баялася?

— Я думала, мною будуць пагарджаць. Як у дзіцячым доме. Дзеці адрозніваюцца ад дарослых нямногім. Яны такія ж, як дарослыя. Толькі сілы ў іх менш...

Той ноччу ёй было невымоўна добра. У ёй нібы прарвалася нейкая нябачная плаціна. Ад тонкіх шчыкалатак мятныя хвалі абмывалі яе цела, высока падымалі і неслі яго, і ад вышыні ў яе захоплівала дух, кружылася галава. Салодкае цяпло разлівалася ў сцёгнах, ніжэ жывата, у набрынялых смочках. Ложак ляцеў па небе, падымаўся і скочваўся з аблокаў, дрэвы прыгіналі заснежаныя кроны, але пад коўдрай было горача, і яны скінулі яе. Можа, упершыню за час замужжа, каханне стала не абавязкам, а асалодай, вузкай сцежкай, на якую ўжо ступіла амаль бесцялесная ножка яе маленькай дачкі. І анёлы кружылі за акном, малявалі на шкле колцы і стрэлы. Свечка гарэла на стале, і каханне было як халодны саспелы кавун у гарачы сонечны поўдзень. Яны нарэзалі гэты кавун велізарнымі лустамі і з асалодай елі. І не маглі задаволіць смагі-голаду нават на наступны дзень, калі іх самалёт, вяртаючыся ў Германію, з-за туману здзейсніў вымушаную пасадку ў Празе. Каля храма Святога Мікулаша на Старамесцкай плошчы яны хутка перакусілі ў нейкім рэстаранчыку

[1] Божа мой *(ням.)*.

і на Парыжскай вуліцы ў невялікім гатэлі правялі амаль суткі. Ласкавая сацінавая бялізна і непаўторны пах чэшскага мыла змешваўся з водарам кавуна.

А потым тэст паказаў, што яна зацяжарыла...

Першаму пра гэта Аляксандра паведаміла Шмітцу. Вольф выслухаў навіну знешне спакойна, стрымана.

— Не скажу, што я не заўважыў твайго настрою, Алекс, — уздыхнуў ён. — Што ты плануеш рабіць?

— Я захаваю дзіця, Вольф...

— Гэта я ўжо зразумеў. Што з боксам? Ты сыходзіш? Мяне цікавяць твае далейшыя планы.

— Дзевяць месяцаў я не дакрануся да пальчатак. Па магчымасці, буду займацца агульнаўмацавальнымі практыкаваннямі. Пасля родаў пяць месяцаў хачу карміць дзіця толькі грудным малаком. І актыўна займацца. Мне патрэбен бой з Кэзан.

Вольф кіўнуў галавой.

— Я не думаю, што прамоўтары будуць у захапленні ад тваіх планаў, Алекс. Ты рэзка ставіш іх перад фактам, зрываеш кантракт. І пры гэтым просіш пра бой з Кэзан праз чатырнаццаць месяцаў. Мілая, ды к таму часу Кэзан зробіць з цябе адбіўную. Ты чула, што яна нядаўна заявіла? Чула? Кэзан збіраецца пагуляць па вагавых катэгорыях. Яна сказала, што ёй нудна стала ў вазе супермухі...

Аляксандра паглядзела на Шмітца ўважліва і спакойна.

— Вольф, ты адзіны чалавек, які ніколі мне не казаў усёй праўды пра іншых. Але заўсёды гаварыў усю праўду пра мяне. Скажы, у мяне ёсць хоць які-небудзь шанец?

Вольф памаўчаў, прыжмурыўся.

— Табе прыйдзецца вельмі пастарацца.

Аляксандра ўсміхнулася.

— Але ў прынцыпе шанец ёсць?

— Алекс, ты прабач... Людзі нават у космас лятаюць. І хутка, я чуў, збіраюцца ляцець на Марс... Але з прамоўтарамі ў цябе будуць праблемы. Вялікія праблемы. Парушэнне кантракта табе ніхто не даруе. Яны выставяць табе штрафныя санкцыі. Вышэй даху.

Вольф меў рацыю: прамоўтары прапанавалі Аляксандры заплаціць шалёную няўстойку або выканаць кантракт.

Аляксандра зненавідзела гэты выраз — «выканаць кантракт».

Муж паставіўся да праблемы па-філасофску.

— А што ты хацела? — уздыхнуў ён. — Ты сама казала, што прафесійны бокс — гэта бізнес. Дык у чым жа справа? Бізнес ёсць бізнес. Ты спрабуеш падвесці партнёраў, яны блакіруюць твае намеры. А як па-іншаму?

— Ты кажаш так, Бертальт, нібы ты юрыст прамоўтарскай кампаніі, а не мой муж. Ты не разумееш, што цяпер для мяне значыць «выканаць кантракт»?! Ты гэтага не разумееш?

— Я не разумею іншага. Навошта ты задумала ўсё гэта менавіта цяпер? Перад табой адкрываюцца нядрэнныя перспектывы. Калі табе дазволяць вярнуцца ў аматарскі бокс, ты, безумоўна, зможаш выступіць на лонданскай Алімпіядзе 2012 года. Гэта каласальны шанец!

— Прабач, Бертальт, але ў мяне іншыя планы.

— Іншыя планы?!

— Так.

— Але ж нарадзіць ты здолееш і пасля!

— Я сама буду вырашаць, калі мне нараджаць і што рабіць, Бертальт! Я сама заўсёды адказваю за сябе! З дзіцячых гадоў!

— Алекс, але ты псуеш усю сваю кар’еру!

Аляксандра скептычна ўсміхнулася.

— Кар’ера... Кар’ера... Гэта ўсё для публікі, Бертальт. Натоўп прагне хлеба і відовішчаў — як у старажытным Рыме. Я дастаткова павесяліла натоўп і цяпер хачу падумаць пра іншае. Не хвалюйся, я закрыю няўстойку сама. Гэта цябе не павінна хваляваць.

— Але ты ж збіраешся нешта рабіць?

— Абавязкова. Я збіраюся зняцца ў некалькіх часопісах топлес, у тым ліку на сёмым месяцы цяжарнасці. Нарадзіць дзіця. Выйграць у Кэзан. І заняцца дабрачыннасцю. Я хачу дапамагаць тым, хто прыязджае ў гэтую краіну і мае патрэбу ў дапамозе. Дапамагаць такім, якой калісьці была сама.

— Але гэта шаленства...

Аляксандра нервова засмяялася.

— Шаленства? Не, Бертальт, гэта не шаленства. Ва ўсялякім разе не большае шаленства, чым мець мужа і выходзіць на рынг!

— Што ты маеш на ўвазе?

— Нічога, Бертальт, абсалютна нічога. Ты мой муж, але, калі ты хочаш, каб у нас усё было нармальна, давай спынім размову на гэтую тэму.

Ён глядзеў на яе жаласнымі вачыма. Маленькі, прыгнечаны, засмучаны.

— Не глядзі на мяне так, — ціха папрасіла яна. — Я не адмоўлюся ад дзіцяці. Калі ў нас будзе хлопчык, мы назавём яго Віктар. Калі дзяўчынка, — Вікторыя.

Ён падаўся наперад, хацеў нешта запярэчыць, але толькі і здолеў выціснуць:

— Aber warum? Warum?[1]

— Darum. Ich will so[2].

Так сустрэліся Рой Джонс і Сафі Ларэн: менавіта пасля гэтай размовы побач з Роем з’явілася Сафі. Аляксандра доўга выбірала ў інтэрнэце яе фота. Здымкаў было шмат, і на кожным Сафі была боскай, чароўнай, прыгожай. Аляксандра вывела самы звычайную.

Сафі і Рой сталі нямымі сведкамі яе жыцця. Сябрамі. Іх фота Аляксандра ўзяла нават у берлінскую клініку.

Яна хвалявалася перад родамі, крыху хвалявалася. А пасля, калі ўсё адбылося, доўга ляжала ў палаце з прыплюшчанымі вейкамі і, быццам пацеркі, перабірала фрагменты свайго мінулага. Пачуцці перапаўнялі яе, і яна ледзь не расплакалася, але прымусіла сябе стрымацца.

Дачка была побач. Бездапаможная, слабая, але бясконца неабходная. Дзіця пантэры. Вікторыя.

...Бертальт забраў іх з клінікі праз тыдзень.

На наступны дзень Аляксандра ўжо працавала.

Шмітц распісаў ёй кожны дзень на працягу пяці месяцаў. Аляксандра ўнесла свае карэктывы: мінімум сем разоў на дзень яна брала Вікторыю на рукі, размаўляла з ёй і прыкладала да грудзей. Гэта аніяк не адбівалася на трэніроўках, бо Аляксандра актыўна трэніравалася тройчы на дзень па дзве гадзіны. Але адбівалася на мужу. Дзе б Аляксандра ні знаходзілася, Бертальт збіраў дзіця, змяшчаў у пераносную торбу для груднічкоў і вёз да жонкі. Ні пра якіх нянечак Аляксандра нават чуць не жадала.

[1] Але чаму? Чаму? *(ням.)*.

[2] Таму. Я так хачу *(ням.)*.

Як толькі ёй дазволілі пахудзець, яна скінула сямнаццаць кілаграмаў, якія набрала падчас цяжарнасці.

За тры месяцы да паядынку яна наведала штутгарцкую царкву Святога Мікалая, памалілася, паразмаўляла са святаром, і ўсёй сям'ёй яны перабраліся ў Дзюсельдорф. Тут, у зале Burg-Wächter-Castello, Аляксандра павінна была зноў сустрэцца на рынгу з Кэзан.

Адразу ж пачаліся спарынгі. Вольф вывеў супраць Аляксандры двух баксёраў-мужчын. Яны перавышалі Аляксандру па вазе і не пакалечылі яе толькі таму, што працавалі не ў поўную сілу.

За пяць тыдняў да бою Аляксандра перайшла на кантрольныя спарынг-баі з жанчынамі, падобнымі да Кэзан па манеры бою і целаскладзе. Баі ішлі сур'ёзныя. Цяжкія. Потныя. Часам спарынг-партнёркі мяняліся па дзве за раўнд.

За дзён дзесяць да бою трэніроўкі пайшлі на спад. Вольф няспынна паўтараў:

— Ты правяла сямнаццаць баёў і ў шаснаццаці перамагла! Так?! Так, Алекс! У сямі ты перамагла накаўтам! Ты парвала Тэры Лін Крус, Магдалену Дален, Рэку Крэмпф, Мерлін Эрнандэс, Алісію Эшлі!.. Ты зробіш і Кей Кэзан! Зробіш!

— Так!

На дзявяты дзень Аляксандра апошні раз перад боем схадзіла ў басейн, паплавала. Разам з Вольфам вярнулася ў гатэль. Узяла малую Вікторыю на рукі. Бертальт працягнуў ёй ліст. У канверце была звычайная нататка з нейкай рускамоўнай электроннай газеты.

*«Боксер из Узбекистана Носирджон Розиматов, потерявший сознание после боя против россиянина Александра Бахтина, вышел из комы, — паведамлялася ў нататцы. — Состояние 21-летнего узбекского боксера по-прежнему оценивается как тяжелое, однако есть некоторая положительная динамика, он теперь находится в сознании. О полном восстановлении Розиматова говорить пока рано.*

*Поединок в весовой категории до 53,5 кг, прошедший в минувшую пятницу в Москве, был остановлен арбитром после 9-го раунда. Розиматова доставили в больницу, где ему была сделана операция».*

Частка сказа — «...Поединок в весовой категории до 53,5 кг» — была падкрэслена жоўтым маркерам. Гэта практычна яе вагавая катэгорыя. Сімволіка кідалася ў вочы.

— Вольф, тут прапановы ад нашых канкурэнтаў. Давай спусцімся ў бар, — сказала яна.

За столікам, калі ім падалі зялёны чай, Аляксандра пераклала Вольфу нататку. Вольф спахмурнеў, вочы яго ўспыхнулі.

— Так, — усміхнуўся ён, — здаецца, на перамогу Кэзан паставілі вельмі вялікія грошы. Цябе хочуць перад боем дэмаралізаваць. Прыём вядомы. Ты парвала Тэры Лін Крус, Магдалену Дален, Рэку Крэмпф...

— Я памятаю, Вольф, — перабіла яна.

— Ты зробіш і Кей Кэзан! — адрэзаў Шмітц. — Зробіш!!! — Ён трохі памаўчаў, прыжмурыўся. — Я магу толькі здагадвацца, чаму ёй надаюць такую павышаную ўвагу. Так, раней у яе былі нядрэнныя баі. Але спроба прагуляцца па вагавых катэгорыях аказалася няўдалай. На нагах утрымалася, але па ачках прайграла. Цяжка спрачацца — сур'ёзная саперніца, але і ты на рынгу — пантэра. Публіка проста так характарыстык не дае. Яна тваю манеру імгненна ацаніла! Галоўнае — не падпускай Кэзан да сябе. Трымай на дыстанцыі. У цябе рукі даўжэйшыя, а цяпер, я ўпэўнены, і хутчэйшыя. Тэхніка добрая, цудоўна рухаешся па рынгу. Ты яе зробіш, Алекс!

Аляксандра сцвярджальна хітнула галавой. Узяла сурвэтку, краёчкам прамакнула вусны, акуратна склала і ў задуменні паклала на стол. Затым дастала з маленькай сумачкі памаду. На імгненне затрымала яе ў доўгіх пальцах, нібы дэманструючы, наколькі важны для яе гэты жаночы рытуал. Падвяла вусны. Зацікаўлена зірнула ў люстэрка. Звыкла паправіла бялявыя валасы.

Наведвальнікі бара пазнавалі яе. Некалькі чалавек падышлі ўзяць аўтограф: «Danke schőn, danke schőn!»[1]. Вольф злёгку ўсміхнуўся, ён памятаў, што пісала пра яе прэса:

*«Пантэра чароўна-прыгожая і небяспечная. На рынгу яна спалучае ў сабе сілу і жарсць. Рызыкоўны, агрэсіўны, нават крывавы від спорту не пазбаўляе яе магчымасці заставацца стыльнай і прывабнай».*

Аляксандра сустрэлася вачыма з Вольфам, адказала нязвычнай усмешкай.

— Вольф, я даўно табе збіралася сказаць... — Яна прыўзнялася, зняла белы лёгкі пінжак і павесіла на спінку крэсла. Яе гнуткае цела ў чорнай маечцы сапраўды нагадвала грацыю вялікай дзікай кошкі. Тонкі залаты ланцужок на правай руцэ падкрэсліваў жаноцкасць запясцяў, але рукі былі моцныя, загарэлыя.

— На сёння навіны не ўсе?

— Не, Вольф, не ўсе. Спадзяюся, ты мяне правільна зразумееш. Бо ты мне быў і бацькам, і маці...

— Гэта мая праца, Алекс. Ты мне за яе плаціла.

— Я не пра гэта... Вельмі доўгі час ты ў літаральным сэнсе быў мне і бацькам, і маці. Я вырасла ў дзіцячым доме. Калісьці даўно ты мне сказаў: «Паводзіш сябе так, быццам цябе хтосьці кінуў». Ты аказаўся вельмі чулым чалавекам і вельмі мудрым менеджарам. Даруй, але я хацела, каб ты пачуў гэта ад мяне, а не ад журналістаў...

Вольф працягнуў руку і на імгненне прыкрыў сваёй далонню яе далонь.

— Твае спартыўныя амбіцыі памножыліся на лёс. І агульны вынік, я табе скажу, атрымаўся нядрэнны. Упэўнены, што ты перайграеш Кэзан. Мне заўсёды здавалася, што ты імкнешся нешта даказаць. Раней думаў — сабе. Зараз, разумею, — не толькі. Дзяўчынка з дзіцячага дома дасягнула такіх вяршынь... Дай інтэрв'ю «Bild»[2]. Падтрымка залы будзе табе забяспечана.

Чаканне бою для яе заўсёды было нясцерпным. Аднекуль здалёк, з глыбіні душы, з'яўлялася адзінае жаданне, каб усё хутчэй пачалося і скончылася.

Трыбуны, разагрэтыя півам і нецярпеннем, раптам анямелі, калі яе маленькая фігурка ў дзень паядынку паказалася ў велізарнай, упакаванай пад завязку зале. Цішыня звінела, нібы нацягнутая на гітарным калку струна. Міма незлічоных радоў яна рухалася да рынга. У тысячах вачэй балельшчыкаў быццам застыў нядаўні фотаздымак з газет: мужчынападобная Кэзан выбіла цёмнаскурую саперніцу за канаты, і яна ляжыць з разбітым акрываўленым ротам у глыбокім накаўце...

І раптам адзінокі голас разарваў цішыню:

— Поспеху табе, Алекс!!!

Трыбуны зараўлі, пачуўся гул і крыкі. Пад незлічоныя ўспышкі фотаапаратаў, прыцэлы тэлекамер яна ішла да рынга ў цэнтры бурлівага людскага мора. Тысяча люмінесцэнтных сонцаў асвятляла квадрат, абцягнуты канатамі. З дынамікаў палілася пранізлівая музыка Эніа Марыконе «Le Vent, Le Cri»[3], і Аляксандра ішла да

---

[1] Вялікі дзякуй, вялікі дзякуй! *(ням.).*

[2] Нямецкая газета (Bild — карціна, партрэт, вобраз) *(ням.).*

[3] Вецер, крык *(фр.).*

гэтага квадрата нетаропка, годна. Ішла ў белым топіку з абрысам чорнай пантэры на грудзях, у чорнай спаднічцы паверх тэнісных шорцікаў, у чорных баксёрках з высокімі халявамі, у чорных пальчатках з белымі профілямі...

Першы раўнд яна прыглядалася, назірала. Танчыла каля цэнтра рынга, пастаянна трымала саперніцу на джэбе. Кэзан была крыху ніжэй ростам, але мужчынападобная, збітая, напорыстая. Яна прасоўвалася нахабна. Лезла і лезла, як танк, спрабуючы прарваць абарону і выйсці на блізкую дыстанцыю. Аляксандра ўхілялася, сыходзіла, пырхала, блакіравала і, як толькі бачыла, што Кэзан адкрыта, імгненна рэагавала, прабівала двойку і ішла ў атаку. Затым, калі Кэзан перакрывалася, Аляксандра адыходзіла і, вытанцоўваючы, блакавала наступ саперніцы. А потым зноў пачынала атаку.

Так прайшлі ўвесь другі і трэці раўнды. Два гэтыя раўнды былі для яе самымі цяжкімі. У другім Кэзан ледзь не прарвала абарону Аляксандры і нанесла ёй некалькі нязначных удараў, а ў канцы трэцяга дастала яе сур'ёзным ударам па корпусе. Аляксандра пахіснулася, імгненна прабіла аперкот і сышла ўбок. Кэзан з ашклянелымі вачыма на секунду адступіла і зноў рушыла ў атаку.

У чацвёртым і пятым Аляксандра настроіла сябе ўжо на дзесяць раўндаў. Яна ўхілялася, сыходзіла ад сустрэчных удараў, біла і біла Кэзан на адыходах, але цвердалобая саперніца не падала. З маніякальнай настойлівасцю Кэзан упарта прасоўвалася наперад, спрабуючы зламаць абарону: ёй патрэбна была кароткая дыстанцыя і хоць некалькі памылак саперніцы пры размене ўдарамі.

Вольф крычаў, каб Аляксандра не спяшалася і паберагла сілы.

— Трымай яе на джэбе, Алекс! Яна сама табе ўсё аддасць!

Пот струменіўся па твары Аляксандры, белы топік вымак, ногі нямелі. Трыбуны рэагавалі дзікім ухвальным выццём на кожны яе поспех.

— Пантэра!!! Пантэра!!!

Напрыканцы восьмага раўнда, пасля ўдалага ўдару на адыходзе, Аляксандра на імгненне ўзламала абарону Кэзан і тут жа перайшла ў контрнаступленне.

Вольф пракрычаў ёй толькі адно слова: «Вікторыя!!!»

З новай сілай, якая раптам напоўніла ўсё яе цела, Аляксандра дакладным ударам злева ашаламіла саперніцу і правым прамым пацвердзіла моц удару.

Кэзан здзівілася, аслупянела і ўсім целам паваліліся на рынг.

Трыбуны зараўлі.

Аляксандра, прытанцоўваючы, павольна павяла ў бакі галавой. Падалася назад да канатаў у бліжэйшы кут. Ёй было цяжка дыхаць. Верхняя губа высока задралася над капай[1]. Ноздры расшырыліся, як у вялікай дзікай кошкі. Яна назірала, як рэферы наблізіўся да Кэзан, палічыў да дзесяці.

Пачакаўшы яшчэ некалькі секунд, Аляксандра слізганула пад канаты і, не чакаючы рашэння суддзяў, рушыла ўздоўж радоў да выхаду.

Публіка бушавала, свістала, білася ў нейкай масавай істэрыцы. Блізкія рады цягнулі да яе рукі, але Аляксандра, здавалася, гэтага не заўважала. Раз'юшана яна ішла і ішла ўздоўж радоў пад тысячай зіхатлівых штучных сонцаў. На хаду яна выкінула капу, прынялася зубамі развязваць шнуркі на пальчатках. Нарэшце, развязала іх і кінула пад ногі. Выйшла з бушуючай залы ў доўгі калідор, які бясконца цягнуўся, цягнуўся, цягнуўся і ўдалечыні звужаўся да памеру дрота, ператвараўся ў дрот. Бег побач з іншымі дротамі па агульнай сетцы, пакуль раптам не замкнуў яе.

[1] Ка́па — прыстасаванне з гнуткай пластмасы, якое надзяваецца на верхні рад зубоў падчас спартыўных трэніровак і спаборніцтваў для прадухілення траўмы.

* * *

Жанчына націснула на клыпажок пульта, і вялізны плазменны экран тэлевізара ўспыхнуў і асвяціўся.

*«Упершыню звесткі пра жанчын-ваяўніц, названых у далейшым амазонкамі, з'явіліся ў старажытнагрэчаскіх гісторыкаў, — распавядаў нейкі сталы вучоны. — Згадкі пра амазонак сустракаюцца ў легендах і міфах многіх народаў свету, у тым ліку і ў персаў. Дакладнасць фактаў пра існаванне ў мінулым амазонак доўга і ўпарта аспрэчвалася, нягледзячы на знаходкі археолагаў».*

Жанчына пераключыла канал...

*«Легендарны амерыканскі баксёр Рой Джонс сенсацыйна прайграў аўстралійцу Дэні Грыну тэхнічным накаўтам у першым раўндзе ў тытульным 12-раўндавым паядынку ў Сіднэі», — паведаміў спартыўны аглядальнік.*

Жанчына зноў змяніла канал, паднялася і падышла да акна. Праз цюлевую фіранку паглядзела на свой прыпаркаваны доўгі аўтамабіль. Вулічныя ліхтары выхоплівалі яго з цемры, адлюстроўваліся ў серабрыстых выгнутых крылах.

Жанчына папраўіла бялявыя валасы, дастала з невялікай кішэні джынсоўкі сотавы тэлефон і яшчэ раз перачытала SMS: «Сёння ўначы, у 0:30, вы можаце паглядзець на сваю дачку — Алекс Вэбер. Канал НТБ-плюс».

Жанчына павярнулася да экрана тэлевізара. Пажылая Сафі Ларэн давала інтэрв'ю.

*«Цяжарнасць і мацярынства, — гаварыла яна, — здзяйсняюць з жанчынай дзіўную метамарфозу. Мацярынства назаўсёды пазбаўляе вас ад адзіноты, нават у думках».*

Жанчына выключыла тэлевізар, прайшла ў пярэдні пакой, апранула кароткую прыталеную дублёнку і праз некалькі хвілін выйшла на вуліцу.

У аўтамабілі яна паклала рукі на руль і, не міргаючы, доўга глядзела на тонкія пальцы. Потым завяла матор, святлом фар акрэсліла спалоханае паўкола па чорным двары і выехала на трасу.

Агні вялікага горада зазіралі да яе ў салон. Жанчына вяла серабрыстую «таёту» ўмела і плаўна, і пры кожным павароце руля яе нафарбаваныя пазногці пераліваліся.

Каля невялікага рэстаранчыка ў цэнтры яна прыпаркавалася і выйшла з машыны. Вецер падхапіў яе бялявыя валасы, раскудлаціў. Жанчына была вельмі прыгожай. У яе рухах, паходцы, павароце галавы прысутнічала нейкая каціная пластыка. Нягледзячы на тое, што ёй было за сорак, на яе звярталі ўвагу. Ва ўсёй яе знешнасці чыталася, што часам жыццё кідала яе ўніз, але ёй, быццам котцы, заўсёды ўдавалася ўпасці на чатыры лапы.

У рэстаранчыку яна прасядзела каля гадзіны. Замовіла салату з крэветак, каву.

Афіцыянт быў з ёй вельмі ветлівы, далікатны. Жанчына рассеяна ўсміхалася. Піла каву маленькімі глыточкамі, часта ставіла кубачак міма сподка на стол, глядзела кудысьці ўбок. Замовіла яшчэ кавы, але, калі падалі, разлічылася і выскачыла на вуліцу.

Ад’язджаючы ад паркоўкі, яна, нечакана для сябе, не разлічыла шырыні праезду і зачапіла чужы аўтамабіль. Спрацавала сігналізацыя, напоўніла ўсё навокал віскам. Жанчына падала назад, выйшла з машыны, пастаяла з хвіліну і раптам кінулася бегчы.

Яна бегла па горадзе ад аднаго аўтобуснага прыпынку да другога, ад квартала да квартала, ад мінулага да мінулага. Бегла доўга. Часам спынялася і пераводзіла дыханне.

Каля свайго дома жанчына падвярнула нагу, зламала абцас, упала. Кульгаючы, паспрабавала ісці да пад’езда, але спынілася, расшпіліла боты, сцягнула іх і пабегла басанож.

Знямоглая, яна ўбегла ў кватэру, уключыла тэлевізар, выбрала патрэбны канал.

Заканчвалася трансляцыя прэс-канферэнцыі па выніках нейкага баксёрскага паядынку. Прыгожая маладая жанчына ў чорнай сукенцы для кактэйлю адказвала на пытанні журналістаў.

Аператар узяў буйны план.

Аляксандра няпэўна ўсміхалася.

Жанчына глядзела на яе, як з палонкі, пустымі, знямелымі вачыма.

На імгненне, здалося, іх вочы сустрэліся.

— Сёння мне б вельмі хацелася падвесці рысу пад сваім мінулым, — патлумачыла фраў Вэбер. — Я хачу сказаць сваёй маці: «Вы маглі б ганарыцца сваёй дачкой». Або... або гэта ўсё абсалютнае глупства і я памыляюся?

d

Ян РАДВАН

# РАДЗІВІЛІЯДА,[*]

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга другая*

Побач, як верны Ахат, Абрамовіч ішоў неадступна,[1]
Крочыў пры ім — і яны размаўлялі пра розныя справы;
Выбраў яго Радзівіл добрым сябрам і верным слугою —
Як для ваенных часоў, так для мірнай пары. Абрамовіч
Ведаў пра планы яго, спасцігаў нават думкі, напэўна.
Тут жа — Стаброўскі, які не саступіць у цнотах ніколі,
Потым Панецкі, а з ім — ваяўнічая Марсава моладзь.
Войска ішло цераз лес, і канец іх маршрута быў блізка.
Кожная рота нясла Радзівілава дома харугвы:
Пер’е арол распусціў, позірк люты, а дзікія кіпці
Быццам наставіў цяпер, каб хутчэй паквітацца з маскоўцам.
Вось загудзела зямля ды ад тупату ног задрыжэла,
Быццам Энарыі край застагнаў ад ліхой навальніцы:
Гэтак Грымотнік-Айцец з паднябеснай вяршыні Алімпа
Стрэлы шпурляе ў нару, у прытулак ліхога Тыфона[2].
Німфы, багіні лясоў, пачынаюць збірацца імкліва.
Што за прывабнасць у іх! Бездарожжам бягуць Рубаніды[3]
Проста праз самы гушчар і глядзяць у вялікім здзіўленні:
Зброя ў руках ваяроў зіхаціць пералівам адценняў.
Дзівіцца змрочная пушча, маўклівы чарот узбярэжжа:
Што за нязвыклае ззянне, ды рух, мітусня, шматгалоссе?..
Сочаць цікаўныя панны[4], бо бачаць вялікае дзіва,
Прагна глядзяць на чужынцаў, узрушаных радасна. Толькі
Самым прывабным здаваўся дрыядам ды ўсім арыядам[5]

---

[*] *Працяг. Пачатак Кнігі другой у № 6, 7, 8, 9, 10 г. г.*

[1] Глоса: «Ян Абрамовіч, ваявода Лідскі, стараста Дорпацкі». С. Нарбутас лічыць, што гэтыя словы Яна Радвана маглі б датычыцца не Яна Абрамовіча, а Хрыстафора (Крыштофа) Радзівіла (Перуна), які, згодна з гістарычнымі крыніцамі, нягледзячы на малады ўзрост (17 год), таксама прымаў удзел ва Ульскай бітве.

[2] Тыфон (або Тыфóэй) — сын Геі і Тартара; патыхаючы агнём стогаловы і старукі волат, які аспрэчваў у Юпітэра ўладу над небам, але быў пераможаны ім і пахаваны пад Этнай.

[3] Рубаніды — німфы Рубона (Заходняй Дзвіны).

[4] Панны — тут: німфы.

[5] Арыяды — німфы пагоркаў.

Мужны ваяр Радзівіл, быцам ён быў у свеце адзіны.
Зброяй жалезнай блішчастай і дзідамі шчэрыцца пушча,
Ззяе на сонцы метал, толькі бляск працінае паветра.
Раптам убачылі ўсе добры знак — ён трывала й цудоўна
Поўніць надзеяй душу, дазваляе паверыць у поспех:
Торачы шлях праз гушчар, прабіраліся цугам атрады,
Тут ваяры-маладзёны злавілі шпіёна-маскоўца,
Рукі звязалі яму і далей павялі за сабою;
Конь Радзівіла заўважыў яго — аж падскочыў угору,
Гнеўна задраў галаву, заіржаў, а пасля нечакана
Шпега зубамі схапіў і варожае цела ў паветра
Так шпурлянуў, быццам ён у гарэзлівы мячык гуляўся...
Дружна ліцвіны тады заспявалі вайсковую песню.
Быццам прывабныя лебедзі ўздоўж узбярэжжа Каістра[1],
Шчыра маленні свае ахвяруюць Айцу-Грамавержцу:
Хай паспрыяе цяпер і дазволіць на Чашніцкім полі
Войска злачынцаў разбіць, за зняважаны мір пакаранне
Даць па заслугах — няхай спыняць войны! Па гэткім малебне
Кожны сябе і каня рыхтаваць пачынае да бітвы.
Дзень да заходу падаўся, цяпер ужо ў цемры суцэльнай
Коні пакорна ідуць. Перамены штодзённыя часу
Стомлены воз Фаэтона схілілі да водаў Атланта.
Феба[2] ўзнялася ў начы і заззяла між хмараў прывабна.
Толькі трывожна навокал, і рознага кшталту істоты —
Птушкі, стракаты народ, нават рыбы, Няптунава племя,
Страцілі мірны спакой і салодкай няпамяці водар.
Сон дабрадатны тым часам цябе ахапіў, Радзівіле:
Ціхі начны адпачынак — палёгка ў штодзённых турботах —
Целу прынёс супакой пад Юпітэрам хмарным, хоць часта
Гукі вайсковай трубы нетрывалы твой сон парушалі...
Вось бесцялесная здань з Элізійскіх палёў[3] прыляцела:
Вітаўт Кейстутавіч сам перад князем стаяў. А калісьці
Ён перамогу здабыў пад Грунвальдам, трафеяў нямецкіх
Мноства прынёсшы, вярнуўся з трыумфам у землі ліцвінаў.
Гэткія словы пачуў Радзівіл ад яго нечакана:
«Лёс нешчаслівы народу майго ды знявага ліцвінаў
Мне загадалі пакінуць прасторы палёў Элізійскіх.
Чулі пра гэта даўно, я ж вагаўся — аблуда ці праўда? —
Весткі пра гэткія страты, пра мноства фатальных няшчасцяў:
Іх прызначаюць нябёсы народу майму несупынна...
Маю адно, чым суцешыць ліцвінаў у іх заняпадзе:
Пройдзе адно пакаленне — і прыйдзе кароль[4], каб пашырыць

---

[1] Каістр (сёння — Кучук Мендэрэз) — рака ў Малой Азіі, якая з антычных часоў славілася як месца жыхарства шматлікіх лебедзяў.

[2] Феба — сястра Феба (Апалона), багіня Месяца.

[3] Элізійскія (Елісейскія) палі — частка падземнага царства, месца знаходжання душ памерлых праведнікаў.

[4] Прыйдзе кароль… — маецца на ўвазе Стэфан Баторый.

Землі дзяржавы ад Балтыкі, скрозь паласы прыбярэжнай,
Аж да Эўксінскага Понта[1], да хваляў шырокае Волгі.
Стане краіна надзвычай багатай, і дружна народы
Будуць узносіць да неба імя блаславёных ліцвінаў.
Сёння ж у засень памерлых прыйшла незвычайная чутка —
Не, не пра славу былую, — што вораг пануе ў дзяржаве!
Дзеці былых пераможцаў цяпер пад уладай маскоўцаў —
Гэтых нязграбаў! Адкуль ім скакаць па літоўскіх прасторах?
Я ж іх да Понта прагнаў, аддзяліў Мітрыдатавым мысам!..
Ці ж дзеля гэтага мы не зважалі ў час бітвы на раны,
Значыць, дарэмна — няшчасныя продкі! — аздобілі годна
Мноствам трафеяў — сяброў, перамогамі ў войнах — Айчыну?
Ты не падобны да нас, о нашчадак з астылай крывёю!
Хіба ж на тое імчыць Нарымонтавы вершнік адважны[2],
Каб нашы ўнукі цяпер саступалі ў вайне з чужаземцам?
Не, не славуты Альгерд адкладаў сваю помсту — пагрозы
Марныя тыя былі...[3] А вось вам столькі войнаў, забойстваў,
Злобны прыносіць народ, вы ж не хочаце нават адпомсціць!..
Ганьба! Не гэткі ваяр чужаземцаў і блізкіх суседзяў
Моцнай дзясніцай спыняў — так узвысіўся славай да неба.
Быў жа аплотам не вал і не крэпасць — адважныя сэрцы!
З іх дапамогай заўжды наймацнейшую крэпасць зруйнуеш!

[1] Понт Эўксінскі — Чорнае мора.

[2] Маецца на ўвазе герб «Пагоня», які першапачаткова (паводле сведчанняў «Хронікі» Мацея Стрыйкоўскага, а таксама «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай») быў гербам вялікага князя Нарымонта.

[3] Гэтымі словамі Ян Радван яшчэ раз (гл.: Радзівіліяда II, 158—162) нагадвае вядомую з летапісання легенду пра тое, як вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Іванавіч даслаў вялікаму князю літоўскаму Альгерду ў Вільню пагрозлівы знак — паходню — як выклік на вайну. У адказ Альгерд выправіўся са сваім войскам на Маскву, аблажыў горад, але не прычыніў яму ніякай шкоды, адно ў знак павучання кінуў дзіду ў адну з вежаў маскоўскага Крамля.

***Пераклад з лацінскай Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

d

Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,
Яўгенія ПАСТАРНАК

# ГІМНАЗІЯ № 13*

***Раман-казка***

ЧАСТКА 2

## ЧОРНА-БЕЛАЯ БЛЫТАНІНА

Глава 22

### ЗНОЎКУ ВЫБУХ

...У раздзявальні ўсталявалася цішыня, і стала чуваць, як завываючы сірэнаю, да школы пад'ехала некалькі машын.

— Зараз нас тут знойдуць, — тужліва сказаў Сеўка.

— І павыганяюць, — змрочна дадала Маша.

— Цікава, а чаму толькі Люба засталася, а ўсе астатнія зніклі? — запытаўся Антон.

— А можа... Люба сказала, што трэба ведаць, што яны ёсць... Сталавік-бацюхна! — ціхенька гукнула Лёля.

«Ніна Канстанцінаўна» з ціхім воплескам з'явілася на парозе раздзявальні.

— Схавайце нас, — папрасіла Лёля.

— Ды ўжо ж схаваем, што з вамі зробіш, — забурчаў дамавік. — Тут шмат чаго хаваць трэба. Зараз там вашу каструлю па кавалачках збіраем. Каб «спецназ» слядоў не знайшоў.

— Ідыёт! — Сеўка стукнуў сябе па галаве. — Вядома, мог бы і раней здагадацца...

— Пра што? — запытала Маша.

— Час спыніўся ў момант самага пачатку выбуху, у першую мілісекунду! Каструля была гарачая, але яшчэ не выбухнула! Трэба было яе разабраць, абясшкодзіць, вынесці... Ідыёт...

Сеўка мітусіўся і заламваў рукі.

— Ды хопіць табе, не бядуй асабліва, — супакоіў дамавік. — Гэты дуб і так на некалькі стагоддзяў больш, чым мог, прастаяў. Так што ўсё роўна паваліўся б. Як толькі ўсе з дуба пайшлі, магічная абарона знялася і ўсё — хана дубу.

— Ды ну вас з гэтым выбухам, як жа Люба? — перапыніла іх Лёля.

— З Любаю — кепска, — замаркоціўся дамавік, — Люба на світанні знікне.

— Што? — усхліпнуў Мішка.

— Ну яна вернецца, пасля, як-небудзь... На Купалле. На некалькі дзён.

— А чалавекам яна не стане? — жахнулася Маша.

Сталавік няпэўна таргануў плячом і адвярнуўся.

— МНС ідзе, усім сядзець ціха! Я ім вочы засціць буду.

Праз хвіліну дзверы з гучным грукатам расчыніліся і гурт у камуфляжы ўварваўся ў басейн. Байцы ўважліва агледзелі раздзявальню.

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10 г. г.

— Нікога! — паведаміў адзін з іх, гледзячы проста ў вочы Антону.
— Нікога! — прагучала з другога канца басейна.
— Ёсць! — пачуўся крык каля вады. — У вадзе!
Малады хлопец, зняўшы маску, узіраўся ўглыбіню.
— Што? — крыкнуў камандзір.
Хлопец пачырванеў і з вялікай цяжкасцю адвёў позірк ад вады.
Камандзір наважыўся падысці бліжэй, але зусім нечакана паслізнуўся і расцягнуўся на кафлянай падлозе.
— Адставіць! — закрычаў ён, ускакваючы. — Тут чыста! Усё, ідзем адсюль!
Ад вады байца давялося адцягваць, яшчэ каля дзвярэй ён выцягваў шыю, імкнучыся штосьці разгледзець ў глыбіні басейна.
— Сімпатычны, — праляцеў над вадою ўздых, — заходзь яшчэ...
Як толькі «спецназ» пайшоў, у басейн уварваўся школьны вартаўнік, пранёсся па раздзявальні, размаўляючы з дырэктарам па сотавым тэлефоне:
— Мікалай Іванавіч, ды не сыходзіў я нікуды, я футбол глядзеў! Не, не было нікога! Заходзіў нейкі сямікласнік за формаю. Вядома, выйшаў! Што я, не памятаю, як ён выйшаў... І яшчэ дзяўчынка забягала, сказала, што бойка на ганку. Бойка? Не, усе ўжо разбегліся, калі я выйшаў. А калі ў школу вярнуўся, тут і бабахнула. Дзяўчынка? Не ведаю, пакуль не знайшлі. Відаць, паспела выйсці... Мікалай Іванавіч, родненькі, ды я ўжо ўсю школу аббегаў, няма тут нікога... Ды і «спецназ» шукае... Прыехалі? Бягу вас сустракаць...
І вартаўнік трушком вылецеў за дзверы.
— Пападзе яму, відаць... — задумліва сказаў Сеўка.
— А адкуль ён памятае, што я выходзіў са школы? — запытаў Антон.
— Дамавікі пастараліся, — сказала Лёля. — Ды ён, акрамя футбола, нічога не помніць... А што за музыка? Чуеце?
Усе прыслухаліся.
— Сапраўды, іграе, — прамовіў Сеўка.
— Гэта ж мой тэлефон! — ускрыкнула Маша і сутаргава заляпала па кішэнях.
— Ага, мамачка, — паспешліва адказала на голас з тэлефона, — усё добра, не хвалюйся. Не, мы даўно пайшлі з гімназіі, мы ў Любы дома займаемся матэматыкай. Ці хутка прыду? Чуеш, мама, я, відаць, тут начаваць застануся, а то ўжо ісці позна, а Любе... Любе вельмі патрэбна дапамога, — сказала Маша голасам, які раптам задрыжаў, і выключыла тэлефон.
— Трэба было б усім дадому патэлефанаваць, — адгукнуўся Сеўка, — Антоха, можаш да мяне адпрошвацца, і ты, Мішка, таксама. У мяне толькі старэйшы брат дома, з ім дамовімся.
Маша, пакруціўшы ў руках тэлефон, набрала нумар.
— Ало! Добры дзень! Гэта Дар’я Сцяпанаўна, мама Машы Сідарэнка. Я вас хачу папрасіць, адпусціце, калі ласка, Любу да нас начаваць. Так, я прыгледжу. Не, вядома ж, не будзе замінаць. Ім удзвюх весялей. Дзякую...
— А калі яны потым сазвоняцца? — запытала Лёля.
— Вось гэта потым і будзе, — адказала Маша. — Прапаную вырашаць праблемы па меры іх з’яўлення...
Лёля хмыкнула.
— Чаго смяешся? — адазваўся Антон.
— Ды ўспомніла, якая ў Машкі была істэрыка, калі мы... трапілі... ў казку. Ледзьве супакоілі... Як быццам іншы чалавек зараз.
— Я і ёсць іншая, — сказала Машка, — я тут нібыта жыццё пражыла.

І ў гэты момант падаў голас Сеўка.

— Жыццё... — усміхнуўся ён, — на самай справе прайшло адзінаццаць хвілін! 18-46!

* * *

Да трох гадзін ночы Антон ужо разоў сто паглядзеў на гадзіннік, як быццам спадзяваўся, што час зноўку спыніцца...

— Світанне калі? — запытаў ён у Сеўкі.

— Хутка, — нехаця адказаў той. — Можа, яе сілком выцягнуць?..

— ...змясціць у ванну! — падхапіла Маша, з надзеяй зазіраючы ўсім у вочы. — Папрасіць дамавікоў, каб прыкрылі нас, потым...

Тут у Машы ідэі скончыліся і жадаючых развіць іх не знайшлося.

— Нерэальна, — пакруціў галавою Антоха і зноў зірнуў на гадзіннік.

— А што рэальна? — узнялася Маша. — Сядзець тут і чакаць... світання? Лёля!

Але Лёля апошнія паўгадзіны толькі грызла пазногці і нічым дапамагчы не магла. Сеўка задумліва пацёр лоб.

— Лагічна разважаючы, — сказаў ён, — можна паспрабаваць звярнуцца да Перуна. Ён яе зачараваў, няхай ён і расчароўвае... Хаця яго наўрад ці ўгаворыш...

— Ды ён, канечне ж, адсыпаецца, — падтрымаў Сеўку Антон, — пасля збіценя.

— Руны! — раптам выгукнуў Сеўка. — Ганіце сюды руны!

Усе, акрамя Мішкі, пачалі паспешліва здымаць руны і аддаваць іх Сеўку.

— Зараз мы што-небудзь з рунаў скемім! — разважаў Сеўка. — Дык, што ў нас тут можна паскладваць?..

Гадзіну Машка з Сеўкам засяроджана пыхкалі, спрабуючы скласці з рунаў заклінанне. Дамавікі стаміліся падцягваць ім кніжкі з бібліятэкі. Нарэшце, Машка знясілена адкінулася да сцяны.

— Я не магу больш, — сказала яна жаласна. — Я трошкі з заплюшчанымі вачамі пасяджу...

У цішыні было чуваць толькі, як Сеўка гартае старонкі.

— Я, ведаеце, што зараз успомніла, — сказала Маша, — я ў мінулым годзе на алімпіядзе сядзела і не магла рашыць задачу. Апошнюю. Час падціскаў, я баялася, што не паспею...

— Гэта ты да чаго? — здзівіўся Сеўка.

— Ды дзіўна ўспамінаць, — сказала Маша. — Я ж тады сур'ёзна псіхавала. Думала, што ад гэтага рашэння нешта залежыць. Калі б я ведала, якая гэта лухта... А зараз ад нас сапраўды залежыць... Жыццё Любы залежыць... А ў галаве пуста...

— Вой! — усклікнуў Сеўка і тыцнуў пальцам у кніжку.

— Што? — хорам запыталіся ўсе.

— Ды артыкул цікавы. Аказваецца, Берагіня і Бер — аднакарэнныя словы! Берагіня — вытворнае ад слоў «бер» (бог, мядзведзь) і «берагчы»...

І тут Мішка, які ўвесь гэты час вытарашчваўся ў адну кропку, раптам устаў і накіраваўся да дзвярэй.

— Ты куды? — успудзілася Маша.

Той не адказаў, але Антоха з Лёляю па засяроджаным Мішкавым твары ўжо зразумелі адказ.

— Стаяць! — крыкнуў Антоха і схапіў яго за руку.

Лёля з адчайным віскам павіснула на другой руцэ. Маша і Сеўка праз хвіліну далучыліся да спроб спыніць Мішку.

З тым жа поспехам яны маглі б паспрабаваць спыніць гружаны таварняк. Мішка ішоў наперад, не зніжаючы хуткасці. На каманды Антона, угаворванне Сеўкі з Машаю і віск Лёлі ён не рэагаваў. Толькі каля самага краю басейна прыпыніўся і, прамармытаўшы: «Я сам...», скінуў сяброў з сябе. І тут жа, без лішніх слоў, ступіў у ваду. Не скочыў, а менавіта ступіў, узняўшы кучу пырскаў. Лёля ледзь было не кінулася следам, але яе ўтрымаць у Антохі сіл хапіла.

— Пачакай! — крыкнуў ён Лёлі ў самае вуха, і тая застыла ад нечаканасці.

— Нікому не скакаць! — загадаў Антон. — Сочым за сітуацыяй! Скачам па маёй камандзе ўсе разам і выцягваем...

Ён хвіліну змагаўся са спакусай сказаць «Любу», але ўсё-такі прамовіў:

— ...хаця б Мішку.

Ніхто не спрачаўся, усе напружана сачылі за тым, што адбывалася ў вадзе.

Мішка, як аказалася, не надта добра плаваў. Па-сабачы ён дабраўся да раздзяляльнага каната і павіснуў на ім. Увесь гэты час Люба з таямнічым выглядам кружыла наўкол яго.

— Салодзенькі ты мой! — праспявала яна, спыняючыся проста насупраць Мішкі. — Сам прыйшоў, разумненькі...

Люба ціхенька рассмяялася, быццам зазвінеў крыштальны гейзер. Антоха і Сеўка міжволі пацягнуліся да яе, але атрымалі сінхронныя аплявухі: Сеўка ад Машы, Антон — ад Лёлі. Мішку не было ад каго атрымаць аплявуху, але ён неяк трымаўся.

— Любка! — сказаў ён цвёрда. — Вылазь. Я па цябе.

— Ну вядома, — адказала Берагіня. — Ты ж мой... Ты заўжды будзеш толькі мой...

Яна, злёгку варухнуўшы хвастом, падплыла бліжэй і пяшчотна правяла кончыкамі пальцаў па мокрых Мішкавых валасах. Ён сціснуў зубы і ўчапіўся ў канат так, што костачкі пальцаў пабялелі.

— Я не твой, — амаль прасіпеў ён. — Але я за табою. Гэта ты мая! Я — Бер, ты Берагіня...

— Дурненькі! — Люба пакруціла галавой, не то асуджаючы, не то са спачуваннем. — Ты проста не разумееш, ад чаго адмаўляешся... Нічога, зараз ты адчуеш, які салодкі пацалунак Берагіні...

У Антохі нават на адлегласці круцілася галава, але штурхель Лёлінага локця трошкі яго працверазіў.

— Падрыхтавацца! — скамандаваў ён упаўголаса і крышку прысеў.

Астатнія таксама падрыхтаваліся, каб імгненна кінуцца ў ваду. Але тут здарылася незразумелае.

— Не! — цвёрда сказаў Мішка. — Ты не Берагіня. Ты — Люба. І я цябе адсюль дастану.

Люба, якая ўжо склала вусны для пацалунку, знерухомела ў нерашучасці.

— Не, — прамовіла яна не надта ўпэўнена, — я Берагіня...

— Калі ты Берагіня, — з адчаем сказаў Мішка, — дык я Бер! І можаш мяне ўтапіць! Але ты ведай, што я Любу кахаю! Зразумела?! А ніякую не Берагіню! І ішлі б гэтыя багі...

Апошнія словы вырваліся ў Мішкі відавочна міжвольна. Люба замерла, нават не стуліўшы вуснаў. А Мішка зароў ад бяссілля, адарваўся ад каната, ухапіўся за Любу... і сам прыціснуўся губамі да вуснаў русалкі. Яны так і пайшлі на дно, абняўшыся.

— За мною! — крыкнуў Антоха і першым даў нырца...

...Калі яны падцягнулі Мішку і Любу да борціка, усе глядзелі толькі на Любчыны ногі.

Ногі, а не хвост...

## ЭПІЛОГ

І пачалася чацвёртая чвэрць.

Ва ўнутраным двары гімназіі сабраўся журботны натоўп. Такой жалобы тут не было з таго часу, калі ў мінулым годзе аб’явілі, што вучыцца давядзецца ўвесь чэрвень. Тады новаўвядзенне, да шчасця, адмянілі. Цяпер гора гімназістаў было непадробным, а страта незваротнай і незаменнай.

Дуба не было.

Чалавек пяцьсот стаялі ў двары, астатнія віселі ў вокнах і амаль са слязамі на вачах глядзелі на неабдымны пень дыяметрам метраў шэсць. Здавалася, што ён займае паўдвара. Цалкам пустога, лысага і агідна сонечнага двара.

— Кажуць, гэта было самае старое дрэва ў свеце, — усхліпнуў нехта.

— Тры дні пілавалі, кажуць... Каб вынесці праз вароты.

— Звезлі кудысьці. Батанікі нейкія. Вывучаць будуць...

— А я на ім слова непрыстойнае выразаў...

— Ну вось, цяпер і батанікі яго ведаць будуць...

Празвінеў званок на ўрок, але ніхто з гімназістаў не зрушыў з месца. Праз некалькі хвілін у дворык уляцеў дырэктар.

Мікалай Іванавіч прапхнуўся да пня, агледзеў прысутных, зірнуў на іхнія пахмурныя твары і... адным скачком заскочыў на пень.

— Так, — пракашляўся ён, — наша гімназія панесла цяжкую страту...

Нехта хіхікнуў.

— Так, нам усім тужліва, — працягнуў дырэктар, — але ў гэты журботны час мы ўсе павінны быць разам.

Хіхіканне ўзмацнілася.

— Я прапаную сабраць на школьным сайце ўсе фотаздымкі нашага дарагога дуба. А таксама аб’явіць конкурс малюнкаў і сачыненняў на тэму «За што я любіў наш дуб».

Усе засмяяліся.

— Я рады, што вы павесялелі, — сказаў дырэктар, — таму што нам тут было не да смеху... Вокны, што выходзяць у двор, давялося мяняць практычна ўсе.

— А чаго ён паваліўся? — запытаўся худзенькі хлопчык-пяцікласнік.

— Ад старасці, — адказаў Мікалай Іванавіч. — Відаць, час яго прыйшоў. Галіны спілаваць не маглі, а ўсярэдзіне, аказваецца, было агромністае дупло. Пад уласным цяжарам і паваліўся. Але вось чаму менавіта цяпер... Загадка. Пэўна, ён наўмысна чакаў канікулаў, каб не пакалечыць каго-небудзь з вас.

— Ён нас любіў, — хныкнула дзяўчынка-васьмікласніца.

— Ну не тужыце, — сказаў дырэктар, — асноўную частку дуба мы пакінулі ў сябе, так што цяпер напэўна зможам зрабіць з яго што-небудзь для нашай гімназіі.

— Давайце абярэгі зробім, — прапанавала Лёля, выходзячы з ценю.

— Што зробім? — запытаўся нехта з натоўпу.

— Абярэгі. Напрыклад, таблічкі на дзверы ў кабінет. Яны нас ахоўваць будуць.

— Ад двоек? — зарагатаў хтосьці.

— Ад глупства, — адрэзала Лёля.

— Выдатная ідэя! — сказаў дырэктар. — Будуць яшчэ — агучвайце. А зараз мітынг памяці дуба аб’яўляю закрытым.

— Не-е-е, — пранеслася па двары.

— На ўрок! — жалезным голасам сказаў дырэктар.

Гімназісты пацягнуліся ў школу.

— Дарэчы, — дадаў Мікалай Іванавіч, — мы знайшлі ў двары два маладых дубкі. Як іх раней не заўважылі, не зразумела, відаць, за старым не бачылі. Гэта родныя дзеці нашага старога дуба.

— І дзе яны?

— Мы доўга думалі, і вырашылі перанесці іх з унутранага двара гімназіі. Сямікласнікі начале з Волкавым і Сонцавай узялі іх пад сваю апеку і абяцаюць высадзіць непасрэдна сёння. Так што беражыце, палівайце, даглядайце і мілуйце.

Усе канчаткова павесялелі, загаманілі і пайшлі на ўрок.

* * *

— Гэта белы дуб! — упарта сказала Маша. — Бачыш, у яго кара светлая?

Сеўка закаціў вочы.

— Маш, — цярпліва прамовіў ён, — светлы дуб мы перасадзілі з усходняга боку гімназіі, а гэта — чорны!

— Ты нічога не памятаеш! — Маша склала рукі на грудзях. — Б'ёмся аб заклад, гэта белы?

— Добра, — нечакана пагадзіўся Сеўка, — давай запытаемся ў надзейнага сведкі. Васька!

Але Васька, які з незалежным выглядам цягнуў кудысьці кавалак каўбасы, гэты зварот да яго не ўзяў пад увагу. Наадварот, кінуўшы кароткі позірк за плячо, ён прыбавіў ходу. За ім, пагрозліва трасучы ручніком, неслася Ніна Канстанцінаўна.

— Стой, зараза! — крычала яна, разумеючы, што безнадзейна адстае.

Кот, апісаўшы на павароце складаны піруэт, укруціўся ў кусты. Ніна Канстанцінаўна, цяжка дыхаючы, спынілася.

— Кожны дзень нешта з кухні крадзе! — паскардзілася яна. — Як пралазіць — не магу ўцяміць! Усё зачыняю на тры замкі... І куды яму столькі ежы? Яго ж і так усе агулам адкормліваюць, мызу ненаедную!

— Можа, ён частуе каго-небудзь? — падміргнуўшы Машы, выказаў здагадку Сеўка.

— Каго? — недаверліва ўдакладніла загадчыца сталоўкі. — Кацянят?

— Ну, напрыклад... — Маша зрабіла выгляд, што задумалася. — Напрыклад, русалку!

Ніна Канстанцінаўна падціснула губы і паважна рушыла ў сталоўку. Калі яна адыйшла дастаткова далёка, Сеўка і Маша дружна разрагаталіся.

— Не бачу прычын для весялосці, — данёсся з кустоў голас Ваські.

— Вась! — схамянулася Маша. — Ты нам скажы: гэта белы дуб ці чорны? Тут Пярун ці Кашчэй?

— Не скажу, — горда адказаў кот. — Па-першае, вы бестактоўна каменціруеце маё асабістае жыццё...

— Даруй-даруй-даруй! — забалабоніла Маша, а Сеўка пакаянна склаў рукі на сэрцы.

— ...А па-другое, якая розніца? — закончыў Васька. — Белы хрэн за чорную рэдзьку не саладзейшы!

* * *

Антоха ўляцеў у кабінет за хвіліну да званка. Не паспеўшы ні з кім павітацца, плюхнуўся за парту, машынальна прамармытаўшы: «Добры дзень, кабінетавікбацюхна».

Толькі ўзяўся за падручнік, як ён зараз жа разгарнуўся на патрэбнай старонцы.

— Дзякуй, — зноў машынальна сказаў Антон. — Як, зноў пра славян?

— Сёння праверачная праца па тым, што праходзілі раней, — сказала Лёля. — Не перажывай, адзнакі, сказалі, ставіць не будуць. Так, вуснае апытанне.

Антон адарваўся ад падручніка і агледзеў клас.

Сеўка з Машкаю сядзелі за першай партай і ледзьве не ўпіраліся ілбамі адно ў аднаго, чыталі нейкую таўшчэзную кніжку. Мішка з Любаю за апошняй партай уткнуліся кожны ў свой сшытак, але рук пад партай не разнімалі. Трэба прызнаць, што ў Любкі засталося ў абліччы нешта ад русалкі. Вочы свецяцца, валасы неяк незвычайна рассыпаны па плячах... Антон хутка сабраў рэчы і перабег за парту да Лёлі, шуганууўшы Воўку Белаглазава.

— Слухай, а іх не дражняць? — запытаўся ён, кіўнуўшы галаваю ў бок апошняй парты.

— Спрабавалі, — хіхікнула Лёля.

Тут у клас уляцеў гісторык, забалабоніў нешта пра тое, што трэба асвяжыць у памяці веды.

— Ну, хто нам раскажа пра тое, што адбывалася на тэрыторыі нашай краіны ў X—XI стагоддзях?

Машка з Сеўкам ўзнялі рукі адначасова.

— Будзеце разам адказваць? — запытаў гісторык.

— Можам і разам! — сказала Машка і пачала. — X стагоддзе — гэта вельмі смутны час...

— ...перыяду раннефеадальнай манархіі ў Кіеўскай Русі... — уставіў Сеўка.

— ...у канцы X стагоддзя наўгародскі князь Уладзімір Святаславіч спустошыў Полацк, забіў Рагвалода, які княжыў там, гвалтам узяў за жонку яго дачку Рагнеду і далучыў горад да сваіх уладанняў...

— ...у 1020 годзе полацкі князь Брачыслаў, унук Уладзіміра Святаславіча, напаў на Ноўгарад і на зваротным шляху яго дагнаў наўгародскі князь Яраслаў Мудры, і на рацэ Судоме войска князя Брачыслава было разбіта, сам жа ён збег, пакінуўшы палонных і ўсё нарабаванае...

— Вы што, да алімпіяды рыхтаваліся? — запытаўся злёгку ашалелы ад такога бадзёрага рапарту настаўнік.

— Не, мы проста займаліся на канікулах. Дадаткова, — сказаў Сеўка.

— Так жыццё склалася, — чамусьці прамовіла Маша і дадала. — А потым была бітва на Нямізе!

— А яшчэ прыкладна ў гэты ж час з’явілася «Кароткая руская праўда»! — паведаміў Сеўка.

— Ну-тка, ну-тка, і што вы пра яе ведаеце? — усміхнуўся Мацвей Ільіч.

— Зараз прачытаю! — сказаў Сеўка і дастаў мабільнік.

Ён хутка знайшоў фотаздымак і пачаў чытаць.

— А куды гэта ты глядзіш? — здзівіўся гісторык.

— Ды ў мяне тут... Фотаздымак... — замямліў Сеўка.

А Мацвей Ільіч з цікаўнасці зазірнуў яму праз плячо.

— Ого! — сказаў ён і павялічыў фота. — Ого!.. — сказаў ён яшчэ раз і задумаўся.

Клас зацікаўлена прыціх.

— А на камп’ютар я магу гэта скачаць? — запытаўся настаўнік.

— Ага... Не... — муляўся Сеўка.

— Дзівосна зроблена, — захапіўся гісторык, — проста цудоўна... Адкуль гэта ў цябе?

— А гэта мы, Мацвей Ільіч, забаўляліся на канікулах, — не разгубілася Маша. — Мы сабраліся ўшасцярых, і вырашылі зрабіць такую фотку... Каб яе можна было за сапраўдную прыняць. Уяўляеце, фотаздымак XI стагоддзя? — Маша нервова хіхікнула.

— Дзівосна... — Мацвей Ільіч працягваў разглядваць фотаздымак. — Усе шасцёра, дзённікі на стол. Стаўлю па «дзясятцы»! Гэта дзіва нейкае... Выключная ілюзія аўтэнтычнасці... Вось так жывеш і не ведаеш, што ў вас такія таленты...

* * *

Пасля трэцяга ўрока сёмыя класы, як звычайна, уляцелі ў сталоўку і ашаломлена спыніліся. Звычайна грозная, можна нават сказаць, раз'юшаная Ніна Канстанцінаўна сёння ўсміхалася так, што падыйсці было страшна.

— Яна што, з дуба звалілася? — запытаўся Воўка Бурундукоў.

— Хутчэй дуб на яе, — прашаптала Інка Сямёнава.

Побач з Нінаю Канстанцінаўнай стаялі Антон, Лёля, Машка і Сева і наперабой гаманілі.

— У нас самая лепшая сталоўка ў горадзе!

— Гэта таму, што вы ў нас ёсць!

— Калі б не вы, мы б сюды і не прыходзілі...

— Рукі памыйце, — скамандаваў Антон тым, хто ўвайшоў, — і з сённяшняга дня наша сталоўка аб'яўляецца школьным рэстаранам.

— Дык бы і кармілі прыстойна... — забубнілі гімназісты.

— Усё будзе, гарантуем, — сказаў Антон, — толькі ёсць такія-сякія ўмовы. Уваходзячы, вітаемся, за ежу кажам дзякуй...

Гімназісты засмяяліся. Але некаторыя ўсё-такі пайшлі мыць рукі. І нават прывіталіся. І на вялікае здзіўленне тых, хто праігнараваў гэты заклік, як толькі ўсе расселіся за сталамі, з розных канцоў сталоўкі пачалі даносіцца крыкі захаплення:

— Вой, мой любімы суп!

— Я найбольш за ўсё на свеце люблю такія катлеты!

— Сам ты катлета, гэта адбіўная!

— Усё роўна смачна!

Талеркі імкліва апаражняліся.

— А дабаўка ёсць? — нясмела запытаўся нехта са старшакласнікаў.

— Вой, даражэнькія вы мае, як прыемна вас карміць, — прашчабятала Ніна Канстанцінаўна і папраўіла прычоску. — Зараз, зараз, мілыя, зараз мае харошыя...

— Яе падмянілі? — запытаўся аднакласнік у Антона і паспрабаваў прысесці побач з ім.

— Стоп! — выцягнуў руку Антон. — Тут занята.

— Кім?

— Дамавіком, — спакойна адказала Лёля. — Зоймеш яго месца — ён табе ў суп наплюе.

Хлопчык недаверліва падаўся назад, але спрачацца не стаў, перасеў.

— Так ужо і наплюю, — пачулася з-пад стала, — быццам мне гэта трэба. Соль з цукрам перастаўлю, толькі і ўсяго...

— Дзякуй, Ніна Канстанцінаўна, — гучна сказала Лёля, паднімаючыся з-за стала, — дзякуй, бацюхна Сталавік! — дадала яна шэптам.

І з цяжкасцю стрымалася ад смеху, калі пабачыла, як аднолькава схіліліся ў паклоне сапраўдная загадчыца сталоўкі і яе паменшаная копія.

* * *

Увайшоўшы ў спартыўную залу, Антон з сябрамі міжволі збіліся ў гурт — усё здавалася, што са змрочных куткоў з'явіцца чорна-белае воінства. Але потым распаволіліся, шэптам прывіталі Залавіка, і пачалася звычайная фізкультура. Яна была адзначана ўсяго адным незвычайным здарэннем: Мішка ўпершыню ў жыцці пераскочыў праз казла. І толькі Антон з Лёляю заўважылі, што казёл ў момант скачка трошкі падсунуўся, дазволіўшы Мішку праз сябе пераскочыць.

— Залавік? — шэптам запытаўся Антон у Лёлі.

— Магчыма, Залавік... Хоць мне здаецца, што цяпер усе звяры будуць падпарадкоўвацца Мішку. Нават гімнастычныя.

— Малайчына, Беркін! — пахваліў Аркадзь Іванавіч. — Вы ў мяне хутка будзеце супер-каманда! Не дзеці, а арлы!

У гэты момант ён вельмі быў падобны на Залавіка, які нядаўна на гэтым жа месцы ганарыўся сваімі арламі. Лёля і Маша пырснулі смехам у далоні.

— Што смешнага ў арлах? — насупіўся настаўнік фізкультуры.

— Спыніцеся! — шэптам абарваў дзяўчынак Антон. — Лепш скажыце, ці праўда, што Мішка ў заапарк ездзіў, спрабаваў з мядзведзем размаўляць?

Лёля зноў ціхенька засмяялася, згодна ківаючы. «І ў гэтай русалчын смех, — падумаў Антоха, адчуваючы, як па спіне забегалі прыемныя дрыжыкі. — Заразілася, ці што?»

* * *

На ўрок хіміі Сеўка бег падскокам. За час канікул у яго з'явілася шмат ідэй, якія цяпер трэба было абмеркаваць з дасведчанымі людзьмі. Альбо з дамавікамі.

— Разумееш, — скардзіўся Сеўка Антоху, — раней я ведаў, што існуюць законы захавання, я ведаў, што магчыма, а што не, і на падставе гэтага рабіў высновы. Але цяпер жа я ведаю, што можна і без законаў... І я цяпер усё як нанова чытаю, у мяне столькі задум...

Антон толькі галавою ківаў, ён не тое, што задум, ён слоў, якімі сыпаў Сеўка, не разумеў.

Мар'я Іванаўна, заламаўшы ад хвалявання рукі, чакала, стоячы каля дошкі.

— Я хачу паказаць вам вопыт, — дрыжачым ад хвалявання голасам сказала яна.

— Уууу... — пачулася ў класе.

Вучні тут жа пачалі абмяркоўваць, як лепей сесці, каб, калі што, хутчэй выбегчы з класа ці вылезці ў акно.

— Не хвалюйцеся! — прамовіла Лёля. — Я думаю, усё ў вас атрымаецца.

І Лёля непрыкметна сунула пад парту акраец хлеба, які імгненна знік.

— Дзякуй, — ціха сказала Мар'я Іванаўна, — я, праўда, хвалююся. У мяне нейкія дзіўныя здарэнні ў кабінеце. З аднаго боку — гэтая пляма на стале з'явілася пасля канікул. Як быццам тут палілі нешта. А з другога, у падсобцы нехта навёў ідэальны парадак. Я проста не ведаю, што і думаць...

— А яшчэ вам дзверы змазалі, — хіхікнула Люба.

— Дзверы? А і праўда! — усклікнула настаўніца. — А я і не заўважыла... Добра, давайце пачнем урок.

Настаўніца ўзяла колбу, наліла ў прабірку бясколерную вадкасць, запаліла спіртоўку, не гледзячы, адставіла колбу на край...

— Хімічок, — зашыпеў Сеўка, — калі ты яе выпусціш...

Колба ціхенька папаўзла да сярэдзіны стала...

* * *

Антон Волкаў стаяў і глядзеў на родную гімназію.

Ён ведаў, што ўсё скончылася добра, што Машына маці так і не даведалася, што нібыта ў іх начавала Люба. Ведаў, што Любка на наступны ж дзень выйшла на трэніроўкі (во сіла волі! Антоха б у жыцці больш да басейна не падышоў бы), а праз некалькі дзён выйграла нейкія суперкрутыя гарадскія спаборніцтвы. Кажуць, плавае цяпер, як рыбіна, трэнер яе ледзьве не на руках носіць.

Усе ў яе пытаюцца, што з ёю здарылася, а яна задумліва ўсміхаецца і перабірае свой медальён. А Мішка адганяе кавалераў, якія гатовы скокнуць за ёю ў ваду, як толькі Люба з'яўляецца ў басейне.

Антоха ведаў, што Машка запісалася на фехтаванне, што з мамаю яна змагла неяк так паразумецца, што маці цалкам прасякнулася, засела за тэорыю і цяпер здзіўляе ўсіх знаёмых веданнем нюансаў гэтага «нежаночага» віду спорту. Сваю руну Машка таксама не здымае, так і носіць на ланцужку паверх школьнай блузкі.

Антон сціснуў у руках сваю бірульку. «Цікава, — падумаў ён, — усім іхнія руны спатрэбіліся. Любцы, Машка ў нас цяпер «агонь», Сеўка натхненнем «ветру» проста захлёбваецца, Лёля заўжды была Лёляю, а я? Чаму мая руна мне не дапамагае?»

Гэтыя Антонавы разважанні парушыў вокрык:

— Гэй, малы!

— Хто малы? — узняў галаву Антон і пабачыў дзесяцікласніка, з якім калісьці паспрачаўся, што паваліць дуб.

— Чуеш, — хлопец патаптаўся з нагі на нагу, — ты гэта... Карацей, чаго тады на сход не прыйшоў?

— Спаў, — буркнуў Антон.

І гэта было часткова праўдай. Мала таго, што ён спаў, ён яшчэ і зусім забыўся пра сход.

— А ты гэта ... — зноў забубніў хлопец. — Карацей... ну, у натуры... як ты яго... таго...

— Узрыўчатка. Суперновая. Эксклюзіў. Ніякіх слядоў, — адрапартаваў Антон і наважыўся ісці.

— Ну крута, ведаеш, — сказаў хлопец.

— Крута было, — пагадзіўся Антон і ўздрыгнуў.

— А наконт пендаля... Які ты мне... цяпер... павінен даць...

Тут старшакласнік канчаткова стушаваўся.

— Забыліся! — працягнуў яму руку Антоха.

Хлопец з відавочнай палёгкай схапіў Антонаву далонь і патрос яе.

— Ну ты, чувак, карацей, калі што, ты ведай... Мы за цябе! Калі хто сунецца, дык прыходзь...

Антон усміхнуўся, агледзеў дзесяцікласніка, у думках уявіў яго ў паядынку з Перуном. («Ну што, Пярун, біцца будзем, прыкінь, які прыкол!»)

— Дзякуй, — усміхнуўся ён, — сам спраўлюся!

Ён мацней сціснуў сваю руну. «Яна мне яшчэ спатрэбіцца, — зразумеў Антон. — Яшчэ ўсё жыццё наперадзе...»

Маладзенькі дубок каля школы (чорны? ці белы?) ухвальна зашумеў.

***Пісьменнікі-пачаткоўцы спрадвеку з павагай глядзяць на сваіх старэйшых калег (за рэдкім выключэннем, канечне). Нечаму ў іх вучацца, пераймаюць, часам нават капіруюць. Пакрысе літаратурная моладзь сталее, ператвараючыся ў настаўнікаў для наступных пакаленняў. Але кожны, нават самы тытулаваны і заслужаны пісьменнік, памятае свой першы крок да Парнаскіх вяршынь — сваю першую публікацыю.***

***У гэтай рубрыцы мы будзем знаёміць вас не толькі з дэбютнымі творамі вядомых сёння паэтаў і празаікаў, але і распавядаць, як гэтыя тэксты з'явіліся, на што быў патрачаны першы ганарар і як змянілася пасля публікацыі жыццё маладых на той час беларускіх літаратараў...***



***Людміла Рублеўская*** *— аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў, прозы, эсэ. Больш за 20 кніг яна выпусціла ў свет. І што самае галоўнае, вялікая колькасць зробленага зусім не ўплывае на якасць (як часта бывае). Мова пісьменніцы лёгкая, вытанчаная, шляхетная — сапраўдная беларуская мова.*

*Але пачынала пісаць Людміла Рублеўская па-руску, і не проста пачынала, але і дасягнула значных поспехаў у гэтай справе...*

«Выходзіў такі ўсесаюзны часопіс "Рабочая смена" (пазней стаў называцца "Парус"). Ён быў вельмі папулярны, меў мільённыя тыражы. І калі там надрукавалі на разварот маю падборку — гэта было яшчэ да Літаратурнага інстытута *(пісьменніца вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве)* — як пайшлі да мяне лісты! Са ўсяго Саюза. Хтосьці нават адшукваў у Мінску маю маму, каб выказаць ёй падзяку за такую дачку.

А вось беларускай пісьменніцай мяне можна лічыць ад кастрычніка 1987 года, калі я надрукавалася ў часопісе "Маладосць". Тады аддзелам паэзіі загадвала Яўгенія Янішчыц. Але я была дзяўчына сціплая, сарамлівая, і вершы мае па рэдакцыях насіў муж — Віктар Шніп. Ён жа пасля вадзіў мяне знаёміць з рэдактарамі, у тым ліку і да Янішчыц. Памятаю, яна была заўжды энергічная, з усмешкай... Але не адкрытая ўсяму свету — трымала адлегласць.

Некаторыя з тых вершаў я забракавала. Хаця адзін з іх Алесь Савіцкі неяк прачытаў мне на памяць. Значыць, тое, у чым ёсць зерне, не прападзе: яно заўжды вяртаецца.

Іншыя вершы я перадрукоўвала. Напрыклад, “Караткевічу”. Гэта, можна сказаць, мой маніфест. У час яго напісання я вучылася ў Літаратурным інстытуце і пераходзіла канчаткова на беларускую мову. Рабіла выбар, а ён сапраўды існаваў: я мела публікацыі на ўсесаюзнай мове, перспектывы — самыя маляўнічыя, шмат чаго мне абяцалі... І гэты верш адлюстроўвае мае ваганні, “экзістэнцыйныя пакуты”.

*У. Караткевічу*

**Мяне шпурляюць хвалі, хвалі, хвалі...**
**У думках свету заблукала я.**
**Чужыя хваляць... Ну, а сэрца паліць**
**Мая Ітака — Беларусь мая.**
**Мяне шпурляюць пад чужыя зоры.**
**Мяне не навучылі іх чытаць.**
**І расчыняе душы мора, мора...**
**Вось і маю жадае адабраць.**
**На сініх кроснах выткана забвенне.**
**На сініх кроснах тчэцца прыгажосць.**
**Я ведаю, вярнуцца — не збавенне.**
**Забыты гаспадар — нязваны госць.**
**І аб каменні родныя разбіцца**
**Не дадзена! І стогны у вушах.**
**«Нічога я не памятаю!» Быццам**
**Кішэнь абрабаваная — душа.**
**А колькі нас, пакутных Адысеяў,**
**Забыўшы шлях да родных астравоў,**
**Хто у чужую глебу зерне сеяў,**
**Хто у чужое неба рос травой!**
**Хто ноччу сніў пакутлівыя спевы,**
**А днём у кніжках лжывых іх шукаў...**
**О, колькі нас, гаротных Адысеяў,**
**І колькі ў свеце безыменных траў!**
**Мая Ітака! Хвалі, мовы, словы...**
**І гнеў багоў.**
**Дакладней, гнеў магіл.**
**І коцяцца не зоры, а галовы**
**Над шляхам паратунку і тугі.**

*«Маладосць» № 10, 1987 г.*

Дарэчы, на фотаздымку я ў сукенцы, у якой была на другі дзень вяселля. А яшчэ цікава, што ў тым жа нумары была і падборка мужа. Так што гэтая нізка — амаль вясельны падарунак».

Мінула больш за дваццаць гадоў з моманту публікацыі першых беларускамоўных вершаў Людмілы Рублеўскай. Выдадзена больш за 20 кніг. Але кардынальных змен за гэты час не адбылося. Не таму, што паэзія Л. Рублеўскай не развівалася, не зведала нейкіх метамарфоз ці ўплываў, не пераасэнсоўвалася аўтаркай... «Нельга кансервавацца ў адным стане, — кажа сама аўтарка. — Гэта для пісьменніка верная смерць. Гэта значыць, што ты спыніўся.»

Справа ў тым, што ўжо першая падборка была сталая. Кожнае слова — узважана і пераўзважана, кожны радок выказвае саспелую думку. І разам з тым вялікая праца над словам не робіць вершы цяжкімі для засваення. Часам здараецца, што чым больш ты думаеш, тым менш лёгкасці застаецца ў радках. Яны пачынаюць грузнуць пад сваёй жа вагой, перастаюць дыхаць і ўрэшце камянеюць, ператвараючыся ў мёртвыя сентэнцыі. Але гэта не наш выпадак. Вершы Рублеўскай не падобны да непад'ёмных валуноў; яны больш нагадваюць віртуозна высечаныя з граніту скульптуры: лёгкія, вытанчаныя — але трывалыя.

І гэта — у 1987 годзе. Пра сённяшні ж дзень ці варта гаварыць? Тая ж лёгкасць, тая ж вытанчанасць. А яшчэ (што вельмі значна для паэзіі) — тут ёсць нерв.

Драматызм. Тэатральнасць у найлепшым значэнні гэтага слова. Сапраўдная жаночая паэзія. Дазволю сабе адзначыць, што ёсць вялікая розніца паміж паэзіяй жаночай і, выбачайце, «бабскай». Жаночая паэзія вострая, бы лязо, яна казыча нервы, ад яе пераймае дыханне. Так, як ад сцюдзёнай крынічнай вады. Глынуў — і ўсё ўнутры зайшлося, здаецца, вось-вось сэрца стане — але ж не, перачакаў, выдыхнуў і жывеш далей. Але адчуванне запамінаеш назаўжды. Паэзія ж «бабская» не мае той свежасці — яна нагадвае цёплую ваду з прысмакам хлоркі. Піць можна, але непрыемна. Наогул, для такога тыпу вершаў добра пасуе азначэнне, вынайдзенае маладым творцам Арцёмам Кавалеўскім — «соплі-воплі».

Але вернемся да Людмілы Рублеўскай. Што яшчэ прываблівае ў яе паэзіі? Несумненна, зварот да Антычнасці. Узяць хаця б кнігу «Шыпшына для Пані». Тут мы знойдзем Харона і Стыкс, Афіны і Рым, Крыт і Мінатаўра... Можа, гэта адвечная туга кожнага паэта (не блытаць з графаманам!) па залатых часах сусветнай культуры? Зразумела, што мінулае заўжды будзе здавацца лепшым за тое, што маем. Аднак, думаецца, Антычнасць для паэта — нешта кшталту Эдэма для звычайнага чалавека. І чым больш грашыць чалавек, тым мацней ён прагне патрапіць у Райскі сад. І чым больш адрываецца ад традыцыі паэт, тым мацней яго будзе цягнуць да Гамера...

Поплеч з антычнымі матывамі — барока. Высакародныя рыцары — ля ног шляхетных паненак, ружы — на руінах, у гняздзе салаўя — павук. Змрочнае хараство. І зноў жа — туга... Кожны ўбачыць сваё. Я ж бачу моцную настальгію па даўняй Беларусі (тое ж можна адчуць і ў Антычнасці, калі адкінуць імёны ўласныя і адштурхоўвацца толькі ад вобразаў), па той магутнай, «ад мора да мора» Беларусі, марай пра якую жыло не адно пакаленне нашай інтэлігенцыі.

У вянок Паэзіі разам з лаўровымі лістамі Антычнасці і чорнымі ружамі барока ўплятаюцца дзікія кветкі паганства. І гэта пры тым, што біблейскія матывы таксама маюць месца. У паэтаў наогул вельмі яскрава прасочваецца спрадвечнае беларускае дзвюхвер’е. І калі хрысціянства выяўляецца свядома, як сведчанне высокай духоўнай культуры, то язычніцтва жыве глыбей, у падсвядомасці. Такая вось літаратурная канстанта.

Аднак пры ўсёй любові Людмілы Рублеўскай да Бацькаўшчыны, мы не сустрэнем у яе ніводнага заклікавага верша, кшталту: «Гэй, да неба! Гэй, да зор!» Такімі лозунгавымі радкамі даволі часта грашыць літаратурная моладзь. І з’ява гэтая непазбежная, бо неадрыўная ад маладога ўзросту. З часам «бурапеннасць» мінае,ператвараецца ў сталыя развагі. Як заўважыў аднойчы Пятро Васючэнка. «Ні ў адной літаратуры свету няма столькі заклікавых вершаў, колькі ў беларускай: ужо некалькі пакаленняў паэтаў спрабуюць так абудзіць беларуса. А трэба проста пісаць добрыя вершы».

Што і робіць Людміла Рублеўская.

***Падрыхтавала Анастасія ГРЫШЧУК***

# ПАД’ЕСЦІ ПА-КУПАЛАЎСКУ!

***Хто не любіць пад’есці ўсмак? Няма такіх! Нават пісьменнікі, якія робяць выгляд, што акрамя ежы духоўнай ім больш нічога не трэба, на самай справе не супраць паласавацца кілбасой альбо духмянымі дранікамі. Бывае, засядзе пісьменнік за твор, піша сабе ўвесь дзень пра родную зямельку, а потым, калі надыходзіць час вячэры, яго натхненнем пачынае кіраваць страўнік. Вось тады і выходзяць з-пад пяра цэлыя оды стравам, якія ўжо чытача пасля прымушаюць глытаць слінкі або ўставаць з канапы і вучыцца гатаваць!***

***«Маладосць» прапануе Вашай увазе хіт-парад з пяці смачных апісанняў — з рэцэптамі!***



**1 месца** прысуджаем класіку нашай паэзіі. Летуценнік Янка Купала знаходзіў рамантыку і ў макавым малацэ з мёдам.

А макавае малако,
Засалоджанае мёдам,
Пілі смачна, ажно цякло
Па губах іх мімаходам.

А закусвалі мёд і яду
Гаспадыньскай ласкай удзячнай
Тут жа дзьмуў дудар у дуду,
Каб было піць-есці смачна.

*Янка Купала «Безназоўнае»*

## МАКАВАЕ МАЛАКО

► ***400 г маку;***
***паўшклянкі мёду (альбо цукру).***

*Насыпаць мак у місу, заліць кіпнем, перамяшаць і пакінуць на 15 хвілін. Зліць ваду і зноў заліць кіпнем, перамяшаць, пакінуць на 30 хвілін, ізноў зліць. 2—3 разы перамалоць у кухонным камбайне, ужываючы вельмі вострыя нажы, пакуль макавая маса не набудзе крыху белаваты колер ад соку. Ускіпяціць 1,5 літра вады і заліць мак, дадаць мёд або цукар і пакінуць у халодным месцы. Можна таксама дадаць молаты міндаль, разынкі і г. д.*

Крыніца — http://www.catholic.by

**2 месца** з павагай аддаем найвыдатнейшаму майстру слова, знаўцу беларускіх традыцый і прыхільніку смачных вясковых страў, Якубу Коласу! Чытаючы «Новую зямлю», можна і язык праглынуць! Да прыкладу, апісанне ламанцаў-праснакоў адразу ж пераносіць думкі ад рабочага стала да кухоннага...

А там ламанцы-праснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну, як калодкі —
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш — абліжыся.

*Якуб Колас «Новая зямля»*

## ЛАМАНЦЫ-ПРАСНАКІ З МАКАВЫМ МАЛАКОМ

► ***1 ст. лыжка цукру;***
***1 шклянка мукі;***
***2 лыжачкі алею; соль.***

*Замясіць крутое цеста: расчыніць цукар у ¼ шклянкі цеплаватай вады, змяшаць з мукой, алеем, дадаць солі, замясіць, даліваючы цеплаватай вады, калі трэба. Раскачаць у квадратны пласт каля 1 см таўшчынёй. Выкласці на пасыпаную мукой бляху, нарэзаць нажом на квадраты або ромбы шырынёй 4 см. Запячы (ці, хутчэй, падсушыць) у духоўцы пры 160 ˚С, каб цеста набыло залаціста-карычневы колер. За 3—4 гадзіны да свята заліць макавым малаком (гл. рэцэпт вышэй). Падаваць у глыбокіх талерках, як суп.*

*Крыніца — http://www.catholic.by*

3 месца дастаецца Нілу Гілевічу і яго каўбасе! Гэты ўрывак нібы тэлепартуе нас на вясковае свята, да прыгожых кольцаў каўбаскі, якія можна есці... метрамі!



А побач — зірк! — як цуд, як казка —
З каляндрай, з перцам, з часнаком —
Ляжыць вясковая каўбаска,
Таксама ўвітая дымком!

К таму ж падсохла на гарышчы —
Дык толькі плеўка шапаціць!
Умэнт кальцо з паўметра знішчыў —
Адно раз'ятрыў апетыт!

*Ніл Гілевіч «Родныя дзеці»*

## КАЎБАСА З ПЕЧАНІ

► ***600 г печані;***
***100 г сала;***
***2 цыбуліны;***
***25 см свіной кішкі;***
***1 ст. лыжка тлушчу; соль.***

*Падрыхтаваную печань і сала нарэзаць дробнымі кубікамі, дадаць пакрышаную цыбулю, соль, перамяшаць. Гэтым фаршам напоўніць старанна прамытую кішку. Каўбасу адварыць, а затым абсмажыць на тлушчы.*

*Падаць з варанай бульбай і салёнымі агуркамі.*

*Крыніца: Рэўтовіч Т. У., Рэўтовіч У. І. Пакаштуйце — смачна. Мінск, «Полымя», 1993.*

4 месца пакінем Лукашу Калюгу і яго блінцам, якія спакусяць любога.

«На сняданне былі ў іх сягоння кашныя бліны. Масла, што за вялікі пост было з добрую клёцку крышан жонка загарнула, за вялікдзень — за першыя тры дні — усё разышлося. Адно што здор крыху дзярэ мяккія, таўстыя, як пампушкі, кашныя бліны, а так і ім добра мазаць. А што са здору крыху дух цяжкі — не бяда баркаўчанскаму чалавеку: звык ён змалку да ўсяго цяжкага. Ды не так маслам, не так здорам, як сваім языком бліны мазаць быў спрыцен гаравы Змітра. Ім ён як мазне, дык і няма: віда-віда блін у пастцы прападзе».

*Лукаш Калюга «Нядоля Заблоцкіх»*



## МАННА-АЎСЯНЫЯ БЛІНЫ

► ***1 шклянка аўсяных шматкоў;***
***1 шклянка маннай крупы;***
***500 мл кефіру;***
***3 яйкі;***
***2 ст. л. цукру;***
***1/2 ч. л. соды;***
***1/2 ч. л. солі;***
***3 ст. л. раслiннага алею.***

*Змешваем у місе манныя крупы і аўсяныя шматкі. Заліваем іх кефірам, перамешваем і пакідаем на 2 гадзіны.*

*Яйкі ўзбіваем у місу.*
*Дадаем соль, цукар і соду.*
*Уліваем алей, вымешваем (цеста атрымліваецца не вельмі густое). І пячом блінцы.*

*Крыніца: http://forum.say7.info/topic14551.html*

5 месца адрозніваецца ад астатніх. Уладзімір Караткевіч крыху абразіў куццю. Але зрабіў ён гэта, канечне, не са злосці — ва ўсім вінавата задума твора! Таму завяршаем наш хіт-парад ажно двума рэцэптамі куцці, каб не крыўдзіць пані Калядную Страву.

«І толькі распісная міска з куццёй, на якую ніхто не звяртаў увагі (З рысу. Куцця з рысу — цьху!), ды жмутом сена, падкладзеным пад ражок абруса (пад увесь нельга: келішкі будуць стаяць няроўна, паб'ецца крышталь), сяк-так нагадваюць у першыя хвіліны, што гэта не «міжсабойчык». Потым абавязкова знойдзецца госць, які прыкінецца п'яным да быдлячага стану і пачне тое сена жаваць, чым выкліча ўхвальны смех і воплескі...»

*Уладзімір Караткевіч «Калядная рапсодыя»*



**КУЦЦЯ ЗВЫЧАЙНАЯ (ТРАДЫЦЫЙНАЯ)**

► ***2 шклянкі ячных круп;***
***5 шклянак вады масла па гусце; соль.***

*Перабраць крупы, прамыць, адкінуць на друшляк, даць сцячы. Заліць вадой у вялікай місе і пакінуць на ноч. Зліць ваду. Укінуць у рондаль з кіпячай падсоленай вадой і варыць, пакуль крупы не набрыняюць. Зліць лішнюю ваду. Запякаць у духоўцы пры 160 ˚С каля 40 хвілін. Падаваць з маслам, сытой і макавым малаком.*

**КУЦЦЯ З ЦУКАТАМІ**

► ***2 шклянкі ячных або пшанічных круп (цэлае зерне);***
***1,5 шклянкі маку;***
***1 шклянка цукру;***
***8 лыжак мёду;***
***100 г разынак;***
***100 г лясных арэхаў;***
***100 г цукатаў з цэдры апельсіна;***
***1 шклянка смятаны.***

*Старанна прамыць крупы, заліць вадой у рондалі. Давесці да кіпення і варыць на малым агні 35—40 хвілін, пакуль крупы не набрыняюць. Насыпаць мак у рондаль, заліць 2 шклянкамі кіпню, перамяшаць і давесці да кіпення, зняць з агню і астудзіць (2—3 гадзіны). Зліць ваду і перамалоць у кухонным камбайне, дадаць цукар і зноў перамалоць. Змяшаць адвараныя крупы, мак, мёд, разынкі, арэхі, цукаты і смятану. Астудзіць да пакаёвай тэмпературы.*

*Крыніца — http://www.catholic.by*

**Смачна есці і чытаць, панове!!!**

***Падрыхтавала Алена БОСАВА***

d

# ПА БЕЛАРУСІ З «РАДЗІМАЗНАЎСТВАМ»

Нядаўна атрымаў у падарунак кнігу Алеся Карлюкевіча «Радзімазнаўства» з аўтографам. Прачытаў, потым перачытаў і вырашыў напісаць некалькі слоў пра гэта выданне. Не таму, што адзін з раздзелаў новай кнігі ён прысвяціў мне, а таму, што Алесь робіць вартую ўвагі і пашаны справу. Мы разам некалі, яшчэ школьнікамі, пачыналі друкавацца ў часопісе «Бярозка» і ў газеце «Піянер Беларусі» (цяпер «Раніца»). Тады, у савецкі час, не вельмі шмат было газет і часопісаў, куды маглі прабіцца са сваімі творамі хлопцы і дзяўчаты, асабліва з правінцыі. Многія, як і Алесь Карлюкевіч, сталі вядомымі пісьменнікамі, журналістамі, палітыкамі, выдаўцамі. Пасля школы лёс нас раскідаў па былой вялікай краіне. Алесь пасля школы паехаў вучыцца ў Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча. Потым працаваў ваенным журналістам, а я паступіў у Белдзяржуніверсітэт. І толькі праз пэўны час, калі з далёкіх і нялёгкіх вайскова-журналісцкіх дарог сябра вярнуўся ў родную сталіцу, мы сустрэліся ў Мінску. З Мінска да яго вёскі Зацітава Слабада на Пухаўшчыне — рукой падаць. Таму ён асеў у сталіцы, а я паехаў на Слонімшчыну — сваю радзіму. Але гэтыя дзвесце кіламетраў, якія аддзяляюць Слонім ад Мінска, не перашкода для сяброўства. Я сачу за тым, што піша і выдае Алесь Карлюкевіч. І калі ён паспявае ўсё — дзіву даюся.

Некалі ў прадмове да кнігі «Чаканне Айчыны» (1998) Уладзімір Саламаха назваў Алеся Карлюкевіча чалавекам, які стварае «ўласны “фрэскавы” вобраз Радзімы». І гэта сапраўды так. З такіх краязнаўчых фрэсак-нарысаў складаецца і кніга пра мясціны і асобы Беларусі, якую аўтар шчыра назваў «Радзімазнаўства».

Радзімазнаўства — значыць пра Радзіму, пра родны край. Гартаю першыя старонкі выдання і выпраўляюся ў падарожжа ад Ашмян да Сіняўкі. Колькі мясцін апісаў аўтар, колькі згадаў асоб, якія ўнеслі вялікі ўклад у гісторыю нашай Бацькаўшчыны. Шкада толькі, што ў кнізе адсутнічаюць і геаграфічны паказальнік, і імянны. А яны былі б дарэчы. Тым не менш, кніга Алеся Карлюкевіча атрымалася фундаментальнай як з боку краязнаўца-даследчыка, так і з пункта гледжання географа-турыста.

«Радзімазнаўства» Алеся Карлюкевіча — пра сівую даўніну і сённяшні дзень роднай зямлі, пра яе ўнікальныя мясціны і, вядома ж, пра таленавітых людзей. Гаворачы пра Бярозу-Картузскую, аўтар, напрыклад, прыгадвае таленавітага драматурга Міколу Арахоўскага, які рана пакінуў гэты свет. У 1990-х гадах пра Міколу шырока пісалі, ставілі яго п’есы «Ку-ку», «Машэка» на сцэнах беларускіх тэатраў. Цяпер Алесь ізноў нагадаў пра гэтага творцу.

Апісваючы Валожыншчыну, аўтар кнігі знайшоў некалькі слоў і пра Пятра Бітэля, які ў сталінскіх лагерах пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча. Але акрамя перакладаў, Пятро Бітэль напісаў і пакінуў нам цудоўныя гістарычныя паэмы «Замкі і людзі», «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага», «Памятны верасень», шэраг вершаваных аповесцей.

Прыгадаў літаратар і краязнаўчага пісьменніка (тэрмін, здаецца, упершыню ўвёў Алесь Карлюкевіч) Яраслава Пархуту, які быў родам з Івацэвіцкага раёна. Яраслаў Сільвестравіч застаўся ў маёй памяці ўлюбёным у свой край чалавекам. Я быў з ім добра знаёмы, мы шмат разоў вандравалі па Слонімшчыне, Пружаншчыне і Івацэвіччыне. Кнігі падарожжаў Яраслава Пархуты — гэта

помнікі сапраўднага краязнаўства. Адна з іх — «Зямля бацькоў нашых» — нават была адзначана ў 1992 годзе Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Кастуся Каліноўскага. Алесь Карлюкевіч з'яўляецца прадаўжальнікам справы Яраслава Пархуты. Праўда, розныя гэтыя два аўтары. Яраслаў Пархута — больш празаік, адметнасць якога ў паэтычных замалёўках, развагах. Алесь Карлюкевіч — чысты краязнавец, энцыклапедыст, даследчык. Але справа, якую рабіў Яраслаў Пархута, і тая справа, якую робіць Алесь Карлюкевіч, адна — радзімазнаўства.

Апісваючы Навагрудак — першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага — аўтар шчыра распавядае пра Тамару Вяршыцкую і Міколу Гайбу, якія працуюць на карысць роднага краю. Апісваючы Навагрудчыну, Алесь Карлюкевіч згадвае і Аляксея Анішчыка (Андрэя Чэмера). Шмат кніг напісаў гэты чалавек, але найвялікшай каштоўнасцю з'яўляецца яго выданне пра Навагрудскую беларускую гімназію. Магчыма, нехта пасля напіша манаграфіі пра Клецкую беларускую гімназію, пра гімназіі ў Свіслачы, Будславе, Вільні, Нясвіжы, Радашковічах...

Гартаючы кнігу Алеся Карлюкевіча, спыняю свой позірк на старонках, дзе аўтар апісвае Случчыну. І, згадваючы вядомых случчан, аўтар не мінае і Рыгора Родчанку. Гэта быў чалавек, які мала пражыў на гэтым свеце, а мог зрабіць для беларускага краязнаўства вельмі шмат. Ён паспеў выдаць дзве цудоўныя кнігі — «Старэйшая школа Беларусі» і «Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: нарыс жыцця і творчасці». Меў рацыю Рыгор Барадулін, калі напісаў такія радкі: «Радзімазнаўства — мудрая навука, яе адолець могуць дзівакі…» На дзіваках сёння і трымаецца наша краязнаўства, наша радзімазнаўства.

Адзін з нарысаў кнігі прысвечаны рускай пісьменніцы Яўгеніі Таратуце. Лёс яе бацькі звязаны з Беларуссю. Але я хачу сказаць не пра гэта, а пра іншае. Яўгенія Таратута, як піша Алесь Карлюкевіч, з'яўляецца аўтарам кнігі «Каштоўныя аўтографы», што выйшла ў Маскве ў 1986 годзе. Дарэчы, у Расіі шмат выходзіла падобных кніг. На Беларусі, на вялікі жаль, падобных кніг няма. Толькі ў 1994 годзе гродзенскі гісторык Валерый Чарапіца выдаў нарысы пра аўтографы даследчыкаў гісторыі Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя пад назвай «Са скарбніцы кніжных паліц». А вось пра аўтографы беларускіх пісьменнікаў на нашых паліцах кніг няма. А гэта таксама праца краязнаўцаў.

З асаблівай цікавасцю я прачытаў артыкулы пра Адама Мальдзіса, Алеся Марціновіча, Міхася Міцкевіча, Алеся Пальчэўскага і Тамару Цулукідзе, Пятра Альхімовіча, Уладзіміра Ліхадзедава. Адчуваецца, што пісаў іх аўтар вельмі шчыра. Яны і лёгка чытаюцца, наводзяць на роздум, запамінаюцца. Як казаў некалі Фёдар Янкоўскі — добра, правільна, па-гаспадарску.

Звесткі, змешчаныя ў кнізе «Радзімазнаўства» Алеся Карлюкевіча, — наша агульная гістарычная спадчына, якая з кожным годам патрабуе ўсё большай і большай увагі, павагі і вывучэння. І спадзявацца трэба не толькі на аўтара «Радзімазнаўства», але і на ўсіх краязнаўцаў, літаратараў і гісторыкаў Беларусі. Хто ж, калі не мы?..

***Сяргей ЧЫГРЫН***

d

# ГІСТОРЫЯ — ГЭТА ВАЖНА!



***Заўсёды цікава зазірнуць у мінулае, даведацца пра тое, як жылі нашы продкі, як абаранялі свае сацыяльныя правы. Гэта сёння існуюць розныя дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, якія займаюцца падобнымі праблемамі. А як было раней, да прыкладу, напрыканцы XIX ст.?***

***Пра гэта ведае выкладчык кафедры ўсеагульнай гісторыі і сусветнай культуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта Надзея Маторава. Летась яна абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму: «Дзейнасць органаў самакіравання Беларусі ў сацыяльнай сферы (1875—1914 гг.)». А яшчэ Надзея — стыпендыят Спецыяльнага фонду Прэзідэнта. Тэма яе даследавання надзвычай важная для краіны — уваходзіла ў Дзяржаўную комплексную праграму навуковых даследаванняў «Гісторыя беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры».***

**— Надзея Сяргееўна, сфера Вашай дзейнасці — сацыяльная гісторыя. Патлумачце, калі ласка, чым займаецца гэтая навука?**

— Сацыяльная гісторыя — гэта гісторыя грамадства або гісторыя сацыяльных структур, працэсаў і з'яў. З аднаго боку, гісторыя канкрэтных сацыяльных з'яў: дзяцінства, заняткаў у вольны час, сям'і, хвароб, лячэння. З другога — рэканструкцыя мінулага нашых гарадоў, мястэчак і вёсак. З трэцяга — даследаванне псіхалагічнай матывацыі і менталітэту.

Што да выбару тэмы даследавання, гэта атрымалася не зусім запланавана. Пры паступленні ў аспірантуру я дакладна ведала, што хацела б займацца гісторыяй Беларусі XIX — пачатку XX стст. Прычым мяне асабліва цікавіла менавіта сацыяльная гісторыя, зусім новы накірунак у сучаснай навуцы. У выніку пасля кансультацый з маім навуковым кіраўніком **Аляксандрам Генадзьевічам Каханоўскім**, я абрала тэмай сваёй дысертацыі дзейнасць органаў гарадскога самакіравання Беларусі ў сацыяльнай сферы ў перыяд з 1875 па 1914 гг. Я вельмі ўдзячна і майму кіраўніку, экспертам па маёй дысертацыі. Гэта прафесар **Іван Фёдаравіч Раманоўскі** і дацэнт **Валянціна Анатольеўна Цяплова**.

**— Вядома, што гарадское самакіраванне на тэрыторыі старажытнай беларускай дзяржавы мае даўнюю і адметную гісторыю. Пра гэта гавораць гарадскія ратушы ў шматлікіх беларускіх гарадах і мястэчках. Што змянілася з уваходам нашай краіны ў склад Расійскай імперыі?**

— На гэтае пытанне складана адказаць некалькімі сказамі, але паспрабую. Працэс станаўлення індустрыяльнага грамадства ў Беларусі быў цесна звязаны з ростам гарадскога насельніцтва. Так, з 1870 па 1910 гг. яно павялічылася з 386 564 да 879 492 чалавек, або ў 2,3 разы. Адначасова змянялася функцыя гарадоў, ускладнялася іх інфраструктура. На тэрыторыі Беларусі магутны імпульс развіццю мясцовага самакіравання быў нададзены гарадской рэформай 1875 г.

Але ў выніку паўстання 1863—1864 гг. і спецыфікі этнаканфесіянальнай структуры насельніцтва дадзеныя працэсы ішлі са значным спазненнем. У сувязі з гэтым дзейнасць органаў гарадскога самакіравання і нарматыўных актаў, якімі рэгламентавалася дзейнасць гарадскіх улад, мелі свае спецыфічныя асаблівасці ў параўнанні з цэнтральнымі губернямі Расійскай імперыі. Агульнарасійская рэформа гарадскога самакіравання 1870 года, якая пачала праводзіцца на тэрыторыі Беларусі з 1875 года, прывяла да стварэння прынцыпова новых па сваім характары і задачах устаноў. Функцыі органаў гарадскога самакіравання былі кардынальна зменены. У дарэформенны перыяд іх паўнамоцтвы зводзіліся да збору падаткаў і забеспячэння своечасовага выканання гараджанамі павіннасцей. Пасля рэформаў планавалася, што на першы план выйдзе вырашэнне выключна муніцыпальных задач. На гарадскія ўлады былі ўскладзены абавязкі па правядзенні і фінансаванні мерапрыемстваў у сферах народнай адукацыі і аховы здароўя, па паляпшэнні санітарна-гігіенічнага стану гарадоў, арганізацыі супрацьпажарнай бяспекі і аказанні дапамогі людзям, пацярпелым ад пажараў, а таксама па стварэнні дабрачынных устаноў, кантролю за іх дзейнасцю.



*Віцебск. Вакзальная вуліца. Канец XIX ст.*

**— Скажыце, пры даследаванні сацыяльных рэформаў на перыяд з 1875 па 1914 гг. на што Вы звярнулі асаблівую ўвагу?**

— На вывучэнне дзейнасці органаў гарадскога самакіравання Беларусі па дапамозе насельніцтву ў крызісных сітуацыях, а таксама на развіццё сістэм аховы здароўя і народнай адукацыі. Ва ўмовах адсутнасці земскіх устаноў гарадскія ўлады ўзялі на сябе асноўную ролю ў фарміраванні элементаў грамадзянскай супольнасці і асноўных сацыяльных патрэб.

Нягледзячы на тое, што інстытуты самакіравання ў беларускіх гарадах дзейнічалі ў межах манархічнага дзяржаўнага ладу і ва ўмовах абмежавання дзяржаўнай палітыкі на тэрыторыях заходніх губерняў, аб'ектыўна яны садзейнічалі трансфармацыі феадальнага грамадства ў буржуазнае. Быў зроблены пераход да індустрыяльнай цывілізацыі. Аднак натуральны працэс фарміравання грамадзянскай супольнасці быў парушаны Першай сусветнай вайной і рэвалюцыяй 1917 года.

**— Цікава было б даведацца пра канкрэтныя справы і праграмы, якія былі ініцыяваны гарадскімі ўладамі таго часу.**

— У шэрагу беларускіх гарадоў органы самакіравання выдзялялі сродкі на ўтрыманне дзіцячых прытулкаў, якія знаходзіліся пад апекай дабрачынных арганізацый. Да прыкладу, дзіцячы прытулак «Яслі» ў Мінску атрымліваў грашовую дапамогу, якая да 1913 года складала 1 000 рублёў, а ў 1914 — 1 200. За кошт гэтых сродкаў забяспечвалася значная частка выдаткаў прытулку. А Пінская дума, разгледзеўшы ў 1902 годзе прапанову ўезнага кіраўніка дваранства Я. П. Ільяшэнкі пра адкрыццё прытулку для бедных дзяцей пастанавіла выдаткоўваць на яго ўтрыманне штогод па 300 рублёў з моманту адкрыцця. Па ініцыятыве прыватных асоб і дабрачынных устаноў у беларускіх гарадах былі адчынены першыя прытулкі і школы для навучання глуханямых дзяцей і догляду за імі. Органы гарадскога самакіравання дапамагалі ім матэрыяльна. Так, аднаму з іх, прыватнаму аднакласнаму вучылішчу І. А. Васютовіча Віцебская дума



*Мінск. Гандлёвыя рады на Нізкім рынку. Пачатак XX ст. (Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі).*

з 1898 года выдзяляла штогод грошы ў памеры 100—150 рублёў. Гарадскія ж улады Мінска, Ігумена, Гарадка, Слоніма і Ліды вырашылі бясплатна адвесці ўчасткі зямлі памерам ад 1 да 10 дзесяцін, каб абсталяваць там школы-хутары для глуханямых дзяцей. Існавалі праекты і арганізацыі стаматалагічнай амбулаторнай медыцынскай дапамогі. Да прыкладу, у 1899 годзе Бабруйская гарадская дума разгледзела заяву дантыста Г. А. Раговіна, які прапанаваў адчыніць гарадскую зубную амбулаторыю. Гарадскія ўлады ідэю ўхвалілі і даручылі Управе скласці праект статута. У маі 1900 года амбулаторыя была адчынена. А ў пачатку 1901 года яе паслугамі карысталіся ўжо 1 304 гараджаніна, з іх 876 бясплатна. У Віцебску ў 1908 годзе дантыст М. С. Майзель таксама падаў заяву, у якой прапаноўваў адчыніць спецыяльны кабінет і арганізаваць там бясплатную стаматалагічную дапамогу малазабяспечанаму насельніцтву. Але Санітарная камісія, якая разглядала гэтую заяву, вырашыла, што больш правільным будзе арганізаваць стаматалагічную дапамогу пры амбулаторыях на грошы гарадскіх улад.

Таксама ў выглядзе дапамогі малазабяспечаным гараджанам, органы самакіравання Беларусі выдзялялі грашовую дапамогу і прадукты, арганізоўвалі продаж тавараў першай неабходнасці па зніжаных коштах. Так, у Полацку ў 1880 годзе, у Віцебску ў 1907, у Ігумене ў 1908 было закуплена і прададзена па зніжцы для бедных зерне, мука і хлеб. Мінская гарадская дума ў 1908 годзе адкрыла хлебапякарню і гандлёвыя лаўкі для рознічнага продажу мукі, каб такім чынам перашкодзіць стыхійнаму павелічэнню коштаў.

**— А ці дапамагалі гарадскія ўлады ў галіне народнай адукацыі, ці такая дапамога абмяжоўвалася толькі хворымі дзецьмі?**

— Органы гарадскога самакіравання не толькі аказвалі матэрыяльную падтрымку пачатковым навучальным установам, але і ўводзілі стыпендыі для навучэнцаў. Шырокае распаўсюджанне гэтая практыка атрымала ў пачатку XX ст. Так, у гонар святкавання стогадовага юбілею Айчыннай вайны ў 1912 годзе спецыяльныя стыпендыі былі прызначаны гарадскімі ўладамі Віцебска, Мінска, Брэста, Мсціслава, Оршы, Гарадка, Навагрудка, Мазыра. У гонар адмены прыгоннага права ў 1911—1912 гадах сродкі на стыпендыю выдаткавалі ў Мінску, Пінску, Мазыры і Оршы. Памер стыпендый, як правіла, раўняўся памеру платы за навучанне ў пэўнай навучальнай установе. Атрыманне стыпендый не абавязвала навучэнца ні да якай адказнасці ў далейшым. У шэрагу выпадкаў стыпендыі прызначаліся ў гонар дзяржаўных дзеячаў. Прыкладам, у 1911 годзе Гродзенская дума вырашыла ўвесці ў гонар П. А. Сталыпіна па адной стыпендыі ў мужчынскай і жаночай гімназіях. Стэпендыятаў павінны былі вызначаць гарадскія ўлады. Сустракаліся выпадкі, калі органы гарадскога самакіравання ўводзілі стыпендыі ў гонар найбольш актыўных гараджан. Так, Мінская гарадская дума ў 1910 годзе ўвяла ў мужчынскай гімназіі стыпендыю імя доктара С. К. Свяцціцкага. У мінскім рэальным вучылішчы на сродкі горада былі ўведзены адна стыпендыя імя былога мінскага губернатара князя Н. Н. Трубяцкога і адна — у гонар былога дырэктара вучылішча І. І. Самойлы.

**— Вядома, што ў Вільні — старажытным цэнтры беларускай культуры і дзяржаўнасці — яшчэ ў 1579 годзе быў заснаваны свой універсітэт еўрапейскага**

**тыпу. А ў 1580-м у Полацку стварыўся вышэйшы езуіцкі калегіум, які ў 1812 годзе быў рэарганізаваны ў акадэмію з правамі ўніверсітэта. Існавалі і іншыя вышэйшыя школы. Але пасля ўваходжання нашай краіны ў склад Расійскай імперыі ўсе яны паступова былі скасаваны. Што рабілася гарадскімі ўладамі ў той час для аднаўлення вышэйшай адукацыі?**



*Выпуск вучняў мінскага рамеснага вучылішча 1911 г. (Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі).*

— Органы самакіравання Мінска і Віцебска ў самым пачатку XX ст. прымалі меры для адкрыцця вышэйшай навучальнай установы. Але, калі Віцебская гарадская дума настойвала на ўвядзенне класічнага ўніверсітэта, то Мінская гарадская дума падтрымлівала і іншыя ініцыятывы. Прыкладам, адкрыццё спецыялізаванай вышэйшай установы — камерцыйнага або земляробчага інстытута. Так, у Мінску ў 1901 годзе дума стварыла асобную камісію пад старшынствам гарадскога галавы К. Э. Чапскага для абмеркавання пытання пра магчымасць адкрыцця земляробчага інстытута ў горадзе. Але ніякіх канкрэтных вынікаў гэта не дало. У студзені 1913 года да гарадскіх улад звярнуўся Камітэт лясной біржы з просьбай падтрымаць ягонае хадайніцтва аб адкрыцці камерцыйнага інстытута для выпускнікоў камерцыйных вучылішч беларускіх губерній. Мінская гарадская дума падтрымала ініцыятыву і прыняла на сябе абавязак вылучыць аднаразовую грашовую дапамогу ў памеры 20 тысяч рублёў. Але напачатку 1913 года стала вядома пра адмову ў адкрыцці інстытута.

На паседжаннях Мінскай і Віцебскай дум у 1903, 1906, 1908 і 1913 гадах неаднаразова абмяркоўваліся праекты адкрыцця класічнага ўніверсітэта. Думы накіроўвалі адпаведныя хадайніцтвы вышэйшаму кіраўніцтву, дзе абяцалі выдаткаваць сродкі і зямлю для пабудовы вучэбных карпусоў. Але ні па аднаму з гэтых хадайніцтваў не было прынята станоўчага рашэння. Урад асцерагаўся, што адкрыццё ўніверсітэта ў беларускіх губернях будзе спрыяць сепаратызму на фоне нявырашаных «польскага і габрэйскага пытання». Па-другое, пры адкрыцці новай навучальнай установы ўрад імкнуўся перакласці асноўную частку выдаткаў на органы мясцовага самакіравання, а гарадскія ўлады і Мінска, і Віцебска не мелі дастатковых грашовых сродкаў. Як бачна з адпаведных пастаноў і хадайніцтваў, грошы, неабходныя для адкрыцця вышэйшай навучальнай установы, яны планавалі атрымаць шляхам займаў і крэдытаў.

Аднак на тэрыторыі Беларусі ўсё ж быў створаны філіял вышэйшай навучальнай установы — Аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. Ён быў адчынены ў 1911 годзе пры дапамозе Віцебскай архіўнай камісіі і мясцовых гарадскіх улад. Гарадская дума вылучыла Аддзяленню штогадовую грашовую дапамогу ў памеры адной тысячы рублёў. Аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута стала адзінай навучальнай установай на тэрыторыі нашай дзяржавы напярэдадні Першай сусветнай вайны, якое па складзе навучальнага працэсу можна параўнаць з універсітэтам.

**— Пра што думаеце цяпер?**

— Я планую і надалей працягваць даследаванні розных аспектаў сацыяльнай гісторыі Беларусі XIX—XX стст. У прыватнасці, больш падрабязна вывучыць дзейнасць мясцовых органаў кіравання і самакіравання ў сацыяльнай сферы, гэта значыць, дзейнасць губернскай адміністрацыі і земстваў.

***Гутарыла Ірына КЛІМКОВІЧ***

# САМ САБЕ ВЫДАВЕЦ

***Самвыдат — спосаб неафіцыйнага распаўсюджвання літаратурных, а таксама рэлігійных і публіцыстычных твораў у СССР. Тады копіі ствараліся аўтарам або чытачамі без ведама, а часам і без дазволу афіцыйных органаў. Сёння ж гэта цудоўная магчымасць заявіць пра сябе. Каб выдавацца, ужо не трэба мець пэўны статус, быць членам аб'яднанняў, саюзаў і г. д. Ды і сама «форма» самвыдату змянілася: калі раней гэта былі рукапісныя або аддрукаваныя на машынцы тэксты, то сучасныя тэхналогіі дазваляюць атрымліваць прадукт прыстойнай якасці. Вось толькі некалькі выданняў, якія складаюць сучасны самвыдат Беларусі.***

## «ЛІСТАЙ»

Да свайго 17-годдзя Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» вырашыў зрабіць сабе падарунак — першы нумар газеты «Лістай». Заканамернае пытанне: чаму так позна? Магчыма, гэта звязана з так званай «зменай фармату», але ж нездарма кажуць, што ўсё новае — гэта добра забытае старое. Вось і змена аказалася не зменай, а вяртаннем. Фестываль першапачаткова быў задуманы як паказ фільмаў краін СНД, але апошнім часам ад гэтага адышлі. Пасля вырашылі зноў зрабіць акцэнт на гэтым. Каб патлумачыць такія змены, Ігар Барысавіч прапанаваў студэнтам, якія хадзілі да яго на спецкурсы ў Інстытуце журналістыкі, выдаваць газету.

Вядома, жадаючых пра-цаваць спачатку было мора, але, як гэта часта бывае, у выніку засталося сем аўтараў плюс чатыры фатографы. Цяжэй за ўсіх было, пэўна, галоўнаму рэдактару (Ганне Яфрэменка), бо яе завальіла лавіна працы — накіраваць, сабраць, вычытаць матэрыял і адправіць на вёрстку. Аднак і астатнім было нялёгка — нехта пісаў рэцэнзію да паўночы, нехта вярстаў да світання, каб ранішні нумар быў гатовы своечасова. Наклад у 50 асобнікаў друкавалі сябры і спонсары фестывалю. Электронная версія кожны дзень вывешвалася на сайце «Лістапада», а ў Доме друку можна было запоўніць анкету, і тады газета прыходзіла на e-mail.

Хацелася б, каб газета была пастаяннай спадарожніцай фестывалю.

## «ЁМКО»

Акуратная кніжачка фармату А5, цікавае афармленне і лаканічная назва — як думаеце, што будзе пад вокладкай? «Ёмко» — часопіс кароткай прозы, на старонках якога вы знойдзіце ілюстраваныя апавяданні, навелы, мініяцюры, замалёўкі, нарысы, эсэ, філасофскія зацемкі, прыпавесці, казкі і іншыя віды сучаснай кароткай прозы. Першы нумар пабачыў свет у лютым 2011, другі — праз месяц, а трэцяга пакуль няма. Не такая гэта і лёгкая справа — выдаваць часопіс самастойна. Як распавёў стваральнік і рэдактар «Ёмко» Сяргей Борсук, вярстаецца часопіс на хутары, у 30 км ад Мінска, яго сяброўкай. Ілюстратары таксама знаёмыя. Вядома, яны атрымліваюць сімвалічныя грошы за сваю працу. Але раз на месяц Сяргей ідзе на пошту і адпраўляе «аўтарскія нумары». Пакуль праект некамерцыйны і трымаецца толькі на энтузіязме людзей, якія ім займаюцца. Тым не менш яны пашыраюцца: першы тыраж быў 30 асобнікаў, другі — ужо 85. Наступны нумар мусіць быць тэматычным і «таўсцейшым». Але пасля яго выхаду, прызнаўся Сяргей, «давядзецца ісці шукаць спонсараў, каб часопіс быў такім, якім мы хочам яго бачыць».

Так што пакуль рана шукаць «Ёмко» у кіёсках і кнігарнях. «Пагартаць» яго можна на старонцы ў інтэрнэце (www.emkomag.com) або ў кавярнях Мінска, спіс якіх таксама вывешаны на сайце.

### «ВЕСНІК M@RT.КОНТАКТА»

Пачыналі гэты праект на другім маладзёжным тэатральным форуме «M@rt.кантакт» два энтузіясты — Цімафей Яравікоў і Віталь Шум. Хлопцам не хацелася абмяжоўвацца інфармацыйнымі ўлёткамі, а паколькі ў Віталя быў досвед самвыдату (магілёўскія часопісы «Пад шумок» і «Обморок»), то яны вырашылі стварыць паўнафарматную газету. Спачатку ўсё рабілі самі, потым сталі прыходзіць аўтары — студэнты журфака. Працавалі ў шалёным тэмпе — удзень глядзелі ўсё: праграмныя спектаклі, майстаркласы. Ноччу пісалі, вычытвалі, друкавалі, каб раніцай усё было гатова. Калі часам не паспявалі, выпускалі здвоеныя нумары. Першапачатковы тыраж «Весніка-2007» у 60 асобнікаў праз чатыры гады павялічыўся амаль у тры разы. Заказвалі газету ў друкарнях Магілёва.

Сёння «Веснік» стаў адным з сімвалаў форума са сваімі адметнымі аўтарамі і рубрыкамі.

### «ДЗВЕРЫ»

Ідэя рабіць альманах прыйшла да Мікіты Сідарэнкі і Уладзіміра Галака пасля першага фестывалю аматарскіх тэатраў «Дзверы». Яны ўбачылі, што людзям гэта цікава. Калі з'яўляюцца новыя праекты, значыць ёсць неабходнасць іх асвятляць. А чаму б самім не рабіць часопіс? Хлопцы вырашылі шукаць дапамогі ў студэнтаў журфака і натрапілі на Кацю Карпіцкую і Алену Іванюшанка, якія цяпер — галоўныя рэдактары «Дзвярэй». Першы нумар так і выпускаўся: трыма журналістамі, Мікітам, Вовам і парай фатографаў.

У адрозненне ад вышэйзгаданых выданняў, «Дзверы» на паперы не выходзяць. Яно і зразумела: паспрабуй за свае грошы выдаць 90 старонак, ды яшчэ і каляровых ды на добрай паперы. Кажуць, адна прапанова друкаваць альманах пастуціла амаль адразу ж пасля першага нумара. Але там пайшлі ўмовы: ўводзьце крытыку, уводзьце тое-другое-трэцяе. Не, сказалі «Дзверы», мы так не граем. Мы пішам, што хочам і колькі хочам. Інтэрнэт дае свабоду, а форма выдання, альманах, — незалежнасць ад часу. Аднак, хто ведае, можа быць, мы аднойчы атрымаем магчымасць пагартаць яго старонкі...

*Алена ШАНДРАК*

d

# КНІГА ЖОНКІ ПАЭТА




У літаратуры так павялося, што мастацкія творы, напісаныя мужчынам і жанчынай, маюць розныя «твары», бо адлюстроўваюць жаночы (мужчынскі) спосаб успрымання і асэнсавання рэчаіснасці. Ды і пачуцці знаходзяць у іх сваё выяўленне рознымі, часам, супрацьлеглымі шляхамі. «Кніга жонкі паэта» Алены Белай — гэта спроба паказаць жыццё, лёс чалавека праз прызму бачання жанчыны, жонкі, маці, якая адначасова з'яўляецца выкладчыцай, даследчыцай і паэтэсай.

Характэрная рыса «Кнігі...» — эклектычнасць. Яна паўстае ўжо з першых старонак зборніка: ва ўступе **«Сны аб Беларусі ў канцы XX ст.»** аўтарка лагічна і паслядоўна прапануе ўласнае тлумачэнне некаторым падзеям свайго жыцця, жыцця сваёй сям'і і, яшчэ шырэй, народа. Так, гэта «*не споведзь ідэальнага беларускага інтэлігента»*, гэта хутчэй спроба асабістага асэнсавання і апісання тых працэсаў, якія закранулі лёс нашай краіны і паўплывалі на лёсы і погляды многіх людзей. Ужо ў гэтым разважанні бачыцца схільнасць аўтаркі цвяроза і навукова ацэньваць рэчаіснасць, абгрунтоўваць свае меркаванні.

Паэтычная частка зборніка (напэўна, самая цікавая, бо ў паэзіі пачуцці і эмоцыі перамагаюць навуковае «ratio», тым самым даючы чытачу магчымасць прыгледзецца да асобы творцы, не схаванай за тлумачэннямі, тэорыямі і доказамі) складаецца з дзесяці невялічкіх раздзелаў (у некаторыя з іх уваходзіць па адным вершы), якія маюць на першы погляд дзіўныя назвы: **«Пяшчотнае», «Сузіральнае», «Настальгічнае», «Мінорнае», «Мажорнае»**... але толькі на першы погляд. Гэта часткі паэтычнага «Я» аўтаркі, якія праяўляюцца ў розных абставінах, пад уздзеяннем розных знешніх фактараў.

Зборнік сапраўды эклектычны, бо творы, уключаныя ў яго, спалучаюць рысы розных культур: беларускай, рускай, англійскай:

Я отдала последний цент
За лиха фунт,
Пришла, поставив свой скелет
В твоём шкафу.

Дарэчы, двухмоўе — асаблівасць не толькі зборніка ўцэлым, але і некаторых вершаў:

Пускай не слепит солнце пред закатом
И ощутимее короче путь —
Не варта гэтым сэрца рваць «Калісьці...»,
«Было» і «не было» калькуляваць —
Лепш звыкла крочыць па апалым лісці
І зноў яго банальна рыфмаваць.

Вершы такога кшталту ўваходзяць у раздзел **«Сімфанічнае»**, і ў дадзеным выпадку беларуская і руская мовы ў межах аднаго верша ўтвараюць адзіную шчырую «сімфонію душы» лірычнай гераіні, што гучыць натуральна і да таго ж надае вершам дадатковае адценне дваістасці.

Пры тым, што аўтарка — сучасны чалавек:

Што мне з таго, што звініць жаўрук
Званком не твайго мабільніка?!

Але гучыць у яе творах і рытм язычніцкіх замоў:

Кулі шалёнай,
Дзіды калёнай,
Слязы салёнай,
Ночы бяссоннай
Не кліч Алёнай!

Ёсць тут і апісанне пачуццяў пры дапамозе навуковых тэрмінаў, якія, аднак, дзякуючы сваёй дакладнасці, дапамагаюць цалкам заглыбіцца ва ўнутраны свет лірычнай гераіні:

Ў перспектыве чакання —
Ампутацыя веры,
Амнезія жаданняў,
Асфіксія надзей...

Побач з імі — рамантычныя, узвышаныя вершы:

І ахрыплы ці згаладнелы
Ці прапахлы пылам дарог,
Прывандруеш ты, птах мой белы,
Шляхам Млечным на родны парог.

У «Кнігу жонкі паэта» ўваходзяць і апавяданні, якія расказваюць пра жаночыя лёсы, розныя па падзеях, але падобныя па сутнасці, бо паказваюць пачуцці і перажыванні, падобныя для ўсіх (ці амаль усіх) жанчын: каханне, сям'я, дзеці, любімая праца (апавяданне **«Сублімацыя, або З хронікі маршрута № 7»**, рэалістычнае, поўнае гумару, (сама)іроніі. У ім просты маршрут гарадскога аўтобуса № 7 робіцца неад'емнай часткай жыцця выкладчыка).

Надзвычай арыгінальна, нават нечакана аўтарка заканчвае зборнік. **«Замест эпілогу»** ў ім змешчана рэцэнзія (дакладней, самарэцэнзія) *«суровага самакрытыка, які пажадаў застацца невядомым»*, у якой яна сама выкрывае «заганы» сваёй кнігі як *«факта маскультуры»*. Яшчэ А. де Сент-Экзюперы ў «Маленькім прынцы» пісаў: «Сябе судзіць куды складаней, чым іншых. Калі ты зможаш правільна судзіць сябе, значыць, ты сапраўды мудры». Магчыма, здольнасць да самааналізу і самакрытыкі — вынік уздзеяння Белай-вучонага і Белай-выкладчыка на Белую-паэтку.

Аўтарка сціпла называе сябе «жонкай паэта» і тым самым прызнае, што яе ўласныя літаратурныя здольнасці знаходзяцца ў цені паэтычнага таленту мужа і рэдактара Аляксея Белага. Але «Кніга...» даказвае, што яна самастойны творца, лірычны, самакрытычны, дасведчаны ў навуцы і адкрыты для новых уражанняў, ведаў ды пачуццяў.

***Марына ВЕСЯЛУХА***

d



*Максім ПЯТРУЛЬ*

# МУЖЧЫНА + ЖАНЧЫНА = ?



*Святлана ДЗЯНІСАВА*

***«Якім вы бачыце далейшае развіццё гендэрных адносін?» — спытаў у мяне скульптар Максім Пятруль, калі я прыйшла браць у яго інтэрв'ю. Праўда, пасля гэтага пытання замест інтэрв'ю ў нас атрымаўся дыялог, у якім кожны выказваў тое, што даўно цікавіла і хвалявала.***

**Максім Пятруль:** Дык якім вы бачыце далейшае развіццё гендэрных адносін?

**Святлана Дзянісава:** Я не магу не заўважаць, што большасць людзей абірае шлях, які вядзе да таго, што хутка ці не ўсе будуць адно аднаму палавымі партнёрамі — цяперашнімі, былымі, будучымі... Мне гэта крыўдна. Мне хочацца, каб людзі задумаліся. І калі гавораць пра канец свету 21 снежня 2012 года, я лаўлю сябе на думцы, што мне хочацца, каб гэта быў дзень, калі мы ўсе даведаемся пра сябе нешта важнае, такое, што пераверне ўяўленне чалавека пра сябе і грамадства. Магчыма, гэта падштурхне чалавецтва да шляху духоўнасці. Мне хочацца думаць што праблема гендэрных адносін знойдзе сваё вырашэнне ў гэтым. Можа быць, гэта будзе навуковае адкрыццё, якое прымусіць людзей паглядзець на свае адносіны з процілеглым полам іншымі вачыма. Чаму б не стварыць, напрыклад, добрую кнігу пра вернасць, і каб яна стала бестселерам, роўным хаця б «Коду да Вінчы» Дэна Браўна, каб усе раптам пра яе загаварылі і прыйшлі да высновы, што варта мяняць свае погляды.

**М. П.:** Вы зразумейце, усё зараз выглядае так, быццам традыцыйная сям'я хутка стане непатрэбнай. Людзі пачнуць функцыянаваць як самастойныя адзінкі. Я асабіста імкнуся ставіцца да гэтага не як да нечага кепскага ці хворага, я імкнуся прыняць гэта як дадзенае. Калі мне захочацца завесці сям'ю, я не змагу не думаць пра тое, што праз некалькі гадоў ёй можа прыйсці канец. І што калі ў мяне будуць дзеці, то, магчыма, не я іх буду выхоўваць. Гэта практыка чалавечых зносін. А як вы спраўляецеся з усведамленнем таго, што свет такі? Што калі ваш муж вырашыць ад вас пайсці? І калі ён ад вас пойдзе, то і вы знойдзіце другога? Ці будзеце адна, як быццам ён загінуў на вайне, за каханне?

**С. Д.:** Ведаеце, каханне — такая з'ява, якая нават і пры адсутнасці фізічных кантактаў, як гэта ні дзіўна, існуе.

**М. П.:** Ведаю, ведаю. Але ж бывае, спачатку трапляеш у адносіны, а потым разумееш, што яны табе не патрэбны, што яны перашкаджаюць табе, што яны цябе топяць. Добра, калі пашанцавала. Памятаеце фільм «Той самы Мюнхгаўзен»? Там Янкоўскі гаворыць: «Пашанцуе, знойдзеш добрую жонку — будзеш шчаслівы. Не пашанцуе, спаткаеш дрэнную — станеш філосафам».

**С. Д.:** Да Мюнхгаўзена гэта сказаў Сакрат. І заўважце, варыянт з пошукам новай жонкі ён не разглядаў. Ведаеце, у чым праблема? У тым, што муж і жонка ніколі і нікім не лічыліся роднымі адно аднаму. Чамусьці думкі расстацца са сваёй маці, каб яна ўжо не была маці, ніводзін чалавек не дапускае. Бацька, брат, сястра, бабуля, дзядуля — родныя да веку. А муж і жонка, маўляў, не родныя. І гэта значыць, што іх можна мяняць, ад адных сыходзіць, да іншых прыходзіць... Але нешта мне падказвае, што менавіта муж і жонка найраднейшыя асобы! Калі б у свядомасці людзей гэтая ідэя замацавалася, усё было б іначай. Але праграма па яе замаца-

ванні чамусьці збілася. І гісторыю пра дзве палавінкі аднаго яблыка людзі няправільна разумеюць: не шукаць трэба сваю палавінку, перабіраючы, а стаць адно для аднаго палавінкамі, часткамі аднаго цэлага. Мы дадзены адно аднаму не для таго, каб любіць, а дзеля таго, каб навучыцца адно аднаго любіць. А як навучыцца гэтаму, страхуючы сябе тым, што пры першай сур'ёзнай цяжкасці можна сысці да іншага чалавека?

**М. П.:** Ёсць яшчэ прытча пра Дыяніса, дакладней, пра яго спадарожніка Сілена, якога злавіў цар Мідас і прымусіў гаварыць пра тое, што з'яўляецца найважнейшым для чалавека. Доўга не хацеў гаварыць Сілен. Але ж нарэшце прамовіў: «Не ведаць бы табе, чалавек смяротны, і ўсяму твайму роду, што з'яўляецца для цябе найважнейшым, але калі так хочаш, то скажу. Не быць бы табе ніколі, не нарадзіцца б наогул. А калі нарадзіўся — як мага хутчэй памерці». Вось такая грэчаская легенда. А потым быў прыдуманы Алімп. Усе яго багі — апраўданне жыцця. Я, можа, таксама не жадаў нарадзіцца. Але ж нарадзіўся. І цяпер вымушаны прыстасоўвацца пад абставіны асяроддзя. А яно даволі агрэсіўнае, яно не такое, як у казцы. Мне трэба прымаць гэты свет, і я яго прымаю. Расчароўваюся перыядычна, пазбаўляюся ад некаторых імпрынтаў і разумею, што так, як было ў Савецкім Саюзе, не будзе больш ніколі. Ужо бяруцца шлюбам гомасексуалісты... Ці маглі ўявіць сто гадоў таму, што гомасексуалісты будуць вылучацца ў асобныя ячэйкі грамадства, такія як сям'я? Ніхто не мог сабе такога ўявіць. Але вы лепш адкажыце мне на пытанне: навошта жанчыне мужчына?

**С. Д.:** Мне здаецца, гэта пытанне з ліку тых, якімі не варта нават задавацца.

**М. П.:** Чаму?

**С. Д.:** Каб адказу не шукаць.

**М. П.:** ..?

**С. Д.:** Ёсць пытанні, якія не павінны мець вербалізаваных адказаў.

**М. П.:** Гэта я разумею. Але ж сабе вы неяк на яго адказваеце?

**С. Д.:** Самае дасціпнае, што мне прыходзіць зараз у галаву: мужчына і жанчына адно ў аднаго павінны быць — і ўсё. Канечне, паколькі па адукацыі я біёлаг, я магу сказаць яшчэ, што гэта абумоўлена самой прыродай, а я веру ў яе мудрасць.

**М. П.:** Але ж сям'я — не прыроднае ўтварэнне.

**С. Д.:** Сям'я — гэта буфер. Ведаеце, у хімічным асяродку для даследаванняў заўсёды ёсць рэчыва-буфер. Яно ўводзіцца ў гэты асяродак спецыяльна для таго, каб узаемадзейнічалі тыя кампаненты, якія цікавяць даследчыка, а іншыя не перашкаджалі працэсу даследавання. Мне падаецца, што ідэя існавання сям'і — гэта такі самы буфер. Яна была пасеяна ў нашу свядомасць або падсвядомасць, каб асяродак чалавечага грамадства функцыянаваў правільна. Каб не здаралася: хлопец і дзяўчына любяць адно аднаго і не ведаюць, што яны брат і сястра. Ужо нават і фільмы на гэту тэму сталі здымаць.

Як на вашу думку, чаму апошнім часам так шмат дзяцей нараджаецца з генетычнымі адхіленнямі? Экалогія? Чарнобыль? Ніякі Чарнобыль не вытварыць такое, што робіць з людзьмі іх разбэшчанасць! Многія хваробы — вынік сумяшчэння ў адным арганізме генетычных матэрыялаў з аднымі і тымі ж праблемамі. Сям'я ў класічным, калі хочаце, хрысціянскім разуменні — гэта гарантыя здаровага працягу рода. Вось у чым яе біялагічная роля. А пра сацыяльную мне не так цікава гаварыць.

**М. П.:** Вы хочаце сказаць, што калі сям'і не будзе, то чалавечае грамадства будзе чакаць дэградацыя на біялагічным узроўні?

**С. Д.:** Вас гэта палохае болей, чым дэградацыя духоўная? Эвалюцыя — працэс бясконцы, яна не спынілася на тым моманце, калі чалавек стаў разумным, яна працягваецца і па сёння. І яна, эвалюцыя, натуральна, прадугледжвае далейшае развіццё і ўдасканаленне інтэлекту. Хто ў часы Сакрата ведаў, што такое гены? А сёння можна іх разразаць і склейваць, як папяровыя цацкі. Каб выжыць у выпадку сур'ёзных праблем, дастаткова будзе вынайсці нешта такое, што дазволіць генетычнаму коду прыстасавацца пад тое, што людзі з сабою нарабілі. А магчыма, і сам генетычны код валодае нейкай сістэмай саманастройкі: назапасіўшы крытычную масу дэфектаў, здольных прывесці чалавецтва да пагібелі, ён аднойчы возьме

ды і «перазагрузіцца» — і ўсё будзе добра. Хто ведае? Але асабіста я супраць такога варыянта. Мяняцца павінна свядомасць чалавека, а не генетыка. Мне нават здаецца, што ёсць трывалая сувязь паміж генетычным кодам і ўзроўнем духоўнасці.

**М. П.:** Калі вы як біёлаг сцвярджаеце, што ў дэградацыі традыцыйнай сям'і можна ўгледзець дэградацыю чалавецтва, я вам не надта веру. Бо для таго, каб былі дзеці, не абавязкова брацца шлюбам.

**С. Д.:** Дык і я кажу пра сям'ю не як пра юрыдычную дадзенасць, не пра рэгістрацыю шлюбу, не пра адзнакі ў пашпартах!.. Жывёлы не рэгіструюць свае адносіны, у іх нідзе на пёрках ці на поўсці не напісана, хто чый, але... Пры гэтым, у жывёльным свеце ёсць усё — і адданасць, і вернасць. А тыя, у каго няма адданасці і вернасці, знаходзяцца пад аховай механізмаў, выпрацаваных эвалюцыяй.

**М. П.:** У людзей таксама няма ні адданасці, ні вернасці. Ці можа ж быць так, каб нейкія ахоўныя механізмы спрацавалі і для іх?

**С. Д.:** Хутчэй — не. У экалогіі ёсць такі закон: чым большая верагоднасць пагібелі патомства, тым больш яго нараджаецца. Чаму бактэрыі так актыўна размнажаюцца? Таму што асяроддзе ў дачыненні да іх можа быць вельмі агрэсіўным. Каб захаваць сваю папуляцыю, ім трэба не проста выжыць, але і даць патомства. Гэта адзначае, што ім трэба пладзіцца «з запасам». Тое ж датычыцца мышэй, прусакоў, рыб... А ў чалавека выпадкі нараджэння некалькіх дзяцей адначасова нячастыя.

**М. П.:** Гэта была звычайная з'ява ў сярэднія вякі.

**С. Д.:** Так. У Сярэднявеччы выжыць было нашмат цяжэй, вось і нараджалася больш дзяцей. Цяпер выжыць лягчэй і таму такія выпадкі часцей за ўсё абумоўлены медыцынскімі маніпуляцыямі пры штучным апладненні.

**М. П.:** А як вы, біёлаг, бачыце сям'ю будучыні?

**С. Д.:** Я так разумею, што невялікая колькасць людзей лічыць уступленне ў другі, трэці, чацвёрты, пяты шлюб нечым нездаровым. Наадварот, гэтым часам нават ганарацца. Можна сказаць, што адзін у полі не воін і што непатрэбны анікому развагі пра вернасць — у спрадвечным сэнсе гэтага слова, бо здольнасць не здраджваць мужу ці жонцы ў часавых рамках, усталяваных шлюбам, — гэта не вернасць. Але глабальныя праблемы чалавецтва ніколі не вырашаліся шырокімі масамі.

**М. П.:** Мне усё ж здаецца, што вы закручваеце «галівудскі сцэнар». Я думаю, што дыстанцыйныя шлюбы, калі адзін жыве ў адной кватэры, а другі — у другой і ў гэтых людзей няма нічога агульнага, апроч юрыдычнай сумеснасці...

**С. Д.:** Вы, прабачце, пры гэтым прадугледжваеце, што яны адно аднаму верныя на адлегласці? Ці ў чым сутнасць пытання?

**М. П.:** Не. А вы думаеце, што людзі, якія жывуць на адной тэрыторыі, адно аднаму верныя?

**С. Д.:** Мы вось тут якраз пра гэта і гаворым. Вернасць фактам пражывання на адной тэрыторыі, ясная справа, не гарантуецца. І паўтарыцца мушу, сам шлюб, факт яго рэгістрацыі, заручальныя пярсцёнкі, адзнакі ў пашпартах — гэта не сям'я. Не за гэта трэба перажываць. А за тое, каб у кожнай жанчыны быў свой мужчына і наадварот, і каб былі яны адно ў аднаго — адзіныя.

**М. П.:** Дык гэта ж нешта з жадання валодаць.

**С. Д.:** Не, тут не павінна быць жадання валодаць. Тут іншае...

**М. П.:** Я днямі чытаў нейкую працу для падлеткаў. На жаль, я няшмат чытаў у падлеткавым узросце, дык вось цяпер наганяю. У гэтай працы ўсё якраз вакол прыродных матываў гендэрных адносін круціцца. Аўтар класіфікуе людзей як высакапрыматыўных *(ад слова «прымат»)* і высакарангавых, і тлумачыць механізм прыцягнення жанчын да мужчын. Гэта аднабокі погляд, але ён мае права на існаванне. Бо з-за чаго ўсе няшчасці, пра якія знялі так шмат карцін? З-за таго, што адбываецца канфлікт паміж жаданым і рэальнасцю. Жанчына выбірае сабе мужчыну высакапрыматыўнага, то бок самца, але гэты самец на генетычным узроў-

ні накіраваны на тое, каб апладніць як мага больш самак. Але жанчына хоча ўтрымліваць гэтага самца пры сабе. Для чаго? Як тут біялагічнае ўзаемадзейнічае з чалавечым?

**С. Д.:** Тут не біялагічнае, а псіхалагічнае. Вось вы мне скажыце, чаму жанчына здольна ўзняць вэрхал, калі мужчына не падарыў ёй дыямент? Пры чым тут біялогія? Ён жа ёй на гэтым узроўні не патрэбен. Але ёсць жанчыны, здольныя пайсці на скасаванне шлюбу толькі з-за таго, што мужчына не дорыць ёй дыяменты. І шматлікія мужчыны ад такіх жаночых жаданняў даволі залежныя. Самае цікавае: мужчынам падабаюцца менавіта такія жанчыны.

**М. П.:** Яны падсаджваюць мужчын на сябе. Гэта ізноў пытанне пра высокапрыматыўнасць. Жанчыны ж таксама бываюць высокапрыматыўныя. З іх лезе вонкі ўсё жывёльнае. І жанчыны здольны маніпуліраваць мужчынамі. Мужчыны ж на самай справе слабейшыя. Псіхалагічна.

**С. Д.:** З гэтым я згодна. І гэта толькі таму, што яны разумнейшыя. У мужчыны больш развіты інтэлект, а ў жанчыны інстынкт, толькі таму, што мужчына разумнейшы, ён — слабейшы. А хто тады сапраўдны мужчына? Той, хто скажа: «Ідзі ты лепш каструлі павымывай»?

**М. П.:** (*Смяецца.*) Той сапраўдны, хто проста прамовіць: «Нашаптала Дзева Марыя» — і пойдзе займацца сваімі справамі.

**С. Д.:** Наш чалавек!

**М. П.:** Разумееце, так? Жанчыны ловяць мужчын на іх слабасцях. Мне нядаўна знаёмая прызналася: жанчыне часам хочацца пашкадаваць мужчыну, адчуць побач з сабой слабага чалавека, няздольнага да чаго б там ні было, залежнага ад яе. Я так разумею, што жаночае каханне ўсё ж імкнецца завалодаць. Да мяне жанчыны ставяцца з асцярожнасцю. Яны, магчыма, бачаць, што я не той чалавек, якога можна мяняць «пад сябе». Я вельмі люблю творчасць Такашы Міікі і Ларса фон Трыера. Гэта мае любімыя рэжысёры. У Такашы Міікі ў фільме «Аўдішн» зараджаецца любоў мужчыны да жанчыны. А жанчына вядзе двайное жыццё, і мужчына не разумее, што адбываецца. Потым высвятляецца, што дома ў гэтай жанчыны жыве яе былы... каханак, муж — не важна, у якога адрэзаны рукі і ногі, і ён не жыве, а функцыянуе. Яна яго корміць, шкадуе. Потым прыходзіць да гэтага новага мужчыны і дае яму ў каньяку нешта выпіць. Ён выпівае, падае, ляжыць паралізаваны. Тады яна пачынае адразаць яму ногі. І робіць гэта з замілаваннем. Я люблю такое кіно. Чаму? Я ў ім бачу сябе, сваіх жанчын, якія рознымі спосабамі хацелі б мяне паралізаваць, каб «адпілаваць ногі». Гэта вобразна. Гэта як адрэзаць крылы. І ў Ларса фон Трыера тое ж самае. Я думаю, у гэтым сутнасць жаночая: адрэзаць мужчыну ногі, пасадзіць яго побач з сабой і не адпускаць. Я ведаю вельмі мала закаханых жанчын, якія маглі б адпусціць ад сябе: ідзі, маўляў, куды хочаш. Часцей імкнуцца, каб мілы быў побач ды працаваў на цябе.

**С. Д.:** Мне здаецца, гэта няправільная жаночая псіхалогія. Бо, з майго пункта гледжання, калі біялагічнае і сацыяльнае ў жанчыне гарманічна спалучаецца, то яна сама будзе імкнуцца належаць мужчыне, а не наадварот.

**М. П.:** Гэта, напэўна, было б гарантыяй захавання сям'і. Але ў жыцці ўсё іначай.

**С. Д.:** Літаральна пазаўчора я чула гэтыя словы: не было б зла, не было б і дабра...

**М. П.:** Гэта Лаа-Цзы. Пятае стагоддзе да нашай эры.

**С. Д.:** Значыць, усё нармальна? Усё ў парадку? І пра што мы дзве гадзіны гаварылі? Пацвердзілася толькі, што любая размова з чаго пачынаецца, тым і заканчваецца. У выніку ў Сусвеце не адбываецца нічога новага!

**М. П.:** Безумоўна. Навошта сям'я, я так і не даведаўся. Хіба зразумеў, што на біялагічным узроўні яна не патрэбна. Я неяк у батанічным садзе размаўляў з хлопцам, які даглядае лебедзяў. Іх вернасць, — сказаў ён, — лухта з казак Андэрсана. А мы гаворым пра чалавечую вернасць. Вы разумееце, што гэта малаверагодна?

**С. Д.:** У першым класе я пачула параду, якую запомніла на ўсё жыццё: стаўся да людзей так, як хочаш, каб яны ставіліся да цябе!..

# У ЗАЧАРАВАНЫМ ЦАРСТВЕ ЖАНОЦКАСЦІ

## *Нататкі на палях прозы Алены Брава*

Гэтая пісьменніца ўвайшла ў літаратуру як гаспадар, не як вучань ці госць. З самага пачатку было ясна (успомніце, як адразу было ўсё ясна з Караткевічам у 1956-м), што гэта ўсур'ёз і надоўга. Нягледзячы на пэўную сцішанасць яе літаратурнага амплуа, някідкасць і непрэтэнцыёзнасць, Алену Брава ведаюць, паважаюць, чуюць. А што яшчэ трэба пісьменніку?

Так часта здараецца: Алену Брава ведаюць па тым творы, які для яе найменш характэрны. Маю на ўвазе «Каменданцкі час для ластавак» з аднайменнай кнігі. Вартасці аповесці безумоўныя, але галоўным чынам твор вылучаецца з літаратурнага шэрага своеасаблівым *арыенталізмам*, экзотыкай, што адлюстроўваецца — кубінскімі рэаліямі, побытавымі замалёўкамі, іспанамоўнымі канструкцыямі, якія на кожным кроку ўзнікаюць у «Каменданцкім часе…»; як заморскія спецыі, усё гэта адразу прывабіла чытача і крытыка. Сапраўды, праз пэўную інертнасць беларусы стварылі параўнальна няшмат аповесцей, раманаў ды вершаў на небеларускім матэрыяле. І Алена Брава, са сваім бездакорным пачуццём мовы і ўвагай да дробных дэталяў здолела ў нейкім сэнсе паяднаць арыенталізм Кубы з сацыяльнай псіхалогіяй, паказала адрознасць сусветаў Лацінскай Амерыкі і Усходняй Еўропы, тую ментальную бездань, якая палягае паміж гэтымі народамі.

Другая аповесць барысаўскай пісьменніцы схавалася ў цэнтры кнігі і, нібыта следуючы за сваёй назвай, стаіліся ў кубінскай засені. «Імя Ценю — Святло (гісторыя адной фобіі)», ці не першы твор Алены Брава, які стаўся для майстра тым «правобразам мадэлі», ад якога ён пастаянна адштурхоўваецца, вымушаны вяртацца да варштата яшчэ і яшчэ раз. Тэма, намацаная ў аповесці, з часам становіцца для Алены Брава асноўнай, магістральнай. Па сутнасці, далейшыя творы яе — варыяцыі на гэтую тэму.

Тэма гэтая — псіхалогія жанчыны. Ад «Імя Ценю…» ў кнізе з'явіўся ўраўнаважвальны пачатак, суб'ектыўнае балансавала тут з яркай апісальнасцю, эпічнасцю «Каменданцкага часу…». Гадоў колькі мінула пасля выхаду, і ўсім стала ясна, што лірычны, суб'ектыўны пачатак у Алены Брава ўзмацняецца, і справа тут не толькі ў вершах, якімі інкрустуецца проза. Як вучыць тэорыя, эпічнае імкнецца навонкі, да аб'екта; лірычнае — наадварот, згортваецца ўнутр, паглыбляецца само ў сябе. І тое, і другое аднолькава важна. Пісьменніца абрала другі шлях, унутр, у самыя глыбіні чалавечай свядомасці і падсвядомасці, дзе творцу нязменна чакаюць абстракцыі і абагульненні, сімвалы, архаічныя мадэлі-архетыпы.

І такі выбар — невыпадковы. Бо для прозы, што адлюстроўвае суб'ектыўнае, усё роўна неабходны каркас, на якім будзе трымацца твор. Калі сюжэт не прэвалюе, калі падзейнасць адсоўваецца ўбок, то патрэбны іншы алгарытм пісьма, на які б арыентавалася хада апавядання. Такім іншым шляхам для суб'ектыўнай прозы Алены Брава стала градацыя змены псіхічных станаў, у якія ўключаны апісанні наваколля і ўласна падзеі, побытавыя сітуацыі. Псіхічныя станы, у сваю чаргу, засноўваюцца на архаічных мадэлях падсвядомага, якія паспяхова даследаваліся фрэйдысцкай і постфрэйдысцкай псіхалагічнай навукай. У прозе Брава праз такое ўнутранае паглыбленне вельмі мала дыялогаў, але выпісаны яны даволі рэалістычна і нават натуралістычна. Галоўны акцэнт робіцца на апісанне: плынь свядомасці аўтара паступова змешвае адлюстраванне побыту з эсэістыкай, таму рэаліі, прадметы, з'явы падаюцца вынікам развіцця самасвядомасці гераіні. Эсэістычная плынь

насычаецца амаль навуковай мовай падручнікаў, узнікаюць цытаты, спасылкі, алюзіі, няўласна-простая мова. Падкрэслю, не ад таго, што аўтару бракуе ўласнага досведу: гэта вынік лірызацыі аповеду, калі заглушаецца падзейнасць, сюжэтнасць, і твор змушаны грунтавацца на іншых канстантах.

Я не ведаю, наколькі мэтанакіравана прапрацоўвае А. Брава ўсе гэтыя элементы, аднак пры чытанні раз-пораз падаецца, што яна свядома ідзе на пэўны эксперымент над гераіняй, выпрабоўваючы на ёй загадзя вызначаную мадэль паводзін. Так, Юля з рамана «Менада і яе сатыры» («Незнаёмка, Менада, Параненае Сэрца, Пакінутае Дзіцянё, Дзяўчынка-Дыванок-ля-Яго-Ног — як яшчэ цябе завуць?») пастаянна падкрэслівае ў сабе адну якасць: сюжэт з апавядання Цвейга аб празе «Вялікага Рамантычнага Кахання», ахвярнасці гераіні прайграецца ў творы, як кружэлка, некалькі разоў. Змяняюцца толькі дэкарацыі, знешні выгляд мужчын, пасля — усё пачынаецца зноў.

Раман «Менада і яе сатыры» — наогул вельмі складаная з’ява. Даўней крытык сказаў бы перш за ўсё, што гэты твор больш нагадвае расцягнутую аповесць, аднак, калі арыентавацца на заходні канон рамана, да апошняга «Менада…» якраз падыходзіць. З бахцінскімі трактоўкамі тут можа быць кволае супрацьстаянне: паводле рускага філосафа, раман апавядае пра «становящееся» быццё. У А. Брава раманнае быццё хутчэй статычнае, замкнёнае: яно не змяняецца ў павевах часу. Жанр у яе творах наогул не дужа важны: і апавяданне, і аповесць, і раман аб’яднаны ў агульным эмацыянальным тоне, які і робіцца галоўным структураўтваральным пачаткам. Наваколле як быццам стомленае ад самога сябе. Мастацкая прастора ад таго пакрываецца слоем шэрага пылу, брыдкасці і амаль магічнай негатыўнасці: «З вышыні дзявятага паверха горад бачыцца ёй як тэкст, прычым абсалютна нечытэльны. Блочныя дзевяціпавярховікі, дзіцячыя пляцоўкі, кволыя дрэўцы, густа ўціснутыя паміж дзвюма дарогамі — ускраіннай ды генеральскай (апошняя ідзе ўздоўж палігона), як старанныя крамзолі першакласніка паміж лінейкамі пропісі, не складваюцца ў ніводнае з дарагіх яе сэрцу слоў, меней за ўсё — у славуты займеннік “ЁН”. Зблізу аднолькавыя дамы з панеляў мясцовага будкамбіната здаюцца даўжэзным шэрагам гіганцкіх люстэркаў, пастаўленых адно насупраць аднаго; у выніку гэтага ў міжлюстрэччы нібыта ўтварыўся метафізічны калідор, адкрыты ў нейкае іншае вымярэнне». Каларыт наваколля, характарыстыкі прасторы фактычна застаюцца нязменнымі ва ўсёй прозе Алены Брава (акрамя «Каменданцкага часу для ластавак», з прычын зразумелых). Аднак у той жа час гэта абсалютна натуральна: адзінства творчага метаду і, урэшце, біяграфічнае адзінства з барысаўскім краявідам не можа не ўплываць на аповесць. І гэта таксама майстэрства — убачыць за аконным шклом і апісаць тое, што бачыш, уключыўшы ў кантэкст твора — да месца.

Наогул наконт далучэння. Я ўжо казаў вышэй пра магістральную тэму, але можна меркаваць яшчэ і пра адметную *сагу* Алены Брава, дзе ў новых творах заваёўваюцца неахопленыя надзелы мастацкай рэчаіснасці. Суб’ектыўнае апавяданне не мае на ўвазе зануднай аўтабіяграфіі, аднак сваё праяўляецца таксама. Нельга толькі атаясамліваць апавядальніка з аўтарам, хаця пэўныя паралелі і дапушчэнні падаваць неабходна. Заўважаецца, напрыклад, як ад наўпроставага «я»-аповеду ў «Каменданцкім часе для ластавак» і «Імя Ценю — Святло» Брава пераходзіць да аб’ектывацыі ў іншых: у Юлі з «Менады і яе сатыраў» і асабліва ў бабулі Веры з аповесці «Рай даўно перанаселены» (твор мусіць з’явіцца ў першым нумары часопіса «Маладосць» за 2012 год). Яшчэ далей адсланяецца аўтар у аповесці «Дараванне».

Тая аб’ектывацыя, адштурхоўванне ад «я» не вызваляе, зрэшты, ад галоўнай тэмы. Так, бабуля Вера, вобраз якой можа асацыявацца ў большасці падобных выпадкаў з мудрасцю, важнасцю традыцыі, спрадвечнай беларускасцю, цвёрдым спакойным характарам, — у выніку паказваецца падточанай тымі ж унутранымі комплексамі, жаночымі жаданнямі і падспуднай помслівасцю. Вяршэнства псіхікі нікуды не сышло: гэта вам не рускія «дзеравеншчыкі» — Брава застаецца вернай сваім перакананням: «Мне цяжка ўявіць, як гэта бывае. Моўчкі цярпець трыццаць, сорак, пяцьдзясят гадоў — тэрмін, несувымерны нават з турэмным зняволеннем! — каб атруціць ядам папрокаў дні апошняй, мужавай і сваёй, старэчай немачы… І яна ж бачыла, што тыя разборкі

на краі адпушчанага ім зямнога часу толькі набліжаюць смерць абодвух — але, верагодна, нічога не магла з сабой зрабіць».

У аповесці «Рай даўно перанаселены» ўжо значна цяжэй знайсці цытату ці рэмінісцэнцыю, хаця яны, вядома, ёсць. Папросту змяняецца аб'ект, і метад, ужыты ў «Менадзе…», выяўляецца залішнім і глядзеўся б дзіўным у новым творы: гераіня-старая не мае патрэбы ў літаратуршчыне, яна прагне людскасці. Гэта, бадай, найбольш рэалістычны твор Алены Брава, у тым разуменні, якім узнагародзілі рэалізм крытыкі мінулага і сучаснага старэйшага пакаленняў. Тут крыху сцішаецца аўтарская мускуліннасць, я нават сказаў бы, некаторая грубасць, натуралістычнасць, хоць ад яе, вядома, нікуды не падзенешся. Але бабуля Вера праходзіць тыя ж этапы, тыя ж блуканні па пакутах, як і ўсе астатнія гераіні прозы А. Брава. Асноўная (ледзь не сказаў «улюбёная») тэма — маці і дачка — праходзіць у аповесці ўскоснай лініяй. Фрэйдысцкія матывы сублімацыі таксама адыгрываюць вялікую ролю, аднак першую скрыпку пачынае граць сітуацыя. Мадэрнісцкая неабарочная ўскладненасць праяўляецца хіба ў заўсёдных разгорнутых метафарах і свежых параўнаннях ды эпітэтах: «Тады на вуліцах толькі пачалі з'яўляцца фанабэрлівыя “Ікарусы”, жоўтыя, з даўгімі непаваротлівымі целамі, падобныя да счэпленых паравозікаў. А роднымі для мяне ўсё роўна заставаліся дабрадушныя ЛіАЗы; у вялізным, наскрозь прадзьмутым гаражы аўтобуснага парка, дзе ўсе кіроўцы ведалі мяне па імені і віталі як прынцэсу крыві, я прыціскалася шчакой да сумных конскіх мордаў маіх ЛіАЗаў, гладзіла іх пыльныя бакі ды шаптала ў іх жалезныя вушы: “Я люблю цябе, нумар адзіннаццаць, за тое, што ты адвозіш мяне да бабулі”; “Я люблю цябе, нумар два, за тое, што ты едзеш да кінатэатра «Радзіма», дзе паказваюць «Сёмае падарожжа Сіндбада»”. Зрэшты, я выдатна разумела, што любоў — гэта не “за штосьці”, а проста так». Час па-ранейшаму мала цікавіць Алену Брава: у яе прозе галоўнае — прастора і жанчына ў гэтым ландшафце, са сваімі застарэлымі фобіямі і комплексамі.

Для лепшага аналізу твораў Алены Брава трэба часцей ужываць слова «гендэр» і разглядаць гэтую прозу з пункта гледжання гендэрнай метадалогіі, куды ўключаюцца і напрацоўкі з псіхалогіі, гісторыі, сацыялогіі, філасофіі. Сёння гэта школа надзвычай папулярная. Сярод адметных беларускіх навукоўцаў, якія распрацоўваюць тэму, — Алена Гапава, якая выкладае цяпер ва ўніверсітэтах ЗША. Гендэрная тэорыя там і зарадзілася, на Захадзе, дзе адбываўся ўсплёск феміністычнага руху, барацьбы за сацыяльнае раўнапраўе палоў, супраць гендэрных стэрэатыпаў і дыскрымінацыі па палавой прыкмеце. Гэта, у сваю чаргу, адбілася і на мастацтве: тут пачалі таксама ўтварацца групоўкі феміністычнай літаратуры (на чале з пісьменніцай Сімонай дэ Бавуар, жонкай Жан-Поля Сартра), плыні ў жывапісе (скажам, павысілася цікавасць да лацінаамерыканскай сюррэалісткі Фрыды Кала), кінематографе (згадаем, напрыклад, нашумелы ў свой час фільм «Догвіль»), палітыцы (многімі еўрапейскімі краінамі сёння кіруюць жанчыны-прэзідэнты). У Беларусь гэтыя напрацоўкі толькі пачынаюць прыходзіць, і Алена Брава, па сутнасці, ідзе ў кроку ад еўрапейскіх тэндэнцый: там прарыў жаночай тэмы ўжо фактычна немагчымы, бо існуе адпаведнае адгалінаванне дыскурсу ва ўсіх сферах жыцця. У нас жа гэта пакуль слабыя парасткі, што ўзышлі на гліністай глебе, і ад таго выглядаюць крыху вычварна, нязвыкла, незразумела. Што да літаратуры, дык тут наогул паступова фарміруецца канон жаночай прозы — медытатыўнай, суб'ектыўна-лірычнай (Галіна Багданава, Марыя Вайцяшонак, Наталка Харытанюк), а часам і наадварот — разняволена-эпічнай (Алена Васілевіч, Людміла Рублеўская). Пра новую жаночую паэзію ўвогуле трэба пісаць асобна.

А гэта значыць, што ў полі воін — не адзін. І Алена Брава знаходзіцца ў добрай кампаніі ў жаночым літаратурным клубе, які выдае, на мой погляд, лепшыя творы сучаснай беларускай літаратуры. Магчыма, таму, што ў жанчыне ніколі не прытупляюцца якасці, неабходныя для літаратара: адчуванне болю, здольнасць бачыць вобразнасць навакольнай рэчаіснасці і абвостранае пачуццё справядлівасці. Прынамсі, Алена Брава ўсімі гэтымі якасцямі валодае.

***Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ***

# БЛІЗКАСЦЬ... ДУШЭЎНАЯ



***«Я ўсё жыццё вырашаю адну цікавую задачу — быць шчаслівай у шлюбе», — зазначае псіхолаг Нэлі Ксяневіч. Пра тое, як будуюцца і як могуць будавацца адносіны паміж мужчынам і жанчынай, яна распавяла чытачам «Маладосці».***

— Успомнім для пачатку, якія штампы былі актуальнымі для пакалення маіх равеснікаў і тых, хто нарадзіўся пасля нас, да пачатку 1970-х. Выйсці замуж ці ажаніцца можна толькі аднойчы, зрабіць гэта трэба да 25 гадоў, абавязкова нарадзіць дзяцей, як правіла, дваіх, пажадана хлопчыка і дзяўчынку, каб даход быў стабільны і ў жонкі, і ў мужа, прычым, муж павінен аддаваць зарплату жонцы, а ўжо ад яе можа атрымліваць грошы, але толькі ў межах кішэнных. Вось гэта ўкладвалася нам у мазгі як стандарт жыцця. Ад звычайнага вяселля да залатога — толькі так і не інакш. З чым у сваім жыцці сутыкнуліся тыя, чые юнацтва і маладосць прыпалі на сярэдзіну і канец 70-х? Да нас прыйшла сексуальная рэвалюцыя. Раптам аказалася, што можна мець адносіны да шлюбу — і на цябе не будуць паказваць пальцам. Калі раней адзінокую маці «травілі» ўсе, пачынаючы з бацькоў, якія адмаўляліся забіраць дачку з дзіцём з раддома, то цяпер такім маці сталі выплочваць дапамогу. Аказваецца, можна не проста мець блізкія адносіны з мужчынам, але і, не выходзячы за яго замуж, нарадзіць дзіця, гадаваць яго. Для нас гэта была трагедыя, а тое пакаленне, якое прыйшло пасля, лічыць гэта натуральным.

**— На іх долю прыпалі іншыя штампы.**

— Так, можна мець тое, што мы называем «пробнымі шлюбамі». Трэба, маўляў, паспрабаваць. Брацца шлюбам лепш за ўсё пасля таго, як даведаешся, ці сумяшчаешся ты з выбраннікам сексуальна. Так, калі жанчына хоча, то яна можа нарадзіць дзіця, а мужчына, калі хоча, можа ўзяць на сябе адказнасць за яго праз устанаўленне бацькоўства. Лепш гэтаму пакаленню? Лягчэй? Я б так не сказала. Яны атрымалі сексуальную свабоду, а разам з ёю процьму іншых штампаў, накшталт, «мужчына палігамны, жанчына — не». Гэта значыць, што калі ўзнікаюць адносіны, нават калі шлюб і не зарэгістрыраваны, то мужчына можа сабе дазволіць інтрыжку, жанчына павінна быць вернай гэтаму мужчыну. Што такое сексуальная свабода? Гэта калі ўсё самае лепшае ад адносін паміж мужчынам і жанчынай на побытавым узроўні мы можам атрымаць дарма, не ахвяруючы часам, з мінімумам матэрыяльных укладанняў, не беручы адказнасць за дзяцей на сябе, а ўсе сумныя і нецікавыя бакі такіх адносін пакідаюцца паняццю «шлюб». Таму жаніцца не трэба, гэта не пажадана, а пажадана як мага даўжэй захоўваць асабістую свабоду. Але ж гэта вельмі няроўнае становішча. Яно несправядлівае ў дачыненні да жанчыны. Мужчына ў такім плэйбойскім стане можа бавіць час да 50 гадоў, а потым спахапіцца, што яму патрэбны дзеці, у 55 ажаніцца і гэтых дзяцей завесці. Жанчыне ж адведзены біялагічны тэрмін. Калі яна за гэты час не народзіць дзяцей, то, з'яўляючыся запатрабаванай сексуальна, яна не будзе патрэбнай як жонка: мужчына возьме на дваццаць гадоў маладзейшую, калі яму спатрэбяцца дзеці. Вось мы і атрымалі мадэль няроўнага шлюбу — няроўнага ў адносінах да жанчыны.

**— А што такое з вашага пункта гледжання адкрыты шлюб, калі мужчына і**

**жанчына дазваляюць адно аднаму інтрыгі на баку?**

— Такая мадэль таксама існуе. Мы, маўляў, сучасныя людзі і ставімся да падобных рэчаў натуральна. Дастатковая колькасць людзей будуе свае адносіны на гэтай глебе. Але яна вельмі хісткая. Таму што, акрамя сексуальных кантактаў, акрамя фізічнай блізкасці, акрамя таго, што ў межах сям'і трэба вырашаць нейкія побытавыя пытанні, ёсць тое, што нельга памацаць, да чаго нельга дакрануцца, але гэта тое, што з'яўляецца стрыжнем, які стварае сапраўдную сям'ю. Гэта душэўная блізкасць.

**— А яна магчымая толькі ў тым выпадку, калі людзі адно ў аднаго адзіныя!**

— Калі яны адно аднаму давяраюць! Вось гэтая душэўная блізкасць і разбураецца кантактамі на баку. Таму што душэўная блізкасць — гэта ўпэўненасць ва ўнікальнасці — асабістай і таго, хто побач. Тут няма пачуцця ўласнасці, ёсць пачуццё ўнікальнасці. А калі ёсць яшчэ нехта... Калі ж аддалі перавагу некаму іншаму, значыць, я ўжо не ўнікальны для гэтага чалавека. Мужчына, які вырас на штампе, што ён палігамны і мае права «налева», каб толькі не ведала жонка, уступае ў доўгатэрміновыя адносіны — гаворыць жанчыне, што яна яму неабходна, што яна будзе нараджаць дзяцей і яны разам будуць іх выхоўваць, і пры гэтым мае ўнутры праграму, якая ў самым пачатку падкладае пад іх адносіны бомбу. Да чаго чалавек урэшце імкнецца? Да такога адзінства, калі ты разумееш, што той, хто побач, ніколі табе не здрадзіць, што падтрымае, калі табе дрэнна, што суцешыць, калі ты плачаш — і ты не будзеш думаць пра тое, як у гэты момант выглядаеш. Ты не баішся старэць побач з такім чалавекам і ты таксама можаш яму ўсё гэта даць. Табе, любы мужчына, будзе не страшна пастарэць, захварэць, аступіцца, ты будзеш упэўнены, што гадуеш сваіх дзяцей, таму што толькі жанчына ведае, ад каго ў яе дзеці. А калі няма такой узаемнасці, адносінам суджана мець часавыя рамкі. Іх няма толькі ў тых адносінах, дзе людзі судакрануліся душамі. І тады не страшна нічога, бо ўсё, нават старасць, мае іншую якасць — якасць перамен, прыняцця новай формы. Мне назаўсёды запомніўся выпадак, які асабіста мне і майму мужу вельмі дапамог. Зусім нядаўна жанатыя, абодвум крыху за дваццаць, мы ішлі па пляжы. У Мазыры да чарнобыльскай аварыі быў выдатны пляж, і было заведзена прагульвацца ўздоўж вады, шукаючы вачыма знаёмых, сустракаючыся, размаўляючы — гэта было надзвычай прыемна. Насустрач ішлі мужчына і жанчына, якія здаліся нам безнадзейна старымі (усіх, каму за сорак, мы лічылі такімі). А яны ішлі, трымаючыся за рукі. Было відаць, што ім не проста за сорак — ім далёка за сорак. Але пальцы іх былі пераплецены, і я не ведаю, што яшчэ было ў іх такое, з-за чаго было відавочна: гэта адзінае цэлае. Гэта не было падобна да толькі-толькі распачатага рамана — было відаць, што гэта людзі, якія жылі разам доўга. Само судатыкненне іх было з аднаго боку вельмі знаёмым, з другога — вельмі надзейным. І мы паглядзелі адно на аднаго. Нам прышла ў галаву адна і тая ж думка: мы таксама хочам так. Мы пражылі разам 35 гадоў. Сёлета, адпачываючы, праўда, не тут, а на Канарах, мы ішлі ўздоўж пляжа, трымаючыся за рукі. Раптам мы паглядзелі адно на аднаго і ўспомнілі той дзень. І я падумала, што хоць і было ў нас нешта, каб так здарылася, але падсвядома менавіта гэты выпадак і заклаў нам у галовы тую мадэль, да якой мы абодва імкнуліся: калі не страшна быць побач з чалавекам, калі побач з ім табе нічога не страшна. Ты ведаеш яго слабасці, ведаеш, які ён бывае непрыгожы, злосны, невыносны і які слабы ён бывае, таксама ведаеш — і любіш яго такім, розным. А сучасны свет прапануе мадэль «я люблю цябе, пакуль ты паспяховы, пакуль багаты, пакуль маладая, пакуль прыгожая, пакуль твае зморшчынкі выпраўляе ботакс».

**— Цікава, што адбываецца ў свядомасці чалавека, які так разважае?**

— Справа ў тым, што чалавек так не думае. Ён у першую чаргу дбае пра сябе. Гэта нармальна. Вось людзі пажаніліся — ім было, напрыклад, за дваццаць. Праходзіць час. Ён ужо ловіць сябе на тым, што у яго вырас жывоцік і парадзелі валасы, аглядаецца на жонку — і яна так-

сама не тая юная дзяўчына, і з ёю адбыліся ўзроставыя змены. Калі той самы душэўны кантакт ёсць, то гэтыя ўзроставыя змены хоць і выклікаюць сум, але сум празрысты, лёгкі. Ім і сумна, і светла аднačасова. Бо колькі ўсяго было з імі за гэтыя гады! А калі душэўнага кантакту няма і не было, калі аб'ядноўвала закаханасць, якая праходзіць, мінае, бо гэта ўсяго толькі гарманальная бура? Фізічнае прыцягненне сышло на нуль: па законе адаптацыі гэта здараецца заўсёды — чалавек не можа ўсё жыццё стаяць на дыбачках. Гарманальны ўсплёск падобны да хваробы — пасля надыходзіць выздараўленне. І ён кажа сабе: яна пастарэла, а я? Сябе шкада больш. Дай пагляджу, ці звяртаюць на мяне ўвагу маладзенькія дзяўчаткі, праверу. Ага, аказваецца, я яшчэ падабаюся. Пачынаюцца новыя пачуцці, новыя адносіны, і навізна перакрывае тое, да чаго ўжо прыйшла адаптацыя. З майго пункта гледжання, ратаванне ў тым, каб шукаць чалавека, з якім адбудзецца душэўны дотык.

**— Але што вы разумееце пад словамі «шукаць чалавека»?**

— Па-рознаму. Нехта шукае навобмацак, мяняючы партнёраў. Паверце, гэты метад мае права на існаванне. У гэтай сувязі мне вельмі падабаецца такі анекдот. Дама паркуе аўтамабіль, ударыўшы спачатку машыну злева, потым справа, потым тую, што наперадзе. Да яе падыходзіць чалавек, які працуе на паркоўцы: «Мадам, ці не маглі б вы паркавацца не навобмацак?» Вось так і ў жыцці — нехта паркуецца навобмацак, мяняе партнёраў. Паглядзіце, большасць раманаў напісана якраз пра гэта. Вазьміце любы любоўны раман і вы знойдзіце там такі лёс, калі чалавек перабіраў-перабіраў — і натрапіў на сапраўднае. Любоўныя раманы не пішуць пра тых, у каго гэта ўпершыню, з трапятаннем, хто праз усё жыццё пранёс адно пачуцце.

**— Гэта ўжо не любоўны раман.**

— Вось-вось. Бо самае цяжкае — паказаць, як шукаецца гэта душэўнае сугучча. А потым любоўны раман канчаецца на тым, як яны пажаніліся. А як яны жылі далей? Яны пазбеглі здрады? Як перажылі падлеткавы ўзрост сваіх дзяцей, безграшоўе, яшчэ нешта? Дзе раман пра жыццё пасля вяселля?

**— Значыць, гэта можна — шукаць сваё літаральна навобмацак. Якія тут перасцярогі?**

— Калі нехта выбірае дадзены варыянт, яму трэба дазволіць сабе не канцэнтравацца адно толькі на фізічных адчуваннях. Бо часам сапраўды чалавек трапляе на чалавека — сексуальныя адносіны пераходзяць у размовы пра жыццё, узнікае патрэба клапаціцца, глядзець у вочы, і нават выпадае ёй убачыць, як ён лысее. І гэта не напалохае яе, яна падумае: няхай тое адбудзецца хутчэй, тады ён назаўжды будзе мой. Калі пайшла такая парадаксальная рэакцыя, то гэта поспех. Можна ісці ад адваротнага, праз пазнанне чалавека, не забараняючы сабе ў тым ліку і сексуальныя адносіны, калі яны вырастаюць з гэтага пазнання натуральным чынам. Але іншага спосабу як маўчаць разам, гаварыць пра нешта, трапляць у розныя сітуацыі, — няма. Яго проста няма! Калі гэта яркая, у адзін момант, успышка і неадольнае прыцягненне — калі ласка. Але потым — размовы. Ёсць адна прыкмета, як можна праверыць, ёсць душэўнае адзінства ці няма: калі чалавек уваходзіць у пакой, яшчэ нічога не сказаўшы, а вам ужо лепшае, калі вы маўчыце, не гаворыце ні пра што, а вам добра, проста добра ад аднаго разуменя, што вы побач. Можа трагедыя, а можа і задавальненне ёсць у тым, што гэта часам адбываецца неаднačасова і па-рознаму. У аднаго гэта адчуванне ўзнікла, а ў другога — не, або ў аднаго ўзнікла адразу і ў поўнай меры, а ў другога запаволена развіваецца. Гэты працэс — ты адзін крок насустрач душэўнай блізкасці, а к табе дзесяць — таксама для аднаго задавальненне, для другога — трагедыя. Часта гавораць: я хачу замуж. А навошта? Я хачу мець дом, дзяцей і мужа, які добра зарабляе. А калі імкнуцца знайсці чалавека, які будзе разумець тваю душу, і ты яго будзеш разумець, чалавека, які будзе па-сапраўднаму родным, і аднойчы табе захочацца даведацца, як будуць выглядаць вашы дзеці?

**— Нават калі ў іх пры гэтым не будзе катэджа і аўтамабіля....**

— Катэдж і аўтамабіль вельмі верагодныя як пабочны прадукт. Бо калі ты робіш справу, якая табе падабаецца, і робіш яе якасна, то як пабочны прадукт узнікаюць грошы — каб ты мог займацца гэтай справай і ні пра што не турбавацца. Тое, што падабаецца рабіць, атрымліваецца і прыносіць матэрыяльны дабрабыт. Пабочны прадукт душэўнага шлюбу — матэрыяльны дабрабыт, утульны дом, у які хочацца вяртацца, людзі, якія да гэтага дома цягнуцца, але спачатку — сугучча душ. Праз што яно прыйдзе і як — вельмі індывідуальны рэцэпт. Калі накіраванасць не на яго, а на пабочны прадукт, то ўзнікаюць два варыянты. Першы — ты гэта атрымліваеш — і машыну, і катэдж, а шчасця няма, хоць і сукенка фірмовая. Як у старым анекдоце: цацкі на ёлку сталі падрабляць — такія ж самыя, як і ў дзяцінстве, але не радуюць. Вось такі варыянт шчасця. Другі — ты не атрымліваеш і гэтага, і дзіка зайздросціш тым, у каго гэта ёсць, і думаеш, ідучы паўз катэдж, што за яго сценамі ўсе шчаслівыя. Гэта жорстка, гэта гульня ў «прайграў-прайграў». Я люблю гуляць з жыццём у «выйграў-выйграў». А гэтая гульня пачынаецца з прыняцця той сітуацыі, якая ёсць. Мы з вамі жывём у свеце, дзе адбылася сексуальная рэвалюцыя, дзе ёсць поўная сексуальная свабода. Але тое, як ты скарыстаешся гэтай свабодай, — твой асабісты выбар. Калі ты выкарыстоўваеш яе, каб атрымаць усе фізічныя асалоды, то аднойчы фізіялогія сыйдзе на нуль, а разам з ёй і твае радасці. Калі ж ты распараджаешся гэтай свабодай, каб знайсці родную душу і стварыць уласны свет, у якім будзе добра табе, яму ці ёй і тым, хто ў гэты свет прыйдзе, то ты створыш ідэальнае жыццё. Як ні дзіва, гэта вельмі проста. Выбар ёсць у кожнага. Любую складаную сітуацыю можна разглядаць як задачу, а не праблему. З аднаго боку, ты вольны, а з другога — гэта воля дае табе вялізную адказнасць за твой асабісты лёс. Ты не жывеш па нечым алгарытме, ты рэалізуеш свой. І калі ты няшчасны, то гэта твая нявырашаная задача.

**— Не праблема, а задача.**

— Так, тую энергію, што мы трацім на бессэнсоўнае перажыванне з-за праблемы, можна скіраваць на пладатворнае рашэнне гэтай задачы.

*Гутарыла Святлана ВОЦІНАВА*

d

Ірына ЛЮБЯНСКАЯ

# Сумесны праект часопіса «Маладосць» і газеты МУС Беларусі «На страже»

«Я не п'ю — я выпіваю!» Так прызвычаіліся казаць алкаголікі. Яны ніколі не прызнаюць за сабой хваробы, сваякоў не слухаюць, дактарам не вераць.

Калі ж сапраўды трэба біць трывогу? З якога моманту банальная выпіўка робіцца хваробай? Як вызначыць: алкаголік чалавек ці не? Шчыра кажучы, ставіць дыягназ — справа доктара, але існуюць і агульныя прыкметы. Раней выпіваў грамаў 100—150, весялеў, расслабляўся, а цяпер выпіў 200 і, так бы мовіць, ні ў адным воку — пачатак пакладзены! Знік рвотны рэфлекс пасля добрай дозы — прыехалі! Страціў кантроль за колькасцю пітва, забыўся, што рабіў, калі выпіў, — алкаголік па поўнай форме! Далей горш і значна сур'ёзней. Калі ўзнікла неабходнасць пахмелкі, якая перайшла ў запой, ведай — бяда не за гарамі. Апошні этап алкагалізму — гэта ап'яненне пасля адной чаркі, поўная дэградацыя і страта чалавечага аблічча.

Спачатку ўжыванне алкаголю робіцца звыклым — гэта стадыя, калі хваробу яшчэ можна адолець. Але, як правіла, той, хто п'е, гэты этап прапускае, а калі спахопіцца, то пасля таго, як пад уздзеяннем рэгулярнага прыёму алкаголю ў яго адбылася сістэмная перабудова арганізма: з-за хранічнага атручэння са строю пачынаюць выходзіць усе органы і сістэмы. Найперш пакутуе печань, якая выратоўвае арганізм ад таксінаў, а таксама галаўны мозг, на долю якога прыпадаюць самыя цяжкія выпрабаванні. Чалавек пачынае апускацца, яго інтарэсы звужаюцца да адзінага пытання: з кім выпіць, калі ўжо можна будзе выпіць, дзе дастаць грошы і да т.п. Так, ён не п'е, ён выпівае.

«Рускае» паляванне, «руская» рыбалка, «руская» лазня, рускае невядома яшчэ што не можа абысціся без спіртных напояў. І ў большасці няшчасных выпадкаў вінаватым з'яўляецца алкаголь, дакладней, яго ўжыванне.

Алкагалізм — гэта, перш за ўсё, залежнасць, а значыць спіртное для такога хворага — каштоўнасць большая за жыццё і здароўе іншых людзей, нават калі гэтыя людзі яму неабыякавыя. Хворы ўсё разумее, але нічога з сабой зрабіць не можа. Калі прыйдзецца выбіраць, ён ахвяруе і вашымі пачуццямі, і вашымі матэрыяльнымі сродкамі — усё гэта ён прынясе ў ахвяру сваёй хваравітай прыхільнасці.

Акрамя таго, алкагалізм часцяком мае мноства разнастайных дадатковых сімптомаў. Напрыклад, з паталагічным ап'яненнем, падчас якога, як кажуць людзі, якія добра ведаюць гэтага алкаголіка, ён становіцца непадобным да сябе: агрэсіўнасць, злосць, жаданне абавязкова высвятляць адносіны... Вынесці ўсё, зразумела, цяжка. Ад любімага родзіча, які знаходзіцца ў стане паталагічнага ап'янення, можна пачуць такое, што потым адзіны толькі ўспамін здольны прывесці яго сваякоў да сапраўднай дэпрэсіі.

Зрэшты, выбухі агрэсіі ў алкаголікаў могуць усчацца і пры адсутнасці паталагічнага ап'янення. Яны зрываюць сваё раздражненне на першым стрэчным, і часцей за ўсё на тых, хто жыве з імі разам. Жыццё ў сям'і алкаголіка ператвараецца ў сапраўднае пекла...

Цудадзейных лекаў ад цягі да спіртнога не існуе і быць не можа. Алкагалізм — не проста хвароба, а лад жыцця, які ніякай хіміяй не зменіш. Калі чалавек абяцае, што пасля непрабуднага п'янства ён будзе піць, але крыху — гэта падман. Алкаголік можа толькі перастаць піць зусім, але пры гэтым ён назаўсёды застаецца алкаголікам. Калі сарвецца, то ўсё распачнецца наноў. Гэта хвароба не ведае кампрамісаў. Але выбар ёсць заўсёды...

# МОЙ КАРАТКЕВІЧ

— Грэшны ці святы? — Звычайны чалавек зямны.

— Блюзнер ці глашатай Праўды? — Рамантык.

— Фанатык ці проста ўлюбёны ў Беларусь? — Проста верны сын сваёй Радзімы.

— З'явіўся ў патрэбным месцы і ў патрэбны час ці наважыўся пайсці супраць сістэмы? — Своечасова напомніў беларусам, што мы — народ.

— Адзін з многіх ці адзін і не для ўсіх? — Наш гонар. Гонар кожнага. Мой асабісты.

Пра Караткевіча можна гаварыць гадзінамі. Спрачацца, абмяркоўваць, прымаць ці не прымаць яго творы, меркаванні, перакананні, яго як пісьменніка наогул. Можна і трэба. Бо сам Уладзімір Сямёнавіч лічыў, што, пакуль людзі абмяркоўваюць, не пагаджаюцца ці ўхваляюць пісьменніка, яго творчасць, да таго часу ён застаецца жывым. Калі ж мы прымаем яго (творцы) ідэю, меркаванні, погляды як правіла, аксіёму — ён памірае, ператвараецца ў куміра, гіпсавую скульптуру, неаспрэчны прыклад, узор. Таму я не буду ствараць панегірык, а паспрабую расказаць, кім для мяне з'яўляецца Караткевіч.

Упершыню я зразумела, што Караткевіч — мой пісьменнік, недзе ў восьмым класе. Тады мы якраз праходзілі «Лісце каштанаў». Не ведаю чаму, але я сапраўды паверыла, нібы галоўны герой і Уладзімір Сямёнавіч — адна і тая ж асоба, нібыта ён напісаў гэта ўсё пра сябе, пра сваё юнацтва, як і было. Я паверыла. Хоць пасля для мяне было вялікім здзіўленнем даведацца, што гэта ён напісаў не з уласнага жыцця і тое, што здарылася з галоўным героем, не мае да яго аніякага дачынення. Я паверыла яму, а потым — і ў яго. У яго творы, у яго праўду: сівую мінуўшчыну Беларусі з перамогамі і няўдачамі, крывавымі старонкамі і мірнымі днямі, мужнымі рыцарамі і здраднікамі, паўстанцамі і іх катамі, у Беларусь шляхетную — з балямі, паляваннямі і дуэлямі — і ў Беларусь сялянскую — пад саламянымі стрэхамі, пакрыўджаную, бяздольную, але ўсё роўна любімую. І нічым не горшую за іншыя краіны. А ў нечым нават і лепшую! Складана паверыць у тое, чаго не бачыў на ўласныя вочы, чаму няма пацвярджэнняў. Так, складана. Але магчыма. Цяжка паверыць у Алеся Загорскага. І не важна, ці існаваў звычай дзядзькавання ў той час, ці зусім знік, не абавязкова бачыць выпіску з нейкай метрыкі, каб паверыць у існаванне прататыпа гэтага героя. Не гэта галоўнае. Галоўнае — вера ў Беларусь, але не ў забітую і ўсімі забытую, а ў вольную, якую не трэба шкадаваць, бо гэта прыніжае. У квітнеючую Беларусь, яе народ, мінулае і будучае, у саміх сябе.

Мой Караткевіч — гэта вера.

Мой Караткевіч — гонар і годнасць.

Памятаю, мая настаўніца прыносіла на ўрок артыкул, прысвечаны Уладзіміру Сямёнавічу. Дужа цікавы. Напрыклад, я даведалася больш пра яго жыццё. Вось адзін з фактаў: аднойчы ён гуляў з сябрам па парку і нечакана сустрэў знаёмую. Захацелася Уладзіміру Сямёнавічу падарыць ёй кветку. Але крамы побач не было, а сарваць з клумбы, пэўна, сумленне не дазволіла. Тады ён закасаў рукавы, прапалоў ад сарнякоў бліжэйшую клумбу і як плату за сваю працу сарваў ружу, якую потым і падарыў знаёмай. А вось яшчэ: маці Караткевіча жыла ў шматпавярховым доме, і, каб яна магла адпачываць, падымаючыся па лесвіцы, на кожным паверсе прымацаваў да батарэі (каб не скралі) крэсла... Пісаць можна ўсё, што заўгодна. А самому быць такім — няпроста.

Мой Караткевіч — звычайны і просты чалавек.

Радаваўся і сумаваў, любіў і ненавідзеў, шмат за што, напэўна, яму было сорамна. Напрыклад, з таго ж артыкула я даведалася, што падчас рэпетыцыі тэатральнага гуртка ён мог накрычаць на вучня, але заўсёды, калі не меў рацыі, прасіў прабачэння першым.

Мой Караткевіч — ідэя.

«Каго любіш? — Люблю Беларусь. — То узаемна». Пароль паўстанцаў 1863 года. Менавіта гэты выраз вісеў над яго рабочым сталом. Сам пароль — ужо ідэя. Ідэя любові да Радзімы, яе народа, гатоўнасць змагацца супраць тых, хто наважыцца пакрыўдзіць дарагую зямлю, родную мову — Бацькаўшчыну. І для гэтага неабавязкова жыць у XIX стагоддзі і быць паўстанцам. Змагацца можна з сабою, са сваёй лянотай, забабонамі, абыякавасцю. Ідэя яднання, дапамогі, падтрымкі...

Мой Караткевіч — любоў.

Да жанчыны, да маці, Радзімы, гісторыі, сяброў, да таго, чым займаешся, жывеш.

Нехта са скептыкаў можа сказаць, што творы Уладзіміра Сямёнавіча нагадваюць казкі (хаця і іх ён пісаў), бо незаўсёды гістарычныя факты, на якіх заснаваны твор, мелі месца: кароль Стах і яго світа, сем'і Раўбічаў і Загорскіх. Мо і мае рацыю. Толькі калі ў мяне бывае цяжка на душы, заўсёды чытаю Караткевіча. І робіцца лепш. Гэта магчымасць набрацца жыццёвай сілы, паверыць у сябе, падняць галаву і расправіць плечы, смела зірнуць наперад.

Мой Караткевіч — магчымасць.

Ён падарыў нам казку. Здольнасць патрапіць у свет, дзе дабро бязмежнае, а зло недаравальнае, свет яркіх колераў і адценняў. Яго па праве можна назваць рамантыкам-максімалістам. І менавіта ў гэтым — недахоп (хіба ж бывае нешта дасканалае!). Як вядома, у жыцці нельга кіравацца прынцыпам «чорнае ці белае» або «так ці не». Мы проста вымушаны шукаць залатую сярэдзіну, ісці на кампрамісы, бо няма нічога ідэальнага, дасканалага, асабліва, калі справа датычыць людзей. У творах жа Караткевіча ўсё па-рамантычнаму ўзнёсла, яскрава, няма паўмер — толькі ў першародным выглядзе, глыбока, поўна: пачуцці, характары, учынкі. Адным словам, казка.

Толькі з ёю трэба быць асцярожным…

Заўважыла адну асаблівасць, калі прачытаць запар хаця б два яго творы, то ўзнікне адчуванне «дэжавю»: каханне, якое здараецца раз на сто год, паміж Мужчынам і Жанчынай, Вернасць, Годнасць, Справядлівасць. У жыцці ўсё гэта сустракаеш рэдка, таму й не верыш.

Аднак можна жыць і верыць у такое Каханне, так Любіць сваю зямлю, быць пасапраўднаму Адданым перакананням, справе, Радзіме, сям'і, каханаму ці каханай. Але да гэтага трэба дайсці…

Але казкі не павінна быць шмат — роўна столькі, каб расквеціць наша шэрае жыццё і пакінуць надзею на будучае.

Вось такі ён, мой Караткевіч. Хтосьці можа не пагадзіцца з такім пунктам гледжання. І хай сабе! Значыць, у яго ёсць сваё меркаванне. І гэта добра! Бо, пакуль мы спрачаемся, ён з намі.

***Віялета ВАШЧЫЛІНА,***
***студэнтка факультэта беларускай і рускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка***



d

Яўген МІКЛАШЭЎСКІ

# ЗАЧАРАВАНЫ НАДНЁМАНСКІМ КРАЕМ

Якуб Колас, згадваючы ў разлуцы родныя мясціны на Стаўбцоўшчыне, пісаў: «Божа, як там мне ўсё міла! Не магу забыць! Вось як цяпер...» Колькі часу паўтараліся ў думках гэтыя словы, пакуль не выліліся ў простыя, але такія шчымлівыя спавядальныя радкі:

Мой родны кут! Як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!..

Мікола Маляўка таксама зачараваны наднёманскім краем. Як і яго вялікі папярэднік, паэт уславіў вёску Мікалаеўшчыну і яе ваколіцы, людзей, якія жылі і жывуць тут, на прыгожай і шчодрай зямлі. Пасля выхаду кнігі санетаў «Старая зямля» праца над ёй не спыняецца і, пэўна, не хутка яшчэ спыніцца. Пра гэта сведчыць паэтычны зборнік «Дзічка ў полі».

Першы раздзел кнігі пачынаецца вершам «Дарога»:

Чалавек нарадзіўся,
І пачалася яго
Дарога —
Ад калыскі матчынай,
Ад бацькавага парога.

Мяняецца час. Мяняюцца людскія пакаленні. Пішуцца новыя старонкі гісторыі, пачатай далёкімі продкамі, не заўсёды, можа, лепшыя старонкі, але яскравыя і праўдзівыя. Рух чалавечага жыцця — хуткаплынны, і неўзабаве, яны, гэтыя старонкі, стануць гісторыяй. А гісторыя не церпіць фальшу, падтасоўкі фактаў, рэтушы падзей, малюнкаў і вобразаў.

У раздзеле «Лісток вішнёвы» па-свойску пачуваюцца вершы, напісаныя за апошнія дзесяць гадоў. І пра землякоў, і пра свае стасункі з людзьмі і часам, і, вядома ж, пра зямлю, старую і новую. У аўтара адметны паэтычны стыль, які ні з чым не зблытаеш. Толькі тут, у Мікалаеўшчыне, так размаўляюць, так жывуць і працуюць людзі. Толькі тут такі непаўторны побыт. Толькі тут такая вусная народная творчасць — ад песень да паданняў і казак. І толькі тут крыніца самых светлых дум і пачуццяў, прыемных успамінаў, творчых задум і здзяйсненняў паэта ў слове.

Дзе корань слова? Дзе яго аснова?
Шукай не ў слоўніках жывое слова,
А ў лес ідзі, на кургане пастой,
Паслухай, як маркоціцца крыніца:
Зямля бацькоў — адвечны слоўнік той,
Дзе ўсё цвіце, спявае, каласіцца.

Мікола Маляўка стварыў настолькі каларытны вобраз роднай вёскі, што яна паўстае перад вачыма як жывая — з хатамі і іх гаспадарамі, неадольна вабіць да сябе.

У раздзеле «Люблю Беларусь» паэт запрашае нас у чароўны свет балад. Прызнацца, ён мяне ўсхваляваў да глыбіні душы, гэты свет. Праўда жыцця адлюстравана ў запамінальных вобразах.

«Балада пра мужыцкую праўду» абуджае ў памяці матывы паўстанцкіх балад Уладзіміра Караткевіча. Праз увесь твор рэфрэнам, як рэха тых далёкіх гадоў, праходзіць пароль мужных касінераў Кастуся Каліноўскага:

— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!
— То ўзаемна!..

За Беларусь, за волю і лепшую долю свайго народа пакутна памірае касінер Юрась — герой балады, распяты на бярозавым крыжы.

«Балада пра касу, сякеру і кельму» ўражвае філасофскай глыбінёй думкі.

На захад з баямі прайшлі пехацінцы.
Пад вечнай сасной, пры шырокім гасцінцы,
Яны пахавалі сяброў баявых
У брацкай магіле...

І толькі на трэцяе лета разбудзілі зязюлі салдат. Хацелі падняцца — не змаглі, пачалі крычаць — ніхто не пачуў. І тады малодшы з іх папрасіў: «Зямля! Адпусці нас дадому, на дзень адпусці, на гадзіну — пяць годзікаў сыну малому, пяць годзікаў сыну...»

Зямля адпусціла іх, але з наказам: нікому не памагаць, ніколі не браць у рукі сякеру, касу, кельму. Ці маглі салдаты выканаць гэты наказ? Скончылася страшная вайна, гарады ў руінах, вёскі спалены, усюды — удовы, сіроты, пакалечаныя і хворыя людзі. І салдаты па дарозе дамоў пачынаюць дапамагаць людзям: адзін узяў у рукі касу, другі — сякеру, трэці — кельму.

І разам сабраліся зноў пехацінцы
Пад вечнай сасной, пры шырокім гасцінцы.
Прыбраўшы, зямлёю засыпалі іх
У брацкай магіле,
Як родных сваіх.

«Балада пра месячнае святло» — пра першае каханне. У кожнага яно — сваё, але кожны з нас запомніў яго на ўсё жыццё, як і герой гэтай балады. У свеце і ў душы адразу пасвятлела, калі ў вёсцы з'явілася дзяўчына-чараўніца: ад яе акна нельга было адвесці вачэй. Такая сіла першага кахання, незалежна ад таго, якое яно было, шчаслівае ці не.

Распаўся сам сабою пальцаў вузел,
Сасмяглыя, зліліся нашы вусны —
І рук вязьмо, ускінутае мною,
Упершыню сышлося за спіною
Каханай —
Роднай і такой жаданай,
Зямлёй і небам мне наканаванай.

Жыццё аднак склалася так, што для лірычнага героя каханая стала «сонцам, якое зайшло», і ў яго самотнае акно льецца цяпер толькі месячнае святло ўспамінаў.

У кнізе шэсць балад. У асноўным гераічна-патрыятычнай тэматыкі і адпаведна — з трагічным зместам. Спалучэнне фантастыкі з рэальным жыццём, вобразнасць і паэтычнасць мовы ствараюць загадкава-таямнічыя малюнкі напалову нерэальнага свету. Талент аўтара выявіўся ў гэтым жанры нечакана маляўніча і арыгінальна, па-філасофску завострана і глыбока.

Кніга Міколы Маляўкі тэматычна разнастайная, але менавіта санеты з раздзела «Жыццё гартае Божая рука» даюць падставу назваць яе працягам «Старой зямлі» — папярэдняй кнігі паэта. За лёсам адной вёскі, Мікалаеўшчыны, бачыцца лёс роднага краю.

О Беларусь мая, цябе ў няволі
Мячамі секлі, дзідамі калолі,
Бамбілі і расстрэльвалі цябе, —
А ты стаіш, як дзічка тая ў полі,
Апаленая ў жорсткай барацьбе,
Але — у квецені, але — на волі.

Санеты ўзбагачаюць кнігу і тэмамі, і пачуццямі, і роздумам над праявамі мінулага і сучаснага жыцця, якое не перапішаш, як чарнавік, «адкінуўшы памылкі, верад лішні». А гэты верад за былыя грахі і памылкі, малыя і вялікія, трывожыць, не дае спакою многім з нас.

Байкі, сатырычныя і гумарыстычныя вершы сабраны ў раздзеле «Філасофскі тост».

Жыццё, бывае, перыць,
Трымае ў кулаку,
Ды лепей праўды верад,
Чым мёд на языку.

Мікола Маляўка з веданнем справы «парыць» сваіх герояў у творчай лазні: адных — жорсткім венікам з дубовых галінак, другіх — мяккім бярозавым венічкам. Людзей, з якімі сам сустракаўся ў жыцці, бачыш і за яго казачнымі героямі.

Скардзіцца сябру
Кот у бараку:
«Кот, а жывецца
Горш, чым сабаку!»

Асаблівы каларыт гэтай страфе надае тое, што ўзята яна з верша «Прымак». А дзе дасціпнасць — там і смех, непадробны і шчыры.

Тактоўна, без павучальнага тону, аўтар падказвае нам, чытачам, пра якія каштоўнасці трэба найперш дбаць, каб пакінуць нашчадкам годную спадчыну.

Кожнаму хочацца
Вечнасці крышку,
Ды адзін,
Залезшы ў даўгі,
Пакідае нашчадкам
Паэзіі кніжку,
Ашчадную кніжку —
Другі.

«Дзічка ў полі» — з густам афармлены томік паэзіі. На жаль, таленавіты мастак Яўген Ларчанка не дачакаўся выхаду кнігі з друку і пайшоў туды, адкуль не вяртаюцца. Пароль музы паэта і музы мастака — адзін: люблю Мікалаеўшчыну і ўсю Беларусь!

Пасляслоўе

## НАШЧАДКАМ ТВОРЦА ПЕРАДАЎ...

*Калі галоўны рэдактар «Маладосці» Таццяна Сівец прапанавала мне зрабіць да рэцэнзіі Я. Міклашэўскага прадмову, я падумаў і пагадзіўся. Але няхай гэта будзе не прадмова, а пасляслоўе. Чаму? Проста ў рэцэнзіі ёсць свая адметная, павучальная гісторыя, якую ў двух словах не раскажаш. Менавіта яна дае падставу паразважаць над жыццёвым і творчым лёсам аўтара: мінуў год, як яго не стала.*

На першы погляд, рэцэнзія Я. Міклашэўскага — звычайны, хоць і вельмі прафесійны, станоўчы водгук на адну з лепшых кніг Міколы Маляўкі. Не звычайнае тут толькі тое, што напісаў яе вельмі хворы, як аказалася, невылечна, чалавек. Яўген Міклашэўскі звярнуў увагу на «Дзічку ў полі», паабяцаў напісаць пра яе, але па розных аб'ектыўных прычынах усё адкладваў гэты намер. І вось настаў час, калі адкладваць далей было нельга…

Мне, як старшыні пісьменніцкай камісіі па рабоце з ветэранамі, давялося стаць адным з актыўных сведак апошніх тыдняў жыцця Я. Міклашэўскага. Да гэтага я не быў блізка знаёмы з ім асабіста. Не магу сказаць, што я добра ведаў і творчасць Яўгена Васільевіча, бо ягоны творчы дыяпазон быў даволі шырокі. Ён пісаў аповесці, вершы, гумар, творы для дзяцей, перакладаў з англійскай, польскай і іншых славянскіх моў. Праўда, калі мы сустракаліся са сваімі творамі на старонках «Вясёлкі», «Маладосці», «Вожыка» ці ў іншых выданнях, я прачытваў іх «па-суседску» ўважліва і з сімпатыяй. Асабіста мне вельмі падабаліся ягоныя вершы, казкі для дзяцей і падлеткаў. Так здарылася, што ні жонкі, ні дзяцей у Яўгена не было. Можа, якраз таму пісьменніка і «цягнула» так да дзіцячай тэматыкі? Настаўнік па адукацыі і па прызванні, ён некалі загадваў пачатковымі школамі на Піншчыне і таму добра адчуваў, што і як трэба пісаць для дзяцей. Дарэчы, апошняй падрыхтаванай ім кнігай стала менавіта дзіцячая кніга. Ён назваў яе, калі не памыляюся, «Гадзіннік "зязюлька"» і здаў у РВУ «Літаратура і Мастацтва». На жаль, выйсці пры жыцці аўтара яна не паспела…

У апошнія гады жыцця з-за хваробы ног Яўген Міклашэўскі зрэдку наведваў рэдакцыі, прыносіў новыя творы. Калі ён прыходзіў у «Вожык», мы з Казімірам Камейшам не шкадавалі часу на размову з ім. Асабіста мне імпанавала яго разважлівасць і памяркоўнасць, цікавыя жыццёвыя назіранні, мяккі, далікатны гумар. Пакінуўшы творы, Яўген цярпліва чакаў, не назаляючы званкамі з просьбамі паскорыць іх публікацыю.

Як пераканаы халасцяк, Яўген прывык усё рабіць самастойна, па-гаспадарску. Сваю двухпакаёўку-хрушчоўку ён абставіў звычайнай «савецкай» мэбляй. Пасля смерці маці сам вёў няхітрую хатнюю гаспадарку, з задавальненнем шчыраваў на дачных «лысагорскіх» сотках. Суседзі па-добраму зайздросцілі Яўгену, гледзячы на ягоны чыста прыбраны агарод, праполатыя і палітыя грады. Гэтак жа, па-гаспадарску, ён паводзіў сябе і на сваёй літаратурнай дзялянцы. Пісаў грунтоўна, удумліва, не гнаўся за колькасцю кніжак, каб потым выхваляцца гэтым. Тым не менш, на ягоным творчым рахунку каля дзесяці кніг, якія занялі дастойнае месца на паліцах беларускай літаратуры. Ён бы напісаў і больш, нават у гэты не такі ўжо і доўгі жыццёвы тэрмін, але ж Яўген не толькі пісаў, а і шмат чытаў: класікаў, сучаснікаў, сачыў за творчасцю калег і сяброў. Пра гэта сведчыць хатняя бібліятэка пісьменніка: бадай, яго асноўнае багацце. На кнігі ён не шкадаваў грошай, бо Яўген Міклашэўскі з таго пакалення пісьменнікаў, для якога кніга была галоўнай каштоўнасцю і духоўным здабыткам. Недзе каля пятнаццаці тысяч кніг — ад энцыклапедычнай, антычнай, класічнай да сучаснай літаратуры — занялі ўсе шафы, размясціліся на падлозе ў калідоры.

Калі стан здароўя пагоршыўся, Яўген сам аднойчы выказаў заклапочанасць лёсам бібліятэкі. Я тактоўна «падказаў», прыгадаўшы пра рашэнне майго земляка Я. Сіпакова

перадаць сваю ўнікальную бібліятэку (больш як 15 000 кніг) Аршанскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы. Там рыхтуецца да адкрыцця навуковая зала, якая будзе насіць яго імя. Яўген Васільевіч выслухаў мяне і самотным тонам зазначыў: «Мае Лыскі цяпер за мяжой, у Беластоцкім павеце».

Кнігі — не адзінае захапленне пісьменніка. Побач з ім, на пачэсным месцы ў кватэры, заўсёды ляжала скрыпка. Яна захоўвалася не проста як фамільная рэліквія. Яўген Васільевіч хоць і не меў музычнай адукацыі, але даволі добра валодаў гэтым далікатным інструментам. На публіцы ён не выступаў, але калі рабілася самотна, наплывалі ўспаміны, вочы самі пачыналі шукаць скрыпку. Яна была ягоным своеасаблівым душэўным камертонам, які дапамагаў зняць нервовае, псіхалагічнае напружанне, пазбавіцца сумнага, гнятлівага настрою, які прыходзіў да творцы ўсё часцей і часцей. Але скрыпка была для свайго ўладальніка не толькі лекарам, а і натхніцелем: яна зараджала душу тым высокім, светлым хваляваннем, з якога і пачынаецца творчы працэс. Дарэчы, гэта добра адчуў Мікола Маляўка, які ў развітальным лімаўскім вершы прысвяціў скрыпцы Яўгена Міклашэўскага некалькі пранікнёных радкоў:

Нашчадкам творца перадаў у спадчыну
І ключ скрыпічны свой, і слова матчына.
Разгорнеш кнігу, што яшчэ маўчыць,
Кранеш вачамі верш — вясёлы, сумны, —
І музыка ў радках яго гучыць,
Як быццам гэта не радкі, а струны.

Калі хвароба пачала прагрэсіраваць, на лячэнне патрэбны былі немалыя грошы, а пенсія ж вядома якая. Яўгену Васільевічу параілі прадаць дачу, аднак пісьменнік вельмі даражыў ёю: яна нагадвала яму пра вясковае жыццё і маленства. Ён адхіляў усе прапановы пакупнікоў, бо спадзяваўся вярнуцца на Лысую гару.

Праз нейкі час Я. Міклашэўскі не мог ужо самастойна хадзіць у магазін, з цяжкасцю рухаўся па кватэры. На жаль, блізкія людзі дапамагчы яму не маглі. Ва Украіне памерла родная сястра, а родны брат з-за інваліднасці амаль не пакідаў кватэру ў Магілёве. Праўда, Яўгена Васільевіча падтрымлівалі сябры, калегі з Саюза пісьменнікаў Беларусі. Перыядычна наведвалі яго Іван Стадольнік, Яўген Хвалей. Шэфства над пісьменнікам узяла камісія па рабоце з ветэранамі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. На мае просьбы праведаць хворага і дапамагчы яму адгукнуліся Міхась Пазнякоў, Ганад Чарказян. У апошнія два тыдні я і Мікола Маляўка стараліся, як маглі, палегчыць становішча Я. Міклашэўскага. Даводзілася выклікаць розныя аварыйнарамонтныя службы (пацяклі краны, адключалася святло, тэлефон), шукаць і весці перамовы з блізкімі, выклікаць медыкаў, прыбіраць у кватэры і даглядаць хворага. Калі мы сыходзілі, прасіліназіраць за хворым суседку, якой яшчэ раней, з дазволу Яўгена, перадалі ключ ад кватэры.

Медыкі не хацелі забіраць яго ў бальніцу. Давялося звяртацца да М. Чаргінца. На наступны дзень, пад вечар, М. Пазнякоў пазваніў мне і сказаў, што пытанне пра шпіталізацыю вырашана станоўча. Аднак брыгада хуткай дапамогі, якая прыбыла да пісьменніка, канстатавала яго смерць…

За мінулы час сваякі Я. Міклашэўскага паспелі прадаць ягоную кватэру і дачу. Што сталася з бібліятэкай, з рукапісамі, дакладна невядома. Частку з іх родзічы як быццам перадалі літаратурным музеям. На жаль, праблема вывучэння і захавання творчай спадчыны памерлых пісьменнікаў пакуль што не вырашана.

Прабач, чытач, за доўгае пасляслоўе да рэцэнзіі. Мне хацелася паказаць абставіны, у якіх яна пісалася, абавязковасць сапраўднага пісьменніка перад калегам, уменне радавацца поспеху таварыша, нават калі пакутуюць душа і цела. Гэта ўзор вышэйшай шчырасці на парозе вечнасці і вернасці пісьменніцкаму доўгу. Гэта ўрок для нас, жывых: і сталых пісьменнікаў, і маладых.

***Павел САКОВІЧ***



d

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# ДЗЕ ХЛОПЧЫК ТОЙ?

## *З цыкла «Шляхі і вяртанні»*

Вершы ў дзяцінстве я чытаць не любіў. Як і апісанні прыроды. Заўсёды хацелася прапусціць, перагарнуць старонку, каб не перарываць захапляючы сюжэт. Вершы ж трэба было вучыць на памяць, што называецца, зубрыць, і хоць я запамінаў іх даволі хутка, усё ж дзеянне гэта не прыносіла асалоды.

Пазней здавалася, што складаць іх лёгка: абы толькі рыфма была! Я нават паспрабаваў у пятым класе:

Куды не глянеш навакол —
Савецкая зямля!
Плыве савецкі ледакол,
Яго вітаю я…

Паслаў у «Піянер Беларусі» і стаў чакаць, калі надрукуюць. Але ў прыгожым канверце прыйшоў адказ за подпісам літкансультанта Яўгена Курто. У лісце, надрукаваным на машынцы, літкансультант рабіў мне заўвагі па тэксце, раіў чытаць класікаў і дасылаць допісы пра жыццё нашай піянерскай арганізацыі.

Адно суцяшала: канверт быў дужа прыгожы, рознакаляровы, з малюнкам, і цешыла, што наша паштальёнка бачыла, які важны ліст я атрымаў ажно са сталіцы.

Паспрабаваў напісаць верш па-руску і паслаў у «Зорьку». Вынік быў той жа, і амаль тымі ж словамі мне адказаў літкансультант Міхаіл Герчык.

Пасля гэтага спробы стаць паэтам я спыніў і не браўся за пяро аж да восьмага класа, пакуль не прыехала да маёй аднакласніцы Люські стрыечная сястра з расійскага горада Вольска.

Было лета, прыгожыя ціхія вечары, прагулкі над хуткаплыннай Палатой, першы нясмелы пацалунак.

Потым Люськіна сястра з'ехала, а я напісаў і паслаў ёй верш:

Я приду на почтамт утром рано,
Сяду, тихо пером поскриплю,
И отправлю тебе телеграмму,
В ней три слова «Тебя я люблю».
И пускай этим утром чистым
Сквозь туман голубых снегов
Перестуком телеграфиста
Понесется моя любовь.

Адказу на сваё прызнанне я не дачакаўся і праз пэўны час позна ноччу склаў наступныя радкі:

Ты пайшла, як і лета пайшло,
Не дагоніш.
І пакінула толькі цяпло
У далонях.
З дрэва падае жоўты лісток,
Гэта восень.
А цябе нізашто,
Нізашто не адпросіш.

Пасля час ад часу я крэмзаў паперу рыфмаванымі радкамі, хаваючы іх ад усіх, бо гуляў у футбол за зборную школы і ведаў, што хлопцы мяне засмяюць, калі даведаюцца, што пішу вершы.

Аднойчы аднакласнік прынёс мне выразку з нейкага часопіса.Там былі падкрэслены радкі:

Твои зубы смелы
В них усмешка ножа
И гудят как шмели
Золотые глаза…

Над імі стаяла — Андрэй Вазнясенскі.

Вершы былі настолькі не падобныя да таго, што чытаў раней, што мяне нібы аглушыла. Гэтыя вочы, якія гудзяць як чмялі, гэтая ўсмешка нажа… Аказваецца, і так можна пісаць…

А праз некаторы час нам у кнігарні трапілася кніга Вазнясенскага «Ахиллесово сердце». Трапілася выпадкова, бо кнігі гэтага паэта, мы ведалі ўжо, былі дэфіцытам.

Мы яе чыталі па чарзе. Чыталі і зачытваліся яркай нязвыклай да гэтага паэзіяй.

Аве, Оза. Ночь или жилье,
Псы ли воют, слизывая слёзы,
Слушаю дыхание Твое,
Аве, Оза…

...Мимо санатория
Реют мотороллеры.
За рулем влюбленные —
Как ангелы рублевские…

(Гэта цяпер слова можа набыць крыху іншы сэнс, а тады мела адно азначэнне — старажытны жывапіс Андрэя Рублёва.)

Лежат велосипеды
В лесу, в росе,
В березовых просветах
Блестит шоссе…

Леса роняют кроны,
Но мощно над землей
Ворочаются корни
Корявой пятерней.

Мова гэтых вершаў, раскаванасць, зрокавасць вобразаў, стоеная іх энергія нічым не нагадвалі класічную ўзнёсласць вывучаемых у школе мэтраў. Гэта быў наш час, нашы тэмы, гэта гаварылі мы… Можа, тады я ўпершыню зразумеў, што паэзія ёсць жыццё, ёсць душа, што гэта калі баліць, калі адчуваеш свет як сябе самога… Я стаў чытаць іншых паэтаў і зразумеў, што так многа цудоўных радкоў створана імі, якія хацеў бы напісаць я…

Потым былі Багдановіч, Караткевіч, далучэнне да беларускага паэтычнага слова, жаданне пісаць на роднай мове. Былі новыя радасныя адкрыцці, былі дзясяткі і сотні завучаных на памяць любімых вершаў. Але пачыналася гэта з кнігі, якую і дагэтуль часам перагортваю, углядаюся ў паметкі алоўкам, пастаўленыя маімі сябрамі, з якой пачаўся мой шлях у нязведаную і таямнічую краіну слоў і вобразаў.

* * *

…Заместа слоў пачаўся снегапад.
А двор прапах смалою іігліцай,
Чаму мне гэтак страшна памыліцца, —
Сказать баюся нешто неўпапад…

Перачытваю гэтыя радкі і нібыта чую гэты знаёмы голас. Гэтыя напеўныя маскоўскія інтанацыі «пад Ахмадуліну», нібыта бачу ўсю ўсхваляваную постаць, лёгкае падрагванне ў такт зборнічка ў руках…

Раіса Баравікова… Раіса Андрэеўна. Гэта цяпер яна — Раіса Андрэеўна, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, член рэдкалегій, грамадскіх камісій, аўтар шматлікіх кніг… А калі пісаліся гэтыя радкі, Баравікова была проста Раяй, выпускніцай Маскоўскага літінстытута, маладой прыгожай жанчынай, вакол якой заўсёды былі сябры, дружныя маладыя кампаніі.

Ёй нібы наканавана быць паэткай — летуценнай, рамантычнай, «дзяўчынкай на шары». У беларускай паэзіі, строгай, пасялянску стрыманай, трохі пурытанскай яна заблішчэла яркай зорачкай. Хто тады не цытаваў яе славутыя радкі:

І ад радасці хмельнае грузны,
Абмінаючы дрэвы і пні,
Прыпадзі да распаленых вуснаў
І ў высокія травы шпурні…

Разам з Раісай Баравіковай у беларускую паэзію прыйшла цэлая плеяда маладых таленавітых творцаў. Гэта сапраўды быў залаты час айчыннай літаратуры. У студэнцкіх аўдыторыях, у вялікіх залах палацаў культуры, па радыё і тэлебачанні нібы ішоў суцэльны хіт-парад цудоўных вершаў, кожная новая публікацыя, кніга выклікалі вялізны розгалас у друку…

Сённяшнім маладым здаецца, што сучасная беларуская літаратура, як яны яе называюць «сучбелліт», пачынаецца з іх. Я б параіў ім перачытаць даўнейшыя зборнікі, і, думаецца, рэйтынгі майстэрства і значнасці былі б пакуль не на іх карысць. Ва ўсякім разе, па маладой няўрымслівасці, высокім палёце, пругкасці радка і яркасці вобразаў з Раісай Баравіковай змагацца пакуль няма каму.

* * *

Баравікова амаль мая равесніца, але для мяне яна была прадстаўніцай іншага пакалення, тых, хто дастаткова рана і магутна ўвайшоў у літаратуру. Практычна, у 18—20 гадоў яны былі ўжо аўтарамі шматлікіх публікацый у часопісах і газетах, а то і першых зборнікаў паэзіі ці прозы.

Мне быў дваццаць адзін год, калі я ўпершыню трапіў на семінар маладых літаратараў у Каралішчавічах, які праводзіў Саюз пісьменнікаў. За спінай у мяне былі толькі першыя падборкі ў мясцовым друку, у

газеце «Віцебскі рабочы», званне лаўрэата абласной літаратурнай прэміі за верш «Старая пласцінка».

Ва ўсе вочы я глядзеў на Алеся Разанава, Яўгенію Янішчыц, Віктара Яраца… Многія іх вершы я ўжо ведаў на памяць: і славутыя радкі «Пазаві мяне, пазаві...», і разанаўскія «прысняцца жоўтыя іконы і твары строгія святых, і перапэцканыя колы сярод вясновае слаты…»

«Юныя класікі» трымаліся крыху адасоблена, купай, а мяне так цягнула да іх: хацелася падзяліцца сваімі ўражаннямі, пагаварыць. Упершыню я бачыў столькі моладзі, якая гаворыць паміж сабой па-беларуску. Мовай я валодаў няблага, але гаварыць на ёй часта не даводзілася; нават у рэдакцыі, дзе я працаваў карэктарам, па-беларуску гаварыў тады толькі Іван Стадольнік, які нядаўна прыйшоў да нас з Глыбоччыны, дзе раней да гэтага быў зубным доктарам.

У пакоі, куды мяне пасялілі, жылі разам са мной Сцяпан Букацiч і Алесь Крыга. Мяне ж цягнула болей да Разанава, Яраца. Я ведаў пра іх гісторыю: за ліст у абарону беларускай мовы іх перавялі з БДУ — аднаго ў Брэст, другога — у Гомель.

З Разанавым удалося перакінуцца словамі, але ў цэлым яго кампанія трымалася на пэўнай адлегласці.

Бліжэй аказаўся Лёня Якубовіч — хлопец з Салігорска, дзе ён працаваў на шахце. Запомніліся яго радкі, прысвечаныя Кастусю Каліноўскаму:

Вяртаюся я ў даўнасць, прыходжу, як на суд,
Нясу свае я ўчынкі і клопаты нясу.
Трывожныя эпохі, гарачыя крыжы…
Ці горача я верыў і ці трывожна жыў?

З Лёняй нас аб'яднала яшчэ тое, што пры разглядзе нашых вершаў шаноўны мэтр папракнуў, што ў іх не адчуваецца дыхання гігантаў-новабудоўляў Салігорска і Наваполацка, адкуль мы прыехалі.

Так атрымалася, што раз'язджаліся мы пасля заключнай вечарыны, дзе я ўпершыню ўбачыў Шамякіна, Брыля, Быкава, у два этапы. Наш «дзядзька» Тарас Хадкевіч сказаў, што ўсім месца ў аўтобусе не хопіць, і некаму можна застацца на заўтрашні дзень, калі за намі прышлюць саюзаўскі «Рафік».

Убачыўшы, што сярод тых, хто вызваўся застацца, Разанаў з кампаніяй, падняў руку і я.

Дарэчы, потым мне Лёня патлумачыў, што гэта выклікала пэўную насцярожанасць: ці не «засланы казачок» я…

Потым мы пачалі сустракацца ў час сесій (абодва, як аказалася, былі студэнтамі-завочнікамі журфака БДУ).

Памятаю, аднойчы падчас зімняй сесіі разам жылі на прыватнай кватэры.

І яшчэ запомніўся адзін выпадак. Цэлы дзень гулялі па праспекце, заходзілі ў кнігарню, дзе я набыў «Чазенію» Караткевіча (Лёня ўжо меў гэту кнігу).

Пад вечар забрылі ў «Фабрыку-кухню» (была такая сталоўка ў Мінску). З сабой была пляшка віна (дарэчы, тады так рабілі многія).

Раптам у разгар размовы да нашага століка набліжаецца высокі юнак, модна і дорага апрануты:

— Простите, услышал, что вы по-белорусски разговариваете. Наверно, писатели молодые.

— А што? — пацікавіўся Лёня.

— Просто интересно. Белорусскую литературу только в школе изучал. И, знаете, ничего в душу не запало.

— А Караткевіча вы чыталі? — не вытрымаў я.

— А кто это?

— Слухай, давай падорым яму тваю «Чазенію», — усхапіўся Лёня.

І мы падпісалі кнігу незнаёмцу, сустрэча з якім адбылася праз шмат гадоў.

А было гэта так. Пасля адной з вечарын у Акадэміі навук да мяне падышоў незнаёмы мужчына і запытаўся:

— Вы мяне не пазнаяце?

— Не, прабачце.

— А памятаеце «Фабрыку-кухню»? Вы мне яшчэ кнігу падарылі.

— Цяпер памятаю. Гэта былі вы?

— Так. З тых часоў назаўсёды палюбіў Караткевіча і беларускую мову. І сябра мой таксама. Мы хоць і фізікі, але заўсёды і ўсюды размаўляем па-беларуску. А дзе ваш сябар?

— Загінуў у шахце ў сямідзясятым.

— Вось чаму яго вершаў у друку не сустракаем, а вашы зборнікі чыталі...

Мужчына пайшоў, а я яшчэ доўга не мог супакоіцца. Перада мной паўставалі карцінкі мінулага і гучаў глухаваты, нібы з глыбінь вечнасці, голас:

Нараджаемся не для смерці.
Нараджаемся мы, каб жыць.
Ды страла нацэлена ў сэрца.
Праз вякі ўжо страла ляціць.

Вячаслаў РАГОЙША

# УКРАІНА, ЦВЕЦЕ ЛЮБЫ…

«Украіна, цвеце любы, сонцам гадаваны…» Так наш Янка Купала звярнуўся калісьці да сястры Украіны. У гэтых словах, у іх эмацыйна-вобразным напаўненні — шчырыя, па-роднаснаму сардэчныя спрадвечныя адносіны беларусаў да сваёй паўднёвай суседкі. Адносіны, якія не ў апошнюю чаргу мацаваліся і мацуюцца повязямі ў галіне культуры, найперш літаратуры.

Беларуска-ўкраінскія культурныя сувязі, як ніякія іншыя, маюць даўнія і трывалыя традыцыі. Падмурак іх — не толькі ў этнічнай блізкасці беларусаў і ўкраінцаў, але і ў працяглым жыцці нашых продкаў у адных і тых жа дзяржаўных утварэннях: Кіеўскай Русі, Вялікім Княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, СССР. З пачатку 1990-х гг. Украіна і Рэспубліка Беларусь на палітычнай карце свету вызначыліся як незалежныя дзяржавы. Тым не менш, этнічна-моўна-культурная блізкасць, агульнасць гістарычнага лёсу і цяпер прадвызначаюць асаблівую духоўную роднасць, а ў выніку — плённасць літаратурных сувязей беларускага і ўкраінскага народаў.

Распачаліся яны яшчэ ў эпоху Кіеўскай Русі. Новыя павевы хрысціянства, якое ішло з Кіева, наслойваліся на спрадвечныя міфалагічныя ўяўленні і фальклорныя перагукі двух народаў. Узаемасувязі старажытных беларускай і ўкраінскай літаратур назіраюцца ў летапісанні, розных жанрах царкоўнай і свецкай пісьменнасці. Яшчэ больш яны ўзмацніліся ў сярэднія вякі, калі завязаліся цесныя кантакты паміж украінскімі (Кіеў, Астрог, Львоў) і беларускімі (Полацк, Вільня, Брэст) культурнымі цэнтрамі, праваслаўнымі брацтвамі (магілёўскім і львоўскім, мінскім і кіеўскім і інш.). Дабратворны ўплыў на ўкраінскае кнігадрукаванне і літаратуру зрабілі Францыск Скарына, Сымон Будны, Сільвестр Косаў, Васіль Цяпінскі. Асобныя літаратары-ўкраінцы (Мялецій Сматрыцкі, Лаўрэнцій і Стэфан Зізаніі і інш.) жылі, выдавалі кнігі і вялі асветніцкую працу ў Беларусі, а беларускія (Андрэй Рымша, Сімяон Полацкі) вучыліся ва Украіне (у прыватнасці, у Кіева-Магілянскай акадэміі). У XVII ст. украінскае вершаванне, прапаведніцкая літаратура адчулі пэўны ўплыў Сімяона Полацкага. У сваю чаргу, Іван Вішанскі, Захарый Капысценскі ўплывалі на развіццё беларускай палемічнай літаратуры, на творчасць Лявонція Карповіча, Афанасія Філіповіча і інш. У 2-й палове XVII — пач. XVIII ст. сувязі пераважалі ў фальклоры, школьнай драматургіі (вершапісанне, арацыі, інтэрмедыі).

Новы этап беларуска-ўкраінскіх культурных узаемасувязей наступіў з канца XVIII ст., калі у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) беларускія землі былі далучаны да Расійскай імперыі (левабярэжная Украіна знаходзілася ў складзе Расіі яшчэ з сярэдзіны XVII ст.). Некаторыя ўкраінскія пісьменнікі (Якаў Галавацкі, Аляксандр Старажэнка, Іван Катлярэўскі) пэўны час жылі і працавалі ў Беларусі, беларускія (Ян Баршчэўскі, Франц Савіч, Францішак Багушэвіч) — ва Украіне. Тройчы праз Беларусь праязджаў Тарас Шаўчэнка, што затым адлюстравалася ў некаторых яго творах, абумовіла шчырасць кантактаў з беларускімі літаратарамі. Беларусы Еўдакім Раманаў, Міхаіл Доўнар-Запольскі, Яўхім Карскі даследавалі помнікі ўкраінскай мовы і літаратуры, украінцы Міхайла Драгаманаў, Аляксандр Патабня, Уладзімір Гнацюк — беларускай. Пад уздзеяннем «Энеіды» Катлярэўскага ўзнікла беларуская «Энеіда навыварат». Паэзія і асоба Шаўчэнкі паўплывалі на творчасць

Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і іншых беларускіх пісьменнікаў. Кантакты спрыялі фарміраванню беларускай і ўкраінскай рэвалюцыйнай публіцыстыкі. Іван Франко і Міхайла Паўлык склалі праект «Украінска-польска-літоўска-беларускага брацтва» і «Выдавецкай суполкі». З украінскімі рэвалюцыянерамі трымаў сувязь пецярбургскі «Гурток моладзі польска-літоўскай, беларускай і маларускай». Кіраўнік гэтага гуртка Адам Гурыновіч пераклаў на беларускую мову «Гімн» Івана Франко. На светапогляд і творчасць Лесі Украінкі паўплываў мінскі сацыял-дэмакрат Сяргей Мяржынскі.

З часу рэвалюцыі 1905—1907 гг. пачынаецца новы этап беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемаадносін. Гэтаму паспрыяла найперш адмена забароны друку на беларускай і ўкраінскай мовах на тэрыторыі Расійскай імперыі. Дзякуючы ў першую чаргу беларускай газеце «Наша Ніва» (1906—1915) і іншым выданням, гэтыя ўзаемаадносіны набылі пастаянны і сістэмны характар. «Наша Ніва» апублікавала шэраг перакладаў на беларускую мову твораў Шаўчэнкі, Васіля Стафаніка, Сцяпана Руданскага і інш., матэрыялы пра гэтых і многіх іншых украінскіх пісьменнікаў (Івана Катлярэўскага, Марка Крапіўніцкага, Івана Франко, Лесю Украінку, Барыса Грынчэнку і інш.), рэцэнзіі на спектаклі ўкраінскіх тэатральных труп і г. д. Газета наладзіла сувязі з асобнымі ўкраінскімі перыядычнымі выданнямі («Рада», «Українська хата» і інш.), таварыствам «Просвіта»... Усё гэта дае падставы гаварыць пра своеасаблівы нашаніўскі перыяд у беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязях. Асаблівую ролю ў развіцці гэтых сувязей адыграў Максім Багдановіч, які даследаваў творчасць некаторых украінскіх пісьменнікаў (Тараса Шаўчэнкі, Івана Франко, Грыцько Чупрынка, Уладзіміра Самійленкі і інш.), пісаў украіназнаўчыя артыкулы, выступаў з гэтымі артыкуламі ў рускім і беларускім друку. У гэты час пашырыліся асабістыя сувязі літаратараў. У асобе львоўскага вучонага Іларыёна Свянціцкага Цётка, якая ў тагачаснай Аўстра-Венгрыі вымушана была хавацца ад пераследавання за рэвалюцыйную дзейнасць, знайшла свайго дарадца і апекуна. З яго дапамогай яна выдала ў Жоўкве (каля Львова) кнігі «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». Брашура самога Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства» (Львоў, 1908) стала першым ва Украіне і ў Беларусі сістэматызаваным нарысам гісторыі беларускай літаратуры. Ва Украіне, у Кіеве, жыў і працаваў малады беларускі публіцыст Сяргей Палуян, які з'явіўся яшчэ адным спалучальным звяном паміж тагачаснымі літаратурамі двух народаў. Бурнае развіццё маладой беларускай літаратуры і пашырэнне ўкраінскага друку дало падставы для азнаямлення ўкраінцаў з асобнымі яе дасягненнямі (пераклады твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш. і інш.).

Рэвалюцыйныя падзеі 1917 г., уздым нацыянальнай свядомасці і агульнай культуры, дзяржаватворчыя працэсы ў асяроддзі двух народаў, што прадвызначылі ўтварэнне УССР і БССР, прывялі да нябывалага дагэтуль развіцця беларускай і ўкраінскай літаратур, а разам з гэтым — і беларуска-ўкраінскіх літаратурных кантактаў. Развіццю гэтых літаратур і літаратурных кантактаў, несумненна, нанеслі значную шкоду асобныя катаклізмы XX ст. (сталінскія рэпрэсіі, галадамор ва Украіне 1932—1933 гг., падзеі Вялікай Айчыннай вайны), але спыніць іх ужо нішто не змагло. Міжлітаратурныя сувязі ўзняліся на дзяржаўны ўзровень. З сярэдзіны 1920-х гг. усталёўваюцца кантакты не толькі паміж асобнымі беларускімі і ўкраінскімі пісьменнікамі, але і паміж цэлымі пісьменніцкімі арганізацыямі (беларускія «Маладняк», «Узвышша», «Полымя», украінскія «Гарт», «Плуг», «Молодняк»). Умацаванню міжлітаратурных сувязей паспрыяла і ўтварэнне адзінага Саюза пісьменнікаў СССР (1934). Наладжваюцца абмен пісьменніцкімі дэлегацыямі, правядзенне тыдняў і дэкад суседніх літаратур, абмен спецыяльнымі выпускамі часопісаў і газет, планавае выданне твораў братніх літаратур у перакладзе на родныя мовы (у тым ліку да юбілейных дат і розных мерапрыемстваў). У 1929 г. у Харкаве выйшла першая анталогія беларускай літаратуры «Нова Білорусь». Затым на ўкраінскай мове ў розны час былі выдадзены анталагічныя зборнікі, выбра-

ныя творы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Івана Мележа, Янкі Брыля¸ Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага і інш. У перакладзе на беларускую мову неаднаразова выдаваліся творы Шаўчэнкі, Франко, Лесі Украінкі, выходзілі творы Катлярэўскага, Міхайлы Кацюбінскага, Паўло Тычыны, Максіма Рыльскага, Міколы Бажана, Астапа Вішні, Андрэя Малышкі, Уладзіміра Сасюры, Алеся Ганчара, Міколы Нагнібеды, Міколы Вінграноўскага, Дмытра Паўлычкі, Івана Драча, Ліны Кастэнка, Уладзіміра Яварыўскага, Рамана Лубкіўскага, Тамары Каламіец і інш. У прыватнасці, на працягу 1917—1986 гг. на ўкраінскай мове выйшлі 222 кнігі беларускай літаратуры агульным тыражом 12 мільёнаў 380 тысяч асобнікаў. За гэты ж час на беларускай мове свет пабачылі 166 кніг украінскай літаратуры тыражом 1 мільён 511 тысяч асобнікаў. Заслуга ў гэтым — многіх таленавітых перакладчыкаў як з украінскага боку (Міхайла Драй-Хмара, Сяргей Піліпенка, Рыльскі, Тычына, Сасюра, Малышка, Грыгорый Кочур, Дмытро Паламарчук, Уладзімір Лучук, Драч, Паўлычка, Лубкіўскі і інш.), так і з беларускага (Янка Купала, Якуб Колас, Аркадзь Куляшоў, Анатоль Вялюгін, Васіль Вітка, Язэп Семяжон, Максім Танк, Сяргей Грахоўскі, Хведар Жычка, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і інш). Працэс беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязей стаў прадметам зацікаўлення шэрага беларускіх (Т. Кабржыцкая, Э. Мартынава, В. Рагойша, М. Тычына і інш.) і ўкраінскіх (П. Ахрыменка, І. Астапік, Л. Бондар, Б. Чайкоўскі, Я. Шабліоўскі і інш.) літаратуразнаўцаў. Яны сталі вызначаць тэматыку спецыяльных канферэнцый (Гомель, 1969; Львоў, 1972; Мінск, 1973; Сумы, 1976, 1981, 1982), навуковых выданняў, дысертацыйных даследаванняў…

Новы, апошні па часе, этап беларуска-ўкраінскіх зносін пачынаецца з 1990-х гг. Абумоўлены ён эпахальнымі падзеямі: распадам СССР і сацыялістычнага лагера, утварэннем многіх незалежных дзяржаў, у тым ліку — Украіны і Рэспублікі Беларусь. Падзеі гэтыя неадназначна пазначыліся як на кантактах асобных пісьменнікаў, так і літаратур у цэлым. Відавочна зменшылася колькасць узаемаперакладаў, зніклі некаторыя ранейшыя формы ўзаемасувязей (літаратурныя тыдні і дэкады, выданні сумесных нумароў часопісаў і газет і інш.). Прычыну такога становішча, напэўна, трэба шукаць як у эканамічных, так і ў грамадска-палітычных варунках постсавецкага часу. Гэта (асабліва ў першае постсавецкае дзесяцігоддзе) — развал эканомікі, так званы дзікі рынак, што не садзейнічае распаўсюджванню сур'ёзнай, у тым ліку перакладной, літаратуры, адыход даволі значнай групы вядомых пісьменнікаў ад літаратуры ў сувязі з іх палітычным заангажаваннем, жаданне прапагандаваць найперш сваю нацыянальную літаратуру, многае з якой нядаўна было забаронена, недаступнасць сродкаў масавай інфармацыі суседняй рэспублікі… Адмоўна паўплывалі на літаратурныя сувязі і пазбаўленне многіх ранейшых дзяржаўных выдавецтваў і органаў друку матэрыяльнай падтрымкі з боку дзяржавы, закрыццё асобных з іх, ліквідацыя штогодніх спецыялізаваных перакладных альманахаў (тыпу беларускіх «Далягляд», «Братэрства»), адсутнасць беларускамоўнага перыядычнага органа, прысвечанага мастацкаму перакладу (накшталт украінскага часопіса «Всесвіт»)… У той жа час у канцы XIX — пачатку XXI ст. для развіцця беларуска-ўкраінскіх культурных узаемаадносін стварыліся пэўныя магчымасці, якіх раней проста не магло быць. У Мінску адкрылася Пасольства Украіны, у Кіеве — Пасольства Беларусі. Абодва пасольствы, апрача іншага, многае робяць і для прапаганды на тэрыторыі суседняй дзяржавы сваёй нацыянальнай культуры. З аднаго боку, з пачатку 90-х гг. XX ст. стала магчымым прапагандаваць украінскую культуру ў Беларусі з дапамогай навастворaных украінскіх грамадска-культурных арганізацый («Січ», «Заповіт», «Ватра» і інш.). З другога боку, беларускія грамадска-культурныя суполкі ва Украіне (Кіеў, Харкаў, Львоў і інш.) таксама праводзяць пэўную працу па прапагандзе культурных

дасягненняў беларускага народа — і не толькі сярод беларускай дыяспары, але і ўкраінскага насельніцтва. Адмена цэнзуры прывяла да ўзнікнення шматлікіх прыватных выдавецтваў, што значна павялічыла магчымасці выдання кніг, у тым ліку перакладных. Пачалі наладжвацца літаратурныя кантакты, не абцяжараныя абавязковымі дзяржаўнымі заданнямі і планамі. Вось некалькі прыкладаў самых значных з'яў сучаснага беларуска-ўкраінскага пабрацімства.

Пяты нумар беларускага часопіса «Arche» («Пачатак») за 2001 г. быў цалкам (а гэта больш як 500 старонак!) прысвечаны Украіне, яе культуры, літаратуры, яе грамадска-палітычнай і філасофскай думцы. Перад намі — тое цікавае, актуальнае, самабытнае, што да гэтага часу на беларускай мове не з'яўлялася. У 2002 г. вядомы беларускі перакладчык Алесь Траяноўскі выдаў арыгінальную кнігу сваіх перакладаў з украінскай паэзіі «Імем няўмольным свабоды». Кніга адметная найперш тым, што ў яе ўвайшлі творы 21 паэта, якія былі рэпрэсаваны ў гады культу асобы Сталіна ці загінулі ад рук нямецкіх фашыстаў. Большасць з паэтаў дагэтуль зусім ці амаль не перакладалася на беларускую мову і ў Беларусі наогул малавядома. Своеасаблівым адкрыццём стала і кніга І. Франко «Народзе мой…: Творы» (2006), выдадзеная да 150-годдзя пісьменніка. У адносна невялікую кніжку ўвайшлі творы некалькіх жанраў, якія дасюль па розных прычынах па-беларуску не з'яўляліся. У 2007 г. у адным з мінскіх прыватных выдавецтваў выйшла цікавая кніга вядомага сучаснага ўкраінскага пісьменніка Аляксандра Ірванца «Роўна / Ровно: Выбраныя творы». Знакавай з'явай беларуска-ўкраінскіх навуковых і культурных кантактаў стала праведзеная ў 2003 г. у Мінску міжнародная навуковая канферэнцыя «Украіна-Беларусь: Гістарычны вопыт узаемаадносін». Канферэнцыю сумесна арганізавалі і правялі Інстытуты гісторыі нацыянальных акадэмій навук Украіны і Беларусі пры падтрымцы Пасольства Украіны ў Беларусі. Добрым тэарэтычным падмуркам для канферэнцыйных навуковых дакладаў з'явіліся створаныя ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі і надрукаваныя ў 2002 г. (пад рэдакцыяй М. Тычыны і У. Мархеля) «Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей» (праз год кніга была перакладзена на ўкраінскую мову і выдадзена ў Кіеве). На ніве беларуска-ўкраінскага ўзаемаперакладу шчыруе і мінчанін Валерый Стралко, які перакладае вершы як з украінскай мовы на беларускую, так і з беларускай — на ўкраінскую. У яго перакладах у Мінску выйшлі кнігі «Непагасны агонь = Непогасний вогонь» (2003; у зборнік увайшлі некаторыя творы Шаўчэнкі, Лесі Украінкі і Франко ў беларускамоўных узнаўленнях і Янкі Купалы, Якуба Коласа і М. Багдановіча — ва ўкраінамоўных), зборнік вершаў Алеся Пісарыка «На кляновых лістах» (2000) і невялікая двухмоўная (творы друкуюцца ў арыгінале і ў перакладзе на ўкраінскую мову) кніжка дачасна памерлага беларускага паэта Алеся Пісьмянкова «Любіць бы вечна…» (2007). Пераклаў ён на ўкраінскую мову і класічную беларускую паэму XIX ст. «Тарас на Парнасе» для яе шматмоўнага выдання (Мінск, 2003; 2007). Аднак, несумненна, самым вялікім дасягненнем Стралко-перакладчыка стала ўкраінамоўнае ўзнаўленне «цар-звона беларускай літаратуры» (Алесь Адамовіч) — паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», якая пабачыла свет у кіеўскім выдавецтве «Український письменник» у самым канцы 2006 г. Гэта — трэці (пасля рускага і польскага) поўны пераклад класічнага коласаўскага твора на замежныя мовы.

Пачатак XXI ст. у адносінах да беларуска-ўкраінскіх літаратурных зносін азнаменаваўся знакавымі з'явамі і з украінскага боку. Знакаміты ўкраінскі паэт, майстар мастацкага перакладу Дмытро Паўлычка выдатна ўзнавіў на ўкраінскай мове цыкл купалаўскіх санетаў з 22 гэтых арыгінальных твораў — для кнігі Янкі Купалы «Санеты», што выйшла ў 2002 г. у Мінску на васьмі мовах (беларускай, англійскай, іспанскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай і французскай). Сапраўднай падзеяй і ўкраінскай культуры, і ўкраінска-беларускіх літаратурных сувязей стаў выхад у львоўскім выдавецтве «Світ» па сутнасці поўнага збору твораў Максіма

Багдановіча «Стратим-лебідь» (2002). У кнігу ўвайшлі літаральна ўсе паэтычныя, празаічныя, публіцыстычныя, літаратурна-крытычныя творы аўтара «Вянка» і яго эпісталярый у лепшых украінскіх перакладах (Драй-Хмары, Кочура, Паўлычкі, Лубкіўскага і інш.). Кнігу ўклаў, напісаў да яе прадмову і каментар, пераклаў большасць твораў лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі, даўні сябар беларускай літаратуры Раман Лубкіўскі. 2002 г. у Беларусі па ініцыятыве мясцовых украінскіх суполак і пры падтрымцы беларускага ўрада і Пасольства Украіны быў абвешчаны Годам Шаўчэнкі. Своеасаблівым падарункам Года Шаўчэнкі з’явілася створаная тым жа Лубкіўскім (ён — ініцыятар выдання, укладальнік кнігі, аўтар і перакладчык многіх матэрыялаў) кніга «Шевченкова дорога в Білорусь» (2004). У кнігу ўвайшлі, апрача публікацый пра святкаванне Года Шаўчэнкі, шматлікія творы беларускіх пісьменнікаў пра Кабзара, артыкулы пра сувязі ўкраінскага генія з Беларуссю, багаты ілюстрацыйны матэрыял, што ўключае фотакопіі арыгінальных матэрыялаў (малюнкі, кніжныя і часопісныя публікацыі, партрэты пісьменнікаў і інш.), ажно да здымкаў 2002 года, на якіх засведчаны моманты актыўных сучасных украінска-беларускіх кантактаў на розных узроўнях — ад культурных да палітычных. Гаворачы пра ўкраінскія пераклады беларускай літаратуры, з задавальненнем трэба адзначыць і выхад у Кіеве (2006) вялікага, прафесійна ўкладзенага Р. Піўтараком і А. Скапненкам «Беларуска-ўкраінскага слоўніка». Гэта першая ў гісторыі культурных узаемаадносін двух братніх народаў такая лексікаграфічная праца. Аналагічны «Украінска-беларускі слоўнік» В. Лемцюговай выйшаў у Мінску яшчэ ў 1980 годзе і дагэтуль адыгрывае сваю актыўную ролю пры перакладзе ўкраінскіх аўтараў на беларускую мову.

На пачатку XXI ст. некалькі ажывіліся асабістыя сувязі пісьменнікаў дзвюх братніх краін. У апошнія гады ў Беларусі пабывалі ўкраінскія майстры мастацкага слова. У сваю чаргу, асобныя беларускія пісьменнікі наведалі незалежную Украіну. У Мінску і некаторых іншых беларускіх гарадах устаноўлены помнікі Шаўчэнку. Адкрыты помнік Уладзіміру Караткевічу ў Кіеве. Нараджаюцца новыя формы кантактаў.

У апошні час (і гэта вельмі прыемна) да развіцця беларуска-ўкраінскіх літаратурных кантактаў пачалі актыўней далучацца пісьменнікі сярэдняга і малодшага пакаленняў. Яскравы прыклад — выданне ў Кіеве арыгінальнай сумеснай анталогіі сучаснай беларускай і ўкраінскай паэзіі «Сувязьразрыў / Зв’язокрозрив» (2006). У анталогію з кожнага боку ўвайшлі творы 12 паэтаў, якія сцвердзілі сябе як творцы ў перыяд дзяржаўнай незалежнасці Украіны і Беларусі. Дадзеная публікацыя ў часопісе «Маладосць» — яшчэ адно яскравае пацвярджэнне наладжвання плённых кантактаў паміж маладымі творцамі дзвюх братніх суседніх краін. Гэтаксама пацвярджэнне той рэальнасці, што не адно ва ўкраінскіх і беларускіх літаратараў, але ў саміх беларусаў і ўкраінцаў не страчана адчуванне неабходнасці культурнага ўзаемаазнаямлення і ўзаемаўзбагачэння. А гэта — сведчанне таго, што ў XXI ст. плён беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей не толькі замацуецца, а стане значна багацейшым.

***Часопіс «Маладосць» прапануе вам, сябры, перакласці на беларускую мову наступныя (ці іншыя) вершы сучасных маладых творцаў Украіны і даслаць іх нам у рэдакцыю на конкурс, прысвечаны 130-м угодкам Янкі Купалы і Якуба Коласа!***

***Чакаем!***

Ганна ОСМОЛОВСЬКА
(http://osmolovska.livejournal.com)

**ОСТ**

як сніг, почався десяток третій і пам'ятати про це — чи слід?
вже перша ночі, а в інтернеті тебе бракує, неначе слів,
яких бракує, мабуть, туристу
десь між нью-йорком та малібу,
що вчив три тисячі, знає — триста,
а решту — трішечки призабув.

(десяток третій, як біль, почався, а порівняння мої — дурні).
тебе бракує, неначе часу — мерцю, що стіксом пливе в човні
і хоче вимолити півроку,
щоб — ненадовго — у світ-кумир...
тебе бракує, неначе соку —
березі, видоєній людьми.

почався третій — не клас — десяток. тебе бракує, як сліпоти —
засудженому.
засну, де сяду.
але розбудиш мене не ти.

**БАТЬКОВІ**

докуривши десяту/шосту в житті/за ніч
і заснувши за день удруге/за тиждень втретє,
я побачила тата рідного уві сні
і в береті.

взагалі-то мій батько досить давно помер,
а ось нині, вбраний у мого віку одяг,
продає картоплю — звільнений інженер.
проходять.

покупці проходять, я тебе впізнаю,
хоч ніколи тебе не бачила, навіть фото.
покупці проходять, руку беру твою.
— хто ти?

наче фільмом повнометражним, керую сном.
і були — конфіскована пачка й розмова дивна.
і була вона останньою, як дзвінок
будильника.

**НУ А РАПТОМ ЙОГО НЕ ВИСТАЧИТЬ?**

не тому, що січневе — січневі,
а поетикове — поетику,
й не тому, що бажати спокою,
щастя-радості — це ганебно, —
побажали б мені суничного
в целофановому пакетику
для стояти у черзі, поки не
почорніє синясте небо.
щоби хмари (чи то посудини)
мокрим снігом, бо вниз не можна їм
продавщицю за плечі сіпали,
щоб хутчіше давала решту.
парасольки були зіпсутими
щоб у тітоньки щоб у кожної,
ну а в дядечок щоб у всіх були —
до єдиного — чорні мешти.
побажали б мені морозива,
стометрову я чергу вистою
для покласти в глибоку миску та
одягнути себе в халат.
і звучатиме не загрозливо
«ну а раптом його не вистачить?»,
хай не вистачить, небо — високо.
люди — радісні, я — мала.

Юлія ШУТЕНКО
(http://strybunochka.livejournal.com)

**1. ОБРАЗА**

Я ще жива,
Хоча моє серце майже виїдене чорними мурахами,
Що сидять у ньому, неначе мак у пиріжку,
І беззупинно гризуть і гризуть крихту за крихтою.
Он декілька сміливців уже знайшли хід
До моїх очей, і з них у світ визирають.
Я ще жива,
Хоча моє серце ниє, стиснуте
Клешнею велетенського рака,
Прищемлене дверима міської маршрутки
(а водій не дочуває мого розпачливого крику:
«відчини, відчини, я серце прищемила!»)

Але я ще жива...

**2. ПРОЩЕННЯ**

Минулося,
Нема мурах, ані одної,
А серце — гладь блакитної води.
Де зникнули? Ти справді чарівник!
Напевно, посеред густої ночі, коли я спала,
Ти взяв чарівну дудочку, приклав до вуст,
І під веселу музику їх викликав у путь.
Один за одним, ланцюжком тоненьким,
Вони покрокували, мов солдати,
У темну далечінь, звідкіль прийшли.

Роса спадає в квітку мого серця,
Прозора і солодка, ніби мед.
І, наче сон страшний, та клешня,
Що в пута замикала і тиснула.
Я оживаю піснею, хвалінням,
Бо Ти — душі моєї пильний Сторож.

* * *

Це домашнє, приручене місто
Одягнуло сіренький фрак.
Голуби походжають врочисто,
Вибивають дзьобами такт.

Тихі вальси опалого листя,
Круговерті вітрів сумні.
Засвітилось дерев розхристя —
Хвильки тіней у ріках днів.

А кора — то од ран оборона —
Зморшкувато собі дріма.
На галузці старенька ворона,
Ніби привид: була — й нема.

А вода на асфальтових джинсах,
Наче стразів блискучий лоск…
Он та жінка чекає на принца,
А в тієї — вже відбулось...

Каруселі омріюють літо,
А коти — смачний «кітікет».
Оцій першій — в цілунках ще мліти,
А отій — натирати паркет…

Це столике, стриножене місто
Загорнулося в сірий шарф,
І випурхують вогники-іскри
Із очей його — жовтих фар.

Ігнат ШЫЧКО

# «ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ГЛЫБОКАПАВАЖАНЫ ГЕНАДЗЬ АЛЯКСАНДРАВІЧ...»

Яшчэ прыйдзе той час, калі прыклад краязнаўчай руплівасці пісьменніка, публіцыста Міколы Калінковіча (1950—1990), які не дажыў і да 40 гадоў, стане прадметам глыбокага даследавання. Пачаўшы друкавацца ў школьныя гады, звязаўшы пасля свой лёс з органамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР, Мікалай Мікалаевіч старанна даследаваў гісторыю Беларусі, лёсы нашых землякоў у свеце. Можна толькі здагадвацца, якіх высілкаў патрабаваў гэты занятак, бо найбольш плённыя ў літаратурным плане гады Калінковіч правёў за межамі Беларусі. Спярша — у Ашхабадзе, затым у Маскве і Тбілісі. І менавіта ў гэты час, на працягу больш як дзесяці гадоў, выйшлі ў свет яго кнігі. Тры — у Ашхабадзе: «Не обрывается земная связь», «Имя моё — Свобода», «Возвращение рассветной рани»; дзве — у Мінску: «Палескія дні Аляксандра Блока» і «Лунинец». Яшчэ адна — таксама пад назвай «Лунинец» — у суаўтарстве. Было шмат публікацый у літаратурна-мастацкай і грамадска-палітычнай перыёдыцы.



Несумненна, здабыткам краязнаўца спрыяла яго выключная працаздольнасць, высокі ўзровень арганізаванасці. Была ў характары Мікалая Мікалаевіча і такая рыса, як надзвычайная камунікабельнасць. Прыехаўшы ў Туркменістан, Калінковіч не забываўся пра тое, што дома, у Беларусі, ёсць дасведчаныя людзі, якія могуць даць вартую параду, падказаць накірунак росшукаў. Адным з карэспандэнтаў Мікалая Мікалаевіча быў гісторык, краязнаўца, фалькларыст, літаратуразнаўца Генадзь Каханоўскі (1936—1994). Дарогі першага старшыні Беларускага краязнаўчага таварыства ў жыцці і даследчыцкай працы складваліся няпроста. Відаць, таму Генадзь Аляксандравіч быў надзвычай уважлівы да ўсіх зваротаў да яго, адгукаўся на кожны ліст.

Вядомы чатыры лісты (хутчэй за ўсё іх было больш) М. Калінковіча, адрасаваныя Г. Каханоўскаму ў 1980—1981 гг. Усе яны напісаны ў Ашхабадзе.

Вось што пісаў Мікалай Мікалаевіч 14 сакавіка 1980 года: «Добры вечар, глыбокапаважаны Генадзь Аляксандравіч!

Шчыра дзякую за ліст. Вырашыў напісаць крыху Вам. Думаю, даруеце мне.

Тузін — з в. Загорнае. Матэрыялы ёсць, збіраю. Выходжу ўжо і на Дубіцкага, Троіцкага. Ці не ведаеце Вы, адкуль яны родам?

Можа, страчалі прозвішча Ярашэўскі Давід Давідавіч, наш былы нач[альнік] заставы, загінуў у баі з басмачамі. Нібыта з-пад Вільні. Пра подзвіг ведаю, але гэтага недастаткова. Пішу тут нарысы. Друкуюся. Пад рознымі псеўданімамі. Сёння выйшаў "Путь солдата", раней "И время зачисляет в

спiски”. Аддаў — “Кровь на белом снегу”. Выношваю 4-ы, пяты. Пасля хачу зрабiць кнiжку. Салдаты Айчыннай (героi). Многiя вызвалялi Беларусь. Землякоў не забываю. Умовы ёсць. Маю кватэру. Працую ў 2 змены — служба i творчасць. Сям’я — у Лунiнцы. Пакуль сiлы ёсць — трэба рабiць. Водпуск, вiдаць, будзе ў верасні-кастрычніку…

Вось, Генадзь Аляксандравiч, пакуль i ўсё. Нарысы тут даю на газетную старонку фармата “Правды”. Акрамя iх — рэцэнзii. Iх ужо выйшла 4: “В сражении за счастье людское”, “Что помогает разведчику в логове врага…”, “И вечный бой”, “Я буду честным перед Отчизной…” Ляжыць пятая «Его лиры чистое звучанье», рыхтую шостую… Ад зробленага неяк на сэрцы спакайней.

Тут ёсць наш хлопец Васiль Ткачоў — дзiцячы пiсьменнiк, закончыў ф-тэт жур-кi Льв. выш. в. пал. вуч. Служыў. У 1978 г. звольн. Затуркалi яго. Хлопец добры. Піша някепска. Друкуецца. Талковы. Марыць аб вяртаннi ў Беларусь. Цяпер — рэд-р у рэкламе. Сям’я, два сыны. Пазнаёмiўся нядаўна. Пасябравалi.

Вось, Генадзь Ал-вiч, i ўсё. Яшчэ раз. Буду ўдзячны за нек. слоў. З пашанай i ўдзячнасцю. Мiкола».

Шукаючы новых герояў, Мiкола Калiнковiч працаваў у ашхабадскiм архiве, iмкнуўся ўвесцi апiсаных iм персанажаў у кантэкст беларускай гiсторыi. Пiшучы пра аднаго з 9-цi ашхабадскiх камiсараў — Сяргея Малiбожку, ездзiў у яго вёску Быстрыца, шукаў сляды героя.

20 сакавiка 1981 г. з Ашхабада ў Беларусь ляцiць новае вiтанне да знакамiтага краязнаўца: «Добры дзень, глыбокапаважаны Генадзь Аляксандравiч!

Вырашыў напiсаць некалькi слоў. Цi атрымалi вы мой папярэднi лiст i выразкi з дакум. аповесцю “Камiсар Закаспiя” — пра Б. I. Тузiна?

Як Ваша здароўе? Справы? Нешта непакоюся.

Сам працую. Што-нiшто раблю. Шукаю. У архiвах. **Мiхаiл Троiцкi.** Сёння знайшоў яго ўласнаручны лiст ад 20 верасня 1915 г. — з просьбай да начальнiка Закасп. вобл. наконт яго благанадзейнасцi — для паступлення юнкерам у Ташкент. ваен. вучыл. Цiкава. Пошук працягваю.

Цi не родам ён, Генадзь Аляксандравiч, з вёскi **Троiцк** Шклоўскага раёна?

Выкажыце, калi ласка, свае меркаваннi.

У мяне ўсё адносна — нiчога.

Сям’я прыехала. Жонка дык ажно плача па Палессю, родным мясцiнам. Не саладзей i мне, але не паказваю вiду. Разумею: тут шмат што трэба зрабiць — у творчым плане. Але ў гэты час i моцна стамляюся. Мноства складанасцей усякiх. Ды i служба…

Буду чакаць Вашага лiста.

Хатнi адрас: 744000, Ашхабад, ул. 50 лет ТССР, д. 27, кв. 2.

Усяго вам добрага. Мiкола».

А «складанасцей» сапраўды хапала. Хаця Мiкола моцна пасябраваў з рэдакцыямi ашхабадскiх газет i часопiсаў, усё ж лiтаратурная актыўнасць супрацоўнiка КДБ рэспублiкi ў сяго-таго выклiкала насцярожанасць. Ды, здаралася, што непаразуменнi ўзнiкалi па творчых пытаннях. Ашхабад быў у 1980-я гады невялiкiм, хаця i сталiчным, горадам. Усе пiсьменнiкi ведалi адзiн аднаго. Лiтаратараў, якiя пiсалi на рускай мове, не так i шмат. Поспехi новага, маладога чалавека не маглi не выклiкаць зайздрасць, творчую рэўнасць. Адзiны на той час рускамоўны часопiс «Ашхабад» выходзiў адзiн раз на два месяцы. Ужо пасля ад’езду Мiколы ў Маскву праз два цi тры гады стаў штомесячнiкам. Мо гэта сталася адной з прычын, што так i не быў надрукаваны дакументальны раман Мiколы Калiнковiча «Керкiнскi батальён»? Хаця ведаю, што твор прыхiльна сустрэў галоўны рэдактар часопiса, гiстарычны раманiст Валянцiн Рыбiн.

Як мне падаецца з вышынi сённяшняга часу, з большай прыхiльнасцю да гiстарычнай публiцыстыкi М. Калiнковiча ставiлiся ў рэдакцыi туркменскага лiтаратурнага часопiса «Совет эдебияты» («Савецкая лiтаратура»). Асаблiвую прыязнасць да нашага земляка выказаў намеснiк галоўнага рэдактара лiтаратуразнаўца, празаiк i перакладчык Нарклыч Хаджагельдыеў. Дзякуючы ў першую чаргу яго падтрымцы ў часопiсе з’явiлiся многiя нарысы, дакументаль-

ныя аповесці Міколы. Ды і сам Нарклыч Хаджагельдыеў спрычыніўся да беларускай літаратуры, пераклаўшы на туркменскую мову два раманы Івана Чыгрынава — «Плач перапёлкі» і «Апраўданне крыві».

Паратунак ад тугі Мікола знаходзіў і ў сяброўскім коле. Ашхабадскія беларусы: пісьменнік і журналіст Васіль Ткачоў, вайсковы псіхолаг (ці проста палітработнік) Канстанцін Прохараў, інжынер Міхаіл Ткачоў, радыёжурналіст Уладзімір Грачоў проста абагаўлялі яго, радаваліся кожнай сустрэчы з вясёлым палескім хлопцам. Магчыма, ужо тады ўсе яны разумелі выключнасць свайго сябра, здзіўляліся яго працаздольнасці…

6 красавіка 1981 года Мікола адпраўляе Каханоўскаму наступны ліст:

«Добры дзень, глыбокапаважаны Генадзь Аляксандравіч!

Атрымаў Ваш ліст і грамату. Відаць, залішне вы мяне заахвоцілі. Яшчэ не заслужыў. Гэта — абавязак (долг) кожнага з нас. І ўсё ж — дзякую. Прыемна, што робіш нейкую карысць.

Фота ў мяне былі ў архіве. Дасылаю. Нават і сваё — проста так. Не падумайце, што не сціпласць (не скромнасць).

Нарыс “Белый цвет хризонтем” — так сказаць, пайшоў ужо афіцыйна, з дазволу.

Мадэлі помнікаў — таксама прыклаў руку. Раней у 3-х № газеты даў нарыс “Первомайцы”. Тут усё — на стадыі, цяжка сказаць, якой нават… развіцця, ці што.

Генадзь Аляксандравіч, ці не з в. Троіцк Шклоўскага павета Троіцкі М. Н.?

Пра што Вы пішаце — цікаўлюся. Але пакуль асабліва — нічога. Упэўнены, будзе.

Сабраў цікавы матэрыял пра аднаго туркмена, складаны лёс, нешта мелехаўскае… Можа, падужаю аповесць. Там будуць Малібожка і Тузін. Але гэта — пазней. Цяпер — нарысы пра загінуўшых чэкістаў, апрацоўка архіўнага матэрыялу, вывучэнне, збор… Ды і так шмат працы.

Як ваша здароўе, Генадзь Аляксандравіч, як справы?

Буду ўдзячны за некалькі слоў, парады і г. д.

Са шчырай павагай да вас. Мікола.

P.S. Іван Адамавіч **Малько** — ці не траплялася прозвішча? Зямляк, відаць, Тузіна з Клецка, быў нампалітам 11-га Харэзмскага палка, граміў басмачоў. Праявіў сябе добра ў Каракумах. Удзельнік Айчыннай вайны. Ёсць у кнізе “Клецк” — аўтар круціцца ў галаве, але не ўспомню…

Ці ёсць што ў Вас?

Да пабачэння».

Відаць, ужо тады ў Міколы Калінковіча выспявала задума дакументальнага рамана, пра які я ўжо згадваў. Праўда, будучая праца акрэслівалася больш сціпла: «Можа, падужаю аповесць». Увогуле, звяртаючыся цяпер да даўніх лістоў ураджэнца Лунінеччыны, хацелася б у чарговы раз узняць пытанне пра выданне літаратурнай спадчыны Міколы Калінковіча. Так і не пабачыла свет асобнай кнігай яго аповесць пра Аляксандра Грыбаедава. Толькі невялікім урыўкам у часопісе «Полымя» была прадстаўлена яго аповесць пра Уладзіміра Самойлу. А між тым яна завершана, і ў свой час пісьменнік здаў рукапіс твора пад назвай «Ніколі, браткі, не забудзем» у выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мне здаецца, што кнігу М. Калінковіча «Палескія дні Аляксандра Блока» варта перавыдаць. Калі не памыляюся, кніга «Лунинец» (Мінск, выдавецтва «Полымя», 1990 год) пабачыла свет у скарочаным выглядзе.

Цытую ліст Міколы ад 12 красавіка 1981 года: «Добры дзень, глыбокапаважаны Генадзь Аляксандравіч! Пішу вось з якое нагоды. Быў 10-га ў ТСЭ (Галоўная рэдакцыя Туркменскай Савецкай Энцыклапедыі. — **І. Ш.**). Цікавіўся Малібожкам. У іх выйшла тры тамы. Усіх будзе 10. У 5-м ёсць пра нашага земляка. Асобна. Някепска. Але — без месца нараджэння. Назваў — в. Быстрыца, Клецкі павет, Мінская губернія. Сам дырэктар дапоўніў. Добра, што своечасова. Дата нараджэння ў іх 1892. У мяне ж недзе былі звесткі (не памятаю адкуль), што М[алібожка] нарадзіўся ў сакавіку 1896. Як на самай справе? Каб не памыліцца. Таму што ў часопісе “Совет эдебияты” (“Савецкая літаратура”) павінна пайсці аповесць пра М[алібожку]. Вы з ёю знаёмы — газетны варыянт. Дык яна можа быць памечана “да

85-годдзя…” Памылка? Пакуль не ведаю. Чакаю Вашых меркаванняў.

Пра Тузіна аддаў раней у ТСЭ, пойдзе. Але ж… таксама без даты нараджэння. Калі — ці не ведаеце. Тое ж пастараюся зрабіць і пра Троіцкага. А можа, у ТСЭ пра яго і ёсць. Пацікаўлюся. На жаль, не ведаю, дзе і калі (не, у 1878 г.) нар. Мік. Ів. Разанаў, нарком замежных спраў Закаспія, паплечнік Тузіна і Малібожкі. Працаваў ён і ў Брэсце — на чыгунцы, юрысконсульт.

Цікава: Быстрыца дала трох вядомых дзеячаў: Малібожка, Варвашэня і яшчэ адзін генерал-лейтэнант — Гулейка… Вось і вёска! Мару ў адпачынку наведаць, як і Загорную на Капыльшчыне.

Такія пакуль справы, Генадзь Аляксандравіч. Цяпер працую над нарысам пра чэкіста-туркмена (загінуў), апрацоўваю архіўныя матэрыялы. Учора (субота) працаваць не мог. Была нейкая страшная стомленасць.

Сёння, здаецца, лепш. Хаця і не зусім. У IV кв. гэтага года павінен выйсці “Лунинец”. Там — шкада, падрэзалі і зрабілі, пачынаючы з IV часткі, дубавата, — стыль, паданне фактаў, падзагалоўкі. Ну, ды ладна!.. У сааўтарстве — В. А. Літвінчук. Васіль Андрыянавіч дапрацоўваў — пасля рэцэнзентаў і інш.

Больш асаблівых навін няма. Зычу Вам усяго і адначасова чакаю адказу.

Са шчырай павагай, Мікола Калінковіч».

Пра Малібожку ёсць артыкул і ў сённяшняй «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Аўтар — кандыдат гістарычных навук Эдуард Карніловіч. Як дата нараджэння пададзены 1895 год. Тузіну, Троіцкаму месца ў нашых энцыклапедыях не знайшлося. Што да кнігі «Лунинец», то гэта першая з кніг М. Калінковіча, напісана яна была ў суаўтарстве з рэдактарам лунінецкай «раёнкі» «Ленінскі шлях». Хаця фактычна асноўную збіральніцкую працу, як і падрыхтоўку тэксту да друку, зрабіў Мікола Калінковіч. Рэдактар дапоўніў рукапіс звесткамі пра Лунінец і Лунінеччыну пасляваеннага часу. Незадаволенасць тым, першым, падыходам, да лунінецкай тэмы прывяла Міколу да новай кнігі пра родны край. І літаральна ў тое ж пякельнае лета, калі Мікола пайшоў з жыцця, убачыў свет яго новы «Лунинец».

Мікола Калінковіч ліставаўся шмат з кім з даследчыкаў беларускай гісторыі, беларускімі пісьменнікамі. І гэтая эпісталярыя, несумненна, патрабуе ўвагі.

d

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## НЯСВІЖСКІ РАЁН

### г. Нясвіж

**Вёска Казлы,** цэнтр сельсавета

**Антановіча Антона** (6.6.1910—27.12.1980), збіральніка і даследчыка старажытных помнікаў беларускага пісьменства, доктара філалагічных навук, радзіма. У Вільнюскім універсітэце даследаваў помнікі татара-мусульманскага пісьменства на беларускай мове. Знайшоў 24 рукапісныя кнігі XVII — пач. XX ст. на беларускай мове арабскім пісьмом. Выдаў кнігу «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма» (Вільнюс, 1968).

**Вёска Лявонавічы,** цэнтр сельсавета

**Новіка-Пеюна Сяргея** [14(27).8.1906—26.8.1994], беларускага паэта, радзіма. Скончыў Нясвіжскую гімназію (1924), вучыўся на беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні (1925—1926). У 1926 г. стварыў у Лявонавічах беларускі народны хор (існуе і цяпер) і тэатр, беларускую бібліятэку, арганізаваў гурток Таварыства беларускай школы, за што польскімі ўладамі быў высланы на пяць гадоў у г. Свят над Віслай. Пасля вяртання зноў арыштаваны, высланы пад нагляд паліцыі ў Слонім. У 1939 г. зняволены ў турму ў Баранавічах, адтуль вызвалены Чырвонай Арміяй. У 1939 г. працаваў інспектарам Слонімскага райаддзела народнай адукацыі, дырэктарам Слонімскага краязнаўчага музея. У час Вялікай Айчыннай вайны выратаваў экспанаты і бібліятэку музея. У 1943 г. арыштаваны слонімскім СД і прыгавораны да пакарання смерцю. У час расстрэлу 4.7.1944 г. паранены, прытварыўся мёртвым, што выратавала яго. 14.12.1944 г. па ілжывым даносе арыштаваны савецкімі карнымі органамі і зняволены ў турму. 24.3.1945 г. ваенным трыбуналам асуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі, адпраўлены на Калыму. Рэабілітаваны ў 1958 г. З 1959 г. жыў у Слоніме, Нясвіжы, з 1960 г. — у Мінску. Друкаваўся з 1925 г. Выдаў у Вільні п’есы «Ёлка Дзеда Мароза», «Пакой у наймы», «Цудоўная ноч» (усе 1927), «Прадка пад крыжам» (1939). У 1927—1931 гг. супрацоўнічаў з віленскім часопісам для дзяцей «Заранка», у 1940—1941 гг. друкаваўся ў слонімскай газеце «Вольная праца». З 1960 г. выступаў у беларускім рэспубліканскім друку. Аўтар зборнікаў лірыкі «Заўсёды з песняй» (1984), «Зорачкі ясныя» (1986), успамінаў пра **Я. Купалу, Г. Леўчыка, І. Стаброўскага, Я. Карскага,** генерала **Я. Ляшчэню.** Найбольшага поспеху дасягнуў у жанры песні. Папулярныя песні на словы і музыку Новіка-Пеюна «Зорачкі» і «Над Шчарай» («Слонімскі вальс») лічацца народнымі. Кніга вершаў «Песні з-пад кратаў» засталася ў рукапісе. Займаўся перакладамі на беларускую мову.

**Вёска Макашы** Астроўскага сельсавета

---

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10 за 2011 г.

**Жылкі Уладзіміра** (27.5.1900—1.3.1933), беларускага паэта, радзіма. Вучыўся ў Пражскім універсітэце (1923—1926). Рэдагаваў там часопіс «Новы прамень». У 1926 г. вярнуўся ва Усходнюю Беларусь. Працаваў у газеце «Звязда» і музычным тэхнікуме. У 1930 г. беспадстаўна арыштаваны і высланы ў г. Уржум (Кіраўская вобл.). Там і памёр. Рэабілітаваны ў 1960 г. Друкаваўся з 1920 г. у мінскіх выданнях, з 1921 г. — у заходнебеларускай прэсе, з 1923 г. — у часопісах беларускага студэнцтва ў Чэхаславакіі, пражскім зборніку «Славянская книга». Аўтар лірычнай паэмы «Уяўленне» (Вільня, 1923), зборнікаў вершаў «На ростані» (Вільня, 1924), «З палёў Заходняй Беларусі» (Мінск, 1927). Пераклаў на беларукую мову асобныя творы **М. Лермантава, А. Міцкевіча, Г. Ібсена, Ш. Бадлера, І. Волькера, Б. Ясенскага.** У вёсцы зроблена сімвалічная магіла паэта.

**Вёска Прасці** Астроўскага сельсавета

**Мяцеліцы Генадзя** (н. 1960), паэта, радзіма. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. Аўтар зборніка вершаў «Цяпло маіх завей» (1993). Жыве ў Мінску.

**Вёска Сейлавічы,** цэнтр сельсавета

**Судніка Станіслава** (н. 1954), паэта, радзіма. Скончыў Мінскае вышэйшае зенітнае ракетнае вучылішча проціпаветранай абароны, Ваенную камандную Акадэмію проціпаветранай абароны імя Жукава. Служыў на Урале, у Казахстане. Аўтар зборніка вершаў «Мой Грунвальд». Актыўна працуе ў друку: рэдактар газеты «Наша слова» і часопіса «Лідскі летапісец», выдавец газеты «Голас Ліды» і часопіса «Ад Лідскіх муроў». Аўтар паэтычнага зборніка «Лідскія скрыжалі» (Ліда, 2008). Жыве ў г. Ліда Гродзенскай вобл.

**Вёска Смалічы** Лявонавіцкага сельсавета

**Аксак (Арловай) Валянціны** (н. 28.4.1953), паэта, радзіма. Скончыла БДУ (1975). Працавала настаўніцай, потым журналістам. З 1992 г. — у часопісе «Беларусь». Друкуецца з 1987 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Цвінтар» (1992), «Капліца» (1994), «Антычны дождж» (1999), «Віно з Каліфорніі» (2003), паэмы «Тройца». Жыве ў Мінску.

**Незабытоўскага Аляксандра** [2.10.1819 (паводле іншых звестак 15.9.1818, в. Зубкава Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.) — 21.3.1849], беларускага і польскага пісьменніка, філосафа, гісторыка, радзіма. Вучыўся ў прыватным французскім пансіёне ў Варшаве, у Дэрпцкім універсітэце (1835—1838). У 1844—1847 гг. наведаў Францыю, Аўстрыю, Італію, Іспанію, Партугалію, Англію. За спробу перавесці свае і чужыя нелегальныя выданні арыштаваны, зняволены ў пінскай, мінскай і віленскай турмах. Быў прыгавораны да пазбаўлення дваранскіх і маёмасных правоў і 20-гадовай катаргі ў сібірскіх рудніках (памёр да выканання прыгавору). У ананімных кнігах, якія выдаў у Вільні і Парыжы, а таксама ў рукапісах, што трапілі ў рукі царскіх улад пры арышце, заклікаў народ да барацьбы супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, патрабаваў скасавання паншчыны, адмаўляў існаванне Бога, высмейваў хрысціянскія дагматы. Аўтар мемуараў «Мае запіскі» (Парыж, 1845), прысвечаных паўстанню 1830—1831 гг., у якіх сябе называе ліцвінам (беларусам).

**Кандрацені Уладзіміра** (сак. 1917—23.2.1943), пісьменніка, радзіма. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1939). Друкаваўся з 1932 г. Аўтар зборніка апавяданняў «Любоў» (1938). Служыў у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну пад Полацкам трапіў у акружэнне. Уцёк з фашысцкага канцлагера і прыйшоў дадому. Па даручэнні камандавання партызанскага атрада В. Васільева («Дзядзі Васі») уладкаваўся ў Краснаслабодскую школу, пасля ў слуцкі сірочы прытулак. Вёў падпольную работу. Выдадзены правакатарам, быў закатаваны фашыстамі.

**Вёска Цякалаўшчына** Лявонавіцкага сельсавета

**Гуцькі Мікалая** (1908—?), радзіма. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Напісаў паэму «Паляшук» (не была надрукавана), верш «Што за хлопец, што за дзяўчы-

на» (які ён назваў «Баладай») у 1929 г. На словы гэтага верша напісана музыка С. Рак-Міхайлоўскім. Існуе песня «Што за хлопец, што за дзяўчына». Гэты верш паэт прысвяціў стрыечнай сястры Сяргея Новіка-Пеюна Гэлі Новік.

**Вёска Юшавічы,** цэнтр сельсавета

**Гурбана Івана** (1922—1999), паэта, радзіма. Працаваў рэвізорам, рахункаводам, старшынёй сельскага савета. Друкаваўся ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях, у шэрагу калектыўных зборнікаў. Аўтар зборніка вершаў для дзяцей «Чубаценькі будзільнік» (1979).

**Стадуба Алеся** (псеўдаміны: Будзевіч А., Красавіцкі А., Старадуб А., Ярашэня А., н. 24.4.1931 г.), паэта, радзіма. Скончыў філалагічны факультэт Яраслаўскага педінстытута. Працаваў у школах, рэдакцыях газет. У 1972 г. пераехаў у Ліду. Працаваў у рэдакцыі газеты «Уперад» (1972—1987), кіраўніком юнкораўскіх гурткоў у Доме школьнікаў (1993—2001). Друкаваўся з 1972 г. Выдаў зборнікі паэзіі «Твае вочы» (1997), «Вузел» (1998), «Сповeдзь натхнення» (1999), «Букет настрою» (2000), «Летапіс пачуццяў» (2000), «Каінавыя грошы» (2001), «Сюжэт на фоне адвячорку» (2004), «Водгук ісціны» (2007).

**Хутар Язавец,** не існуе

**Бутэвіча Анатоля** (н. 15.6.1948), беларускага дзяржаўнага дзеяча, дыпламата, пісьменніка, публіцыста, радзіма. У хуткім часе пасля нараджэння Анатоля бацькі пераехалі ў в. *Баяры.* Вучыўся ў Вялікаліпскай васьмігодцы, Сноўскай сярэдняй школе. У 1971 г. скончыў філфак БДУ. Працаваў рэдактарам БелТА, інструктарам, загадчыкам аддзела ЦК ЛКСМБ, намеснікам рэдактара газеты «Чырвоная змена» (1975—1980), у ЦК КПБ (1980—1986, 1987—1990), дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» (1986—1987). У 1990—1992 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларусі па друку, міністр інфармацыі (1992—1994), у 1994—1996 гг. — міністр культуры і друку. З 1996 г. Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску, у 1998—2000 гг. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Румыніі. Друкуецца з 1969 г. Літаратурны псеўданім Максім Валошка. Аўтар кніг «Прыгоды лісцікакарунчыка» (1996), «Прыгоды памаўзлівай Рыскі» (1999), «Растайны пах асоту» (2000), «У гасцях у вечнасці» (2001), «Званы Нямігі» (2002), «За наміткай гісторыі» (2003), «Як акіян з крапелькамі барукаўся: казкі» (2003), «Адвечны покліч Радзімы» (2004), «Славутыя родам сваім» (2006), «Пад небам беларускага слова» (2007), «Перуновага племені дзеці» (2008) і інш. Пераклаў з польскай мовы раманы С. Лема «Прыгоды Піркса» (1992), «Салярыс» (1994), аўтабіяграфію Багуслава Радзівіла (2009). Беларускай праваслаўнай царквою ў 2008 г. узнагароджаны ордэнам свяціцеля Кірылы Тураўскага II ступені.

## ПУХАВІЦКІ РАЁН

**г. Мар'іна Горка (станцыя Пухавічы)**

Вуліцы Алеся Бачылы, Максіма Горкага, Якуба Коласа, Міхаіла Лермантава, Уладзіміра Маякоўскага, Макара Паслядовіча, Аляксандра Пушкіна, Льва Талстога. Завулак Алеся Бачылы.

**Дзіцячы санаторый «Пухавічы»**

Да вайны тут размяшчаўся Дом творчасці Саюза пісьменнікаў БССР, дзе адпачывалі **Пятрусь Броўка, Змітрок Бядуля, Янка Купала, Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны.** Цяпер у будынку размешчаны дзіцячы санаторый «Пухавічы». На доме — мемарыяльная дошка. У санаторыі створаны літаратурны музей, экспанаты якога расказваюць аб жыцці і творчасці **Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

**Бялевіч Антон**, паэт, ураджэнец в. *Дуброўка* Ігуменскага павета Мінскай губерніі (цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл.), у 1935 г. працаваў адказным сакратаром раённай

газеты «За калгасы». Быў арыштаваны. У хуткім часе вызвалены. Некаторы час працаваў кладаўшчыком у райпрамкамбінаце. З 1937 г. жыў у Мінску.

**Вольнага Анатоля** (Алёшы, сапр. Анатоля Ажгірэя; 02.12.1902—29.10.1937), паэта, празаіка, радзіма. У 1920 г. пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную Армію, прымаў удзел у баях з інтэрвентамі. Пасля дэмабілізацыі (1921) працаваў у ЦК ЛКСМБ і вучыўся ў БДУ. З 1923 г. уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», а з 1928 г. — у «Полымя». Друкаваўся з 1920 г. Аўтар кніг «Камсамольская нота» (у суаўт. з Андрэем Александровічам, 1924), «Чарнакудрая радасць» (1926), «Табе» (1927), аповесці «Два» (1925), «Антон Савіцкі» (1927, газета «Савецкая Беларусь»), кнігі гумарэсак і фельетонаў «Суседзі» (1932), рамана «Ваўчаняты» (у суаўт. з Андрэем Александровічам і Алесем Дударам), камедыі «Ратуй, Божа» (у суаўт. з Р. Кобецам, 1932). Выступаў і як кінадраматург. Па яго сцэнарыях пастаўлены фільмы «Хвоі гамоняць» (1929, напісаны разам з К. Дзяржавіным), «Атэль Савой» (1930), «У агні народжаная» (1930), «Сонечны паход» (1931), «Новая радзіма» (1935) і інш. У 1935 г. выйшла кінааповесць «Шасцідзясятая паралель». Арыштаваны ў 1936 г. Расстраляны ў 1937 г.

**Паслядовіч Макар**, паэт, ураджэнец в. *Караваева* гэтага ж раёна, у гады Другой сусветнай вайны ўзначальваў мар'інагорскую падпольную групу, быў сувязным асобнага партызанскага атрада. Па падазрэнні ў сувязі з партызанамі ў 1943 г. быў арыштаваны і адпраўлены на катаржныя работы ў Германію.

**Вёска Азярычына** Вузлянскага сельсавета

**Рунца Пятра** [21.4(4.5).1911—5.3.1997], дзіцячага пісьменніка, перакладчыка, радзіма. Скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску (1940). Настаўнічаў, працаваў у газеце «Піянер Беларусі», часопісе «Бярозка», на Беларускім радыё. Друкаваўся з 1932 г. Першы зборнік апавяданняў — «Юныя змагары» (1940). Склаў зборнік успамінаў дзяцей пра вайну «Ніколі не забудзем» (1948). Аўтар кніг «У веснавыя дні» (1954), «Бярозавы конь» (1956), «Гіпсавая маска» (1958), «Канец казкі» (1960), «Вясёлыя здарэнні» (1962), «Алёшка-верхалаз» (1963), «Аб чым шэпчацца аер» (1966), «Белы васілёк» (1971), «Добрая душа» (1977), «Незвычайны збор» (1981), «Апошняе шчасце» (1984), «Незвычайны наведвальнік» (1985). Выдаў брашуру пра **Янку Маўра** «Чалавек з крылатай фантазіяй» (1979). На беларускую мову пераклаў асобныя творы **С. Міхалкова, Б. Емяльянава, Ж. Грывы, А. Талвіра, Дж. Радары, З. Эргле** і інш.

**Вёска Балачанка** Пухавіцкага сельсавета

**Колас Якуб** (22.10(3.11).1882—1.8.1956), народны пісьменнік Беларусі, ураджэнец в. *Мікалаеўшчына* Стаўбцоўскага р-на. У пасляваенныя гады ён часта прыязджаў сюды на кароткачасовы адпачынак (асабліва калі раслі грыбы), спыняўся ў доме свайго сябра селяніна Канстанціна Дзяткі. 22 красавіка 1952 г. пісьменнік пісаў М. Прозаравай: «Учора... быў у Балачанцы... Ужо вельмі люблю я Вусце-Балачанку. Я нават і не размяжоўваю іх, бо гэта мая другая радзіма». Гэтая «другая радзіма» была ўспета ў вершах Коласа «У родных мясцінах», «Загібелька», «Вусцянскі груд» і інш.

**Вёска Белькавічы** Навапольскага сельсавета

**Здановіча Аляксандра** (26.2.1808—29.5.1868), беларускага і польскага гісторыка, мовазнаўцы, пісьменніка, педагога, радзіма. Нарадзіўся ў небагатай шляхецкай сям'і. Вучыўся спачатку ў Антапольскай парафіяльнай школе, потым у базыльянскай школе ў Лядах (сучасны Смалявіцкі р-н). У 1825 г. паступіў у Віленскі ўніверсітэт, скончыў яго ў 1831 г. са ступенню кандыдата філасофіі. Выкладаў лацінскую мову і гісторыю, потым узначальваў кафедру ўсеагульнай гісторыі ў Віленскім шляхецкім інстытуце (1834—1863). Працаваў таксама ў Віленскай духоўнай семінарыі, каталіцкай семінарыі, у рэдакцыі газеты «Виленский вестник». Займаўся літаратурнай і навуковай дзейнасцю. Прымаў удзел у стварэнні слоўніка польскай мовы. Аўтар падручнікаў «Храналагічна-гістарычны нарыс сучасных дзяржаў ад V веку да нашых дзён» (1844), «Нарыс польскай гісторыі для дзяцей»

(1857), «Агульная гісторыя для школьнай моладзі» (1861), «Нарыс гісторыі польскай літаратуры» (т. 1—5, 1874—1878), дапаможнікаў па французскай мове і іншых выданняў.

**Вёска Беразянка** Пухавіцкага сельсавета. Спалена нямецкімі акупантамі ў час Другой сусветнай вайны, не адноўлена.

**Колас Якуб**, народны паэт Беларусі, ураджэнец в. *Мікалаеўшчына* Стаўбцоўскага р-на, улетку 1941 г. адпачываў тут, завёз драўніну, каб будавацца. Вёска ўпамінаецца ў паэме «Рыбакова хата», вершы «Вусцянскі грудок», пісьмах Коласа да Пятра Глебкі, Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч, у дзённіку паэта.

**Вёска Блонь,** цэнтр сельсавета

**Сядзіба Бонч-Асмалоўскіх. Цяпер Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей**

У музеі прадстаўлены матэрыял аб літаратурным жыцці Пухаўшчыны. Значны ўклад у стварэнне музея ўнёс **Чыгрынаў Іван,** народны пісьменнік Беларусі, ураджэнец в. *Вялікі Бор* Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. У экспазіцыі прадстаўлены матэрыял аб ім.

У экспазіцыі прадстаўлены таксама матэрыялы пра **Алеся Бачылу, Захара Бірылу, Анатоля Вольнага, Васіля Гарбацэвіча, Валянціна Мысліўца, Макара Паслядовіча, Уладзіміра Хадыку, Міхася Чарота**.

Анатоль Бонч-Асмалоўскі разам з жонкай Варварай Вахоўскай у 80-х гадах XIX ст. стварае тут сялянскі гурток самаадукацыі. Сярод настаўнікаў гуртка быў **Багдановіч Адам** (1862—1940), этнограф, фалькларыст, мовазнавец, бацька паэта Багдановіча Максіма.

Сюды, да Бонч-Асмалоўскіх прыязджаў рускі пісьменнік **Чырыкаў Яўген** (1864—1932). Існуе меркаванне, што свой раман «Мяцежнікі» ён напісаў на блонскім матэрыяле. Сем гадоў пісьменнік пражыў у Беларусі — у вандроўках з Мінска ў Блонь у 1895—1902 гг. У гэты перыяд ім былі напісаны аповесці «Раннія ўсходы», «Інвалід», «Чужаземцы». Тут адбылося знаёмства Я. Чырыкава з Багдановічам Адамам. Аб беларускім перыядзе ў жыцці пісьменніка гаворыцца ў яго аўтабіяграфічным рамане з чатырох кніг «Жыццё Тарханава» (1911—1925).

**Вёска Бор** Навасёлкаўскага сельсавета

**Ляпіча Рамана** (1.7.1906—9.1.1977), крытыка, перакладчыка, радзіма. У 1938 г. быў рэпрэсіраваны, 10.10.1938 г. асуджаны і высланы на Калыму.

**Вёска Варонічы** Рудзенскага пассавета

**Кляўко Генадзя** (1.5.1932—21.8.1979), паэта, радзіма. Пасля заканчэння Рудзенскай СШ (1950) паступіў на філфак БДУ. За год да заканчэння ўніверсітэта стаў адначасова працаваць у рэдакцыі газеты «Калгасная праўда». У 1961—1973 гг. — літсупрацоўнік, адказны сакратар часопіса «Вожык», з 1973 г. — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». Друкаваўся з 1946 г. Аўтар паэтычных кніг «Абветраныя далягляды» (1962), «Першы салют» (1964), «Сто крокаў» (1967), «Прыстань» (1974), «Плуг» (1978), «Вязьмо», «Лайдак і кнопкі» (1964), «Каб не сурочыць» (1971), «Што праўда, то не грэх...» (1971), «Падкова над парогам» (1979).

**Хутар Вусце,** цяпер не існуе, знаходзіўся паміж Балачанкай і Бярэзінкай.

Летам 1937 і 1938 гг. тут адпачываў разам з сям'ёй **Колас Якуб**. У 1938 г. сюды прыязджаў **Купала Янка.** С. Александровіч так апісвае падзеі: «Аднойчы ў самыя спякотлівы дні ў Вусце завітаў на сваім “фордзіку” Янка Купала. Канстанцін Міхайлавіч павёў госця на пясчаны свіслацкі пляж, паказаў дубы і грыбныя мясціны, дзе па ідэі павінны былі расці раннія баравікі. Іван Дамінікавіч паблажэў і моцна кашляў: і нядаўна, у маі 1938 года, ён цяжка хварэў, была ў яго пнеўманія і сухі плеўрыт. Пачалося ўсё з таго, што заснуў на сырой зямлі ў лесе.

Селі яны гуляць у шахматы ў цяньку, пад паветкаю, дзе стаяла Коласава аўтамашына. Першую партыю выйграў Іван Дамінікавіч, другую згулялі ўнічыю. Увесь час гаворка

ішла пра літаратуру, пра лёс некаторых пісьменнікаў. Госць быў заклапочаны і ўстрывожаны, але не выкладваў усяго да канца». (Гл. Александровіч С. Сейбіт жені і мудрасці // Маладосць. — 1985. — № 7. — С. 61.)

**Вёска Гарэлец,** цэнтр сельсавета

Цэнтр калгаса імя **Купалы Янкі**. Імя носіць і адна з вёсак калгаса.

Вясной 1944 г. на акупіраванай тэрыторыі ў ваколіцах вёскі выйшла кніга вершаў рускага паэта **Сабліна Усевалада** (1913—1952) «Мсціўцы».

**Вёска Глушка** Пухавіцкага сельсавета

Тут у перадваенныя гады адпачываў разам з сям'ёй **Броўка Пятрусь**, народны паэт Беларусі, ураджэнец в. *Пуцілкавічы* Барысаўскага пав. Мінскай губ. (цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл.). Аўтар кніг: «Буквар і першая кніга для чытання. Для школ дарослых». (1947), «Адкрыццё сезону» (1960), «На беразе ракі» (1962), «На прывале» (1966), «Ноч над Нёманам» (1969), «Пад старым дубам» (1971), «Яшка прыляцеў» (1973).

**Вёска Гудавічы** Смілавіцкага сельсавета

**Ляўданскага Уладзіміра** [25.1(7.2).1911—18.9.1973], празаіка, дзіцячага пісьменніка, перакладчыка, радзіма.

**Вёска Дудзічы** Навапольскага сельсавета

**Дудзіцкага Уладзіміра** [сапр. Гуцька Уладзімір Ермалаевіч; 27.12.1910 (8.1.1911) — невядома], паэта, радзіма. Гадаваўся пры айчыме. Скончыў вясковую народную чатырохгадовую школу, мінскую сямігодку. У 1927 пераехаў у Мінск; у 1930 скончыў 22-ю мінскую сямігодку і паступіў у МБПТ. Разам з **С. Астрэйкам, Л. Калюгам, С. Русаковічам** быў выключаны з «воўчым білетам» як «нацдэм». Пры дапамозе Л. Калюгі і У. Хадыкі ўладкаваўся стыльрэдактарам у газету «Савецкая Беларусь». Пазней працаваў стыльрэдактарам у выдавецтве БелАН; адначасова займаўся на падрыхтоўчых курсах пры БДУ. Паступіў на літаратурна-лінгвістычны факультэт МВПІ. Арыштаваны ГПУ БССР 23.2.1933 г.; праз 9 месяцаў сасланы на 3 гады ў лагеры. Пакаранне адбываў у Новасібірску, Марыінску, Казахстане, Узбекістане. Пасля дазволу вярнуцца ў Беларусь жыў у Віцебску. Працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры; экстэрнам здаў экзамэны за курс педінстытута. Друкавацца пачаў у 1937 г. У 1939 г. звольнены з педагагічнай работы рашэннем Віцебскага абкама КП(б)Б. Быў вымушаны пакінуць Віцебск, а потым і Беларусь. Хаваўся ў Расіі. Напярэдадні вайны вярнуўся ў Беларусь. У час вайны быў адным з арганізатараў «Беларускай газеты», працаваў загадчыкам аддзела культуры і асветы ў Мінску і Мінскай акрузе, акруговым школьным інспектарам у Барысаве, рэдагаваў ваенны часопіс «Беларус на варце», актыўна ўдзельнічаў у працы Беларускага культурнага згуртавання. У 1944 г. выехаў у Германію. Служыў у Міністэрстве прапаганды. Потым жыў у амерыканскай акупацыйнай зоне; перасяліўся ў Венесуэлу. У 1950 — пачатку 1960 гг. галоўны рэдактар беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» ў Мюнхене. Публікаваўся ў беларускіх эмігранцкіх выданнях. З 1961 у ЗША; выкладаў рускую мову ва ўніверсітэце Блумінгтана (штат Індыяна). Неўзабаве вярнуўся ў Венесуэлу. У канцы 1970-х знік, паводле некаторых звестак (успаміны жонкі Веры), магчыма, у былым Савецкім Саюзе. Па справе 1933 г. рэабілітаваны ў 1956 г.

**Ельскага Аляксандра** (16.6.1834—10.9.1916), пісьменніка, краязнаўца, перакладчыка, публіцыста, радзіма. Скончыў Мінскую класічную гімназію. Быў на вайсковай службе. Удзельнічаў у Крымскай вайне. Аўтар некалькіх дзясяткаў кніг і брашур, мноства газетных і часопісных артыкулаў, болей за 10 тысяч гісторыка-краязнаўчых артыкулаў пра Беларусь для польскіх энцыклапедый. У «Геаграфічным слоўніку зямель польскіх і іншых краёў славянскіх» апісаў мясцовасць амаль усіх беларускіх паветаў. Аўтар дыдактычных вершаваных і празаічных твораў на беларускай мове ў духу хрысціянскай маралі. Пераклаў на беларускую мову 1-ю ч. паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (Львоў, 1892). Выдаў зборнік

«100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага народа» (Вільня, 1908). Быў першым бібліёграфам Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, наладжваў кантакты з Францішкам Багушэвічам.

**Вёска Дукора**, цэнтр сельсавета

**Гарбацэвіча Васіля** (19.4.1893—17.9.1985), пачынальніка сучаснай беларускай драматургіі, радзіма. Скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю, Мінскі настаўніцкі і вышэйшы педагагічны інстытуты, працаваў настаўнікам. У 1918—1924 гг. — у Дукорскім вышэйшым пачатковым вучылішчы. Пасля працаваў у Магілёве. У 1933—1957 гг. (з «перапынкам на вайну») зноў працаваў настаўнікам Дукорскай сярэдняй школы. Аўтар п'ес «Вяселле» (паст. БДТ у 1921 г.), «Чырвоныя кветкі Беларусі» (апубл. 1923, выд. 1959) пра подзвіг дукорскіх партызан у барацьбе з польскімі акупантамі, «Пад вішнёвымі садкамі» (апубл. 1927), «Песні нашых дзён» (выд. 1930). Ён стварыў Дукорскі драматычны гурток (існаваў у 1917—1920-я гг.).

**Нігера Шмуэля** (сапр. Чарні Шмуэль; 1883—1955), літаратурнага крытыка, публіцыста, рэдактара, радзіма. Брат *Д. Чарні* і *Б. Чарні*. З 1896 г. жыў у Мінску. Першыя свае творы пісаў на іўрыце і рускай мове, пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг. перайшоў на ідыш. У 1908 г. быў сузаснавальнікам «Літаратурнага штомесячніка» (Вільна). У 1909 г. пераехаў у Берлін, затым у Берн, дзе вывучаў ва ўніверсітэце філасофію і сусветную літаратуру. У 1912 г. вярнуўся ў Вільню. Рэдагаваў часопісы. Некаторы час ў 1917—1918 гг. жыў у Маскве і Вільні. У 1919 г. выехаў у ЗША. Быў супрацоўнікам газеты «Тог». Быў прызнаны адным з найбольш аўтарытэтных крытыкаў на ідыш. Аўтар манаграфій аб творчасці Шолама Алейхема, Мендэле Мохера Сфорыма, І. Перэца, Г. Лейвіка, Ш. Аша. Аўтар зборнікаў «Бяседы аб яўрэйскіх пісьменніках» (1913), «Бяседы аб кнігах» (1922), працы «Двухмоўе нашай літаратуры» (1941). Пасля смерці выйшлі яго працы «Яўрэйскія пісьменнікі ў Савецкай Расіі» (1958), «Нарысы гісторыі яўрэйскай літаратуры» (1959), «Крытыка і крытыкі» (1959). Памёр у Нью-Ёрку.

**Чарні Владэка** (сапр. Чарні Борух Нахман; 1886—1938), яўрэйскага пісьменніка, літаратуразнаўца, радзіма. Пісаў на ідыш. Брат Ш. Нігера і Д. Чарні. Рана застаўся без бацькі. Самастойна вучыўся. Вывучаў духоўныя і свецкія навукі, рыхтаваўся здаць экзамены экстэрнам за гімназічны курс. У 1903 г., пасля Кішынёўскага пагрому, далучыўся да арганізацыі «Паалей Цыён», за што быў арыштаваны ў Мінску. За яго вызваленне заклад унёс Бунд. Пасля выхаду на свабоду ён уступіў у гэтую партыю. Актыўны ўдзельнік рэвалюцыі 1905—1907 гг. Працаваў у Лодзі, Варшаве, Любліне. У гэты час абраў сабе партыйную мянушку Владэк. Удзельнічаў у Лонданскім з'ездзе сацыял-дэмакратаў Расіі. У 1906 г. у газеце Бунда «Фольксцайтунг» быў надрукаваны яго першы літаратурны твор «Гаспадар і рэвалюцыйная моладзь (ліст з правінцыі)». У 1907 г. у варшаўскіх літаратурных часопісах былі надрукаваны яго першыя паэтычныя творы. З канца 1907 г. — у Амерыцы. Супрацоўнічаў там са штомесячнікам «Цукунф», у якім былі надрукаваны яго нарысы «Дзеці народа», вершы, паэмы, драма «Маісей», крытычныя эсэ аб літаратуры на ідыш і сусветнай літаратуры, біяграфіі вядомых дзеячаў, палітычныя артыкулы, апавяданні. Супрацоўнічаў з яўрэйскімі сацыялістычнымі выданнямі Нью-Ёрка і Чыкага. У 1912—1916 гг. жыў у Філадэльфіі. Узначальваў мясцовае бюро газеты «Форпост». У 1915 г. атрымаў амерыканскае грамадзянства. З 1916 г. жыў у Нью-Ёрку, быў рэдактарам яўрэйскага выдання «Форвертс», упраўляючым справамі гэтага выдання. Адзін з актывістаў яўрэйскага сацыялістычнага руху ў ЗША. У 1918—1921 гг. быў членам муніцыпалітэта Нью-Ёрка ад партыі сацыялістаў. З 1929 г. узначаліў амерыканскае Таварыства раменай працы. Наведаў СССР (1936). У 1936 г. да 50-гадовага юбілею група нью-ёркскіх літаратараў выдала кнігу «Владэк ў жыцці і ў творчасці», у якую ўвайшла біяграфія Чарні і амаль усё, што ён стварыў у ЗША. Памёр у Нью-Ёрку.

**Чарні Даніэля** (1888—1959), паэта, пісьменніка, мемуарыста, публіцыста, перакладчыка, радзіма. Малодшы брат Ш. Нігера (Чарні) і Б. Чарні. Ад нараджэння быў хворы на сухоты

і большую частку жыцця правёў у шпіталях, клініках, аздараўленчых дамах Расіі, Германіі, Швейцарыі і ЗША. Першыя вершы надрукаваў у 1907 г. у часопісе «Зімнія вечары» ў Вільні. З 1915 да 1924 г. жыў у Расіі і шмат друкаваўся на ідыш. Арганізаваў у Маскве ў Мар'іным Гаі першы дзіцячы дом з выкладаннем на ідыш. Удзельнік Першай сусветнай вайны. З сакавіка 1917 г. — у Маскве, дзе быў першым сакратаром Фолькспартыі. З сакавіка 1918 г. працаваў у выдавецкім аддзеле Яўрэйскага аддзела Камісарыята па справах нацыянальнасцей, пазней (да лютага 1919 г.) рэдагаваў маскоўскія газеты на ідыш. У канцы 1922 г. выехаў на лячэнне ў Берлін. Восенню 1924 г. вярнуўся ў Маскву, тады ж эмігрыраваў. Жыў у Берліне, займаўся рэдактарскай, выдавецкай і грамадскай працай. У 1929 г. зрабіў паездку па месцах кампактнага пражывання яўрэйскага насельніцтва ў Польшчы, Літве і Латвіі. Надрукаваў у нью-ёркскай газеце «Тог» шэраг артыкулаў аб становішчы яўрэяў у гэтых месцах. У 1934 г., пасля прыходу да ўлады нацыстаў, выехаў у Рыгу, затым у Вільню, пазней — у Варшаву, адкуль быў высланы як савецкі падданы. З 1936 г. жыў у Парыжы, супрацоўнічаў з яўрэйскімі арганізацыямі Джойнт і Таварыства рамеснай працы. З красавіка 1941 г. у Нью-Ёрку. Аўтар зборнікаў вершаў «Лёгкія рыфмы» (1925, Рыга), «У дарозе» (1929, Берлін), «На парозе таго свету» (1947, Мехіко), «Любоўныя рэфлексы» (1952, Бруклін), мемуараў у чатырох тамах «Сямейная хроніка» (1925—1943). Родным мясцінам прысвечана яго асобная кніга «Дукор» (1951, Таронта). Перакладаў на ідыш творы **А. Пушкіна, М. Лермантава, Г. Гейне, П. Варлена, Анакрэона** і інш. Аўтар шматлікіх дзіцячых кніг на ідыш, якія былі выдадзены ў розных гарадах і краінах. Памёр у Нью-Ёрку.

**Вёска Зазер'е** Пярэжырскага сельсавета

**Моркаўкі Аркадзя** [14(26).1.1900—24.4.1957], паэта, радзіма. Скончыў мясцовую школу, Беларускі палітэхнычны інстытут (1934). Працаваў на чыгуначнай станцыі Мінск, заводзе «Беларусь», у палаце мер і вагі. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў партызанскім сувязным у Мінску. Друкаваўся з 1922 г. Аўтар адзінай кнігі «Дым жыцця» (1928). У 1928—1930 гг. уваходзіў у рэдакцыю часопіса «Маладняк», у 1930 г. — у рэдкалегію часопіса «Полымя». Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

Сельская бібліятэка носіць імя **Бачылы Алеся,** паэта, драматурга, ураджэнца в. *Лешніца* гэтага ж раёна.

**Вёска Замосце** Навапольскага сельсавета

**Ельскі Аляксандр**, пісьменнік, краязнаўца, перакладчык, публіцыст, ураджэнец в. *Дудзічы* таго ж раёна, з 1856 г. пасяліўся ў гэтай вёсцы, дзе пасля смерці бацькі атрымаў у спадчыну маёнтак. Тут у 1864 г. заснаваў прыватны краязнаўчы музей, у якім з часам назапасілася звыш 60 карцін і 2 000 гравюр, шмат малюнкаў і эскізаў заходнееўрапейскіх і мясцовых мастакоў, калекцыі фарфору, шкла, слуцкіх паясоў. Тут жа была бібліятэка, у фондах якой налічвалася каля 20 тысяч рукапісаў, 7 тысяч кніг, больш за 2 тысячы гравюр і малюнкаў, тысячы запісаў беларускага фальклору, дыялектнай лексікі. У Замосце за кансультацыямі, высвятленнем пэўных ісцін прыязджалі самыя знакамітыя вучоныя Расіі і Польшчы. На жаль, большасць экспанатаў музея загінула, некаторыя трапілі ў музеі і архівы Вільні, Мінска, Польшчы.

**Вёска Зарэчча** Блонскага сельсавета

**Цехановіча Івана** (30.4.1875—?), краязнаўца, радзіма. Аўтар «Запісак роду для ўнука аб сваіх продках» (надрукаваны ў 2004 г.). Унук Канстанцін збярог рукапіс і перадаў для друку. Апісваецца дзяцінства ў Зарэччы.

**Вёска Зацітава Слабада** Пухавіцкага сельсавета

**Карлюкевіча Алеся** (н. 1964), журналіста, краязнаўца, радзіма. Скончыў аддзяленне журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча і Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і Мастацтва» і адначасова галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва».

Аўтар краязнаўчых кніг «Вяртанне да… Беларусі», «Далёкія і блізкія суродзічы», «Ігуменскі блакнот», «Блонь», «Сцежкамі Ігуменшчыны» і інш. Лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне».

**Вёска Ізабалёва** да 1976 г. в. у Пухавіцкім сельсавеце

**Каспяровіча Міколы** (1900—1937), крытыка, літаратуразнаўца, краязнаўца, лексікографа, мастацтвазнаўца, радзіма. Аўтар шматлікіх прац па краязнаўству. У 1930 г. па абвінавачванні ва ўдзеле ў «контррэвалюцыйнай арганізацыі» быў арыштаваны. Расстраляны ў 1937 г.

**Вёска Караваева** Пярэжырскага сельсавета

**Паслядовіча Макара** (21.8.1906—30.12.1984), празаіка, перакладчыка, драматурга, радзіма. Працаваў у газеце «Беларуская вёска», адказным сакратаром часопіса «Полымя рэвалюцыі», у газеце «Звязда». У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху ў Беларусі. Друкаваўся з 1927 г. Аўтар кніг «Зруйнаваныя межы» (1930), «Людзі вясны» (1930), «Чатырнаццаты нумар», «Снайпер», «Марсель» (1931), «Хада ў заўтра» (1933), «Паўстанне» (1940), «Цёплае дыханне» (1947), «Святло над Ліпскам» (кн. 1—2, 1949—1952), «З табою побач» (1956—1959), «Па воўчых сцежках» (1958), «Мяцежнае сэрца» (1959), «Салігорскае дзіва» (1963), «Двайное дно» (1964), «Наравісты Пегас» (1968), апавяданняў для дзяцей «Зялёны канверт» (1964) і інш. Пераклаў на беларускую мову раман **М. Астроўскага** «Народжаныя бурай», нарыс **М. Горкага** «У. І. Ленін», аповесць **М. Гогаля** «Тарас Бульба». Пахаваны на Чыжоўскіх могілках Мінска.

**Вёска Лешніца** Пярэжырскага сельсавета

**Бачылы Алеся** (2.3.1918—4.1.1983), паэта, драматурга, радзіма. Скончыў Мінскі настаўніцкі інстытут (1939). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1952 г. нам. гал. рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва», з 1957 г. адказны сакратар часопіса «Полымя», у 1972—1978 ст. рэдактар у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Друкуецца з 1934 г. Аўтар зборнікаў «Шляхі» (1947), «Подых вясны» (1950), «Зоры вясення» (1954), «Юнацтва» (1959), «Калючая ружа» (1962), «Дарыце цюльпаны» (1966), «Снежная балада» (1968), «Тры багіні» (1973), «Вершы» (1974), «Белы бярэзнік» (1976), «Выбранае» (т. 1—2, 1978). Пісаў сатырычныя творы. Многія вершы паэта былі пакладзены на музыку. Шырока вядома яго песня «Радзіма мая дарагая» (муз. У. Алоўнікава). Па лібрэта Алеся Бачылы пастаўлены оперы «Яснае світанне» (1958, муз. А. Туранкова), «Калючая ружа» (1960), «Калі ападае лісце» (1968), «Зорка Венера» (1970) і аперэта «Паўлінка» (1973, муз. Ю. Семянякі). Аўтар кніг біяграфічных нарысаў пра **М. Багдановіча** «Дарогамі Максіма» (1971). Перакладаў на беларускую мову творы рускіх, украінскіх, латышскіх паэтаў. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

**Вёска Матарова** Голацкага сельсавета

**Аўрамчык Мікола**, паэт, ураджэнец в. *Плёсы* Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл., у чэрвені 1941 г. разам з **Сурначовым Міколам** начавалі ў вёсцы. У мясцовай жыхаркі Надзеі Крайко пакінулі свае рэчы, сярод якіх — альбом з фотаздымкамі. Яна здолела захаваць рэчы, якія пасля вайны вярнуліся да гаспадара.

У 30-я гады XX ст. мясцовы жыхар Фёдар Трапашка перапісваўся з рускім пісьменнікам **Горкім Максімам**. У краязнаўчым музеі мясцовай школы доўгі час захоўваліся лісты вялікага пралетарскага літаратара.

**Вёска Падбярэжжа** Пухавіцкага сельсавета

**Колас Якуб**, народны паэт Беларусі, адпачываў тут улетку 1936 г. на хутары Андрэя Асіеўскага.

**Вёска Пціч** Навапольскага сельсавета

Тут знаходзілася лецішча пісьменніка **Будзінаса Яўгена**, ураджэнца г. Масквы.

**Вёска Пухавічы,** цэнтр сельсавета

На пачатку 1930-х гадоў мінулага стагоддзя праз вёску праязджалі вядомыя расійскія пісьменнікі **Ільф Ілья і Пятроў Яўгеній**. У сваіх дарожных нататках адзначылі, што патрапілі ў «другую Адэсу».

**Пальчэўскі Алесь,** празаік, ураджэнец в. *Прусінава* Уздзенскага р-на, у 1946—1947 гг. выкладаў родную мову і літаратуру ў Пухавіцкай сярэдняй школе. Стварыў тут драматычны гурток. Творы, напісаныя ў мястэчку, увайшлі ў кнігі «Бераженкі» (1958), «Родныя берагі» (1958).

**Савасцюк Вольгі** (н. 10.7.1963), літаратаркі, радзіма. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ (1992). Працуе ў газеце «Пухавіцкія навіны». Узначальвае літаратурнае аб'яднанне «Мар'іна», у склад якога ўваходзіць з 1978 г. Друкавалася ў калектыўным зборніку «Самавар у лесе». Аўтар кнігі для дзяцей «Арэлі на вясёлцы» (1996), паэтычнага зборніка «Сустрэчы» (1997).

**Шабаліна Аляксандра** (15.7.1938), публіцыста, нарысіста, радзіма. У 1970 г. скончыў БДУ. Працаваў у перыядычным друку, апараце ЦК КПБ. У 1978—2003 гг. быў галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь». Друкуецца з 1958 г. Аўтар кніг публіцыстыкі «Мы жывём у вёсцы» (1974, з С. Барадоўскім), «Уладзімір Кавалёнак» (1983), «Дыялогі пра мараль» (1983). Піша апавяданні. Адзін з аўтараў сцэнарыяў дакументальных тэлевізійных і мастацкіх фільмаў «Твой дом на зямлі» (1973), «Людзі, людзі — высокія зоркі...» (1975), «Хто сёння адсутны» (1988) і інш.

**Вёска Пярэжыр,** цэнтр сельсавета

**Лобан Мікола**, празаік і мовазнаўца, ураджэнец в. *Чаплічы* Слуцкага павета Мінскай губерніі (цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл.), у перыяд да 1939 г. (хутчэй за ўсё, у 1937—1939 гг.) працаваў у Пярэжырскай сярэдняй школе.

У 1985 г. у мясцовай школе створаны ***краязнаўчы музей***.

**Вёска Раўнаполле** Пярэжырскага сельсавета

**Біралы Захара** (псеўд. Бульбянік, Зэшка Бірала; 2(15).2.1906—1993), паэта-сатырыка, радзіма. У 1934 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1936 да 1940 г. знаходзіўся ў зняволенні ў Горкаўскай (цяпер Ніжагародскай) вобласці. Доўгі час выкладаў беларускую і рускую мову і літаратуру ў Мар'інагорскім саўгасе-тэхнікуме. Аўтар кніг «Смех і радасць вёскі» (1929), «Цвітуць кветкі» (1963), «Прыляцела птушка» (1977) і інш.

**Гарадскі пасёлак Рудзенск,** цэнтр пасялковага савета
Вуліцы Горкага Максіма, Коласа Якуба, Шолахава Міхаіла

**Бондар Таісы** (н. 20.11.1945), паэтэсы, празаіка, радзіма. Дзясяты клас закончыла ў школе рабочай моладзі. У гэты ж час працавала швачкай прамкамбіната. Затым — старшай піянерважатай Рудзенскай сярэдняй школы. Скончыла Мінскі педінстытут замежных моў (1967). Друкуецца з 1970 г. Аўтар паўтара дзясятка кніг прозы і паэзіі. Сярод апошніх — «Павуціннe» (2004), «Рагнеда: паэзія і жывапіс» (2005), «На крылах веры» (зборнік паэзіі і прозы, 2006), «Гульні ў падкіднога. Матылькі» (2006).

**Чарота** (сапр. Кудзелька) **Міхася** (7.11.1896—20.10.1937), паэта, пісьменніка, драматурга, радзіма. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. З 1920 г. супрацоўнік, у 1925—1929 гг. — рэдактар газеты «Савецкая Беларусь». Арганізатар літаратурнай арганізацыі «Маладняк». Рэпрэсіраваны ў 1937 г. Рэабілітаваны пасмяротна 8.12.1956 г. Аўтар кніг «Завіруха» (1922), «Босыя на вогнішчы» (1922), «Выбраныя вершы» (1925), «Карчма», «Марына», «Ленін» (усе 1926), «Беларусь лапцюжная» (1927), «Чырванакрылы вяшчун» (1927), «Паэмы» (1928), «Сонечны паход» (1929), «Выбраныя вершы і паэмы» (1935),

збору твораў у 3-х тамах (1933—1936), у 2-х тамах (1958), «Выбраных вершаў і паэмаў» (1967). Па аповесці «Свінапас» напісаў разам з Ю. Тычынам сцэнарый першага беларускага мастацкага фільма «Лясная быль» (пастаўлены ў 1926). Яго імем названа ў пасёлку вуліца.

**Шынклера Хвядоса** (псеўд. Хв. Явар; 22.9.1903—25.10.1942), пісьменніка, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. Вучыўся ў Мінскім рэальным вучылішчы. Сем гадоў (з 1919 г.) працаваў на чыгунцы тэлеграфістам, пасля — бібліятэкарам, загадчыкам клуба. У 1929—1931 гг. — супрацоўнік бабруйскай газеты «Камуніст», са снежня 1931 г. — сакратар рэдакцыі раённатранспартнай газеты «Ударнік» (Жлобін). У 1935—1941 гг. працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» і часопісе «Полымя». У пачатку Вялікай Айчыннай вайны эвакуіраваўся ў Свярдлоўск, а ў 1942 г. пайшоў добраахвотнікам у Савецкую Армію. Загінуў пад Сталінградам. Друкаваўся з 1929 г. Аўтар кніг «Ічэ» (1929), «Стрэлачнік Мігай» (1930), «Блок» (1933), «Сонца пад шпалы» (1933), «Запіскі інструктара Томана» (1934), «Пульс жыцця» (1950, выходзіла на рускай мове ў 1942 г. у Маскве), «Выбраныя творы» (1960). Аўтар аповесці для дзяцей «Петрык-завадатар» (1935). Напісаў п'есу «Пачэсны рэйс» (апублікавана ў 1939 г.). Тройчы творы Шынклера выдаваліся пасля смерці пісьменніка.

**Вёска Снусцік** Пухавіцкага сельсавета

**Хурсіка Сымона** (13.2.1902—31.12.1972), празаіка, радзіма. Скончыў Мінскі белпедтэхнікум (1925), настаўнічаў, працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына». У 1930 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ. У 1931 г. быў рэпрэсіраваны, асуджаны на 5 гадоў высылкі. Працаваў настаўнікам у школах Марыйскай і Чувашскай АССР, Казахскай ССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У пасляваенны час зноў настаўнічаў. З 1964 г. жыў у Карагандзе. Друкаваўся з 1924 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Першы паўстанак» (1925), «Шляхамі навальніц» (1930), аповесці «Чорны мост» (1929—1930). Памёр у Карагандзе.

**Станцыя Талька**

**Колас Якуб** летам 1933 і 1934 гг. адпачываў тут у хаце мясцовага жыхара.

**Вёска Турын**, цэнтр сельсавета

**Сапуна Рыгора** (літ. псеўд. **Папараць Рыгор;** 17.11.1902—30.4.1948), паэта, радзіма. З 1925 да 1938 г. жыў у Ленінградзе, дзе атрымаў вышэйшую адукацыю. Пісаць пачаў, будучы студэнтам рабфака БДУ. У Ленінградзе стварыў філіял «Маладняка» з 7 чалавек. Пазней быў актыўным сябрам беларускай секцыі Ленінградскай арганізацыі пралетарскіх пісьменнікаў. Рэпрэсіраваны за верш «Памяці Ігнатоўскага» ў 1937 г. З яго ўзялі падпіску аб тым, што ён не будзе пісаць вершы. У 1938 г. сасланы ў Беларусь, настаўнічаў у Красналукскай школе Халопеніцкага р-на. У 1942 г. партызан брыгады «Беларусь». Пад Кенігсбергам паранены. Пасля вайны — выкладчык Дудзіцкай НСШ Рудзенскага р-на. Пахаваны ў в. *Вароні-чы*. Вершы захаваліся ў рукапісах. Зборнік «Даруйце мне».

**Вёска Хазянінкі** Голацкага сельсавета

**Мысліўца Валянціна** (9.5.1937—25.6.1993), пісьменніка, радзіма. З сялянскай сям'і. Скончыў мясцовую СШ, БДУ (1967). Працаваў у газеце «Чырвоная змена» (1965—1967), на Беларускім радыё (1967—1976) і тэлебачанні (1976—1980). Друкаваўся з 1962 г. Аўтар 13 кніг. Пахаваны ў роднай вёсцы.

**Вёска Талька**, цэнтр сельсавета

У гэтых мясцінах часта адпачываў **Колас Якуб.** Пра іх ён пісаў у артыкуле «За паўтара дзесятка гадоў». Лета 1933 і 1934 гг. Я. Колас з сям'ёй жыў тут у хаце Яўсейчыкаў. У лісце да С. Гарадзецкага 5 верасня пісаў: «Я ўсё лета пражыў на дачы ў захалусці за 80 км ад Мінска. Ехаў з намерам падагнаць і нават скончыць сваю аповесць, але вясковае жыццё павяло мяне па сваёй дарозе. Я зрабіўся рыбаловам, збіральнікам ягад, грыбоў і проста лясным чалавекам».

**Кароткая Ларыса,** літаратуразнаўца, крытак, ураджэнка в. *Астрашыцкі Гарадок* Мінскага р-на, у час Другой сусветнай вайны жыла тут з сынам **Бечыкам Варленам.** Была партызанскай сувязной. Вёска засталася ў дзённіках В. Бечыка і успамінах Л. Кароткай.

**Вёска Турын,** цэнтр сельсавета

З пачаткам сваёй літаратурнай дзейнасці здымаў тут лецішча вядомы дзіцячы пісьменнік **Маўр Янка**, ураджэнец г. Лібава (Ліепая, Латвія). На беразе Свіслачы дзядзька Маўр наладзіў сабе з лазы будан. Адмысловасць пісьменніцкага архітэктурнага праекта заключаецца ў тым, што выхад з будана быў скіраваны да вады. Над вадой высіліся невялікія масточкі — своеасаблівае пісьменніцкае крэсла, а над ім — стол. Так і пісаў дзядзька, дзед Маўр, звесіўшы ногі ў Свіслач.

**Вёска Церабель** Сяргеевіцкага сельсавета

**Ляпёшкіна Уладзіміра** (н. 8.2.1928), паэта, радзіма. Скончыў СШ у Рудзенску, літфак Мінскага педінстытута (1951). Выкладаў у школах Мінска. У 1970—1979 гг. — дырэктар выдавецтва «Народная асвета». З 1979 г. — дырэктар СШ № 23 г. Мінска. Друкаваўся з 1949 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Ранішнія росы» (1961), «Рупнасць» (1966), «Роднае» (1970), «Вусце» (1973), «Перадлецце» (1978), кніжкі для дзяцей «Званкі-званочкі» (1972).

**Вёска Цітва** Рудзенскага пассавета

У мясцовай сярэдняй школе вучыліся паэты **Чарот Міхась, Хадыка Уладзімір, Папараць Рыгор.**

**Хадыкі Уладзіміра** (3.1.1905—1.7.1940), паэта, радзіма. Скончыў мясцовую школу, агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску (1923). Настаўнічаў, працаваў сакратаром Цітвянскага сельсавета. З 1929 г. жыў у Мінску. 26.11.1936 г. быў арыштаваны, 5 кастрычніка 1937 г. асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Іванаўскім і Марыінскім лагерах. Загінуў у снежні 1940 г. на будоўлі чыгункі каля Улан-Удэ. Друкаваўся з 1926 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Суніцы» (1926), «Выбраных вершаў» (1932), «Радасны будзень» (1935), «Выбраных твораў» (1956).

**Вёска Шацк**, цэнтр сельсавета

**Лобан Мікола**, празаік і мовазнаўца, ураджэнец в. *Чаплічы* Слуцкага павета Мінскай губ. (цяпер Слуцкі раён Мінскай вобл.), у перыяд да 1939 г. працаваў у мясцовай сярэдняй школе

**Вёска Шэлягі** Узлянскага сельсавета

**Макарэвіча Алеся** (30.8.1918—30.12.1967), крытыка, літаратуразнаўца, радзіма. Скончыў Мінскі педінстытут (1939). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1949—1967 гг. выкладчык Магілёўскага педінстытута. Друкаваўся з 1951 г. Аўтар кніг «Сатыра Кандрата Крапівы» (1962), «Ад песень і думак народных» (1965), «Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы» (1969), «Кароткі літаратурны слоўнік» (2-е выд., 1969). Памёр у Магілёве. Пахаваны на Машэкаўскіх могілках Магілёва.

**Вёска Янка Купала** Гарэліцкага сельсавета

Назву набыла ў 20-х гадах мінулага стагоддзя ў гонар народнага паэта Беларусі. Ад назвы вёскі атрымаў імя і калгас.

* * *

З Пухавіччыны родам журналіст, пісьменнік **Хазянін Аляксандр** (н. 5.1.1948). Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў Дукорскую СШ, факультэт журналістыкі БДУ, Мінскую вышэйшую партыйную школу. З 1985 г. — галоўны рэдактар «Маладзечанскай газеты». Аўтар кніг прозы «Сярод добрых людзей» (1997), «Скарбонка мудрасці» (2007).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***

# Культурная карта Гродзеншчыны

***Ліпскі У. С.** Вясёлка над Нёманам: Дзецям пра Гродзеншчыну : для дзяцей сярэд. шк. узросту / Уладзімір Ліпскі ; маст. Уладзімір Жук, Анастасія Лебядзінская. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2011. — 280 с.*




Кнігі Уладзіміра Ліпскага напісаны ў адной танальнасці, але кожная з іх мае сваю функцыю, ды і не адну. Новае ад пісьменніка — «Вясёлка над Нёманам». Выданне разлічана ў першую чаргу на дзяцей, аднак насамрэч можа чытацца не толькі асноўнай мэтавай аўдыторыяй. Бо фактычна гэтая кніга з'яўляецца і літаратурнай картай Гродзеншчыны, і краязнаўчым даведнікам па рэгіёне, і падручнікам па гісторыі Беларусі, праваднікам па старажытнай геральдыцы. Такім чынам, рэч адметная і карысная — не толькі школьніку, але і бацькам, дарослым людзям, якія слаба арыентуюцца ў пуцявінах Гродзенскай гісторыі.

А мінулага хопіць на тысячы кніг. Хоць даведацца пра яго ў нашым часе digital lifestyle — даволі складана. Якраз такім даведнікам і стане для дапытлівых чытачоў кніга Уладзіміра Ліпскага. Кожны раён апісаны аўтарам у асобным раздзеле. Пры пачатку падаюцца агульныя звесткі пра раён, а пасля — пачынаецца імправізацыя. Пісьменнік распавядае як быццам пра ўсё на свеце, часам адхіляючыся ад тэмы, дзеліцца парадамі для штодзённага карыстання, але ў той жа час няўхільна вядзе чытача ад помніка да постаці, ад вёскі да ваяводы, ствараючы непадзельны, цэласны тэкст. Гістарычныя персанажы самыя розныя, радаводныя дрэвы князёў пераплятаюцца ў кнізе з вядомымі нашаму веку імёнамі Сяргея Прытыцкага і Барыса Батуры.

Асаблівы націск аўтар робіць на мясцовых прозвішчах, спрабуючы праз іх тлумачэнне разгадаць таямніцы мясцовага менталітэту і ўмовы жыцця гарадзенцаў у мінулым. Не абыходзіць увагай Уладзімір Ліпскі і помнікі архітэктуры Гродзенскай вобласці (дапамаглі ў нагляднасці і мастакі-афармляльнікі Уладзімір Жук і Анастасія Лебядзінская, яркая выява кожнага раёна ў яго геаграфічных межах напоўнена пазнакамі месцаў, дзе знаходзяцца старажытныя замкі, паселішча, касцёлы і цэрквы).

Вось, напрыклад, як кранальна апісвае аўтар касцёл гетмана Яна Караля Хадкевіча ў Бераставіцы: «Стаю ў асірацелым, закінутым, разбураным касцёле, засмучана пазіраю на халодныя сцены і міжволі ўзнікаюць пытанні. Дзе цяпер жыватворная ікона Прасвятой Дзевы Марыі? Куды знік саркафаг з сэрцам гетмана? Калі і які гаспадар Вялікай Бераставіцы адновіць гістарычны касцёл на цэнтральнай плошчы гарадскога пасёлка?

Цяпер старажытны, паўразбураны касцёл абжылі буслы. На высокім франтоне яны змайстравалі свой палац і штогод выводзяць там буслянят. Побач з буслянкай вырасла бярозка. Яна бачна з усіх бакоў Бераставіцы. Яе бачаць, здаецца, з нябёсаў усе Хадкевічы і пазнейшыя гаспадары маёнтка — Патоцкія, Мнішакі, Касакоўскія. Можа, тая бярозка і ёсць сэрца гетмана Яна Караля Хадкевіча?»

Вось жа, такое ўменне адчуць подых гісторыі ў кожным прыдарожым камені, кавалку старой плінфы ды нават у гэтай бярозцы, што вырасла на руінах, падаецца вельмі сімпатычным. А нагадаць канкрэтныя факты ўвогуле не лішне. Напрыклад, што гродзенец прафесар Анацэвіч — прататып аканома ў славутых «Дзядах» Адама Міцкевіча. Ды і многае іншае, усяго не пералічыш, бо ці не кожнае паселішча беларускай зямлі нарадзіла сваіх герояў, збудавала свой храм, надало імёны наваколлю. І забывацца пра тое не варта.

Гэтае багата ілюстраванае выданне ажыццёўлена пры фінансавай падтрымцы ўпраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама.

# Прачыняючы браму

***Аўчыннікава Г.*** *Ад зачыненай брамы / Г. Аўчыннікава. — Гродна: [б.в.], 2011. — 55 с.*

Сёлета ўраджайны год на добрыя паэтычныя кнігі: выйшлі зборнікі Антона Францішка Брыля, Ігара Кулікова, Аксаны Данільчык, Віталя Рыжкова, Віктара Слінко, пасмяротнае выбранае Івана Лагвіновіча. Усё гэта не можа не радаваць, балазе некаторыя з гэтых кніг — дэбютныя. Для Ганны Аўчыннікавай кніга «Ад зачыненай брамы» таксама першая, хоць яе выхад анансаваўся яшчэ ў 2007 годзе. Што тады перашкодзіла — невядома. Добра, што сёлета ўсё атрымалася.

Вершы Аўчыннікавай «зачапілі» мяне яшчэ гадоў 6—7 таму сваёй напоўненай шчырасцю, калі вобраз уражвае (але не бянтэжыць):

У залатой вышыні
Спелае сонца ірдзіцца.
Лета апошнія дні —
Пах малака і карыцы.

Некаторыя вершы з першай нізкі можна знайсці і ў кнізе. Дарэчы, яна і падзелена на дзве часткі: «Келіх жыцця» і «Песні кахання». Хутчэй за ўсё, што ў другой частцы — раннія вершы (так чамусьці часта робяць маладыя паэты; думаюць, што ў юнацтве пісалася горш, але ж і выкінуць шкада). Раннія, ды не слабыя. Толькі што,




можа, наіўныя, светлыя і радасныя. Але што ў тым кепскага?

У «Келіху жыцця» больш праглядаецца сталы пагляд паэткі на жыццё — настрой хутчэй мінорны, элегічны, часам нават трагічны. Але экспрэсіяніцкія выштукі для Аўчыннікавай не важныя, яна аддае перавагу класічнаму радку, класічнаму верлібру. Кароткія паэтычныя замалёўкі-мініяцюры нагадваюць вершы Багдановіча 1913 года, «изящные», як ён сам пісаў. Ёсць і наўпроставыя цытаты:

Я згубіла апошнія словы,
Бо імкнулася надта да зор.

Меланхолія і светлая журба таксама багдановічаўская — не сусветная, але свая, родная і цёплая, як коўдра ў халодны дзень:

У самай цудоўнай кавярні
За перасалоджанай кавай
Гляджу праз вялікія вокны
На вуліцу і на людзей.
Ніхто не пытае, чаму я
Прыходжу сюды ў адзіноце,
Ды кожную раніцу нейкі
Завязваецца дыялог.

Элегічныя і назвы вершаў — «Імжа», «Меланхолія», «Палын», «Пад флейту ветрнага рання...», «Адзіноты вечнай паланянка...» Нездарма, вядома, Анатоль Брусевіч у прадмове да кнігі гаворыць пра неадэкаданс. Зрэшты, ён і сам гэтыя прынцыпы спавядае ва ўласнай творчасці. Але, на мой пагляд, дык у кожнага паэта бы-вае свой неадэкаданс і свой рэнесанс — эмацыянальны ў першую чаргу. Тая дваістасць і прасочваецца ў кнізе: са скрухі ў радасць, з няволі — у вызваленне. Паэзія Аўчыннікавай яшчэ надта асабістая, каб станавіцца тэарэтычна абгрунтаванай. Ды ўжо цяпер відаць, які гэта моцны і чысты талент, незамутнёны слоўным смеццем. Калі і ёсць вершы, якія можна назваць слабымі, то слабасць у іх не тычыцца расколатасці паэтычнай свядомасці. Гэта, умоўна кажучы, яблык крыху недаспелы — ды не чарвівы. Часам вобраз крыху банальны, але нідзе ў зборніку не сустрэнеш дысанансу пачуццяў, залішніх слоў — усё суладна, усё гарманічна, і нават у малых правалах — моцна і дакладна.

У бліжэйшых праявах трыдцыці каля Ганны Аўчыннікавай — творы Таццяны Сапач, Галіны Дубянецкай, Леры Сом.

*Ціхан* ***ЧАРНЯКЕВІЧ***